


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (975)

СТУДЗЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

## *ЗМЕСТ*


3 **Алесь БАРАНОЎСКІ. «І час маю памяць балесна кранае...»** Вершы.

9 **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ. Валошкі на мяжы.** Раман. Працяг.

51 **Міхась ПАЗНЯКОЎ. «Сэрца святлом загоіцца...»** Вершы.

57 **Казімір КАМЕЙША. Паміж кубкам і вуснамі.**

99 **Мікола ЧАРНЯЎСКІ. ***Па-над Будаю... Святло на пагосце. ***Глядзела сонца з-пад нябёс... ***Прачнуўся бор... ***Восень...** Вершы.

104 **Уладзімір ЛІПСКІ. Мужык.** Дакументальная аповесць. Пачатак.

127 **Расул РЗА. Ад кожнай хваробы ёсць лекі. Аб традыцыі. Кроплі. Мова рук. Я — зямля. Вер. Без заходу. Неспакой. Падснежнік. Праметэй.** Вершы. Пераклад з азербайджанскай М. Мятліцкага.

134 **Таццяна СІВЕЦ. Захаванне асаблівасцей нацыянальнага характару ў перакладах з Джорджа Байрана на беларускую мову.**

143 **Пётр НІКІЦЕНКА. Наасферная эканоміка — разумная духоўна-маральная гаспадарчая сістэма нацыянальнага і планетарнага грамадскага ўзнаўлення.**

151 **Тэрэза ГОЛУБ. «Таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім».**

158 **Зоя МЕЛЬНІКАВА. Сум па атлантах.**

170 **Іван Шамякін — беларускім пісьменнікам.**

180 **Раман МАТУЛЬСКІ. Бібліятэкі беларускага сярэднявечча.**

185 **Віктар ГАРДЗЕЙ. Сказанне пра вёску Зубрэвічы і яе слаўны радавод.**

189 **Ягор КОНЕЎ. Дзе жывуць палеманісты.**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Алесь БАРАНОЎСКІ

# «І ЧАС МАЮ ПАМЯЦЬ БАЛЕСНА КРАНАЕ...»

* * *

Спазнаць бы таямніцу неспазнанага,
Як спазнае прастору промень лёгкі...
Сваёй душой юнацкай апантанаю
Лаўлю ўжо сёння будучыні крокі.

Маўчу, пакуль маё маўчанне — золата,
Нясу святло праз лабірынт сутоння.
Радкі мае — агні начнога горада...
Нібы вясляр, вяслую я ў бяздонні.

* * *

Як дзень, святлею ці, як ноч, цямнею.
У раз які пытаюся: ну хто ты?!.
Дзялю сябе надвое — разумею:
З'яўляюцца ў люстэрку дзве істоты.

Адной — гару, другою — замярзаю.
Пад крыламі ахоўніка-анёла
Стаю і паступова заўважаю:
Адна сумуе, а другой вясёла.

Засне адна — ёй мроіцца прадвесне.
Ўзвядзе курок другая — дасць асечку?
Адна памрэ, другая уваскрэсне,
За першую ў царкве паставіць свечку…

---

***Бараноўскі Аляксандр Аляксандравіч** нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў вёсцы Царуха Гомельскага раёна. Студэнт філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.*

*Аўтар паэтычных кніг «Чуйнае акно» (2008), «Вясляр» (2010).*

* * *

І толькі сонца нагадвае:
Мой цень — жывы...
Ён частка мяне,
А я — неад’емная частка ценю.
Гадзіннікавай стрэлкай
Цень кружыцца вакол маёй істоты,
Прыспешваючы час знікнення.
Я валодаю ценем,
Але не здольны ім кіраваць.
І толькі Вечнасць,
Ставячы штрых-коды на ценях,
Абвяшчае права сваё на ўласнасць —
Забірае ў свае цянёты…

* * *

Я сёння святкую свой дзень нараджэння
У зоне любові з мяжой адчужэнння.
Рассыпаны зоры, як хлебныя крошкі,
І лашчыцца ноч, быццам чорная кошка.

Тут кожнаму промню, як Богу, удзячны,
Тут дзверы адкрыты, ды выйсця не бачна.
Тут моліцца нехта за грэшныя душы,
Хоць ціснe за горла бяссілле і душыць.

Свой дзень сустракаю прасветленым раннем
І зноўку чакаю, што свята настане.

* * *

Пыталіся ў мяне, а я маўчаў,
Было балюча — толькі не крычаў.
І нават, калі раптам іх страчаў,
Стараліся убок адвесці вочы.

Што з вамі адбываецца, сябры?
Калісь гулялі мы ў адным двары.
Што маю я, і ты заўжды бяры…
Ды розныя шляхі лёс напрарочыў…

Не доўгім на зямлі наш будзе век,
Пячатку час сарве сваю з павек,
Ды толькі б не забыць, што чалавек
Пражыць той самы век павінен годна…

З нас кожны ў сваім выбары свабодны.

* * *

Ведаць, вагацца, вандраваць вакол вогнішча,
Выпільноўваць волю, ветрам выпеставаную.
Воўкам вырвацца, выпаўзці, выскачыць.
Воля выратуе, выведзе —
Верыцца...

## ДУМКІ

І зямныя яны, і касмічныя,
І нязвычныя, і прывычныя,
Думкі ўласныя і народныя,
Паднявольныя і свабодныя.

Патаемныя думкі, яўныя,
Каласістыя, разнатраўныя,
І душэўныя, і сардэчныя,
Думкі новыя і скамечаныя…

Каляровыя, чорна-белыя,
Пераблытаныя, зразумелыя.
Аднадзёнкі ёсць недарэчныя…
Але ўсе яны — чалавечыя.

* * *

Асенні туман абдымае за плечы,
І вецер самотны між дрэвамі енчыць.
Лісток затрымціць і на дол ападае....
Туман растае і павольна знікае.

Панурая млявасць да пят працінае
І холадам колецца, бы драцяная.
І час маю памяць балесна кранае,
З’ядае і з ветрам знікае за гаем.

Я — восень, над светам хмурынкаю плачу.
Што лёсам мне дадзена, — не перайначу:
Памерці з лістом і з лістом нарадзіцца,
Кагосьці прысніць і ў завеях згубіцца.

* * *

Брукаванкаю крочу па следзе бясконцасці.
Як той босы па вогнішчы, — зорны шлях вымяраю.
І пакуль у прытомнасці, — шукаю сэнс незваротнасці.
Ды, каб вярнуцца назад, я сам сляды пакідаю.

Успамін уваскрэсіць: дахі сонцам асвечаны…
Як перад спёкай туман, мой свет далёкі знікае.
Бязважка плыву, згасае імгненне ў вечнасці.
Як самалёт, сваю хуткасць і вышыню набіраю.

## РАДЗІМА

Блакітная, жытнёвая,
Як сон-трава, вясновая.
Ласкавая, сардэчная,
Імгненная і вечная.
Матуляй песня спетая,
Цяплом надзей сагрэтая.
Бы сонейка, лагодная,
Адзіная і родная.

## УСПАМІН ПРА ВАЙНУ

Абтрушу валасы ад пялёсткаў вішнёвае квецені,
Развярэджу ўспаміны — што мне нагадалі яны?..
Праляцелі гады, прамільгнулі, а мы не прыкмецілі,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай вайны.

Год за годам сваю вышыванку ладуе сумёціца:
Нараджэнне пазначыла крыжыкам, нулікам — смерць.
Перамога у сны партызанскаю песняю просіцца.
Хоць і нулікаў болей у войнаў, ды каб іх не мець!

Ахінае пяшчотаю май, дзень угрэты, замаены,
І нікуды не дзецца ад гэтай салодкай маны.
Хмельным водарам траў, як ніколі, чамусь, адурманены,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай вайны.

Прад табой абеліск, пакланіся святыні з павіннай,
Хай засвеціцца неба ад свечак царкоўных зырчэй.
Хай гучыць, як набат, клёкат сумны ў нябёсах буслiных,
Каб, сустрэўшы салдата, сваіх не хаваў ты вачэй.

* * *

Пахне прэлым лісцем ды ігліцай,
Вечар затухае сінявой.
Пакрысе на вуліцы імгліцца
Восені разгорнуты сувой.

А на золку ды ў акно бязмежжам
Патыхнула ад пажатых ніў.

Ветрыкам, нябачным воку, свежым
Ранак дрэвы ў садзе агаліў.

Не прачнуцца да вясны рабаткі,
Вецер-злоснік кроны дрэў атрос.
Гэта восень сумныя нататкі
Піша промнем на кары бяроз.

* * *

Справа даўняя, сцежка доўгая,
Асвятлілі ноч зоркі ясныя,
А пад імі — цень ды са стогнамі,
Здань журботная, здань заўчасная.

Хоць жадаў рубель, шанаваў і грош,
І цыганка-ноч пышнагрудая
Назбірала зор у Мядзведжы Коўш,
Што ляглі ля ног срэбнай грудаю.

Сівізна на скронь пасмай, вунь, густой.
Няўжо спетая мая песенька?..
Сівізна на скронь... Не спяшай, пастой,
Праз адно ў стручку няма зернетка.

## АДЗІНОТА

Не хандра, што прыгнятае, не лянота,
Не каханне, што вясной хвалюе кроў,
Сарамлівая ты цнота, адзінота,
Паратунак ад назойлівых сяброў.

То з усмешкай пазіраеш, то з маркотай,
Непрыступнаю здаешся мне скалой.
То лагодай ахінаеш, то гаркотай,
Я з табою быць магу самім сабой.

Ды калі палын-травою каля плота
Парасце мая сцяжынка на вятрах,
Я кляну цябе, маркота-адзінота...
Ты — чужая мне і родная сястра.

* * *

Купаецца поўня у лужыне,
Зямля як не ўсыпана золатам.
Не я для цябе буду суджаным,
Ты сёння павенчана з холадам.

Альтанка ўспамінамі цешыцца
Пад лівень асенняе музыкі.
Што мы не ўдваіх — не верыцца,
А ноч расшпіліла гузікі...

* * *

Ты мяне хвалюеш, як тады,
Месяца акраец малады!
Можа, сам я не заўважыў, мо няўзнак:
Я не проста чалавек, а ваўкалак?..

Можа, звілістай сцяжынкай той
Я шукаў ля поўні вадапой?
Зведаў жар зялёнай крапівы,
Прачынаўся ў ложку ледзь жывы.

Звонку поўсцю абрасту й знутры:
Мне цяпер не страшныя вятры.
Ты мяне, акраец, не турбуй,
Да Малой Мядзведзіцы шыбуй!



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВАЛОШКІ НА МЯЖЫ[1]

*(сямейная хроніка ў духу барока)*

*Роднаму гораду Брэсту прысвячаецца.*

Аўтар

## *Частка пятая*

### I

1939 год пачаўся як быццам звычайна, але ўсе чагосьці чакалі, нібы прадчуваючы, што нешта павінна адбыцца. Чакалі нейкай падзеі. На дарогах Еўропы пастаянна чуўся цяжкі тупат войск вермахта. Немцы акупіравалі Чэхаславакію, якая ператварылася ў германскі пратэктарат (сакавік 1939). Польшча не надта ведала, як на ўсё гэта рэагаваць, бо непакоілі і захад, і ўсход. Усё большыя тэмпы набывала мілітарызацыя ў СССР. Чырвоная Армія здолела нанесці паражэнне японскім войскам ля возера Хасан у Прыморскім краі, бальшавікі не пераставалі гаварыць пра сусветную рэвалюцыю.

Вясной адбылося грандыёзнае паляванне ў Белавежскай пушчы — з удзелам прэзідэнта Ігнацiя Масціцкага і вышэйшага бамонду Варшавы. Упалявалі шмат дзікоў, ласёў і, вядома, ваўкоў. Узнімалі дух, і патрэба ў гэтым, трэба сказаць, была. Каб злучыць Германію з Прусіяй, Гітлер патрабаваў ад Польшчы Данцыгскі калідор. Польшча, вядома, не хацела аддаваць сваю тэрыторыю і пачала рыхтавацца да вайны. У сакавіку 1939 года была абвешчана першая

---

***Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч** нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама кніг прозы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008).*

---

[1] Першая і другая часткі ў № 8, 9, 2009 г., трэцяя — у № 9, чацвёртая — у № 10, 11, 2010 г.

мабілізацыя, а 6 красавіка Польшча і Вялікабрытанія заключылі тымчасовы двухбаковы пакт аб узаемнай дапамозе супраць агрэсіі. Гітлер адрэагаваў на гэты пакт дэнансацыяй польска-нямецкага пакта аб ненападзенні ад 26 студзеня 1934 года. Аднак нават і цяпер польскі ўрад 11 мая 1939 года адмовіўся заключыць пакт аб узаемадапамозе з Савецкім Саюзам.

Першым пра ўсё гэта ў Прусцы даведваўся лавачнік Шпронька, бо ён меў радыёпрыёмнік. Набыць гэту рэч было яго даўняй марай. Паміж хатай і клуняй, праз вуліцу, павесіў дрот — антэну. І слухаў, прагна ловячы навіны. З Масквы часцей за ўсё перадавалі «пра калхозы», шмат спявалі. Перашкаджала глушылка — палякі паставілі яе нядаўна ў Баранавічах. Вядома, Варшаву можна было слухаць без перашкод. Навіны і паведамленні палохалі сваёй стракатасцю, а яшчэ больш нечаканасцю. Здзейсніўшы «аншлюс» Аўстрыі, захапіўшы Чэхаславакію, Германія, авалодаўшы вольным Гданьскам, пачала адкрыта замахвацца на польскае ўзмор’е з горадам Гдыняй. Пра пачутае лавачнік расказваў сваім кліентам:

— Радыё перадавала, што Сталін гарэлку п’е за здароўе Гітлера! Ідуць перамовы Масквы з Берлінам.

Наведвальнікі чухалі патыліцы, абмяркоўвалі пачутае, губляліся ў здагадках.

— Молатаў туды паехаў, пра нешта дамаўляюцца... — Шпронька засмяяўся, пакруціў галавой: — А палякі прыпеўку прыдумалі:

Bratal sie z czerwona szmata,
A my sobie gwizdzem na to![1]

Весткі аднак — хоць і пагрозлівыя — успрымаліся ў цэлым як не свае, а нейкія чужыя і далёкія. Але абмяркоўваліся, нават выклікалі спрэчкі. З такіх абмеркаванняў Лявон вяртаўся дахаты разгубленым, думаў: «Колькі сябе помню — так было. Ужо, здаецца, на ногі становішся, акрыяў, і раптам нешта такое грамыхне, што ты ўжо не ты, а іншае нешта...»

Баяўся пераменаў у горшы бок. Адзіным, хто абсалютна не звяртаў увагі на ход падзей і ставіўся да ўсяго з зайздросным раўнадушшам, быў Трахім. Час нібы не кранаў гэтага чалавека: Трахім не сівеў, не слеп, не гарбаціўся, як іншыя людзі з узростам, выглядаў бадзёрым і дужым.

— Гарэлку п’ю з маленства і спыняцца не думаю, — нахабна паўтараў ён, — курыў і куру. У царкву не хадзіў і не пайду. І як мужчына ганьбы не дам!

— Ты ж ва ўзросце, каб з ночы ў ноч шалець! — папракала яго жонка, але Трахіму ўсё было ні па чым, і яго нават як бы не заўважалі. Тым больш што ён часта кудысьці ездзіў і ў вёсцы адсутнічаў.

А жыццё ішло сваім ходам.

На Тройцу, як звычайна, у Прусцы фэст. Пасля святочнага набажэнства Якаў Арыстархавіч запрасіў бацюшку айца Клаўдзія, дзяка Лаўра Яўсеевіча і хор да сябе ў Альбэрцін. Харысты згадзіліся з прыемнасцю, палічыўшы такое запрашэнне за гонар. Лаўр Яўсеевіч нават прыхапіў з сабой гітару, якую ён купіў у Цішкі Пахолка. Тую самую — канадскую. Цішка прывёз яе з Канады, але іграць толкам так і не навучыўся. На запросіны да Пацаў трапіў і Лявон.

Пачатак лета. Надвор’е цудоўнае. Шчодра свеціць і грэе сонца. Дарога да Альбэрціна — адна прыемнасць. У небе заліваюцца жаўрукі. У твар б’е тугая хваля цёплага паветра, якое пахла лазой, надрэчнымі травамі і свежасцю.

[1] Пабраўся з чырвонай анучай,
А нам на гэта напляваць! (польск.).

Чэрвень — месяц квітнення. Зацвіло лугавое разнатраўе ў пойме Лосьны. Раскашаваў барвінец — сінія, падобныя на званочкі, кветкі, узнімаючыся над цёмна-зялёным лісцем. Над прыбярэжнымі чаратамі і кустамі лазы гойсалі, радаваліся жыццю блакітнакрылыя матылі. Усё навокал, здавалася, прагнула апладнення, бадзёрыла і выклікала радасную думку: «Якія ўсё ж такі дабрэнныя гэтыя першыя чэрвеньскія дні!»

Ішлі берагам Лосьны (айцец Клаўдзій паперадзе ў святочнай, ліловага колеру, расе і, як апостал, з посахам), перайшлі хісткую кладку і спыніліся на тым беразе, дзе на ўзгорку, побач з Пацавай хатай, стаяў каменны крыж з надпісам, высечаным на высокім цокалі:

Господи заступи и
спаси насъ и наши
земли отъ града и
всех напастей

*Пацъ, 1918*

Фальварак нагадваў біблейскі эдэм. Буяла зеляніна дрэў. Тонкімі ручаёчкамі слаўся пах ружаў, што раслі ля самай хаты Якава Арыстархавіча. Падавалі галасы птушкі, але рэдка: з'явіліся птушаняты і патрабавалі да сябе ўвагі і клопату. Чутно было, як у садзе, сярод чырванаватых ужо чарэшняў, гулі пчолы. Некаторыя заляталі на панадворак і палохалі нясмелых харыстаў. А паветра! Цёплае, чыстае, духмянае!..

Госці прыселі на доўгай лаўцы ля плота, але гаспадар запрасіў у хату. Вядома, перш чым пачынаць спяваць, трэба паабедаць, падсілкавацца. Іх ужо чакаў накрыты стол. І ўсё — смачнае: смажаная рыба з Лосьны, трыбуха з хрэнам, звараныя ўкрутую яйкі, сала, масла. Водарам ядлоўцу казытала ноздры ружаватая вяндліна, нарэзаная са свінячых кумпякоў. Побач ляжаў загорнуты ў абрус хлеб. «Багатыя. Усё ў іх ёсць. Хіба толькі аднаго птушынага малака не хапае», — падумала Гэлька Відэрка, аглядаючы стол.

У хаце пахла рачным аерам, які быў раскіданы па падлозе, па кутках і сценах развешаны кляновыя і бярозавыя галінкі. Перад тым, як сесці за стол, напаўшэптам памаліліся. Айцец Клаўдзій блаславіў стол.

— Ну, што Бог даў! — Якаў Арыстархавіч узяў кілішак, наліў самагонкі, паставіў перад святаром. — Прашу, айцец Клаўдзій!

— Многа наліў, сын мой, аднак з Божай дапамогай, можа, і вып'ю. — Бацюшка выпіў, перахрысціўся, абцёр вусы і прыцэліўся, каб чым закусіць. Нарэшце, ткнуў відэльцам у кавалак смажанай рыбы. Добра было вядома, што айцец Клаўдзій любіў, мякка кажучы, заглядаць у чарку і не рэдка ішоў нават насуперак сваім магчымасцям. Чэрці ў гэтым сэнсе часам любілі пажартаваць над айцом Клаўдзіем: ускудлацяць бараду, закінуць крыж за спіну, а часам, здаралася, да таго заказычуць, што чалавеку нічога не застаецца, як сесці на зямлю, прыткнуўшыся да нейкага дрэва, і недаўменна глядзець на свет. Дзяк у такіх выпадках лічыў за лепшае дыстанцыявацца ад свайго старэйшага калегі і як бы паставіць таго ў смешнаватае становішча. Але пачыналі разам. Лаўр Яўсеевіч урачыста падняў кілішак, сказаў: «Будзьма!» — і таксама лоўка выпіў, стукнуў пустой пасудзінай аб стол.

— Пяршак, настоены на выспелай шыпшыне, — патлумачыў Амброжый.

Выпілі таксама і астатнія — кілішак хутка абабег круг. Застукалі лыжкі і відэльцы. Ляксандар Гальяш узяў кавалак хлеба і пачаў намазваць яго маслам.

— Ты яго яшчэ кавалкам шынкі прывалі! — параіў гасцінны Амброжый.

— Гэта, можа, ужо і занадта, — азваўся Барыс Пралеска, — масла ды яшчэ шынка.

Выпілі па другой і па трэцяй, добра закусваючы. Гаспадары апекаваліся гасцямі. Спадабаліся пірагі з тварагом і сотавым мёдам. Госці не маўчалі, хвалілі гаспадыню. Хвядося ад задавальнення ажно паружавела.

Падмацаваўшыся і падняўшы настрой, усе выйшлі з хаты на паветра. Айцец Клаўдзій, упацеўшы, сеў на лавачку і задрамаў, задраўшы ўверх галаву. Харысты асобнай купкай пасталі на ганку, чакаючы дырыжора.

Пачалі з царкоўных спеваў, з Бартнянскага — «Кто взыдет на гору господню!» Дырыжор ударыў камертонам аб пазногаць і паднёс інструмент да вуха.

— Ля-до-мі-і! — напомніў танальнасць, нахіляючыся то да аднаго, то да другога харыста. — Соль-сі-рэ-э!

Спявалі быццам асцярожна, як у царкве, рот асабліва не раскрывалі — каб не перабраць гуку. Кожны вёў сваю партыю, стройна і выразна гучалі падгалоскі. Нават Оргій Ламака ашчадна ўжываў свой бас.

Потым пеўчыя зацягнулі «Многія леты». Ізноў выйшла вельмі ўдала. Ніхто, здаецца, не выбіваўся з агульнага харавога малюнка. Лаўр Яўсеевіч за гэтым сачыў уважліва. Калі што — грозіў пальцам і нават кулаком. Ад спявання паціху дрыжэлі смалістыя сцены Пацавай хаты.

— Як арган! — пахваліў Якаў Арыстархавіч.

— Васхіцельна! Васхіцельна! — прачнуўся айцец Клаўдзій і падаў голас.

— Прабачце, што няма, хоба на яго, піяніны, — апраўдваўся гаспадар, — усё неяк не атрымліваецца набыць, але куплю абавязкова! Тады зайграем, як трэба.

Потым, па запрашэнні гаспадароў, зноў селі за стол і яшчэ раз выпілі па чарцы. Вось тут Лаўру Яўсеевічу і спатрэбілася гітара. Ён выцер сурвэткай вусны, падняўся з-за стала і ўзяў у рукі інструмент. Гітара нібы ўзрадавалася гэтаму, бліснула густым барвовым лакам і ажыла ўсёй сваёй ладнай жаночай постаццю. Ажыла і загаманіла, спачатку ціхенька, потым мацней, больш упэўнена і гучна.

Бабуся, бабуся,
Бабуся рідненька-а... —

заспяваў гітарыст. Усе прыціхлі, слухаючы песню. Лаўр Яўсеевіч набраў у лёгкія паветра і заспяваў грамчэй. Песня ішла з грудзей, з самых глыбінь.

Матуля, матуля,
На што ўзгадавала?
А якой пацехі
З мяне дачакала?..

Спяваў бы, спяваў бы,
Дык не маю ноты,
Танцаваць пайшоў бы —
Парваныя боты.

Песня кранула ўсіх, нікога не пакінула абыякавым, а Якаў Арыстархавіч ажно пахітаў галавой. Адзін толькі айцец Клаўдзій застаўся раўнадушны, бо зноў задрамаў, прыняўшы чарку. Але Лаўр Яўсеевіч яшчэ не скончыў. Гітара раптам нібы зарыдала ў яго руках:

Гора ж маё, гора —
Не развесялюся,
А я з таго гора-а
Пайду ўтаплюся-а...

Песня спадабалася, некаторыя нават запляскалі ў далоні.

— Ну, браце, да сэрца дастаў! — як бы паскардзіўся Амброжый, якога, усе ведалі, не надта проста было расчуліць. Да спеваў ён быў абыякавы.

— А такую песню чулі? — Лаўр Яўсеевіч зноў прыпаў да гітары і ўдарыў па струнах так моцна, што, здавалася, хацеў парваць іх усе і адразу.

Беларускае войска спявае,
У крывавы рыхтуецца бой.
А дзяўчына жаўнера пытае,
Чаму ўзяць ён не хоча з сабой.

Цяпер голас спевака гучаў больш бадзёра, нават рэзка, у ім адчувалася высакародная ахвярнасць жаўнерскай долі.

— Добрая песня! — зноў пахваліў Якаў Арыстархавіч. — Толькі, хоба на яго, дзе тое войска? Калісь, гадоў дваццаць назад, немцы пасобілі, але... Нічога з той беларускай рэспублікі не атрымалася.

Пачатую размову аднак ніхто не падтрымаў, бо ці не было дасведчаных у гэтым пытанні, ці перашкодзіў Мірык, які якраз на той момант адчыняў веснічкі і з жоўтай валізкай у руцэ кіраваўся да грамады.

— Ну, як жыццё? — спытаў ён, падышоўшы бліжэй і прыўзняўшы над галавой капялюш.

— Жывём, не наракаем, — адказаў бацька Якаў Арыстархавіч.

— А ў Берасці гімназію зачынілі!

— Рускую? — здзівіўся Лаўр Яўсеевіч.

— Рускую.

— Ужо зусім хочуць спольшчыць, — абурана загаманіў Якаў Арыстархавіч. — Што ж гэта, хоба на яго, робіцца?

— Гэта ўжо не ў якія вароты не лезе, — падтрымаў брата Амброжый.

— Вот і ў цэркві паставілі ў абавязак пропаведзь казаць па-польску, — паскардзіўся айцец Клаўдзій. — Аднака нічога не зробіш. Аснова наша — законапаслушаніе.

Мірык яшчэ пра нешта расказваў, але пара было развітвацца. Набліжаўся вечар, і госці паступова пачалі разыходзіцца, выпіўшы развітальную чарку. Айца Клаўдзія павёў Лаўр Яўсеевіч, падаткнуўшы святару пад дзягу полы яго доўгай расы.

Ужо перайшоўшы кладку, на другім беразе Лосьны, хор у вячэрняй цішыні прыгожа і зладжана выканаў нядаўна развучаны «Вячэрні звон». Мяккае, аксамітнае гучанне песні плыло над вадою, шырока разлягалася па рацэ і рэхам гублялася ў дальняй лазе і на ўзбалотках. «Бом! Бом» — густым басам выкладаўся Оргій Ламака.

Лявон крыху затрымаўся, размаўляючы з Амброжыем. Абмяркоўвалі неадкладныя царкоўныя справы.

Хвядося апекавалася Мірыкам, пасадзіла сынка за стол, стала частаваць. Якаў Арыстархавіч пазіраў насуплена. У мінулы раз ён прыехаў у Брэст наведаць сына і перадаць яму торбу з харчамі і быў страшэнна пакрыўджаны. Такога ад Мірыка ён не чакаў. Прыняў яго быццам бы добра (кватэру Мірык здымаў па вуліцы Спулдзельнай), торбу з харчамі паставіў у кут пад лаўку, а бацьку прапанаваў пасядзець у крэсле.

— Вы тут пасядзіце, — сказаў, — я ў більярд пайду згуляю.

— І я з табой! — падахвоціўся Якаў Арыстархавіч і пацягнуўся за сынам, хоць той гэтага, відаць, не хацеў.

Більярдная знаходзілася непадалёку — каля гарадской управы. Там ужо былі Мірыкавы таварышы. Нейкі даўгалыгі юнак з надзьмутым тварам і набрыльянціненымі валасамі спытаў:

— А хто гэта з табой?

— А, так, знаёмы... — адказаў Мірык.

Якаў Арыстархавіч жахнуўся, пачуўшы гэта ад сына, і, зразумела, страшэнна пакрыўдзіўся: «Усяго толькі знаёмы? Саромеешся? Што такое? Хіба я, хоба на яго, дрэнна апрануты? Апрануты, як пан! — ён яшчэ раз агледзеў свой гарнітур, камізэльку, боты, зірнуў на капялюш, які вісеў на цвіку. — Усё ў поўным парадку! Апрануты, як сенатар!» — Ён нічога не мог зразумець. Не разумеў і зараз. Пагэтаму ён і паглядаў на сына з-пад ілба. Папароўшыся мезенным пальцам у зубах, прыцмокнуў і сказаў:

— Ну, як вы там яйцы тыя кіем б'еце? — у запытанні адчувалася насмешка. Яйцамі Якаў Арыстархавіч называў більярдныя шары. Мірык паскроб патыліцу і адказаў «салёным» жартам — пачутай ад кагосьці прымаўкай:

— Ой, тато, каб у Берасці жыць, трэба моцныя яйцы мець.

Мужчыны засмяяліся.

— А ў Брэсцкай турме ўжо электрычным токам катуюць, — зноў загаманіў Мірык, як бы пра нешта ўспомніўшы.

— Ого! — Амброжый пахітаў галавой. — Гэта ж, мусіць, балюча. Чаго толькі не прыдумаюць? А каб яго самога тым токам укалоць, хто гэта прыдумаў!

— Але ўсё адно людзі кажуць, што тут больш свабоды, чым там — у Саветаў. У Саветаў усіх на Калыму высылаюць. Раней на Салаўкі, а цяпер на Калыму, бо на Салаўках ужо месца няма.

— Можа, і так, — згадзіўся дзядзька. — А дзе ж тая Калыма?

— У Сібіры.

— Ого!

— Ну, знайшлі пра што гаварыць! — папракнуў Якаў Арыстархавіч. — Спаць пара!

Насоўвалася ноч, сухая і цёплая. Мірык, пад'еўшы, кудысьці пайшоў, Хвядося прыбірала са стала. Мужчыны выйшлі на вуліцу, прыслухаліся да начной цішыні.

Якаў Арыстархавіч сказаў:

— Над нашым людам, хоба на яго, трэба хоць з большага апекавацца. Каб не крыўдзілі. А то ў Расіі вунь што ад гэтага сталася — рэвалюцыя.

Ён, пэўна, меў на ўвазе сённяшні пачастунак. Людзі былі ў гасцях і пайшлі задаволеныя.

— Рэвалюцыя — тое ж, што і вайна, — сказаў Лявон. — Аднолькава.

Навокал панавала цішыня. У паветры плыў востры начны пах рачных водарасцей, чароту, аеру. Над дрэвамі паказаўся маладзік. Адпачывала, раўнамерна дыхаючы, зямля, узагрэтая летнім днём.

Ночы ў чэрвені кароткія.

— Пайду, а то світаць пачне, — заспяшаўся Лявон, падаючы руку Якаву Арыстархавічу і Амброжыю. — Дзякуй!

## II

Лета 1939-га ў Прусцы адзначыла сябе двума здарэннямі мясцовага маштабу: злодзеі абакралі Шпронькаву лаўку і ў лужыне каля ўраднікавай хаты ўтапіўся Трахім. Першае здарэнне адбылося ўночы, другое — пад раніцу. Ноч была з тых, якія ў народзе здаўна называюцца рабінавымі і якія звычайна надараюцца ў жніўні. Яшчэ з вечара дзесьці за даляглядам ледзь-ледзь значылі неба лёгкія бліскавічныя сполахі, але потым яны быццам і зусім аціхлі, і ўсё супакоілася. Пастухі раней звычайнага прыгналі дадому кароў. Свінні, як бы чуючы што, таксама дачасна пахаваліся ў хлеў, а куры пайшлі на седала. Раптоўна стала цямнець. Наплыла ў адначассе аднекуль вялікая калматая хмара і ўсім сваім цяжарам навалілася на Пруску, усё адразу ператварылася

ў ноч. Цемрадзь здавалася жахлівай, толькі рукамі можна было намацаць нешта перад сабой. Разрываючы начное сутонне, запалалі адна за адной бліскавіцы. Потым гулка загрукатаў гром і зашумеў дождж. Далей — больш. Гром перыў, здавалася, па ўсім зямным абшары. Хмара кіпела і пенілася. Паселішча калыхалі перуны. Вада лілася на зямлю хвалямі, а потым сыпануў буйны град.

— Нейкі нячысцік павесіўся! — сказала Фёкла і запаліла грамнічную свечку, аднак ізноў красанула маланка і ўдарыў пярун.

Навальніца лютавала ўсю ноч і аціхла толькі пад раніцу.

Адзіным, хто не звярнуў ніякай увагі на тое, што адбывалася, быў малы Валодзік — ён усю ноч моцна спаў. Раніца выдалася цудоўная. З неба заўсміхалася свежае, радаснае сонца, нібы таксама абмытае залевай. На траве, як брыльянты, зіхацелі нявысахлыя кроплі дажджу. Столькі вады пралілося з неба, што пасярэдзіне вуліцы ўтварыўся бурлівы ручай. Ён плыў туды — у ніжні канец вёскі, дзе быў выган. У садзе вецер паабтрасаў з дрэў яблыкі, паабганяў лісце, на некаторых яблынях пазбіваў яблыкі разам з веццем. Такога дажджу з градам цяжка было і прыпомніць.

У тую ж раніцу сусед Апанас Хомка, якога маці ўсё яшчэ называла «выпусткам», прынёс нечаканую вестку: зваліўся з воза Трахім, якраз калі пераязджаўураднікаву лужыну, асабліва паўнаводную пасля навальніцы, упаў пад калёсы і зламаў нагу, дадому павезлі ледзь жывога, бо ў дадатак яшчэ і нахлёбаўся вады. Вядома, быў добры п’яны, і сябры п’яныя. Сяброў ён паклаў у кельню, а сам з форсам на драбінку сеў, звесіўшы ногі ў новых ботах. Куды яны ехалі — невядома. Захацелі закурыць. Закурыў і Трахім і з усяе сілы пляснуў пугай па конскай спіне. Пярэдняе кола з ходу грузна ўвалілася ў глыбокую калдобіну, схаваную пад вадой, і яздок, як мех, абрынуўся ўніз, распырскваючы гразь. Заднія колы праехалі па нагах. Так яго і дасталі з той лужыны — з зашчэмленай у зубах цыгаркай і ў новых ботах, заляпаных гразёю. Фуражка з бліскучым казырком так і засталася ў лужыне. Мучыўся Трахім нядоўга — праз два дні кончыўся. Перад смерцю намагаўся нешта сказаць, але не змог — адняло мову.

Дзяк Кухта ўспомніў польскую прымаўку:

— Умарл в бутах[1], — сказаў ён, вяртаючыся з могілак разам з айцом Клаўдзіем.

Ніхто не выглядаў надта засмучаным. «Божая кара», — сказала старая Васіліха, якой Трахім даводзіўся зяцем па першай жонцы. А Лявону падалося, што пасля гэтай смерці свет стаў як бы прасторнейшым і нібы нават амаладзіўся.

Што тычыць другога здарэння — крадзяжу ў Шпронькавай лаўцы ў тую рабінавую ноч, дык тут было шмат невытлумачальнага. Лавачнік толькі-толькі прыступіў да, як ён казаў, эксплуатацыі свайго новага дзецішча. Нядаўна пабудаванае памяшканне мела вельмі хітры, са шматлікімі сакрэтамі, замок, і вось знайшоўся нехта, хто вымераў ключ, адчыніў і забраў не толькі касу, але і ўвесь тавар — падчыстую. І ўсё недзе схаваў. І не збаяўся ні дажджу, ні граду з громам. Ды яшчэ ў дадатак выпаскудзіўся на прылавак. Хто ўсё гэта ўтварыў — ніхто не ведаў. Шпронька быў вельмі зняважаны. Паліцыя арыштавала Апанаса з Зяньковў, але ў яго было алібі. Тады ўзяліся зноў за Цішку Пахолка. Помнілі, што ён калісьці замяшаўся ў справу з царкоўным сейфам, і падазрэнне ўпала на яго. Адбітак ключа, маўляў, ухітрыўся зрабіць на мыле.

---

[1] Памёр, строячы супраць кагосьці падкопы (польск.).

І паказаў на яго быццам бы не хто іншы, як Лаўр Яўсеевіч, але даказаць таксама не ўдалося. Паліцыя абшукала і хату, і кузню, аднак нічога не знайшла. «Я таго не датычны», — цвердзіў Цішка.

— Сабаку трэба завесці! — параіў разгубленаму Шпроньку Лаўр Яўсеевіч. — Сабака злодзея не пусціць.

Але лавачнік не мог прыняць такую параду:

— Сабака кліентаў палохаць будзе!

Пасля гэтага Шпронька з паліцыянтамі начамі пачаў рабіць у лаўцы засады, аднак ніякіх вынікаў гэта не дало, апроч выдаткаў: паліцыянтаў даводзілася карміць і паіць, а каштавала гэта не танна. Шпронька лічыўся пацярпелым, і яму спачувалі і нават шкадавалі. Лавачнік прыкметна пахудзеў.

* * *

15 жніўня, як і штогод, пышна і шумна адзначаўся Дзень Войска Польскага, а праз два тыдні пачалася вайна.

Пра вайну, пра тое, што Гітлер напаў на Польшчу, прускаўцы даведаліся на другі дзень — другога верасня. Перад гэтым 29 жніўня 1939 года ў Маскве быў падпісаны Дагавор аб ненападзенні паміж Германіяй і СССР — так званы пакт «Рыбентроп—Молатаў», бо падпісвалі Молатаў і Рыбентроп у прысутнасці Сталіна. Выходзіла, што Сталін пасябраваў з Гітлерам, а яшчэ нядаўна публічна называў яго людаедам, а цяпер вось заключыў дагавор, а Рыбентропа, хадзілі чуткі, нават узнагародзіў ордэнам Леніна. Як усё мяняецца!

Што з чым у гэтай сітуацыі было звязана і чым абумоўлена, ніхто не ведаў, але падзеі набылі рэзкае паскарэнне і пакаціліся, чапляючыся адна за адну, як кулі саломы з нетрывалага даху. Варшава абвясціла мабілізацыю рэзервістаў і ўсіх сродкаў на патрэбы вайны. Вестку аб мабілізацыі прынёс солтыс і прыклеіў на Шпронькавай лаўцы плакат, які атрымаў у Ратайчыцах у гміне. Гарэлі агнём вялізныя чырвоныя літары:

**ZOŁNEŻE! WALCZYCE O ISŃEŃE I PSZYSZŁOŚĆ POLSKI!**[1]

Падыходзілі людзі, чыталі, каменціравалі. Яшчэ праз дзень побач з'явіўся другі плакат:

**NIECH ŹYJE PAN MARSZAŁEK RYDZ-ŚMIGŁY!**[2]

Патрыятычна настроены пан Мандрашчак, стоячы перад плакатам, сказаў:

— Гітлеру, пся крэў, па сутнасці, нічога не застаецца, як збегчы кудынебудзь за акіян. Я гэта і раней казаў. Усё наша камандаванне складаецца з вопытных вайскоўцаў!

— Сам вінаваты, — загаманіў праз адчыненыя дзверы Шпронька, — не трэба было пачынаць! Нашто палез?

— Наш урад — вайскоўцы! — махаў рукой настаўнік. — Гэта, проша пана, добры выпадак даць яму пад сраку!

Аднак рэзервісты не вельмі спяшаліся на прызыўныя пункты, глядзелі, дзе б можна было знайсці схоў. Зніклі, схаваўшыся ў сваякоў па іншых вёсках, Ляксандар Гальяш і Сяргей Сталетнік. Тое ж самае імкнуліся зрабіць і астат-

[1] Салдаты! Змагайцеся за існаванне і будучыню Польшчы!
[2] Хай жыве маршалак Рыдз-Смiглы!

нія хлопцы, і маладыя мужчыны. Васіль чакаў, што забяруць і яго, і на ўсялякі выпадак падаўся да цесця ў Пакупчыкі, але выкліку не было.

Нападзенне Гітлера на Польшчу ўскалыхнула патрыятычныя пачуцці братоў Падгурскіх і ўсёй панскай чэлядзі. Вітальд кінуўся ў Варшаву. Тое ж самае рабілі і многія навакольныя паны. Пайшоў у войска Янэк — сын Ванды з Чвурака, парабак Падгурскіх. Той самы Янэк Выжыкоўскі, які калісьці прызываўся разам з Васілём. У маёнтку заставаліся Караль і ўпраўляючы Ляварз прыдуркаватым сынам Стахам.

Немцы наступалі. Казалі, што бамбілі тыя польскія гарады, у якіх насельніцтва ў 1918 годзе гвалтам раззбройвала кайзераўскае войска. Наступаючы, нямецкія войскі ўтваралі катлы, бралі ў палон вялікую колькасць польскіх часцей, і падзеі складваліся не на карысць польскага боку. Польская кавалерыя з шаблямі кідалася на нямецкія танкі, але нічога зрабіць не магла. Радыё паведаміла, што ў Тухольскіх лясах, на мяжы з Германіяй, трапіў у акружэнне ўланскі полк шваляжэраў. Васіль з жахам падумаў, што гэта мог быць Другі полк шваляжэраў Ракітнянскіх — той самы, у якім яму давялося праходзіць вайсковую службу. Не пашанцавала і пад Кутна, дзе грандыёзная бітва скончылася разгромам дзвюх польскіх армій. Сапраўднага адпору амаль не было: заходнія беларусы ды ўкраінцы хацелі не надта ваяваць. Працяглы час трымалася Вастэрплятэ.

Мандрашчак сцвярджаў:

— Наша надзея на Англію, я так думаю — яна не пакіне Польшчу ў бядзе!

— А што англійскае радыё кажа? — пытаўся ён у Шпронькі.

— Варшава! За Варшаву ідзе змаганне.

Насельніцтва бегла на ўсход. Танкі Гудэрыяна ўжо прасавалі Беласточчыну. 6 верасня камандуючы войскамі маршал Рыдз-Сміглы і яго штаб, не вытрымаўшы нервовага напружання, пакінулі Варшаву і перанеслі галоўную стаўку ў Брэст. Не ў крэпасць, якая абаранялася войскамі, а ў цэнтр горада. Мусіць, не надта верыў у магчымасці гэтай цытадэлі і загадзя меркаваў, як, калі што якое, лепш уцячы. Месцазнаходжаннем штаба выбралі гатэль «Dzijor» на вуліцы Дамброўскага. Немцы пра гэта, як ні дзіўна, даведаліся адразу, літаральна праз некалькі гадзін. Не інакш, як у самім акружэнні Рыдза дзейнічала нямецкая агентура. Тут жа пачаўся налёт авіяцыі. Бомбы ляглі метраў за пяцьдзесят ад гатэля. Налёты паўтараліся. Пасля гэтага штаб пераехаў на поўдзень, у Пяты форт. Аднак і тут заставацца яны не маглі, таму што на Брэст левым флангам рухалася танкавая армада Гудэрыяна. Адзінаццатага верасня Рыдз-Сміглы апынуўся ў горадзе Уладзіміры-Валынскім. Чатырнаццатага верасня Гудэрыян заняў Брэст, і чатырнаццатага верасня немцы ўжо бамбілі Баранавічы. Бек, Масціцкі, Рыдз-Сміглы, арыстакраты — усе збеглі. З усходу ўжо ішла Чырвоная Армія. Бежанцы, калі дачуліся, што насустрач наступаюць бальшавікі, кінуліся назад, на захад. Але назад ісці таксама не выпадала — там былі немцы. Тады кінуліся на поўдзень, да румынскай граніцы, якая, па дамоўленасці з Англіяй, была адчынена для ўцякаючай польскай арміі. Знік кудысьці і настаўнік Мандрашчак. Перад гэтым ён быццам бы сказаў:

— І ўсё ж такі Польшча не стала на калені перад Гітлерам, як гэта зрабілі заходнія дзяржавы! Польшча ваявала! — І ў гэтых словах была праўда.

Пакінулі маёнтак і Караль з Ляварам — казалі, што яны таксама падаліся ў бок румынскай граніцы. У панскім двары заставаўся Стах, які невядома па якой прычыне не з’ехаў разам з бацькам. Ды яшчэ адзін чалавек — агароднік Касарала, які склаў Васілю печ. Стах — бесклапотны дваццаціпяцігадовы бэйбус, які жыў у палацы, у адным з невялічкіх пакояў. Наўздзіў усім валодаў незвычайнай фізічнай сілай. Бывала, пачапляюцца на яго пастушкі, на спіну,

на плечы сядуць, адзін нават на галаву ўзбярэцца, а двух Стах пад пахі возьме і ўсіх — чалавек сем-восем — нясе ад палаца ажно да мастка праз Плісу. Але быў ён пры такой сіле страшэнны гультай. Справа даходзіла да таго, што ленаваўся нават выйсці на двор па малой патрэбе. Дзеля гэтага правёў праз сцяну трубу («рурку», як ён казаў) з пакоя на вуліцу і пры патрэбе карыстаўся гэтым сваім вынаходніцтвам.

Немцы захапілі безабаронны Брэст. Супраціўленне аказала толькі крэпасць, якую абаранялі польскія салдаты, але праз два дні гітлераўцы занялі і яе. Невялічкая група абаронцаў цытадэлі пад кіраўніцтвам генерала Плісоўскага вымушана была ноччу пакінуць крэпасць і незаўважна для немцаў перабрацца на заходні бераг Буга... Цікава адзначыць, што далей крэпасці і чыгуначнай станцыі Брэст-Заходні немцы чамусьці не пайшлі. Спыніліся фактычна на вуліцы Пілсудскага, зрабіўшы яе мяжой, якая праходзіла з поўначы на поўдзень і дзяліла горад папалам. Тут і ўваскрэслі зацюканыя ўсімі капэзэбоўцы, якія выступілі ў гэтай сітуацыі, трэба сказаць, апраўданай ініцыятывай. Былі створаны рабочыя атрады, якія ўзначаліў вядомы Аляксандр Саванеўскі — камуніст-капэзэбовец. Рабочыя атрады, з чырвонымі павязкамі на рукавах, узялі пад свой кантроль вакзал, паліцэйскі пастарунак, дэфензіву, турму, пошту, пякарні, масты, водазаборную станцыю і электрастанцыю, а таксама банк.

Варшава яшчэ абаранялася, але не доўга пратрымалася і яна. Быў спалены і разбураны Каралеўскі замак, дамы ляжалі ў руінах. Варшаўская радыёстанцыя працавала да 23 верасня, пакуль была электрычнасць; па два разы ў дзень праз яе прамаўляў прэзідэнт Варшавы Стэфан Стажыньскі. Пад канец прыёмнік змоўк — селі акумулятары. Сталіца змагалася да 28 верасня. На дапамогу ёй спрабаваў прарвацца генерал Клеберг, але беспаспяхова. Пад Варшавай у тылах немцаў партызаніў 56-гадовы Булак-Балаховіч. Перад гэтым ён толькі што вярнуўся з Іспаніі, дзе дапамагаў генералу Франка, а пасля 1 верасня з вернымі «сынкамі» кінуўся на абарону польскай сталіцы. 28 верасня паміж наступаючымі немцамі і абаронцамі Варшавы былі падпісаны ўмовы капітуляцыі, паводле якіх польскія афіцэры павінны былі ісці ў так званы ганаровы палон, а радавыя — адпраўляцца дадому. Доўга не паддаваўся генерал Клеберг, але і ён вымушаны быў здацца немцам 6 кастрычніка пад Коцкам.

— У Брэсце — немцы! — напалохана загаварылі ў Прусцы. — Што ж цяпер будзе?

Аднаго разу пад вечар да Кужалёў завітаў Якаў Арыстархавіч. Знешне выглядаў, як заўсёды: шэры плашч і пінжак, жывот абцягнуты суконнай камізэлькай, на галаве капялюш, пад падбароддзем — гальштук.

— Маё шанаванне!

Гаспадары запрасілі прысесці. Госць сеў на лаўку, не распранаючыся, а толькі зняўшы капялюш, уздыхнуў і пачухаў патыліцу.

— Разбегліся, хоба на іх! Хто б мог падумаць? Абцасамі вунь як умелі стукнуць!..

— Шпорамі звінелі, — пацвердзіў Лявон, пра нешта думаючы.

— Але што зробіш, калі з двух бакоў націснулі — з захаду і з усходу ды яшчэ і адначасова. Такога, напэўна, ніхто не вытрымае, — фальварковец бездапаможна развёў рукамі і пацiснуў плячыма.

— Можа, Польшча тут і не пры чым, — марудна, з намаганнем загаварыў Лявон, — хоць і залішне звінела шпорамі. Гэта ці не Сталін з Гітлерам пачалі кусацца, гэта, мусіць, нешта вялікае пачалося...

— Але, але, — няўцямна пакруціў галавой Якаў Арыстархавіч.

Фёкла маўчала, як бы прыслухоўваючыся да сваіх думак.

— А як там Амброжый? — пацікавіўся Лявон, бо з Амброжыем ён таксама быў у сяброўскіх адносінах.

— Ён каля Стэпы — прыхварэла нешта.

Следам за Пацам зайшоў Лаўр Яўсеевіч, акуратна прычыніўшы за сабою дзверы. У руках ён трымаў нейкі часопіс. Лявон па складах прачытаў: Беларускі летапіс, 1939, жнівень-верасень.

Лаўр Яўсеевіч разгарнуў часопіс і стаў чытаць:

*«Сталася ўрэшце тое, да чаго імкнуўся Гітлер даўно. Прапаганда Гітлера і ягоных памагальнікаў абвяшчала ўсім немцам, што яны — «выбраны народ», пакліканы да валодання светам. Здзейсніць гэта немцы павінны грубай сілай. Каб мець такую сілу, Гітлер злучыў пад сваёй уладай усе нямецкія землі ў Еўропе — Аўстрыю і Судэты. І вось, падрыхтаваўшы велізарныя запасы зброі ды ваенных матэрыялаў, павёў Гітлер аб'яднаную Нямеччыну перад усім на заваяванне сваіх найбліжэйшых суседзяў.*

*Пад пагрозай вайны і фізічнага знішчэння захапіў Гітлер спярша маленькую Чэхаславаччыну, няздольную да абароны сваёй незалежнасці. Пасля адабраў ад Літвы Клайпеду — галоўны выхад яе да мора. Урэшце надумаў захапіць Гданьск і — пазбавіўшы гэтак Польшчу гэтага важнага порту — падпарадкаваць і гэтае гаспадарства сваёй волі.*

*Але Польшча не спалохалася пагрозы вайны і з аружжам у руках выступіла на абарону сваёй незалежнасці. А на помач Польшчы падняліся вялікія дэмакратыі Захаду — Англія і Францыя, імкнучыся палажыць урэшце канец гвалтам Гітлера пад вольнымі народамі... Маючы лічбовую перавагу, немцы пасунуліся ў глыб Польшчы, скідаючы з аэрапланаў бомбы на польскія гарады, мястэчкі і вёскі, сеючы ўсюды смерць і руіны... Вайна йдзе поўным ходам. Дэмакратыю Захаду падтрымліваюць усе іншыя дэмакратычныя гаспадарствы свету з Амерыкай на чале».*

У хаце стала ціха.

— А можа, Амэрыка і дапаможа? — памеркаваў Лявон.

Аднак адказу на гэта і іншыя пытанні не было.

— Намі заўсёды затыкалі гэтую дзірку паміж захадам і ўсходам. На гэты раз Саветам аддалі, — сказаў Якаў Арыстархавіч.

Прускаўцаў падзеі абмінулі і непасрэдна як бы і не закранулі. Тут усё выглядала досыць спакойна. У Ратайчыцах магазін расцягнулі мясцовыя жыхары, не чакаючы, пакуль ім у гэтым дапамогуць аматары з навакольных вёсак. І ваенны эпізод адбыўся не ў Прусцы, а каля суседняга Бучамля, дзе людзі назіралі, як на шашы з Высокага ў Шарашова нямецкая танкетка гналася за трыма польскімі ўланамі. З задыханых і ўзмакрэлых коней кавалкамі валілася пена. І можа б яны даімчалі сваіх седакоў да бярэзніка, калі б з танкеткі не ўдарыў кулямёт — глухой, скрыпучай чаргой. Людзі бачылі, як уланы, адзін за адным, неяк ненатуральна ўзмахнуўшы рукамі, пападалі з сёдлаў, а коні, прабегшы яшчэ нейкую адлегласць, вярнуліся да сваіх гаспадароў.

— Ой, людкове! — жахаліся і выцiралі хусцінамі вочы спагадлівыя жанчыны. — Што робіцца!

Забітых уланаў пахавалі на могілках у Вайской.

Саюзнікі Польшчы — «вялікія дэмакратыі Захаду» Англія і Францыя, у якіх былі заключаны ўзаемныя ваенныя канвенцыі і дагаворы аб узаемадапамозе, аб'явілі вайну Германіі, але баявых дзеянняў так і не распачалі і дапамогі не аказалі.

Пажар Другой сусветнай вайны палаў.

### III

Асноўныя сілы нямецкіх войскаў у гэтых мясцінах не паказваліся, а неўзабаве з'явіліся чырвоныя. Бабіна лета ішло на спад, адусюль пахла палыном і быльнягамі, занялося асеннім агнём лісце на дрэвах. Стаяла прыгожая восень. Танкі рухаліся па Камянецкім гасцінцы, накіроўваючыся ў бок Высокага. Грымелі і лязгалі гусеніцы, вылі натруджаныя маторы. Гэта былі машыны 25-га механізаванага корпуса, якім камандаваў камбрыг Крывашэін. На гасцінец выбягалі людзі з навакольных вёсак. Многія трымалі ў руках букеты кветак з уласных гародчыкаў. Сярод натоўпу вяскоўцаў Лявон заўважыў Шпроньку, які зачыніў лаўку і знаходзіўся тут. Ззаду, на пагорку, каб лепш бачыць, стаяў, не вытыркаючыся наперад, Восіп Дзванарык. Апрануты ў шэрую кашулю, рукавы вышэй локцяў перахоплены гумкамі. Народ прыбываў, з'явіўся Хвядзюшка Шпунт, Хрысан Гальяш, Сяргей Сталетнік, Гамон, Міхаль Тупчык з жонкай Гапай, Цішка Пахолак, прыбеглі Хомчыха з Дзякрэтай, Міцька Балабайка з Выгнанкі. Прыкульгаў нават Дэдар — японец, які апошнім часам далёка ад хаты не адыходзіў.

— Таварышы, таварышы ідуць! — шумеў і гаманіў натоўп.

Такіх машын прускаўцы яшчэ не бачылі.

— Ото сіла! Ой, людо-очкі!

Прыбег, запыхаўшыся, Цімоша.

— А можа, яны на немца? Палякам дапамагаць? — загаманіў ён.

— Саветы, напэўна, на Варшаву рушаць, а там і на Берлін, — выказаў здагадку Мікіта Галёнка.

Калона рухалася, цягнучы за сабой хмару пылу. Пярэднія машыны, скрыгатнуўшы тармазамі і шчодра дыхнуўшы смуродам, спыніліся якраз насупраць царквы. Адчыніўся люк, і з вежы, адплёўваючыся ад пылу, вылез вайсковец у чорным зашмальцаваным камбінезоне, следам за ім паказаўся другі.

— Здраствуйце, таварышы!

Прускаўцы збянтэжана маўчалі, перамінаючыся з нагі на нагу. Ім, цёткам і дзядзькам паважнага веку, дзіўным, відаць, здаўся гэты запанібрацкі зварот зусім яшчэ маладзенькага вайскоўца — «таварышы!»

— Што — па-руску не панімаеш? — чалавек у камбінезоне звярнуўся да Гамона, які стаяў бліжэй да ўсіх, здзіўлена выцягнуўшы скрыўленую шыю.

— Добры дзень, таварышы! Здраствуйце! — гукнуў за ўсіх Шпронька. — Здраствуйце! Ура-а!

Усе навокал дружна закрычалі «ўра!», замахалі рукамі, вітаючы госця, а Шпронька падкінуў уверх шапку. Не хацеў утойваць радасці.

«Вось табе і Шпронька! — напэўна, не без зайздрасці падумалі многія. — Перайначыўся за адзін раз!»

— Як жывяце, таварышы? — пачаў гаворку вайсковец.

— Ну, так сабе, — адказаў Міхаль Тупчык.

— Патроху, — дадаў хтосьці з натоўпу.

Лавачнік і былы войт, Шпронька, здавалася б, павінен быў бы пазбягаць і асцерагацца новай улады (а тое, што гэта была новая ўлада, ніхто не сумняваўся), а ён, на здзіўленне ўсіх, пёр наперад, махаў рукамі, крычаў, задыхаючыся ад хвалявання.

— Дабро пажалаваць! Віват!

Чалавек у камбінезоне паглядзеў на яго недаверліва, як бы ў чымсьці засумняваўся:

— Ты, наверна, пан?

— Не-е! — адмоўна пакруціў галавой Шпронька. — Ні ў якім разе! Працую, таварыш, як і ўсе.

— А чаго ж такой толстый?

— Сэрца, — лавачнік памацаў левы бок.

— Бальной што лі?

— Хворы.

— Тагда панятна.

— Былі паны ды пагублялі штаны, — з'едліва азваўся Гамон, і ўсе зарагаталі.

Вайскоўцы таксама засмяяліся. Танкіст выняў з кішэні камбінезона пачак папяросаў з нейкім малюнкам на ім, дастаў адну, сунуў у рот і чыркнуў запалкай, але запалка не загарэлася, і вайсковец кінуў яе на зямлю, узяў другую. Прускаўцам дзіўным падалося, што бальшавік гэтак неэканомна карыстаецца запалкамі — такой дарагой рэччу. Нарэшце ён прыкурыў, смачна зацягнуўся дымам і абвясціў:

— Ну што, таварышы, давайце правядзём кароткі міцінг!

Падышло яшчэ колькі вайскоўцаў. Лявон пільна ўзіраўся ў іх аблічча: «А можа, дзе Кляновік пракінецца? Калі жывы, дык павінен быць... Ён бы не ўцярпеў...» Потым раптам успомніў Ганнінага Косцю: «Такі лёс — параскідала людзей па свеце. А можа, згіб дзе? Не дзіва. Ці мала народу папрападала...»

Косцю выглядаў, напэўна, і Цімоша, які даводзіўся яму родным дзядзькам, але ні Кляновіка, ні Косці сярод гасцей з усходу не было.

Адзін з вайскоўцаў, азірнуўшыся ўправа-ўлева, спытаў:

— А што-та вы без знамёнаў?

— Таварыш афіцэр, — уступіў у гаворку Восіп, прабіўшыся праз натоўп і цярэбячы гузік на кашулі, — мы звіняемся, не паспелі брамы збіць і ўкрасіць, як належыць. Не паспелі! А цяпер няўдобна...

— Я не афіцэр, — паправіў Восіпа танкіст, пасміхаючыся, і патлумачыў: — У нас байцы, камандзіры і палітработнікі. Армія-то — народная, нашанская! Нашто нам афіцэры? Мы і самі з вусамі.

— А знамёны пашыем! — запэўніў Шпронька. — Бабам скажам — пашыюць! Пашыюць, пафарбуюць! Усё, як трэба! — перайшоў ён на мясцовую гаворку.

— Толька, таварышы, глядзіце, каб не так, як у Пружанах!

— А ў Пружанах што? — пацікавіўся Мікіта.

— А там, знамёны, панімаеш, разные! Адно — нашанскае, краснае, а другое краснае толька пасерадзіне, а па баках — белае. Буржуазнае, стала быць!

Натоўп прымоўк, баючыся, каб чаго не пачуць, прапусціць нешта важнае.

— Таварышы! Брацця! — выступіў наперад і галосна гукнуў адзін з вайскоўцаў, мусіць, палітработнік. — Давольна вам панскія плугі па полі таскаць! Мы знаем, паны на вас пахалі! Жызнь была такая, што не пазавідуеш! Мы прыйшлі вызваліць вас з панскай няволі. У вас, к сажаленію, паны ўсім запраўлялі, цяпер самі будзеце запраўляць! Самі сабе хазяева! Паля — вашы і ляса — вашы! У Савецкім Саюзе нет эксплуатацыі чалавека чалавекам, кожны — свабодны, і каб хто работал на каго-та — такова нет. Цяпер, канечна, і ў вас усё пайдзёт па-другому. У Савецкай стране так: старыкам — пачот, а маладым — дарога. Так будзет і ў вас...

— Да здраствует Страна Саветаў! — набраўшыся смеласці, крыкнуў Мікіта па-руску, перабіваючы выступоўца.

— Наканец нам з вастоку сонца вассіяла! — падтрымаў яго Лаўр Яўсеевіч, які таксама не ўтрымаўся, прыбег разам з усімі.

— Ашалець можна! — ад здзіўлення ці яшчэ ад чаго пляснула сябе па сцёгнах Хомчыха. — Што робіцца!

— Жыць стала весялей, — як вучыць нас таварыш Сталін, — працягваў прамоўца. — Ідзі ўпярод, работай, дзярзай, і ўсё будзе ў парадку, будзеш сыт і адзет. А хочаш вучыцца — вучысь! Тон у нас задаюць, как правіла, камуністы і камсамольцы. Ім — давер! У нас маладзёж становіцца лётчыкамі, палярнікамі, стаханаўцамі! Далой адсталасць! Кадры рашаюць усё! Хто быў нікім, той стане ўсім. Цяпер жэншчыны, таварышы, будуць раўнапраўныя з мужчынамі! — выгукнуў ён, заўважыўшы ў натоўпе прускаўскіх жанчын. Там была і Фёкла, якая таксама выбегла на гасцінец убачыць людзей з усходу. «А можа, хто з Запалоннага?» Яна вырашыла, што хусцінку трэба завязаць «па-руску» — з вузлом над ілбом, як калісьці завязвалі жанчыны ў Запалонным. Так і зрабіла. Выступовец гаварыў, падняўшы руку: — У нас жэншчына, таварышы, паднята высако. Ана на трактары сідзіт і трактарам управляет! Гэта, таварышы, не жарт, не выдумка — так ано і есць. Я заканчваю. Хай жыве вызваленне! Рабочыя беларусы і ўкраінцы! Вы нашы брацця! Будзем умесце будаваць шчаслівую жызнь, таварышы! Скажу, граждане, толька адзін факт. — Выступоўца невядома чаму перайшоў на новы зварот — «граждане». — На царкву вашу, па закону нада кантрыбуцыю налажыць. Адзін опіюм ад яе... — ён кіўнуў у бок царквы. — Цяпер, граждане, ваша ўрэмя! Хто каму вінаваты, з ім расчытайцеся! Я думаю, за тое нічога не будзе... Упрочым, гэта не наша забота. Наша дзела — старана... Прыступайце к новай жызні, таварышы!..

Людзі здзіўлена слухалі.

— Мы, товарищи, всему научим: как жить, как работать, как любить родину и как правильно разговаривать. Разговариваете вы неправильно, не совсем по-русски! — дадаў, а заадно і падбадзёрыў вайсковец, што знаходзіўся побач з прамоўцам.

— Дык і ў нас былі камуністы, — няўпэўнена сказаў Цімоша.

— Вашы камуністы — не правільныя камуністы! Падкупіла іх буржуазія, — рэзка адказаў на Цімошава пытанне вайсковец, і той толькі ўздыхнуў.

— Людзі! — зноў пажвавеў Шпронька. — Вы б таварышам малака прынеслі!

Некалькі жанчын, у тым ліку і Прося, кінуліся па малако. Вайскоўцам гэта, мусіць, спадабалася.

— Ну што ж, у такім разе мы вас воблай угасцім! — сказаў той, які толькі што выступаў з прамовай. — Далікатэс!

Танкісты дасталі з танка некалькі рыбін і раздалі мужчынам.

— Салёная дужа! — крутнуў галавой Сталетнік, пакаштаваўшы рыбіну.

— Гэта з непрывычкі, — патлумачыў адзін з вайскоўцаў. — Салёная рыба ў паходзе харашо!

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон, які смак воблы ведаў яшчэ з часоў бежанства. Яму вобла спадабалася.

Жанчыны прынеслі малако, разлілі ў кубкі. Вайскоўцы пілі, хвалілі, дзякавалі, некаторыя хацелі нават заплаціць, але прыняць плату жанчыны рашуча адмовіліся.

— Можа б, у хату зайшлі? — запрасіў Васіль Кужаль. — Хата побач. Мы б пачаставалі...

— Некагда.

Асмялела дзятва. Сын Цімафеевай Хрысці Валодзя і малы Сяргейка Гальяш круціліся ля самых танкаў, дзелавіта абмацваючы гусеніцы, ляпаючы па іх далоньмі.

— Дарогі ў вас дагледжаныя, — сказаў танкіст, — вось толькі вузкаватыя. Каб шырэй! — Убачыўшы Фёклу, якая стаяла паперадзе, пацікавіўся: — А ты, навернае, руская? Я віджу — касынка ў цябе па-нашаму павязана?

— Руская, — прызналася Фёкла. — А што?

— Да я проста так. Вот наша зямлячка! — усміхнуўся танкіст і паказаў на Фёклу пальцам.

— Па машынах! — прагучала каманда, і вайскоўцы адразу замітусіліся, пабеглі да сваіх танкаў і пахаваліся ў жалезных люках.

Узнімаючы густы белы пыл, перамешаны з выхлапнымі газамі, танкі рушылі і пакіравалі ў бок Высокага — туды, дзе знаходзіліся Брэст і Беласток.

* * *

Зноў для многіх наступіў няпэўны час. Асабліва цяжкія, трывожныя дні перажываў Восіп Дзванарык. Доўга вагаўся, але ўсё ж такі сеў на ровар і паехаў у Камянец. Вецер дуў насустрач, і круціць педалі патрэбна была сіла. Сілы не ставала, і ён ехаў марудна, часта губляў раўнавагу, саскокваў і вёў ровар у руках. Купіў яго нядаўна, і ровар быў зусім новы, амаль нераз’езджаны. З Бабіцкай гары адкрыўся Камянецкі стоўп, і Восіп чамусьці захваляваўся. Праехаў Ліпну, Мікалаева. У Замастах ровар пакаціўся па бруку, ехаць стала лягчэй, але трэсла. Не дапамагалі і апоны — фірмы «Stomil». Амартызавалі яны слаба. Ён успомніў, што ў свой час паклалі каменні на гліну і хоць добра ўтрамбавалі, але ўсё адно яны выпіралі. Гэта пад яго кіраўніцтвам брукавалі вуліцу ў Замастах. Вядома, памылка, недагляд, але колькі тых памылак за жыццё зробіш! Хочаш, як лепш, а па часе выходзіць памылка.

Восіп праехаў масты і апынуўся ў Камянцы. Такога прывычнага мястэчка на гэты раз не пазнаў. Вуліцы выглядалі па-святочнаму, прыбраныя ў чырвань — сцягі, лозунгі, плакаты. Дзванарык спыніўся на плошчы, разгледзеўся, як бы не пазнаючы таго, што бачыў. Нейкі селянін, што стаяў побач, сказаў:

— Столькі палатна чырвонага вывесілі. Шмат аддзення можна было б пашыць...

— Но-но, так нельга гаварыць, таварыш! — павярнуўся да яго Дзванарык. — Улада ведае, што робіць!

Селянін змоўк, з засцярогай паглядзеўшы на строгага чалавека з роварам у руках. З такім звяжыся, дык абавязкова будзеш мець непрыемнасці. Восіп між тым ужо накіраваўся да знаёмых, каб пакінуць у іх ровар, але яго аклікнулі:

— Таварыш!

Ён нават і не падумаў, што гэта звяртаюцца да яго, але, азірнуўшыся, убачыў чырвонаармейцаў, таксама на роварах, якія паказаліся з-за паварота, з Брэсцкай вуліцы, і ехалі ў яго бок. Іх было двое. Першы, з кароткім кірпатым носам, параўняўшыся з Восіпам, спыніўся, зірнуў на восіпаў ровар, прыклаў руку да казырка і сказаў:

— Загадана тэрмінова даставіць вас, таварыш, у камендатуру!

— Мяне?

— Вас.

У Восіпа ад нечаканасці і ад страху закалаціліся рукі, і ён, як за саломінку, у адчаі ўхапіўся за руль. «Ну, усё, бывай, Восіп! — пранеслася ў галаве жахлівая думка. — І нашто я сюды ехаў? Быццам чорт які падбухторыў...» Крыху ўсцешыўся толькі ад таго, што звярталіся да яго пачціва: таварыш. Значыць, нічога такога страшнага. Можа, дробязнае што...

— Сядайце на ровар — лепш за ўсё! — шчыра параіў другі, меншы ростам. — Паедзем разам.

Восіп разгубіўся, але нічога не заставалася як падпарадкавацца.

— Язджайце, я следам за вамі, таварыш, — згадзіўся ён, усё яшчэ прадчуваючы нешта нядобрае.

Усе трое паселі на веласіпеды — адзін чырвонаармеец ехаў паперадзе, другі следам за Восіпам. Восіп — пасярэдзіне. Паблісквaючы спіцамі, порстка круціліся калёсы таго, што ехаў паперадзе. Гэта нават крыху супакойвала: «Можа, абыдзецца?..» Павярнулі на вуліцу 3-га Мая, дзе месцілася камендатура. Насустрач рухалася чырвонаармейская калона. Ішлі ў ногу і з песняй. Спявалі галасіста і неяк па-асабліваму разняволена:

Над полями, леса-ами, озерами
Боевые летят корабли-и,
И свобода встаёт над просторами
Нашей вечно любимой земли-и...

— Рыс-два, рыс-два! — камандаваў вайсковец у фуражцы з зялёным аколышам. Мусіць, камандзір, — ён ішоў збоку.

Мы идем за великую Родину
Нашим братьям по классу помочь.
Каждый шаг, нашей армией пройденный,
Прогоняет зловещую ночь!

Мы свои, нам не надо родниться,
Мы одной богатырской крови!
Наш народ переходит границы
И выходит навстречу любви!..

Восіпу, па праўдзе кажучы, было не да песняў. У будынку камендатуры яго прывялі да нейкага вайскоўца, мусіць, начальніка, які сядзеў у сваім кабінеце з вельмі строгім выглядам, не здымаючы нават зялёнай фуражкі з чырвоным аколышам.

— Дзень добры пану! — павітаўся Восіп.

— Да ну, што вы, нікакой я не пан, мы с вамі таварышчы. Садзіцеся! — начальнік паказаў на крэсла. — Гэта дзікасць какая-та — назваць мяне панам. Няльзя так, таварыш! Старай Польшы нету больше! Вы што?

Начальнік доўга даймаў папрокамі, потым пачаў задаваць пытанні і нешта пазначаў у сваіх паперах. Хто вы? Адкуль? З якой мэтай у Камянцы? Якое сямейнае становішча? І яшчэ, і яшчэ, уключаючы, хто твой бацька і маці, спытаў, дарэчы, чый у яго ровар. Затрыманы адказваў, імкнучыся задаволіць цікаўнасць начальніка, які пазіраў на яго з такім выглядам, нібыта Восіп быў у чымсьці вінаваты ці штосьці пазычыў і не аддае. Ад хвалявання Восіп падпёр рукою твар і пачаў грызці пазногці. На допыце яго трымалі гадзіны дзве. Пару разоў заходзіў чырвонаармеец з шырокім кірпатым носам, нешта шаптаў на вуха начальніку, той згодна ківаў галавой. Нарэшце Восіпу ўручылі паперку з надрукаваным на машынцы тэкстам. Восіп стаў чытаць, прабег вачыма па радках:

СПРАЎКА

настаяшчая выдадзена грамадзяніну Дзванарыку Восіпу Канстанцінавічу ў том, што яго веласіпед рэквізіраваны для патрэб Чырвонай Арміі.

23.IX.39 г. Камандзір разведузвода...

Подпіс быў неразборлівы. Бугроў нейкі ці што?.. Восіп прачытаў і раз, і другі.

— Як жа так, таварышы? Як жа я без ровара? Я ў дарожным аддзеле працую! Ды і потым, як я дадому дабяруся?

— Дайдзёце пяшком, растаяніе небальшое.

— Ён жа абсалютна новы!

— Гэта ўжо не столь важна.

— Я буду скардзіцца.

— Не паложана, таварыш! Адпадзёт неабхадзімасць — палучыце абратна свой веласіпед. Мы вазврашчаем усім, вазврацім і вам!

— А якая гарантыя?

— Вы што — нам не верыце? — здзівіўся начальнік і строга паглядзеў на былога ўладальніка веласіпеда. — Я відзел несазнацельных, аднака такова віджу ўпервой. У чом дзела? Вы што?

— Не-не, я проста так...

З Камянца Восіп вяртаўся пяшком. Такога з ім ніколі не было. «Дурань, што паехаў, — думаў ён, — але, з другога боку, добра, што не арыштавалі. А маглі б...»

* * *

У Брэст Чырвоная Армія ўвайшла 22 верасня, а праз некалькі дзён адбыўся сумесны парад войск Чырвонай Арміі і гітлераўскага вермахта. З савецкага боку парадам камандаваў камандзір 25 механізаванага корпуса генерал Крывашэін, з нямецкага — генерал Гудэрыян. Крывашэін у Брэсце другі раз, першы раз ён быў тут у 1920-м, калі гналі палякаў, а потым, пасля цуда пад Варшавай, уцякалі ад іх. Гудэрыян — упершыню.

Грымнулі два аркестры — савецкі і нямецкі. Першай, у парадным страі, пайшла пяхота, выставіўшы шчаціну штыхоў. На імправізаванай, аздобленай дзеразою, трыбуне стаялі, узяўшы пад казырок, савецкія і нямецкія афіцэры. Шмат генералаў. Савецкія — камбрыгі, камдзівы. І поўна сцягоў — і ўсе чырвоныя, амаль аднолькавыя — толькі ў адных на сцягу нейкі як бы павук, ці, як казалі, свастыка, а ў другіх — серп і молат. Нізка над плошчай, разганяючы вецер, праляцелі некалькі эскадрылляў самалётаў. Ішлі, грукочучы гусеніцамі, па прыгожым бруку былой вуліцы маршалка Пілсудскага, савецкія і нямецкія танкі — адны з пяцікутнай зоркай, другія з крыжамі на брані. Танкі рухаліся ўперамешку, парамі: БТ-Т-III—Т-III...

Т—III, з 19-га танкавага корпуса Гайнца Гудэрыяна, толькі што смерчам прайшлі па Беласточчыне, пад людскі лямант і плач спалілі каля трыццаці вёсак.

* * *

Пасля парада немцы пакінулі Брэст і адсунуліся за Буг, а ў Брэст прыехаў ужо гатовы, сфарміраваны на поўны штат у Мінску, абкам партыі. На чале — нейкі Тупіцын. Казалі, што яго прыслаў Панамарэнка. Размясціўся абкам у асабняку Караля па вуліцы Зыгмунтоўскай. Прыезд адзначылі. Было па-летняму цёпла, і сталы паставілі ў двары асабняка. Пілі і танцавалі да раніцы, але тых, хто падтрымліваў парадак у горадзе ў перыяд міжуладдзя, да агульнай радасці не запрасілі. Капэзэбаўцаў да той пагулянкі і блізка не падпусцілі — да іх недавер. Але капэзэбаўцы — народ інфармаваны, потым яны не без зласлівасці расказвалі, што многія з прыезджых на той пагулянцы надта перапіліся.

## IV

У жыцці прускаўцаў нейкі час панавала як бы безуладдзе. Зрэдку толькі наведваліся вайскоўцы, а аднойчы ля школы спынілася цэлая вайсковая часць — некалькі аўтамашын з чырвонаармейцамі. Да адной з іх была прычэплена жалезная бочка на калёсах. Абвясцілі па вёсцы, што будуць даваць газу. Да школы пацягнуліся прускаўскія жанчыны з бутэлькамі і бляшанкамі. Каб больш атрымаць, бралі з сабой малых. Прося ўзяла на рукі Валодзіка. У адной руцэ бляшанка — другой прыціскала да сябе малога, які абхапіў маці за шыю. Валодзік, хоць яму хутка спаўнялася два гады, яшчэ не хадзіў. Рос як бы з некаторым спазненнем. Прося ўдыхнула пах яго валасоў, падалося, што яны пахнуць сонцам і яблыкамі. Яна пяшчотна называла сына «цюпа» — ёй падабалася гэтае слова, хоць яна і не ведала яго значэння.

— Кока, кока, кока! — паказваў малы на курыцу, што хадзіла па школьным двары, дзе давалі газу.

Раздаўшы газу, вайскоўцы падахвоціліся даць яшчэ і канцэрт мастацкай самадзейнасці. Спачатку правесці кароткі сход, а потым канцэрт. Апавяшчалі падлеткі. Хадзілі па хатах і казалі, што пад вечар трэба ісці ў школу. Старэйшае пакаленне прускаўцаў паводзіла сябе асцярожна і абачліва.

— Дзядзьку Лявон! Давайце ў школу! І вы, цётка Фёкла. — Ля весніц стаялі падшпаркі Валодзька Хлябіч і Сяргейка Гальяш. — Сходка будзе і канцэрт! Камісар прыехаў!

— І ўсім ісці?

— Усім!

— А калі не пойдзем? — пажартаваў з хлопцаў Лявон. — Справа ж дабравольная.

— Не, прыходзьце! Бо нам сказалі: дабравольна-прынудзіцельна!

Народ збіраўся дружна. Лявон з Фёклай пашыбавалі таксама. Людзей набілася — поўна! Рассунулі дзверы і спалучылі два класы, атрымалася вялікая зала, але месца ўсё адно не хапала. Хто не паспеў умасціцца на лаўку, стаяў паміж радамі. Гарэла падвешаная над людскімі галовамі лямпа. Над цёмнай класнай дошкай красаваўся кавалак чырвонай матэрыі з напісанымі на ім словамі: «Да здравствует РККА». Крыху вышэй, на сцяне, кожнаму кідаецца ў вочы вялізны партрэт: Сталін з тоўстымі, амаль як у Пілсудскага, вусамі. Ён нібы выглядаў кагосьці з-за гэтых тоўстых сваіх вусоў, кагосьці пільна вышукваў.

Людзі сядзелі ў кажушках — толькі шапкі паздымалі. Азіраліся. Дзівіліся. Чуўся гоман. Адзін толькі Шпронька зняў бравэрку і сядзеў у першым радзе, трымаючы адзежыну на каленях. Ён ужо не гандляваў, рыхтаваўся перадаць лаўку ва ўласнасць новай уладзе. Усе бачылі, як на сцэну падняўся малады вайсковец у доўгім шынялі, што звісаў на ім ажно да падлогі. Спыніўся каля стала. Пэўна, гэта і быў той камісар, пра якога казалі. Камісар — значыць палітработнік, ці палітрук, як яго яшчэ называлі. Яго задача — палітычная асвета. Адкрыты твар, густыя цёмныя валасы, падстрыжаныя «пад польку», зачасаны назад. Сімпатычны. Асабліва спадабаўся дзяўчатам. На каўнярьі — у пятліцах — блішчаць кубікі. Прускаўцы ўжо ведалі, што кубікі ў «Саветаў» — замест пагонаў.

На стале стаяў графін з вадой і шклянка. Камісар нацадзіў поўную шклянку і выпіў. Трымаўся ўпэўнена. Лічыў сябе, мяркуючы па ўсім, вопытным выступоўцам, дастаткова падкаваным у палітычным сэнсе. Не раз, напэўна, выступаў перад насельніцтвам.

Прыбег задыханы Гамон і нясмела, але ўпарта праціснуўся наперад.

— Прахадзі, таварыш, — звярнуўся да яго камісар, — здзесь есць мяста.

Але месцаў не аказалася, зала была перапоўнена, і Гамон спыніўся, прываліўшыся да сцяны. Камісар пачаў:

— Таварышы! Разрашыце міцінг лічыць адкрытым. Разрашыце, паскольку ў нас канцэрт, сказаць сціхамі. Сачыніў вядомы таварыш, паэт Лебедзеў-Кумач!

Усталявалася цішыня, і камісар стаў палка дэкламаваць:

Панской Польши нету больше,
Хитрой ведьмы нет в живых.
Не захватит в лапы Польша
Наших братьев трудовых!..

Вайсковец дачытаў верш да канца, а ўсе моўчкі слухалі, чакалі, што будзе далей. Галёнкаў Мікіта, хоць і малады яшчэ, але ўжо крыху глухаваты (пасля прастуды) прытуліў да левай скроні далонь і наставіў вуха ўбок прамоўцы. Верш надта зацікавіў. Мікіта ў душы лічыў сябе таксама паэтам — пісаў жартоўныя вершы пра розныя вясковыя здарэнні. Цяпер адчуваў, што патрабаванні змяніліся і пісаць трэба інакш. Таму ўважліва слухаў.

— Дык вось, таварышы, сціхі сціхамі, а перш за ўсё — міжнароднае палажэніе! — Выступовец махнуў перад сабой рукой, як бы нешта ад нечага адцяў, і зноў набраў у грудзі паветра. У вачах заскакалі іскрынкі нейкага вясёлага шалу. — Міжнароднае палажэніе сёння характарызуецца двума фактарамі: ростам магутнасці СССР і расцеранасцю ўсяго буржуазнага міра, усёй буржуазнай сволачы! Я падкрэсліваю, таварышы. Хацят ані таво ілі не хацят, а міравая рэвалюцыя ідзёт на пад'ём. Гэта — істарычаскі заканамерна! Я так думаю, таварышы, што пайшлі б і на Варшаву — каб толька быў загад, а яшчо б лучшэ — на Берлін. Пралетарыят нас бы паддзяржаў. Гэта несумненна.

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон, быццам ён пра ўсё гэта аднекуль ведаў:

— У «Саветаў» з немцамі дагавор, — уставіў рэпліку Шпронька. — З гэтага нада ісхадзіць.

— Вось я пра гэта і гавару! Супраць дагавору не пайдзёш! — згадзіўся з ім вайсковец. — Тым больш, што Гітлер усё ж такі чалавек дастатачна разумны і слова дзержыць. Па Еўропе ён харашо прашол...

У зале стаяла цішыня, усе ўважліва слухалі прамоўцу. А народу ўсё прыбывала — з суседніх вёсак: Выгнанкі, Пакупчыкаў, Зінькоў, Бранавіч... Найшло столькі — блысе не праціснуцца. Лявон дзівіўся. Ён не мог прыпомніць, каб у школу набілася так шмат людзей. Калі б сказалі — не паверыў бы.

— Зампаліт нашага батальёна таварыш Дзяругін недвусмысленна сказаў, што после падпісання савецка-германскага дагавору ад дваццаць трэцяга васьмога гэтага года таварыш Сталін у Крэмле на банкеце сам падняў тост за здароўе нямецкага важдзя Гітлера і выпіў да дна. Гэта наш, таварышы, каб вы зналі, саюзнік! — прамоўца абвёў прысутных паглядам. — І партыя ў яго ўсё ж такі рабочая! Я вам па-рускі скажу, прама і адкрыта. Чужой зямлі нам не нада, аднак і сваёй вяршка не аддадзім. Пасля Халхін-Гола, я думаю, японцы не сунуцца. І ваабчэ, таварышы, ваяваць нада на чужой цірыторыі. Апракінуць урага моцным ударам і — точка. Пралетарыят Заходнай Еўропы даўно гатовы нас паддзяржаць. Мы сільны, таварышы, как нікагда! Таварыш Сталін буквальна нядаўна сказаў, што мы не баімся ўгроз са стараны агрэсараў і гатовы адказаць двайным ударам на ўдар паджыгацелей вайны, якія папробуюць нарушыць спакойствіе нашых, таварышы, граніц!

Далей, — працягваў палітрук, — што датычыць унутранага палажэнія. Здзесь, як вядома, мы маем вялікія дасягненні і поспехі, дзякуючы пастаян-

наму і неўтамімаму парційнаму рукаводству і забоце. Нам пашанцавала, таварышы! Мы жывём у сталінскую эпоху. А пачыналі ж з нуля. Бязграматнасць, нішчата, лапці. І вунь які рывок! І гэта не ўдзівіцельна. У СССР, таварышы, усё ідзе па плану, для блага народа. Пра гэта сведчаць і апошнія парційныя дакументы. Наша жыццё, таварышы, трэба будаваць у святле васемнаццатай партканферэнцыі ВКП(б), якая намеціла новыя рубяжы, каб дагнаць, перагнаць і пакінуць пазадзі вядучыя капстраны — Саедзінёныя Штаты, Англію і гэтак далей. Няма сумнення, што ўзровень жыцця будзе павышацца. Весялей, адным словам, будзем жыць! Гэта ясна. Нет такіх крапасцей, таварышы, каб бальшавікі ды не ўзялі! Гэта не я сказаў — гэта Сталін сказаў!

Першым запляскаў у далоні Шпронька, а за ім — уся зала.

— Падкаваны! — шчэрачы бяззубы рот, ківаў у бок выступаючага Гамон. Слухачам заставалася толькі здзіўляцца.

— Таварыш палітрук! — падняў руку Мікіта Галёнка.

— Слухаю вас, таварыш.

— А як там калхозы?

— Раскажыце, калхозы — як там? — падхапілі ў зале. Цікаўнасць да гэтага пытання была вялікая. Слухачы параскрывалі раты, чакаючы, што скажа прамоўца.

Спачатку на аблічча вайскоўца адбілася нейкая заклапочанасць, нават трывога, але ён зірнуў па баках, абвёў сход вачыма і, як бы нешта ўспомніўшы, страсянуў цёмнай чупрынай і пачаў:

— Калхозы, таварышы, сябя апраўдалі і паказалі з найлучшай стараны. Народ жывёт, канешна, харашо, зажытачна. Калхозы пераканальна даказалі безумоўную перавагу калхознага ладу над застарэлымі прыватна-ўласніцкімі прывычкамі. Першы сноп, канешна, будзь добр, аддай гасударству, затое патом! Працадзень, таварышы, палучаецца вясомым. Я вам пакажу на прымеры, каб больш наглядна было. Месяц таму назад я быў у сваім сяле — у водпуску. Гэта — у Кастрамской вобласці. Не так і далёка. Баця прыняў, як палагаецца. Стол, гарэлка, віно, мора закусі...

Пачуўшы пра гарэлку, зала з прыемнасцю заварушылася, адгукнулася лёгкім смехам. Усім чамусьці стала весела.

— У нас угасціць любяць. Маманя з сёстрамі насілі-насілі, нават стаміліся. Няма куды ставіць, талерка на талерку лезе...

— Га-га-га! — зноў пачулася ў зале.

— Таварышы мужчыны, таварышы мужчыны! Прашу цішэй! — замахаў рукамі Шпронька. — Давайце будзем паважаць! Цікава ж паслухаць!

— А как жа па-другому? — звярнуўся да публікі выступоўца. — У нас толька так. Усё есць, чаго толька твая душа жалае. Захадзі, пажалуста, садзісь! Выпілі па адной, тут жа налілі па другой. Усё — культурна. Закусілі, і, як абычна, разгавор пачаўся. Хто скончыў дзесяцілетку, хто ажаніўся, хто замуж сабіраецца. Ну, канешна. Міжнароднае палажэніе затронулі. Раптам бачым — насупроць нашых акон машына астанавілася. «Што такое?» Баця мой смяшной — дажа ўздрогнуў. «У чом дзела?» Выйшлі з машыны, крычаць: «Папаша, забірай заработанае!» Тут да нас дайшло: зярно на трудадні прывезлі. То, што ў калхозе заработалі. «Атварай амбар!» «Прынімай, хазяін, пшанічку!»

— На самаходзе прывезлі? — пачуўся чыйсьці недаверлівы голас. Лявону паказалася, што гэта спытаў Павал Гальяш.

— А то як жа! Лошаддзю столькі не прывязёш, — камісар яшчэ больш ажывіўся і павесялеў.

— Конь не пацягне, — разважыў з месца Міхаль Тупчык.

— Не, каню столькі не пацягнуць, — падтрымаў яго хтосьці з суседзяў.

— Вот іменна! — працягваў вясёлы палітрук, паправіўшы на сабе шынель і прыгладзіўшы прычоску. — Баця мой па-старыкоўску замітусіўся, адчыніў амбар, і мы давай таскаць. Таскаем-таскаем. А машына немалая — тоны тры, да будзет вам ізвесна. Таскалі-таскалі, таскалі-таскалі. Замудохаліся, пака ўсё перАташчылі. Спасіба, маманя з сёстрамі дапамаглі. Аднака памылі рукі, пачысціліся і зноў за стол селі. Толькі баця паспеў наліць — апяць то жа самае! Апяць машына! Глянулі ў акно — зноў крычаць: «Папаша, прынімай!» Баця мой, паверыце, дажа ругнуўся. Абычна к матам ён не прыбягае, а тут ругнуўся.

Да гэтага прускаўцы пацiскалі плячыма, здзіўляліся, а цяпер ад нечаканасці зарагаталі. Такога яны яшчэ не чулі.

— Баця ў недаўменіі: «Пастойце, таварышы, а куда ж я дзяваць яго буду?» «А гэта твае заботы», — адказваюць. «Да ну што вы, рабяткі? Увайдзіце ў палажэніе! Нашто мне столькі!» А яны яму сваё: «Давай, давай!» Тут нават і я схапіўся за галаву.

Палітрук гаварыў проста, даходліва, па-свойску. Ён расказваў і, відаць, сам шчыра верыў у тое, пра што расказваў.

— Другую разгрузілі да палавіны. Ну, у самам дзеле, нашто столькі зярна?

— Самагонку хай бы гнаў! — падказаў нехта з залы.

Палітрук як бы нават пакрыўдзіўся:

— Дык у нас, таварышы, яе не п’юць. Там сівушныя масла. У нас п’юць «Маскоўскую». Яна бязурэдная. Пажалуста, еслі есць настраеніе, — выпі.

— У нас гэтага яшчэ не разумеюць, таварыш, — як бы апраўдваючыся і просячы прабачэння, патлумачыў Шпронька.

Палітрук зноў наліў у шклянку, адпіў, выцер вусны, расшпіліў каўнер шыняля, паблажліва махнуў рукой.

— Палавіну зярна адправілі назад. Адправілі і вот так сядзім з бацяй і вядзём разгавор. Разгаварываем пра то пра сё, і гляну ў я ў акно, — паверыце ці не, — зноў машына, трэцяя! Ну, я вам далажу, баця мой усур’ёз абазліўся. Дажа кулаком аб стол грохнул. Ну, самі разумееце, давялі. Ну ёлкі-палкі! Апяць стучат: «Атварай варата!» Тут і маманя не выдзержала: «Да сколька можна?» Рабята смяюцца: «Ну, маманя, ты даёш! У районе не паймуць». Баця на крыльцо выйшаў, просіць: «Да куда вы, рабяткі?» А тыя «Наша дзела — старана. Заработал — палучы. Абнаглеў народ, заработанае палучаць не жалают!» Вось так, таварышы! — закончыў сваю прамову палітрук. — У СССР народ жыве весела.

«Верыць ці не верыць? — думаў Лявон. — Надта ж складна гаворыць. А можа, і праўда?» Прыгадалася камуна ў Запалонным, але ж чалавек расказваў не пра камуну, а пра калгас. Гэта — іншае... Фёкла сядзела побач, слухала і, пэўна, верыла.

— Вот вам, таварышы, як у Савецкім Саюзе! Гэта яшчо, таварышы, краткі прымер, а ежлі бы каснуцца шырако, то пра многае можна было б расказаць. У нас пасля калекцівізацыі толькі і жыццё сапраўднае пачалося! І ў вас пачнецца! Там, таварышы, поўны і беспаваротны расцвет. Будзет ён, думаю, і ў вас! Есць яшчо вапросы? Калі есць — задавайце! Будзем атвячаць.

У памяшканні станавілася парна ад людскога дыхання і разапрэлых кажухоў.

— Няўжо гэта і ў нас так будзе? — услых падумаў Міцька Балабайка.

— Каб і не хацеў, то паверыш, — засмяяўся нехта ззаду.

— Будзе і ў вас, таварышы, шчаслівае і прывольнае жыццё! — у голасе палітрука гучала ўпэўненасць. — Паверце ўжо мне на слова! Больш казаць не буду. Скромнасць, таварышы, украшает бальшавіка.

— Калгас — гэта факцічаскі тая самая камуна, — сказаў Гамон. — Я ў камуне калісьці няблага жыў.

Здаецца ўжо ўсім усё было зразумела і можна было спыніць гаворку і перайсці да чагосьці іншага, але Павал Гальяш, як той Фама няверуючы, не ўтрымаўся і задаў яшчэ адно пытанне:

— А скажам, калі мне не спадабаецца ў тым калгасе, ці магу я выйсці з яго?

— Такіх выпадкаў яшчэ не было.

— Не было?

— Гэта практычна немагчыма, — пацiснуў плячыма палітрук.

— Немагчыма?

— Не, я хачу сказаць, што не можа так быць, каб у калгасе ды не спадабалася! Я такіх выпадкаў не помню.

Гэта ўсіх задаволіла. Зноў загучалі апладысменты. Пляскаў у далоні і сам прамоўца, які, відаць, быў парадкам знясілены сваёй прамовай.

— Дзякуй за ўвагу! — сказаў ён. — А цяпер другое аддзяленне!

На сцэну выйшаў салдацкі хор з невялікім аркестрам: два гармонікі, некалькі балалаек і мандаліна. Дырыжор падаў знак, аркестр зайграў уступ, і хор пачаў:

Украина золотая, Белоруссия родная,
Наше счастье на границе
Мы штыками огради-им...

Песня гучала стройна, прыгожа зацягвалі падгалоскі. Лявон лёгка падштурхнуў Фёклу пад локаць:

— Як добра спяваюць!

— Ой, я такога яшчэ не чула. Надта добра!

Другая песня здалася яшчэ прыгажэйшай — у ёй спявалася пра поле:

Полюшко, поле,
Полюшко, широко поле!
Едут по полю герои,
Эх, да Красной Армии герои...

— Давайце паможам хору. Дружна ўсе, умесце! — запрасіў палітрук, узмахнуўшы рукамі, але ніхто не ведаў ні слоў, ні мелодыі, таму толькі слухалі. Хіба адзін толькі Ляксандар Гальяш паспрабаваў падцягнуць, але і ў яго нічога не атрымалася.

Девушки, гляньте,
Гляньте на дорогу нашу.
Вьётся дальняя дорога,
Эх, да развесёлая дорога...

У руках аднаго з музыкаў-чырвонаармейцаў з’явіліся звычайныя драўляныя лыжкі, якімі карыстаюцца за сталом, і ён пачаў выбіваць такт, які вельмі нагадваў стук конскіх капытоў. Па тварах слухачоў відаць было, што людзі адчуваюць насалоду.

— Дружней, дружней! — камандаваў палітрук і падхопліваў сам:

Едем мы, едем,
Едем, а кругом колхозы.
Наши, девушки, колхозы,
Эх, да молодые наши сёла...

— Давай, давай!

Только мы видим,
Видим мы седую тучу.
Вражья злоба из-за леса,
Эх, да вражья злоба, словно туча...

— Умеюць спяваць! — пахваліў Павал Гальяш, калі аціхлі апладысменты. Потым грымнулі пра трох танкістаў.

Броня крепка и танки наши быстры,
И наши люди мужества полны.
В строю стоят советские танкисты,
Своей великой родины сыны.

— Ну, малайцы! — у захапленні азвалася Фёкла. — Гэтак і Лаўр Яўсеевіч не заспявае.

Гремя огнем, сверкая блеском стали,
Пойдут машины в яростный поход,
Когда нас в бой пошлет товарищ Сталин
И первый маршал в бой нас поведет!

Зноў песня, новая:

Кони сытые бьют копытами,
Встретим мы по-сталински врага.

І яшчэ:

В целом мире нигде
Нету силы такой,
Чтобы нашу страну
сокрушила.
С нами Сталин родной,
и железной рукой
Нас к победе ведет
Ворошилов!

І ўсё пра Сталіна і пра Сталіна, быццам ён для ўсіх самы дарагі, самы родны і блізкі. А ён вісіць на сцяне і ўспрымае ўсё спакойна, нібы так усё і павінна быць.

— Каб які падарак паслаць таварышу Сталіну! — падаў думку, крыху прыўстаўшы з месца Шпронька.

— Рушніка вышытага! — прапанавала Фёкла, аднак гэтая ідэя атухла неяк сама сабой, як бы таго рушніка пашкадавалі. Пачаліся танцы.

— Пятроў, давай «рускага»! — скамандаваў палітрук, і палілася музыка.

— А польку ўмееш? — засмяяўся шчарбатым ротам Гамон.

Разыходзіліся задаволеныя. Перамаўляліся. Цімоша Хлябіч, ідучы побач з Лявонам і Фёклай, разважаў:

— Польскі ўжэнднік з намі б так не гаварыў. Гляньце — просты які, даступны. Пра што хочаш папытай — адкажа. А гаворыць як прыгожа!

— Гэта як бы паласканне мазгоў, — сказаў Лявон, калі Цімоша завярнуў на свой панадворак.

— Якое паласканне? — не зразумела Фёкла.

— Ну, каб па-новаму думаць пачалі, на іншы лад. Вунь як ён калхозы хваліў...

## V

Перыяд безуладдзя працягваўся нядоўга. У Прусцы аб'явіўся актыў. Сабраў яго чалавек па прозвішчы Залатоўскі, які прыехаў з Камянца як упаўнаважаны ад партыйнага актыву. Чыста паголены. Апрануты ў вайсковае: фуражка, фрэнч, боты. У руках — партфель. На фрэнчы пабліскваў нейкі значок ці нават медаль. Паводзіў ён сябе смела, упэўнена, як і трэба начальству, гаварыў без спешкі, з паўзамі, крыху картавіў. Большасць актывістаў — прускаўскія мужчыны маладога веку: Хвядзюшка Шпунт, Ахрэм Чапёрка, Мікіта Галёнка, Сяргей Сталетнік, Васіль Кужаль, Оргій Ламака, Міцька Балабайка ды яшчэ Цярэшка Макацёр, які прыбіўся ў Пруску з Зяньскоў. Не ўзялі ў актыў Хрысана Гальяша з-за яго нейкай ваўкаватасці і нелюдзімага характару. Ён жыў разам з аднавяскоўцамі, у іх асяроддзі, але ў думках ставіў сябе вышэй за ўсіх і лічыў, што мае права ўсімі кіраваць і вырашаць за іх справы. За гэта яго не любілі. Са старэйшых у актыў увайшлі толькі Гамон, Цімоша і Цішка Пахолак. Сабраліся ў Хвядзюшкі, у яго пахілай хаціне. Мусіць, самай старой у Прусцы, нізенькай і напаўразбуранай. Хатка на курыных ножках. Сам Хвядзюшка днямі вызваліўся з турмы, дзе сядзеў разам з алешкавіцкім Свіцціянам. Пасадзілі за кражу — укралі авечку. Вызвалілі вераснёўскія падзеі.

Актывісты шмат курылі.

— А мне казалі, што тут, груба гавара, адны здраднікі? — звярнуўся да прысутных Залатоўскі, разганяючы рукою клубы дыму. — Аказваецца — нет! Есць і падхадзяшчыя людзі. Гэта, таварышы, канешна, харашо. Нада і ў вас стварыць урэменнае праўленіе. Нада, карацей гавара, навадзіць парадак. Без уласці жыць нельга. Гэта прадрашано, таварышы. Адкрою вам сакрэт. Шаснаццатага ноль дзевятага гэтага года, каб вам было ізвесна, састаялася нарада ў Панамарэнкі — першага сакратара ЦК Беларусіі, дзе было недвусмысленна падкрэслена аб неабходнасці правесці савецізацыю ўсёй ціраторыі, — прамоўца крыху кашлянуў, — у том чысле і вашай мясцовасці. — Зрабіўшы паўзу і пазіраючы кудысьці ўбок, працягваў: — Што гэта ў вас за рэвалюцыя, таварышы, еслі вы, груба кажучы, ніводнага памешчыка не прыкакошылі! Мы ўсё ж такі сазнацельныя, бальшавікі, так сказаць. Нада што-та дзелаць...

Пры гэтых словах упаўнаважанага актывісты сарамліва паапускалі галовы.

— Усё яшчэ наперадзе, — як бы намякнуў Хвядзюшка, які наўздзіў адразу адчуў сябе на сваім месцы. Схуднелы і бледны пасля турмы, ён увесь свяціўся нейкай нястрымнай унутранай энергіяй і радасцю. Відаць было, што яму ажно свярбяць рукі, што чалавек хоча нешта рабіць.

— У нас няма каго... — паспрабаваў апраўдацца маленькі, кату па пяту, Міцька Балабайка. — Паўцякалі.

— Мяккацелыя! — папракнуў яго і астатніх упаўнаважаны. — Следавала задзяржаць! Так што дзялоў, таварышы, многа і хваціт на ўсех. А дзялоў вы яшчэ, аказваецца, і не пачыналі. Каб зрушыць з месца, патрэбна, таварышы, паўтараю, урэменнае праўленіе, інакш кажучы, рэўкам. Сельскі рэўкам, — паправіўся ўпаўнаважаны, — вёска невялікая, аднак неабхадзімасць есць.

Актывісты маўчалі, толькі Хвядзюшка засмяяўся сваёй крыху дурнаватай усмешкай.

— Што, таварышы, можа, каму неізвесна, што такое рэўкам? У таком случае я аб'ясню.

— Знаем! Знаем! — за ўсіх адказаў Гамон, які быў калісьці ў бежанстве ў Расіі і памятаў рэвалюцыйныя падзеі і парадкі, што там адбываліся.

— Тагда другое дзела. Узначаліць рэўкам, таварышы, на першых парах загадана асабіста мне, што я і здзелаю, как гаварыцца, на зло міравому капіта-

лізму! Не скрою, мне хацелі прапанаваць стаць загадчыкам Маслапрама. Там бы я, як сыр у масле купаўся, аднака здзесь я, відзіма, больш патрэбны. Што і казаць! Задачы бальшыя і сур'ёзныя. Патрэбен граматны падход к дзелу.

— Граматныя — яны кожнай уладзе патрэбны! — падтрымаў Цімоша. — Вучэнне — свет, а невуцтва — цьма.

— Сагласен.

Членамі рэўкама сталі прысутныя актывісты. Гамона, Цімошу і Цярэшку абралі кандыдатамі ў члены рэўкама.

— Што рэўкам пастанавіў, тое трэба спалняць! — гнуў сваю лінію ўпаўнаважаны Залатоўскі. — Словам, задачы бальшыя і паліцічаскі важныя. К чаму гэта я кланю, таварышы? Мы ў капіталісцічаскім акружэнні, помачы чакаць не прыходзіцца! Нас, груба гаворачы, хацелі б з'есці.

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон. — Я і кагда-то буржуазію не любіў, а цяпер глядзець на яе не магу. Сплуататары!

— А ці справімся? — выказаў сумненне Ахрэм Чапёрка і пачасаў за вухам. Залатоўскі кінуў на яго няўважлівы позірк.

— Калі кухарка справілася, як Ленін казаў, дык чаму мы не справімся? — упаўнаважаны паціснуў плячыма. — Больш энтузіазму і мэтанакіраванасці — і ўсё будзе ў парадку. Не забывайце, таварышы, што поспех вырашае палітычная работа ў масах! — дадаў ён. — Часцей заглядайце ў труды таварыша Сталіна. І яшчэ. Асцерагайцеся капэзэбоўцаў! Гэтая партыя, груба кажучы, створана дэфензівай! Сцеражыцеся правакацый! Пільнасць і яшчэ раз пільнасць, бо ад капэзэбоўцаў рознага можна чакаць. Прашу прыняць да ведама.

Актывісты на гэты конт ужо сёе-тое чулі, пагэтаму пытанняў ніхто не задаваў. «Капэзэбоўцы цяпер пад калпаком», — пазяхнуў Гамон.

— Вось што я хацеў вам у асноўным сказаць, таварышы! Зразумела, усё, што паміж намі гаворыцца, трэба трымаць у сакрэце. Канспірацыя і яшчэ раз канспірацыя.

Пачалася напружаная дзейнасць. Напружаная і таямнічая. Днём рэўкамаўцы амаль не выходзілі з хаты, сядзелі, курылі, спрачаліся, вырашалі пытанні. І гаварылі, гаварылі, гаварылі.

— Нешта гэты Кухта вакол нас уецца, — з'едліва заўважыў неяк назіральны Хрысан. — Ужо разоў з пяць міма акна прайшоў.

— Гэта ён, не сакрэт, да баб ходзіць, — пасміхнуўся Мікіта Галёнка.

— Дзяка ў рэўкам не пусцім! — сыкнуў на яго Цішка. — Падумаўшы, дадаў: — Вось Лявона Кужаля можна было б узяць, ён чалавек разважлівы...

— Апартуніст! — лаканічна азваўся Гамон. — Многага не разумее.

— Чаго ж гэта ён не разумее? — уступіўся за айчыма Васіль.

— Не любіць ён роўнасці. Абавязкова яму трэба выдзеліцца з масы. Зямлі накупляў, ды і машыны ў яго, сплуатуе наёмны труд. Гэта — факт.

— Чалавек ён харошы, але парадку ў галаве няма; што да чаго — не ведае, — як бы спачуваючы Лявону, прамовіў Цімоша. На гэтым пагадзіліся.

Сапраўды, рэўкамаўцы, як казаў той савецкі камандзір, што прыехаў на танку, «запраўляць пачалі самі». На чарговым пасяджэнні вырашана было дазволіць неабмежаваны доступ да лесу. Цяпер браць можна было адкрыта, беспакарана і, як сказаў Залатоўскі, афіцыяльна. Прускаўцы, і не толькі яны, кінуліся і ў казённы лес, і ў панскі, і нават у панскі парк, што акружаў двор і палац і дзе раслі высозныя хвоі, грабы, ліпы, клёны, дубы. Рэўкам спецыяльнай пастановай узяў пад ахову маёнтак Падгурскіх, які прускаўцы вартавалі па чарзе, утрымлівалі таксама панскую жыўнасць — коней, кароў, падросшых бычкоў. Доўга абмяркоўвалі, каго прызначыць учмілам, гэта значыць участковым міліцыянерам (скарачэнні слоў пачалі ўваходзіць у моду).

— Неабходна, таварышы, каб гэта быў лучшы з лучшых! — папярэдзіў Залатоўскі.

Рэўкамаўцы на момант задумаліся. Мікіта паглядзеў у акно, нібы нешта ўспамінаючы, і сказаў:

— Калі вы хочаце ведаць, дык я яшчэ ў Расіі некалі кіраваў камсамольскай арганізацыяй у Самарскай губерні. Цяжка было, але спраўляўся. Гамон пасміхнуўся, бо ведаў, што Мікіта гэта выдумаў, астатнія прамаўчалі.

— Дык каго, таварышы? — вёў рэй упаўнаважаны.

Спыніліся на кандыдатуры Мурашкі з Ліпнай, якога настрэнчыў Пахолак. Мурашка — чалавек з боку, з іншай вёскі (Ліпна — па дарозе на Камянец), добра ведае наваколле і дапытлівы з характару. «Гэты з-пад сучкі яйцы дастане!» — адрэкамендаваў яго Цішка. За Мурашкам паслалі Міцьку Балабайку, і Мурашка з'явіўся назаўтра з раніцы. Праціснуўся ў рэўкамаўскую хібарку, прывітаўся з кожным за руку.

— Скока зямлі? — адразу спытаў Залатоўскі.

— Дзве дзесяціны.

— Ну, добра, — як бы ўзрадаваўся Гамон.

— Што дзержыш?

— Нічога, — з гонарам адказаў Мурашка.

— Падходзіт! — узрадаваўся ўпаўнаважаны і пляснуў далонню па стале.

Мурашка даў згоду.

У лаўку замест Шпронькі паставілі Міцьку Балабайку і назвалі заўмагам.

— Бярыце, таварышы дарагія, гандлюйце на карысць народу! — радаваўся Шпронька, перадаючы сваё прадпрыемства дзяржаве. — Дзеля гэтага я яе і будаваў. Палякам, самі разумееце, здаць не мог.

Тавары, якія яшчэ заставаліся непрададзеныя, забраў, аднак, дадому. Спатрэбяцца — у таварышаў свайго тавару шмат. Асартымент новых, савецкіх тавараў быў, магчыма, не такі разнастайны, затое цэны ніжэйшыя. Карабок запалак, напрыклад, каштаваў тры капейкі.

— Што тычыцца гандлю, таварышы, — тлумачыў Залатоўскі, — то мы не дазволім нажывацца на гэтай справе. Гандаль будзе нацыяналізаваны. Трэба пільнаваць, таварышы, інтарэсы дзяржавы. Многія з былых камянецкіх гандляроў ужо аштрафаваны за спекуляцыю і продаж тавараў па павышаных цэнах. І тэрмін выплаты штрафу прызначылі — два дні. Айзік Кастылянец хацеў паскардзіцца (яго аштрафавалі больш за ўсіх — ажно на пяцьдзесят тысяч рублёў), але ў часовым упраўленні яму растлумачылі: спачатку заплаціце, раз вызначаны тэрмін, а скардзіцца будзеце потым. Разбяромся. І правільна, таварышы!

Неўзабаве адбылася яшчэ адна значная падзея судзьбаноснага, як сказаў Залатоўскі, характару. 2 лістапада 1939 года, напярэдадні 22-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, Народны сход у Беластоку абвясціў Савецкую ўладу на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі і прыняў дэкларацыю аб яе ўваходзе ў склад БССР. Рэўкам узмацніў сваю дзейнасць і збіраўся на пасяджэнні па два разы на дзень — з раніцы і ўвечары. Гамон унёс прапанову нешта зрабіць з лужынай каля дома былога ўрадніка, у якой не так даўно ўтапіўся Трахім. Восенню ад дажджоў яна настолькі паглыблялася і павялічвалася ў памерах, што станавілася немалой перашкодай для транспарту і пешаходаў.

— Асушыць бы гэтую лужыну!

Аднак упаўнаважаны не падтрымаў просьбу рэўкамаўца, палічыўшы яе дробнай і не заслугоўваючай увагі, прынамсі, не першачарговай і далёкай ад галоўнай палітычнай лініі.

Мікіта Галёнка, нягледзячы на працяглыя пасяджэнні, знайшоў час, каб напісаць верш і даслаць яго ў абласную газету «Заря», дзе яго і надрукавалі. Цяпер газета хадзіла па руках, і ўсе чыталі.

Эх, ты, доля, мая доля,
Доля буржуазна,
Як ты надаела —
Гэта невыказна.
Але ўдарылі маланкі —
Радасць настае,
І твае, буржуй, маёнткі
Сталі не твае.
Не тваю ль, буржуй, зямельку
Паша мужычок,
Не твая ль, буржуй, кабылка
Да млына вязёт?

Нават упаўнаважаны пахваліў:

— Прыгожы вершык.

Пахваліў і пасміхнуўся, што ён рабіў, як заўважылі актывісты, вельмі рэдка. Але былі сітуацыі, калі ён адчуваў, што ўсміхнуцца трэба. Для такога выпадку ён нібы даставаў аднекуль і накладаў на твар нешта падобнае на ўсмешку.

Аднак вершык крыху апярэдзіў падзеі. Прынялі былі ўжо нават пастанову размеркаваць панскую жыўнасць і ўжо нават стварылі камісію, але зверху, з Камянца, паступіла распараджэнне ўстрымацца. Залатоўскі пасля гэтага выгаворваў членам рэўкама:

— Вы груба скрывілі і парушылі лінію! Як так? Жываце вы няплоха, беськароўных сярод вас няма, а вам яшчэ большага захацелася. Часнік, панімаеш, у вас загаварыў! Часнік даў адрыжку. Які ж у вас пасля гэтага рэўкам, таварышы? У вас самы звычайны селькам. Гэта грубейшая памылка, таварышы!

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон.

— Таварыш Сталін што гаворыць? Таварыш Сталін гаворыць, што сціпласць упрыгожвае бальшавіка! А ў вас?

Рэўкамаўцы, угнуўшы галовы, слухалі крытыку ўпаўнаважанага.

— Мы выправімся, — вінаваціўся Ахрэм Чапёрка.

— Мы панімаем, — дадаў Хвядзюшка.

— Не дрэнна было б бычкоў здаць у падарак таварышу Сталіну, — ужо мякчэй прапанаваў упаўнаважаны.

— Няўжо ён ялавічыну больш любіць, чым свініну? — здзівіўся Оргій Ламака, але яму ніхто нічога на гэта не адказаў.

— І зямлю дзяліць не нада. Дзяржаве, груба кажучы, таксама зямля нужна. Гэта прадрашано, таварышы! — працягваў упаўнаважаны. — Надзяляць зямлёй — значыць пладзіць новых кулакоў, аслабляць беднату. Гэта класавая слепата і няграматнасць.

— Тады, можа, камуну? — падаў думку Мікіта. — У такім выпадку маёмасць, не сакрэт, павінна быць агульнай...

Рэўкамаўцы пераглянуліся паміж сабой, каб ведаць, хто як настроены, якой думкі прытрымліваецца.

— А, можа, сапраўды ў камуне лепш будзе? — пацiснуў плячыма Хвядзюшка.

— А вот гэта больш сур'ёзны падыход, больш узвешаны! — пахваліў упаўнаважаны. — Канешна, камуна была б лепш за ўсё, аднака няма ўказання. Без указання, самі разумееце, нельга.

За ўказаннем Залатоўскі ездзіў у Камянец, да начальства. Там парэкамендавалі ад утварэння камуны пакуль што ўстрымацца. «Гэта — пройдзены этап!» — патлумачыў сакратар.

Час ішоў. У палацы — там, дзе некалі была панская гасцёўня, — пачалі паказваць кіно. Людзі паваліліі валам. Пайшлі разам з усімі і Лявон з Фёклай. Лявон бачыў кіно, калі быў у Амерыцы. Фёкла першы раз. Паказвалі бясплатна, і народу назбіралася столькі, што не хапала месцаў. Дзеці сядзелі наперадзе, перад самым экранам, на падлозе. Доўга не заводзіўся рухавік. Нарэшце замільгалі першыя кадры. Спачатку пайшлі словы, надпісы, якія трэба было чытаць, але па-руску мала хто чытаў.

— Гэта фільм «Камуністы», — падказаў кінамеханік, завіхаючыся каля апаратуры.

З'явілася карцінка: шпарка каціўся поезд. Спачатку імчаў кудысьці ўбок, а потым павярнуў проста ў залу — паравоз набліжаўся і павялічваўся ў памерах. Гледачы затаілі дыханне, а потым заклапочана заварушыліся, той-сёй не вытрымаў, пасунуўся ў бакі.

— Уцякай, а то пад колы трапіш! — напалохана гукнуў Оргій Ламака сыну, які знаходзіўся наперадзе сярод падлеткаў.

Дзеці і тыя, хто сядзеў у пярэднім радзе, разбегліся ў бакі, але поезд зноў змяніў накірунак. Напружанне спала, гледачы сачылі за тым, што адбывалася на экране. Гэта быў цэлы эшалон, які спяшаўся ў Піцер. Эшалон суправаджалі галодныя і напаўраспранутыя, у парваных шынялях і нейкіх абносках чырвонаармейцы. А везлі — прадукты! Чаго толькі не было ў тых вагонах — хлеб, сала, кумпякі, чай, цукар... чырвонаармейцы валіліся ад голаду і ажно хісталіся, але да прадуктаў ніхто не дакрануўся.

— Ну і вытрымка! — дзівіліся прускаўцы. — Каб не еўшы вось так пры кумпяках стаяць! Ну і ну!

— Камуністы! — даваў тлумачэнне Гамон. — Бальшавікі! А вы што думалі? Парцейная дысцыпліна!

* * *

У лістападзе Лявон ездзіў у Брэст, вазіў на продаж яблыкі. Пенсію даваць яму прыпынілі, і цяпер трэба было думаць, дзе дастаць грошы.

Брэст здзівіў шматлюднасцю. Базарная плошча запруджана народам, натоўп ужо не рухаўся, а як бы калыхаўся на адным месцы. Народу прыбавілася за кошт прыезджых з усходу — вайскоўцаў і іх сем'яў, партыйных функцыянераў і новых начальнікаў. Кругом чырвоныя сцягі, нават на базары. Пакупнікоў таксама шмат, яблыкі бралі проста з воза, з прыцярушаных сенам скрынак.

— Ты што, здурнеў? — таргаваўся з нейкім селянінам гарадскі пакупнік. — Дорага! Пабойся Бога!

— Бога ўспомніў! Пры чым тут ён?

Побач нейкі селянін прадаваў сала. Падышоў пакупнік, мусіць, «васточнік», доўга глядзеў на тавар. Лявон пачуў, як ён бурчэў:

— Не можа быць такога тоўстага сала, склеілі некалькі кавалкаў, няйначай. Нас, прыезджых, ашукаць хочаце...

Гаспадар доўга апраўдваўся і пераконваў недаверлівага пакупніка, што сала ён не склейваў, а такі ўдаўся кормнік, бо карміў яго мукой і бульбай.

Мацнелі восеньскія халады, зябкі вецер забіраўся пад світку, але народу не менела. Лявонаў тавар разышоўся хутка. Бралі — хто кілаграм, хто два, тры і больш. Адразу ж утварылася чарга. Куплялі цяпер за рублі. Новая ўлада рубель прыраўняла да злота, і некаторыя пакупнікі адмаўляліся браць здачу,

калі яна была невялікай. Лявон упершыню трымаў у руках савецкія рублі. Чуліся словы: «блат», «па блату», — але іх значэння ён не разумеў. Ужо дома высветлілася, што палавіна выручкі — не рублі, а аблігацыі савецкіх займаў, якія нічога не каштавалі. Прыезджыя, якіх цяпер называлі «васточнікамі», замест грошай, расплачваліся аблігацыямі, ашуквалі мясцовых.

— Яны нейкую як бы насмешку над намі маюць... — пакрыўдзіўся Лявон. — Не так шкада тых недаатрыманых грошай, як крыўдна за насмешку.

Фёкла пахвалілася, што атрымала ліст ад Домны. Фёкла адразу, яшчэ ў пачатку кастрычніка, памкнулася была ехаць на радзіму — у Куйбышаў. Затрымаў лён. Але ж і як ехаць адной? У дарозе патрэбна было зрабіць некалькі перасадак — а для чалавека непісьменнага гэта не проста, а так хацелася пабачыць і Домну, і Ганну, і ўсё Запалоннае!

Домна пісала:

*«Дарагая сястрыца і ты, Лёня, і ты, пляменнік Вася! Атрымалі ізвесціе з Борска, што Красная Армія перайшла граніцу і падала руку помашчы западным нашым брацціям. Ой, колькі радасці ў мяне было, колькі слёз! Адразу, дарагая сястрыца, падумала пра цябе. Наканец, мы разам. Многа гадоў мы ўжо не відаліся і мала знаем аб жыцці адна адной, знаць мне аб тваёй жызні хочацца, таму што факцічаскі чалавека больш раднейшага за цябе ў мяне нет. Вельмі часта аб табе думаю.*

*Дарагая сястрыца, пляменнік і вы, Лявонцій Міхайлавіч! Як вы там пажываеце? Як ваша здароўіца? Цяпер можна свідзецца. Прыязджайце да нас, увідзіце, як мы жывём. Мы жывём няплоха. Старшынёю калгаса ў Запалонным — сын вядомага вам, калі яшчэ памятаеце, Спірыдона Вярзіліна. Назначылі яго, таму што, як цяпер кажуць, сын за бацьку не адказвае. Гэта так, але наш старшыня добра помніць тых, хто крыўдзіў яго бацьку. Спуску не даёт, таму Рэпін з сям'ёй перабраўся ў Куйбышаў. Там зацішней, ды і жызнь больш пастаянная. Врэмя цякёт і непрыятнасці канечна случаюцца. Не дастаёт сельхозпрадуктаў.*

*А ў обшчым жывём няплоха. Па сраўненію з тым, як было тагда, то няплоха. Чытаем газеты. Спадзяёмся, што будзе лепш, вот тагда і зажывём. Такія вот дзяла.*

*За сім застаюся Домна Нямцова.*

*21.IX.1939 года».*

Пісьмо і тое, што Домна азвалася, усхвалявала і Фёклу, і Лявона.

— Не пра ўсё, мусіць, і напішаш, — заўважыў Лявон.

— Цяпер і паехаць можна будзе... — сказала Фёкла. Жаданне наведаць радню не выходзіла з галавы.

Паслалі ліст у адказ, запрасілі Домну прыехаць у госці.

* * *

З суседам Грышкам Латушкам адносіны не паляпшаліся. Ні Лявон, ні Фёкла з ім амаль не размаўлялі. Грышка першы паспрабаваў завесці размову:

— Ну, што?

— Ты ж бачыш.

— Твае прыйшлі?

— Не твае, а нашы, — жартам адказаў Лявон.

— Паглядзім, якія яны нашы...

## VI

Восіпа Дзванарыка выклікалі ў Камянец. Прыйшла павестка. Восіп спачатку нават узрадаваўся, бо падумаў, што хочуць вярнуць ровар, але на паперцы стаяла: «Раённы аддзел НКУС». Што такое НКУС — ён ужо ведаў. Таго-сяго са знаёмых НКУС ужо заарыштаваў. Значыць, не ровар. Няўжо і да яго прыйшла чарга? Забралі асадніка з Рудаўца — капітана Куяву. «Я, дзякуй богу, не асаднік», — меркаваў Восіп, і гэта крыху суцяшала. Ехаць не хацелася. Але не ехаць таксама нельга — толькі горш зробіш. Хацеў запрэгчы каня і ехаць на брычцы, але пабаяўся, каб не адбылося так, як з роварам. Тады застанешся і без брычкі і без каня. Не, хай ужо забіраюць яго аднаго. Вырашыў ісці пехатой.

Дзень выдаўся несамавіты: холад, вецер, золь. Набраклае вільгаццю паветра абдавала холадам. Прыдарожныя прысады скінулі лісце, і за імі зелянелі кліны азіміны. Над даляглядам навісала хмарнае неба. Восень ужо зусім падрыхтавалася здаць ключы і саступіць месца зіме. У згалелых карчах крычалі нейкія птушкі, а пад нагамі хлюпала вада, але падарожнага нішто не цікавіла. Ён нават не заўважыў, як прайшоў Бабіцкую Зару, адолеў усе гэтыя дзесяць кіламетраў шляху. Ён баяўся. Агортваў страх: што, калі энкавэдэ (так называлі НКУС) дазнаецца пра яго сувязі з дэфензівай? Ці, можа, ужо дазналіся? Дазналіся і выклікаюць на расправу! Ад гэтай думкі ўнутры ўсё пахаладзела. Але мусіў ісці. Раённы аддзел НКУС размяшчаўся ў тым самым будынку, дзе пры паляках знаходзіўся пастарунак. Двухпавярховая камяніца змрочнага выгляду з ёмкім падвалам. Ад старой шыльды застаўся цёмны след, а новую яшчэ не павесілі. Сэрца зноў забілася, як у зайца: «Зайду, а ці выпусцяць?» Восіп спыніўся і павярнуў на супрацьлеглы бок, абмінуў знаёмы будынак і пайшоў па знаёмых вуліцах. «Можа, у апошні раз?» Пачаў разглядацца. Вуліцы знаёмыя, але шыльды віселі новыя і з новымі назвамі. Чалавек хадзіў і без канца дзівіўся: Царкоўны завулак стаў вуліцай Савецкай, вуліца Легіёнаў — Камсамольскай, 3-га Мая перайменавана ў Першамайскую. Як бы хтосьці нябачны вёў бязлітасную спрэчку з мінулым, імкнучыся яго як мага хутчэй забыць. «Адзін і той жа месяц, — па-філасофску разважаў Восіп, — і дні стаяць амаль што побач — першае і трэцяе чысло, — а якая розніца! Нешта зусім супрацьлеглае: было адно, а стала другое!

— Якія, аднак, змены! — міжвольна вырвалася ў яго. Ганчарская вуліца зрабілася Пралетарскай, Польная — Чырвонаармейскай, Крывая — Беларускай, а Базарная плошча атрымала пышную назву Пляц Волі. Тут, на былой Базарнай плошчы, ён зайшоў у прыбіральню і ўсё думаў, думаў, думаў. Хто мог прадбачыць, што ўсё можа гэтак раптоўна абнавіцца?

Зрабіўшы круг, Восіп зноў наблізіўся да знаёмага будынка, і яму зноў стала не па сабе, але знайшоў сілы і ўзышоў на ганак, адчыніў дзверы. Сустрэў дзяжурны ў вайсковай форме з цёмна-сінімі пятліцамі, Восіп падаў яму павестку. У калідоры чуўся стук пішучай машынкі. Праз нейкі час яго паклікалі. За сталом сядзеў малады чалавек не то ў вайсковым, не то ў цывільным адзенні, пінжачок паверх гімнасцёркі. Дробны курносы тварык чыста паголены. Шэрыя прыжмураныя вочы зірнулі на Восіпа з нейкай нязвыклай лагоднасцю і бестурботнасцю, на вуснах з'явілася прытоеная ўсмешка. З выгляду быў надта малады; тыя, хто служыў у гэтым пастарунку раней, гадзіліся яму ў бацькі.

— Афінагенаў Іван Мітрафанавіч, — першым прадставіўся ён.

Восіп назваў сябе і крыху павесялеў.

— Намеснік упаўнаважанага энкавэдэ па Камянецкім раёне, — удакладніў Афінагенаў, маючы на ўвазе сваю пасаду. Самога ўпаўнаважанага яшчэ не прызначылі, і намесніку трэба было выконваць яго абавязкі.

Восіп моўчкі пракаўтнуў камок, што па-здрадніцку засеў у горле.

— Што вас да нас прывяло? — паблажліва ўсміхнуўся намеснік упаўнаважанага, быццам бы ён не выклікаў Восіпа, а даўно і ўсё пра яго ведае.

— Я атрымаў павестку.

— А чаму вы раней не прыйшлі?

— Дык жа ніхто не выклікаў, не хацелася лішні раз тлуміць вам галаву.

— Чудак-чалавек! У вашым палажэніі нада яўляцца самаму, — намеснік упаўнаважанага зрабіў націск на апошнім складзе: самамý.

— Прашу прабачэння, у якім палажэнні? Што вы маеце на ўвазе?

— Пра гэта вы нам і абязаны расказаць, і папрашу падробна!

Восіп уздыхнуў і падрыхтаваўся да горшага. Ён бачыў, што чалавек за сталом на яго наступае, ён нават устаў з-за стала, пастаяў і зноў сеў, закурыў і зацягнуўся дымам. Восіпа не пачаставаў.

— Ну?

— Я працаваў у дарожным аддзеле.

— У дарожным аддзеле? — намеснік зарагатаў, і Восіп зразумеў, што ён усё ведае. — А дзе вы яшчэ работалі?

— Дык гэта было несур’ёзна...

— Першы раз чую, што дэфа[1] — гэта несур’ёзна. — Іван Мітрафанавіч абтрос попел ад цыгарэты ў папяльнічку.

— Я іх пастаянна ўводзіў у зман, я ім не давяраў, а, потым я таксама, як і вы, не сімпатызаваў капэзэбоўцам.

— А капэзэбоўцы ў вас ёсць?

— Не, нашы людзі, я вам скажу, здаўна напалоханыя. Наперад яны надта не лезуць.

— Хто ж іх так напалохаў?

— Цяжка сказаць канкрэтна, але так ужо яно сталася...

— Людзей нам трэба ведаць — хто ёсць хто! — Афінагенаў зірнуў на свайго паддопытнага, яшчэ болей прыжмурыўшы вочы: — Які ў вас псеўданім быў?

— Караль Заўэр.

— А ці сагласныя вы, Восіп Канстанцінавіч, дапамагаць нам? Прашу падумаць і з адказам на маё пытанне не спяшацца.

— Дапамагаць? У чым дапамагаць?

— Ну, скажам так, у рабоце з насяленіям. Хто чым дыша, якія настраенія. Нам гэта паложана ведаць. На тое мы і служба.

— Дык вы хочаце мне нейкі чын даць? Каб я пры мундзіры быў?

Энкавэдзіст паглядзеў на Восіпа здзіўленым позіркам. Пытанне Дзванарыка здалося яму нейкім надта нечаканым і наіўным.

— Пра мундзір гаворкі не ідзе.

— Дык а як жа без мундзіра?

Афінагенаў нервова пляснуў далонню па стале, затушыў акурак.

— Вы што? Хочаце, каб мы давалі афіцэрскае званне ўраждзебным элементам?

Восіп зразумеў, што зрабіў памылку і зноў закалаціўся ад страху. Яго суразмоўца насядаў:

---

[1] Дэфензіва.

— Та-ак, значыць Савецкай уласці памагаць не сагласен.

— Ну чаму? Я гэтага не казаў. — Відаць было, як Дзванарык яшчэ больш захваляваўся. — Я проста думаю.

— Дык які ў цябе быў псеўданім?

— Караль Заўэр, — паніклым тонам паўтарыў Восіп.

— Харошы псеўданім. Астаўляем табе яго. Рэдкі псеўданім.

Восіп ад такога павароту ў размове літаральным чынам аслупянеў. Ён ажно разявіў рот і стаіў дыханне, на ілбе выступілі буйныя кроплі поту. Відаць было, што чалавек знясілеў.

— Значыць, давяраем табе! — Каб падбадзёрыць новага свайго агента, Афінагенаў ізноў хвацка пляснуў даланёю па стале, але ўжо без злосці. — Цяпер будзеш работаць на Савецкую ўласць, на нас, таварыш Заўэр. Ты павінен забяспечыць пэўны ўчастак.

Да Восіпа патроху пачалі вяртацца сілы, узнавілася дыханне.

— Дык што? Цяпер я савецкі?

— А чаму б і не?

— Значыць, я савецкі?

— Выходзіць, што так. Савецкая ўлада добрая, у нас усё на давер'і. Патаму мы павінны ведаць, хто чым дыша. Гэта, таварыш Заўэр, наш святы, можна сказаць, абавязак. Навучыся перш за ўсё распазнаваць класавага ўрага. Ты з какой дзярэўні, з Прускі?

— З Прускі.

— Ну і как там у вас? Не думаю, што ўсе перамяніліся. Сазнаніе абычна адстаёт ад новай жызні, не паспявает...

Восіп крыху падумаў, адвёўшы вочы ўбок. Апошнім часам назаляў Кужаль, які купіў у Пацаў зямлю і аказаўся ў Восіпа ў падсуседзях, задумаў садзіць на той зямлі сад.

— Есць там адзін тыпчык...

— Хто?

— Лявон Кужаль.

— І што ён?

— Заможны. Коней палякам прадаваў. Зямлю купляў. Малатарню мае...

— Ого! Дык што ён — кулак? Ці падкулачнік?

— Капэзэбоўцам дапамагаў...

— Панятна! Зафіксіруйце ўсё гэта, пажалуйста, на паперы, вось! — Афінагенаў падсунуў аркуш паперы і чарнільніцу з пяром.

«Тады тым фіксіраваў, а цяпер гэтым, — сумна падумаў пра сябе Восіп і ўздыхнуў, — ну, што ж, відаць, так і трэба. Нехта ж павінен гэта рабіць. Дурню не даверыш...»

Праз колькі часу перад Афінагенавым ляжаў аркушык, запоўнены дробным почыркам:

*«Я, Караль Заўэр, заяўляю, што Лявон Кужаль, які пражывае ў дзярэўні Пруска, з'яўляецца дзеячам КПЗБ. Ён дапамагаў і быў на связі з Канстанцінам Хлябічам і выконваў яго заданні, пра якія мне аднак нічога невядома. А дзе той Канстанцін Хлябіч на сённяшні дзень, можна толька прадпалагаць.*

*Указаны Лявон Кужаль мае лішкі зямлі і машыны.*

*Лічу, што далейшае прабыванне ўпамянутага Кужаля можа паўліяць на астальных жыцяляў указанай дзярэўні.*

*К сяму, Караль Заўэр.*

*29.XI.1939 г.».*

Прачытаўшы, намеснік упаўнаважанага падняў вочы ад напісанага:

— А дзе Канстанцін Хлябіч?
— Яго яшчэ палякі засудзілі. Сядзеў. А дзе ён зараз, невядома.
— З’явіцца — далажыць нямедленна.

* * *

Пацы сядзелі ў сваім фальварку і нікуды не паказваліся, але аднойчы ў нядзелю, калі скончылася набажэнства ў царкве, Якаў Арыстархавіч разам з Амброжыем забрылі да Кужалёў.

— Маё шанаванне! — сказалі адзін і другі, адчыніўшы дзверы і за адным скрыпам зайшоўшы ў хату.

— Сядайце, — запрасілі гаспадары, — адпачніце!

Адпачыць, пэўна, было і дарэчы, бо ранейшай жвавасці цяпер братам бракавала. Госці паздымалі верхняе адзенне, капелюшы, павесілі на цвікі і прыселі на лаўку, што стаяла ля сцяны. Якаў Арыстархавіч паставіў у куток кульбу. Важнасці — ніякай, ні ў аднаго, ні ў другога. Пасярэдзіне хаты, у стаяку, стаяў Валодзік. Унук жыў з дзедам і бабай. Бацькі, аддзяліўшыся, як бы забылі пра сына, не звярталі на яго вялікай увагі, і малы, здаецца, плаціў ім тым жа.

— Нешта доўга ён у вас не ходзіць? — заўважыў Якаў Арыстархавіч, пагладзіўшы малога па галоўцы і даўшы закручаную ў паперку цукерку.

— Ходзім ужо, ходзім, — запярэчыла Фёкла, падзякавала за цукерку і ўзяла малога на рукі. — Малюпатка наш! — адчувалася, што яна вельмі любіць унука. Пасля нараджэння Валодзіка яе пачуццё ад сына перайшло на ўнука, і гэта адлюстроўвалася ў яе вачах, у паглядзе.

— Ладушкі, ладушкі, дзе былі? У бабушкі, — заспявала яна ўнуку. Малы смяяўся і гуліў у яе на руках.

— Разумны, — кіўнуў на малога Амброжый. — Маўчыць, але, відаць, усё разумее.

— Але ты не старэеш!.. — засмяяўся і Якаў Арыстархавіч, глянуўшы на Лявона.

— Таму і пенсіі пазбавілі, што не старэе, — пажартавала Фёкла.

Лявон прамаўчаў — ён ужо два разы звяртаўся ў райсабес (новая арганізацыя) наконт пенсіі, але безвынікова. «Пачакайце, — тлумачылі яму, — не ўсё адразу. Пакіньце дакументы і прыйдзіце ў наступны раз». — «Калі?» — «Недзе ў наступным месяцы».

— Я гляджу, што ж гэта з таго будзе. Цяжка сказаць. Я ўжо, хоба на яго, думаў, таго свету, у якім мы жылі да гэтага, болей не існуе, — задумліва сказаў Якаў Арыстархавіч, уздыхнуў і кінуў у рот ляндрынку. Пры ім, як заўсёды, быў кулёчак з ляндрынкамі — назапасіў яшчэ, мусіць, са старых часоў.

— Але, але, — падтрымаў брата Амброжый. — Так!

І адзін, і другі, яны бачылі, што свет страціў ранейшы свой парадак і што лёс і сапраўды зменлівы. І хто ведае, што чакае наперадзе, але жыццё не спыняецца і жыць трэба.

— Неяк яно будзе, — няпэўна сказаў Лявон, правёў далонню па лбе, прыгладзіў чубчык.

— Надта ўсё дорага! — паскардзілася Фёкла. — Туфлі вунь семдзесят рублёў каштуюць, а дзе іх узяць? Панчохі — дваццаць рублёў. І ўсюды чэргі! Толькі і чуеш: «Грамадзянін, чаму вы лезеце без чаргі?»

— Гэта «васточнікі», хоба на іх, набілі цану, надта шмат купляюць, а начальства і без грошай атаварваецца. — Якаў Арыстархавіч з’едліва ўсміх-

нуўся. — У Камянцы цюпу[1] захапілі, дык нейкі іхні начальнік цэлы грузавік сукна дадому павёз.

— Мусіць, там у іх і тавараў няма, — выказаў меркаванне Амброжый, наморшчыўшы мясісты, як калісьці ў бацькі Арыстарха, лоб.

— Ні тавараў няма, ні хлеба, — махнуў рукой Якаў Арыстархавіч. — Пачакай, з'ядуць панскі хлеб, а тады нас абложаць кантрыбуцыяй! Мой Амброжый гэтых васточнікаў не ўспрымае.

— Перапісалі ў нас і зямлю, і жыўнасць усю. Відаць, падаткам будуць абкладаць... — дапоўніў брата Амброжый.

Відаць было, што нічога добрага ад новай улады браты не чакалі.

— У «таварышаў», я заўважаю, усё будуецца на нейкай выдумцы, на абмане. Яны як бы толькі аднаго і хочуць — туману напусціць, — зноў незадаволена загаманіў Якаў Арыстархавіч. — Было да Камянца восем вёрст, а Саветы дзесяць кіламетраў зрабілі! І найменне «Літоўскі» адмянілі, цяпер ужо не Камянец-Літоўск, а проста Камянец.

— Усё перайначваецца, — адгукнуўся Лявон, зноў прыгладжваючы над ілбом чубчык.

— Начальства па вёсках, хоба на яго, новае. У Алешкавічах усім Свісціян запраўляе — толькі-толькі з турмы вярнуўся. Чуць што, крычыць: «Сушы сухары!»

— Гэта ён за крадзеж сядзеў?

— Вядома, за крадзеж. А ў вас хто?

— А ў нас прыезджы Залатоўскі ды яшчэ Хвядзюшка з Гамонам яму дапамагаюць.

— О-о! Гэта, я табе скажу, не чалавек, а камедыя. Нейкі камедыйны тып. Я, хоба на яго, пра Гамона кажу.

— Камедыя, — згадзіўся Лявон, — але што зробіш! Камандуюць...

— Паглядзіце на тых актывістаў, — зноў уставіў слова Амброжый, — самыя гультаі.

— Але да іх давер! — падтрымаў брата Якаў. — Яны што хачаш могуць ўтварыць.

Лявон паставіў на стол бутэльку гарэлкі, Фёкла прынесла закуску, і яны па чарцы выпілі.

У Якава Арыстархавіча з'явіўся філасофскі настрой.

— Лёс зменлівы, — варухнуў ён лысай сваёй галавой, — не дае чалавеку пажыць, як ён хоча, для сябе. Усё не так! Усё табой круціць!

— А я табе казаў, — зірнуў на брата Амброжый, — так, як хочаш, не будзе, нешта абавязкова здарыцца. Не тое, дык іншае.

— Да гэтага мы, хоба на яго, былі польскай калоніяй, а цяпер да рускіх трапілі... — у тон яму паскардзіўся Якаў Арыстархавіч. — Вось так і матляемся паміж захадам і ўсходам.

— Усё не так, як трэба, — азваўся Лявон, асушыўшы сваю чарку і непаспешліва закусваючы.

— Цяпер, браце мой, у Амерыку не пусцяць! — прыцмокнуў Якаў Арыстархавіч.

— Але, але, — падтрымаў Амброжый.

— Ну, нічога, Бог не без міласці, — імкнулася супакоіць Фёкла.

Яны яшчэ крыху пагаманілі, і Лявон праводзіў братоў да ракі.

«Што ж, будучыня пакажа, — думаў ён, вяртаючыся, — чакаць можна ўсяго і да ўсяго гатовым быць...»

---

[1] Цюпа — склад.

* * *

У лістападзе аднавіліся заняткі ў школе. У Пруску прыехаў савецкі афіцэр з чырвонай зоркай на фуражцы і з дапамогай рэўкама склікаў сход. У прэзідыуме сядзеў Хвядзюшка Шпунт — ён і даў госцю слова.

— Таварышы! — прыезджы падняўся, зняў фуражку, паклаў на стол. — Я вось па якім пытанні — у вашай дзярэўне павінна быць школа. Пытанне, такім чынам, дастаткова простае і недвусмысленае. Гэта — агульная ўстаноўка. Савецкая ўлада, таварышы, дае магчымасць вывучыцца на таго, на каго захочаш! Трэба гэтую магчымасць, яснае дзела, скарыстаць. Трэба, каб вашы дзеці — усе, як адзін, — скончылі гэту школу і далей вучыцца пайшлі. Хопіць ім у цемнаце сядзець! Колькі можна! Знаніе, таварышы, — гэта свет, а нязнаніе — цьма. Вядома, гэта будзе наша, савецкая школа! — Ён агледзеў залу, мноства вачэй, якія пазіралі на яго. — Ну і само сабой зразумела, таварышы, я думаю, што ў гэтай важнейшай дзяржаўнай справе мы абыдземся не толькі без паноў, але і без папоў! Прашу падумаць!

Пасля прыезджага афіцэра слова ўзяў Хвядзюшка:

— Т-т-аварышчы! — выціснуў ён. Непрывычна было гаварыць перад грамадою, блыталіся словы і гукі, цяжка давалася вымаўленне. — Хто я быў пры Польшчы? Дурань! А цяпер? Цяпер я чалавек. Палякі былі супроць нас, беларусаў, дужыя — каб ціснуць, у турмах мучыць, работы не даваць, асветы, лячэння, сацыяльных, як цяпер кажуць, паслуг. Што гэта было за жыццё? Мы, таварышы, дваццаць гадоў цукру не бачылі. За нейкі карабок запалак трэба было аддаць дзясятак яек!

— Не кажы шмат, бо траціш сілу! — зрабіў заўвагу Гамон, і, магчыма, дарэчы. Пасля заўвагі таварыша Хвядзюшка расчулена і абяссілена махнуў рукой і сеў. Разам з нейкай нечаканай стомленасцю ён перажываў і пачуццё асалоды: вось падняўся, сказаў, паказаў сябе!

Зноў падняўся прыезджы:

— Вернемся да нашага пытання! Школу будзем адкрываць! І яшчэ. Школа, відаць, павінна быць беларускай, бо тут жа Беларусь! Каб навучанне, так сказаць, вялося на радной мове. Такава, таварышы, паліціка нашай парціі, каторая ўсё дзелает на блага народа, на блага гасударства! Вот гэта, таварышы, неабхадзіма імець увіду. Прашу падумаць!

Зала заварушылася, зашумела, бо такога, каб дзеці вучыліся па-свойму, яшчэ не было. Падарунак з неба, не інакш.

— Таварышы, хацелася б пачуць вашу думку на гэты конт. Прашу выказвацца, хто што думае! Палажа руку на серца!

Ад нечаканасці людзі разгубіліся, і зала прымоўкла. Усе сядзелі, чакаючы, што будзе далей. Маўчаў і былы солтыс Сцяпан Відэрка — цяпер ён як бы ўжо і не меў голасу.

— Хай бы ўжо на рускім языку! — парушыў маўчанне Шпронька, які сядзеў у першым радзе. Седзячы ў першым радзе, была магчымасць уступіць у непасрэдны кантакт з начальствам. Прыезджы ўважліва паглядзеў на былога лавачніка.

— Рана, таварыш!

Прускаўцы маўчалі.

— Беларусы, — нібы апраўдваючыся, працягваў афіцэр, — павінны вывучаць беларускую і рускую мову. Гэта ваш, так сказаць, абавязак — ведаць і адну мову, і другую. Па-руску можна ўступаць у разгавор з кожным грамадзянінам нашай неаб'ятнай краіны. Усюду адчуваеш сябе хазяінам.

У цішы нехта кашлянуў.

— Ну, што ж, таварышы, дазвольце ваша маўчанне прыняць за згоду. Здание ў вас ёсць, — афіцэр развёў рукамі, паказваючы, што памяшканне цалкам падыходзіць, — хутка прышлём вам шкрабаў.

Потым ён растлумачыў, што шкрабы — гэта школьныя работнікі, што так іх прынята называць у Савецкім Саюзе.

## VII

Гэта была ўжо новая школа, з ранейшых настаўнікаў нікога не засталося, размялі па свеце падзеі апошняга часу. Пан Мандрашчак, які знік з Прускі ў канцы скарацечнай нямецка-польскай вайны, цяпер аб'явіўся ў Ратайчыцах, дзе працаваў ужо ў савецкай школе, выкладаў геаграфію і фізкультуру. Прыкладна такі ж лёс напаткаў і іншых настаўнікаў. Некаторыя вярнуліся ў родныя мясціны.

З Камянца ў Пруску зноў прыехаў чалавек, цяпер ужо ў цывільным, работнік райана, і адразу ж завітаў на Выгнанку да Шпронькі, быццам хто яго туды накіраваў. Потым ход размовы пераказваў сам Мікалай Фаміч (ён зноў стаў так сябе называць):

— А чаму б вам за настаўніка не пайсці? — спытаў чалавек у цывільным (гэта быў інспектар райана). — Вы чалавек сталы і, паводле нашых дадзеных, свядомы.

— Я пра гэта і сам думаў, — азваўся Мікалай Фаміч. — Чаму б і не? Бацька мой быў настаўнік, фактычна і я настаўнік. Камерцыя ніколі мне не была па душы — гэта мяне палякі ўблыталі. Задачы новай школы я ведаю: мы павінны рыхтаваць варашылаўскіх стралкоў! У нас ёсць што бараніць! Ці не так?

Да заняткаў прыступіла таксама дачка старога дзяка Аляўціна Дзіядотаўна, якая выкладала правапіс, прыродазнаўства і маляванне. Падзялілі дзяцей па класах, якіх было ўсяго два. Вясной адчыніўся трэці. Вучэбнага матэрыялу, дапаможнікаў не хапала і даводзілася карыстацца пабочнымі, нядаўна назапшанымі сродкамі. Складалі гербарыі, прыносілі з дому для вывучэння садавіну і гародніну. З класа чулася, як Шпронька развучваў з дзецьмі вершык:

Усе буржуі — дуракі,
Мы іх возьмем на штыкі.

Адолеўшы першыя радкі, клас пайшоў далей:

Нам буржуі ніпачом,
Мы буржуя кірпічом.

Першым абяцаным шкрабам з Усходу аказалася маладая настаўніца пачатковых класаў Вішанькова, якую рэўкам пасяліў на кватэру да Фэдарараяпонца. З Камянца яе прывёз усё той жа Хвядзюшка. Выглядала дзяўчына па-гарадскому. Апранута ў кофтачку з крэп-жаржэту з вышыўкай на рукавах, і зялёную спадніцу. Галоўку прыгожа абрамлялі заплеценыя каронаю светлыя косы, а на лбе быў акуратна выкладзены модны завіток, так званы «локон страсти», які насілі гарадскія модніцы. Шчокі падрумяненыя і напудраныя, а юны рот ярка нафарбаваны. Пухленькая, жыццярадасная, яна і сапраўды, згодна прозвішчу, нагадвала вясёлую ружовашчокую вішню, якой яна бывае ў чэрвені. А як бесклапотна яна ўмела смяяцца! У Прусцы яе называлі «саветкай» (паколькі з'явілася разам з Саветамі). У першы дзень гаспады-

ня — Фэдарава Паліксена — паставіла на стол тварог са смятанай і нарэзаную кружочкамі каўбасу, якая прыемна запахла.

— Як жа вы разбагацелі! — не стрымалася пастаяліца. — Ого!

— Мы не багатыя, — сціпла запярэчыла Паліксена.

— Як не багатыя? Я ж бачу.

— Хіба гэта багацце?

— Ну, дастатак.

— Есці ёсць што.

Але што самае адметнае ў Вішаньковай — таленавітая спявачка. Спявачка такая, што заслухаешся. Голас моцны, звонкі. Няўрымслівая. Прыбяжыць з работы, паабедае і — за песні. Перш за ўсё заспявае пра Сталіна:

Вперед, товарищи, смелее,
По зову мудрого вождя,
Работай, силы не жалея,
Сражайся, жизни не щадя.

Упэўнена гучаў прыпеў, выдаючы вясёлы нораў спявачкі:

Сегодня весело живется,
А завтра будет веселей!..

Потым заводзіла пра трактары — шырокі, раздольны напеў:

Ой вы, кони, вы, кони стальные,
Боевые друзья-трактора-а,
Веселее гудите, родные-е,
Нам в поход собираться пора...

Паліксена слухала, падпёршы шчаку рукой. Дзівілася, як на цуд, які раптам аднекуль з'явіўся ў яе хаце. Не абмінала спявачка і лірычныя песні. Хораша лілося:

Дайте в руки мне гармонь —
Золотые планки,
Парень девушку домой
Провожал с гулянки-и...

Пад вокнамі збіраліся прускаўскія хлопцы і літаральна мякчэлі і раставалі нутром ад нейкага незразумелага ўзрушэння, слухаючы гэтае дзіўнае дзявочае пянне. Любілі паслухаць «Катюшу», «Как-то утром на рассвете», «Дело было под Полтавой», «Два сокола» і іншыя песні.

Часам прыходзіў і Васіль Кужаль, прыходзіў і заглядаўся на прыгажуню-спявачку. Як бы пра нешта думаў. Здаецца, і яна вылучала яго з кампаніі сваіх паклоннікаў, кідаючы на яго ўсмешлівы і разам з тым праніклівы позірк. Потым ён з Сяргеем Сталетнікам заходзілі ў хату. «Добра, што ты зайшоў да мяне», — гаварыў гэты яе позірк, калі Васіль з'яўляўся на парозе. Неяк ён угледзеў на яе стале кнігу «Як гартавалася сталь», папрасіў прачытаць. Кніга зрабіла моцнае ўражанне, потым яны некалькі вечароў яе абмяркоўвалі, нават спрачаліся.

Вядома, жонка ўсё гэта бачыла. Прося моцна раўнавала, справа дайшла нават да разладу. Чаго ён глядзіць на тую Вішанькову, што ў ёй знайшоў? Няўжо я горшая? Відаць, праўду кажуць людзі, што ў Саветаў, апроч жонак, усе мужчыны маюць яшчэ і каханак.

— Любіць ён цябе! — суцяшала свякроў. — Ты ж бачыш, што любіць!

— Ой, мамо, каб любіў, да чужых бы не бегаў. Чаго ж ён за гэтай Вішаньковай так улягае? Нават кнігі ў яе бярэ.

Фёкла бараніла сына:

— Ты на гэта не звяртай увагі.

— Дык жа цяжка.

— У сям'і па-ўсякаму бывае! Часам так, а часам гэтак, але ўсё становіцца на месца, — супакойвала свякроў, але і сама не надта адчувала пераканаўчасць сваёй філасофіі.

— Хіба вы не помніце, мамо, як на вяселлі каравай наш упаў і разбіўся, — успомніла Прося.

У душы Фёкла спачувала нявестцы і была згодная з ёю: «За ім трэба глядзець, надта ён улюбчывы ўдаўся». Успомніла першага свайго мужа: «Увесь у бацьку. Саша калісьці такім быў, і ён, мусіць, таксама». Спачуваючы Просі, пайшла да настаўніцы. Тая вымушана была апраўдвацца:

— Можа, я яму і падабаюся, але паміж намі нічога такога не было, пра што вы думаеце! Я хачу павысіць яго культурны ўзровень. Усяго толькі.

— Табе ж хлопцаў для гэтага хапае, у яго жонка.

— Дык хай не ходзіць.

— І ты не прымай!

Сына Фёкла таксама паўшчувала:

— З табой у мяне адны агарчэнні.

Прося, як ні цяжка ёй было, усё ж такі перамагла сябе і вырашыла: «Лёсу лепш у вочы не заглядаць — што будзе, тое і будзе». Васіль усё ж такі адумаўся, перастаў зазіраць да настаўніцы.

Час працягваў адорваць навінамі. На пачатку зімы, якая абяцала ў гэтым годзе быць суровай, аб'явіўся ў Прусцы Косця Хлябіч. Ужо віхурыўся зімовы вецер, насыпаючы ля платоў курганкі снегу, ціснуў неблагі мароз, прымушаючы чалавека ўспомніць пра кажух. Ноччу нехта ціха пастукаў да Цімошы ў акно. Нават не пастукаў, а неяк стомлена і асцярожна пашкроб пазногцямі. Цімоша прыслухаўся, падняў галаву з падушкі (побач спала Хрысія) і паглядзеў у акно. Там нехта стаяў. «Няўжо ён?» — мільганула ў галаве. Падняўся ў падштаніках і выйшаў у сені, адчыніў дзверы. Перад ім стаяў пляменнік Косця. Худы — пазнаць цяжка. У нейкай выпадковай цывільнай вопратцы. Шыя абмотана скамечаным, як вяроўка, шалікам няпэўнага колеру. Пад куртатым носам, замест тонкіх фацэтных вусікаў, тапырыліся шырокія і густыя, якія закрывалі верхнюю губу і рабілі аблічча пляменніка строгім і невясёлым.

— Не бойся, мяне ніхто не бачыў. — Косця з дзядзькам быў, як і калісьці на «ты». Голас гучаў сіпла і стомлена. Яны зайшлі ў хату, пляменнік зняў шапку.

— Ну, здароў.

— Здароў. — Абняліся да хрусту касцей.

Сухая, кашчавая Хрысія паднялася, занавесіла вокны і запаліла святло, потым, спаласнуўшы настылай вадою рукі і твар, кінулася гатаваць яечню. Косця цяжка апусціўся на ўслон, што знаходзіўся ля сцяны, уздыхнуў, выгляд меў здарожаны. Калісьці густая рудая чупрына цяпер ссівела і парадзела.

— Як жывяце?

— Па-рознаму, — адказаў дзядзька.

— Гэта ты правільна кажаш, што па-рознаму, — Косця зноў шумна ўздыхнуў. — Той так, а той гэтак...

— Адкуль ты?

— З турмы.

— З савецкай?

— Не, яшчэ з той, польскай.

Дзядзька ўсё больш прыглядаўся да пляменніка і заўважыў, што ў таго няма пярэдніх зубоў.

— А зубы дзе?

— У турме павыпадалі. Добра, што хоць сухоты не прычапіліся.

— Пусцілі чутку, што членаў КПЗБ зноў будуць садзіць, — уздыхнуў Цімоша.

Пляменнік нічога не адказаў і загаварыў толькі пасля працяглага маўчання:

— У турме нам казалі, што як бы чужая агентура прабралася ў кіраўніцтва, але ніхто ў гэта не хацеў верыць. Партыю ўвялі ў зман. Гэта — ворагі. Але пройдзе яшчэ з год, ну два, ну тры, хай пяць — і праўда выйдзе на паверхню, а пакуль што будзе цяжка. Сталін разбярэцца, знойдзе канцы! Пачакаць трэба, дзядзьку, усё будзе добра. Пра роспуск мы даведаліся ў жніўні трыццаць восьмага. Спрачаліся, крычалі, сварыліся — да хрыпаты. Я тады якраз узначальваў туркам, прасіў хлопцаў, каб паўстрымаліся. Адміністрацыя лютавала — карцары не пуставалі...

— Час набраў разгону.

— Проста на вачах! У галаве не ўкладваецца!

— А мяне ў рэўкам прызначылі, дык мы тут такія-сякія справы робім, але каб разгарнуцца, дык не даюць. Панскую зямлю не дзеляць. Баяцца, што кулакі з’явяцца.

— Кулакі?

— Ну, так.

Засквірчэла на стале яечня. Цімоша накроіў хлеба і прынёс аднекуль пляшку самагонкі, якую, можа, дзеля такога выпадку і прыберагаў. Хрысія побач з яечняй паставіла міску квашанай капусты і пайшла дагледжваць сны. Дзядзька наліў. Яны па чарзе выпілі і пачалі закусваць.

— Вось яно як абярнулася... — скрушна крутнуў галавою Цімоша.

— Можа, яно так і трэба?.. — адчувалася, што пляменнік усё яшчэ знаходзіцца ў стане разгубленасці і адказаў на пытанні ў яго няма. — Гэта, дзядзьку, рэвалюцыя...

— А помніш, Косця, як мы з табой Трахімавага каня ў чырвоны колер пафарбавалі?

— Помню. Чаму ж не?

— Ледзьве не здох, — Цімоша пашкроб за вухам. Пасміхнуўся. Гэта было даўно, гадоў з пятнаццаць назад, яшчэ ў дваццатыя, калі ішоў на ўздым грамадаўскі рух. Косця тады толькі што прыехаў з усходу, каб даць гэтаму руху патрэбны накірунак. Рыхтавалася нешта вельмі значнае, вялікае, але...

— Няма ўжо і Трахіма.

— Памёр?

— Ну, можна сказаць, — памёр. Упаў з воза ў калюжыну — тую, што ля ўраднікавага котлішча. Пахавалі. Яшчэ летам.

— Ну, што ж, усе там будзем. Гэтага, пэўна, ніхто не міне.

Яны выпілі не чокнуўшыся, закусілі і закурылі, змайстраваўшы цыгаркі з гродзенскай «крупчаткай».

— А ты дзе быў?

Косця ўздыхнуў.

— Ой, дзядзьку, прасцей расказаць, дзе не быў. Усе турмы зведаў: і Брэст, і Вільню, і Гродна, і Пінск. У трыццаць сёмым павезлі на захад, у Польшчу...

— Ажно туды?

— Туды. Праехалі Гродна, Варшаву, Быдгашч. У турэмных вагонах, з наглядчыкамі. Спыніліся нарэшце ў Каранова. Гэта — самы захад, далей ужо Германія. Невялікі такі гарадок. «Старажытнае месца — растлумачыў адзін

з нашых, які добра ведаў польскую гісторыю. — Тут, кажа, у трынаццатым стагоддзі каранаваўся польскі кароль Лакетка. Росту быў невялічкага, якраз з локаць, але з тэўтонамі біўся хвацка!» Ну, але што мне да таго Лакеткі. Турма знаходзілася непадалёку ад чыгуначнай станцыі. Прыехалі на світанні — на гарызонце, на фоне неба, выразна праглядваліся калючыя абрысы гэтага страхоцця. Замкам смерці называюць. Яшчэ немцы збудавалі. У тысяча дзевяцьсот трыццаць трэцім тут сядзеў Браніслаў Тарашкевіч. Тут жа, побач з Карановам, Грунвальд. — Косця зірнуў на дзядзьку: — Можа, табе не цікава, што я расказваю?

— Цікава.

— Тады слухай. Сустрэў нас сам начальнік турмы пан Градзіньскі. Ну, дзядзьку, больш страшнага чалавека я не бачыў. Звер!

— Правучыць трэба было гада! — насупіўся Цімоша.

— Правучыць?

— А што!

— Адразу відаць, дзядзьку: не сядзеў ты ў турме!

— Я калісьці ў амерыканскай сядзеў!

— Дык гэта ў параўнанні з польскай — курорт.

— Не такі ўжо і курорт.

— Там вам, відаць, усё ж паслабленне было, а ў нас — не! Пасля Картуз-Бярозы пачалі заціскаць і ў турмах. Есці — хлеб з селядцом і ўсё. Калі што — гумавай палкай па пятах. Але ж і мы не сядзелі склаўшы рукі. Першага кастрычніка мінулага года, калі помніш, Польшча прысвоіла сабе частку чэхаславацкай тэрыторыі, гвалтоўным чынам захапіла заользенскую правінцыю. Дык вось. Другога кастрычніка я запісаўся на прыём да гэтага начальніка пана Градзіньскага, каб ад імя туркама заявіць яму на гэты конт пратэст. Заходжу да яго ў кабінет і кажу: «Палітвязні ўпаўнаважылі мяне заявіць, што мы ўсе будзем абараняць Польшчу ад Гітлера, але рашуча не згодныя з тым, што Польшча процізаконна захапіла частку тэрыторыі Чэхаславакіі. Ганьба кіраўнікам Польшчы і тым, хто гэта падтрымлівае!..» Пан Градзіньскі спачатку сядзеў, а потым твар яго зрабіўся як ануча, і ён пачаў марудна паднімацца і, не даўшы мне скончыць, дзіка пырснуў слінаю: «У карцар!» Мяне схапілі і павалаклі. А ведаеш, што такое карцар?

— Ведаю.

— Два тыдні ў дзярме на кукішках адседзеў. Ледзь вытрымаў, але Градзіньскаму гэтага, відаць, падалося мала, таму што пасля карцара наглядчык адвёў у камеру, дзе знаходзіліся крымінальнікі. Раней такога не было, каб разам з крымінальнікамі, а цяпер, пасля таго як кампартыю распусцілі, палітвязняў-камуністаў сталі трымаць у адных камерах з крымінальнікамі. Чую гугнявы голас: «Прывітанне, камуна...» Я агледзеўся і жахнуўся: сядзяць на нарах і на падлозе, звесіўшы глюгі; пашчэнкі — у скрыўленых усмешках, і адзін кажа: «Ты ў нас зубамі парашу будзеш цягаць!» «Не, кажу, не буду!» «А ну, станавіся ракам, бяры ў зубы парашу і валачы да акна, а мы глядзець будзем. Гы-гы-гы!» — ён па-воўчы ашчэрыў зубы. Я не стрымаўся і адказваю: «Вы думаеце, што вы ваўкі? Вы ўсяго толькі шакалы!» А яны хорам: «Смерць камуне!» Што ты зробіш — крымінальнікі! Я пачаў гаварыць: «Панове! Турэмшчыкі вашымі рукамі хочуць расправіцца з палітычнымі! Мы змагаемся не толькі за сваю, але і за вашу свабоду!» А яны бліжэй падыходзяць, і той, што стаяў збоку, так спляжыў па галаве, што я, помню, як чапляючыся рукамі за сцяну, асунуўся на цэментны дол, а яны зараўлі, залямантавалі на ўсе галасы. «Бі камуну!» — прарэзліва зазвінела ў вушах. Дзядзьку, бачу над сабой частакол занесеных для ўдару рук, і раптам адразу, усе разам апусціліся

на мяне. Пачалася суцэльная тузаніна. Бараніцца ўжо не мог, засланіў рукамі галаву і паспеў толькі падумаць: «Вось дзе мой канец...», і раптам чыйсьці загадны голас перакрыў увесь гэты вэрхал: «Стой!» І ў самы гэты момант, расштурхаўшы, як шчанюкоў, крымінальнікаў, да мяне праціснуўся чалавек, ну, сярэдніх год, працягнуў руку і падняў з падлогі. «О, якая нечаканая сустрэча!» — узрадаваўся ён, абнімаючы мяне. Уркі замерлі ў здзіўленні.

— І хто ж гэта быў? — заінтрыгаваны Цімоша ажно ўстрапянуўся.

— Знаёмы мой — Цвілік, у Брэсцкай турме пазнаёміліся. Тады я дапамог яму на волю выбавіцца. Яшчэ калі ў той раз сядзеў. Вялікі арыгінал, усё цела ў татуіроўках, не прызнаваў аніякіх партый, але заўсёды рады быў дапамагчы слабому ці чалавеку, які трапіў у бяду. Потым ён і мне дапамог перавесціся да палітзняволеных...

Косця зрабіў паўзу і расказваў далей:

— Тым часам, вы ж ведаеце, пагроза вайны ўсё больш згушчалася. Мы з туркамам кантралюем абстаноўку, даём указанні, вучым. На граніцы палякі злавілі нямецкіх дыверсантаў і аднаго пасадзілі да нас у камеру. Мы, вядома, абурыліся, калі даведаліся, што паміж намі гітлеравец. На пачатку ён калаціўся і трэсся ад страху, адчуўшы на сабе нашы позіркі, а потым, зразумеўшы, пра што ідзе гаворка, сказаў, падняўшы ўверх палец: «Гітлер і Сталін — фройндшафт!» Ну, што ты яму скажаш? Астатнія дыверсанты сядзелі ў суседняй камеры. У сакавіку палякі аб’явілі мабілізацыю. Абмеркавалі мы пытанне на туркаме, параіліся, і я зноў запісаўся на прыём да начальніка турмы. Таго самагаГрадзіньскага. Кажу яму: «Паколькі мы знаходзімся напярэдадні вайны з Гітлерам, патрабуем вызваліць усіх палітзняволеных і паслаць нас у польскае войска або на абаронныя заводы. Мы гатовы абараняць Польшчу — нават такую, якая яна ёсць. Будзем змагацца, не шкадуючы сіл і самога жыцця!»

Яму зноў перакрывіла твар, і ён гаворыць: «Польшчу ад бальшавізму абаронім мы, польскія рыцары, усе парадачныя палякі. Хамам гэту місію не даручым. Нішто, апроч хамаў, Польшчы не пагражае. З панам Гітлерам наш урад здолее ўладзіць усе спрэчныя пытанні... А вас за парушэнне турэмнага рэжыму караю карцарам тэрмінам на тры дні!» Павялі мяне знаёмаю дарогай. Наглядчык, што ішоў ззаду, прахрыпеў: «Хутка прыйдзе Гітлер, тады вашай камуне капут!» — прахрыпеў і дакрануўся мне рукой да шыі.

— Саб-бака! — адрэагаваў Цімоша.

— Аднак з карцара вызвалілі датэрмінова — трыццаць першага жніўня! Усе адчувалі, што вось-вось мае пачацца вайна. Наглядчыкі страцілі цікавасць да сваіх падапечных. Не далі, сволачы, вячэры і не адкрылі нават камеры, каб вынесці парашы. Мы пастукалі суседзям — спыталі пра абстаноўку. З камеры, у якой сядзелі нямецкія дыверсанты, атрымалі адказ: «Не бойцеся. Гітлер — друг СССР. Вам нічога не пагражае, чакайце нямецкую армію, яна ўжо ідзе. Да сустрэчы». Такі адказ! Не прыдумаем, што рабіць. Дамовіліся трымацца разам, а з немцамі ў дружбу не ўваходзіць.

Ноччу даносяцца гукі, турму ачапілі польскія жандары. Значыць, вайна. Пад раніцу пачулі, як над чыгуначнай станцыяй гудуць самалёты. Пачалася грунтоўная бамбёжка. Бух! Бух! Бух! Адна з бомбаў ляпнулася зусім блізка — упала ў двор турмы, развярнула канюшню. Пасыпаліся вокны, выбіла частку рам, загарэліся прыбудовы. Шалёна насіўся па ахопленым агнём двары нейкі адзінокі конь, якога бомба цудам пакінула жывым. Пацярпела і турма. У аконных праёмах — без шыбаў — тырчэлі адны сталёвыя пруты. З боку горада чуліся кулямётныя чэргі. Усё больш і больш. Турма, канечне, заварушылася. Першымі выбраліся крымінальнікі і кінуліся ў напрамку варот. Адтуль уза-

хлёб ударыў ручны кулямёт — двое смельчакоў, прашытыя кулямі, упалі на брук. Я прыгледзеўся. Гэта кучка наглядчыкаў трымала турму пад прыцэлам, няйначай каб затрымаць вязняў і перадаць у рукі гестапа. Тады мы з туркамам далі каманду ламаць дзверы, прабівацца на склад, дзе ляжала адзенне зняволеных, пераапранацца і бегчы. «Свабода! Свабода! Свабода!» — неслася з усіх камер. Эх, дзядзьку! Успомніліся радкі турэмнага нашага паэта Таўлая, з якім — быў такі выпадак у трыццаць шостым — сядзелі ў адной камеры. Мне чамусьці гэта запала ў душу:

Пот абцёршы, выйдзем, хто не згінуў,
п’яныя ад полымя, ў крыві.
Толькі ты, мой родны, мой адзіны,
да хвіліны гэтай дажыві.

— Добры вершык! — хітнуў галавой Цімоша.

— І адкуль у гэтых худых, хворых, змучаных людзей раптам з’явілася такая магутная, волатаўская сіла? Не магу нават сказаць. Узяўшыся па восемдзесяць чалавек за доўгія лаўкі, мы пачалі крышыць імі дзверы, але тыя не вельмі паддаваліся. Калі лаўкі ламаліся, у работу ішлі жалезныя ложкі, якія здымалі з другога яруса, і працягвалі біць імі. Не вытрымлівалі, разбураліся сцены вакол дзвярэй, справа і злева, а самі дзверы стаялі, як якая-небудзь скала. А мы ўсё білі і білі. Нарэшце праломы паабапал дзвярэй сталі такімі шырокімі, што вязні змаглі выбрацца ў калідор. Пасля гэтага ўзяліся за калідорныя рашоткі, лупілі па іх кувалдамі і ламамі. Вырваліся ў двор. А там ужо натоўп, можа, з тысячу чалавек. Кінуліся на склад, расшматалі адзенне. Вядома, свайго ніхто не знайшоў — апранулі хто што схапіў. Разбілі турэмныя вароты. Наглядчыкаў з кулямётам і след прастыў. Мы рванулі ў горад. Пасля пяцігадовага знаходжання ў турме даводзілася нанова вучыцца хадзіць. Свабода п’яніла, дзядзьку, як гарэлка.

— Ну, калі так, то давай вып’ем, — прапанаваў Цімоша, і яны выпілі яшчэ па адной, захрумсталі салёнымі гуркамі. На ложку, ля супрацьлеглай сцяны, пасопвала Хрысія.

— Але ж і знаходлівы ты! — пахваліў Цімоша. — Каб хто іншы, дык бы і ўсё, канец! А ты маладзец! Пазнаю хлябічаўскую кроў!

***Заканчэнне будзе.***



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# «СЭРЦА СВЯТЛОМ ЗАГОІЦЦА...»

* * *

Рэальнасці браму закрыўшы за мной,
Віхурыцца вецер, грыміць навальніца.
Матуля прысніцца мне ў хаце пустой
І тата з усмешкаю строгай прысніцца.

Мяне і цяпер акрыляюць яны,
У гул навальнічыны, у горасная скрусе,
З нябёсаў ратуюць ад бед і маны.
І, нібы святым, ім штодня я малюся.

* * *

Я іду па закінутай вёсцы
Паміж клёнаў і ліп векавых
Гарадскім засамочаным госцем,
Пазіраючы моўчкі на іх.

Дрэвы ўскінулі рукі высока,
Крык мальбы іх наўкола застыў.

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла...» (2008) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» (1988), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009).*

Ліпень дыхае смяглаю спёкай,
Абліваючы сонцам лісты.

Захапіла кустоўе прысады,
У галлі ні варон, ні сініц.
Нібы прывіды, горбяцца хаты
І палохаюць цемрай вачніц.

Ды прымрояцца гучныя крокі,
Галасы жыхароў, смех дзятвы,
Наплыве зноў з часоў недалёкіх
Дзень руплівы, шматфарбны, жывы.

І падумаю: дзень падаецца
Не ўчарашні, а заўтрашні тут.
І азорыцца вераю сэрца:
Не загіне радзімы мой кут.

* * *

Ціш. Крапіва і дзядоўнік.
Плачуць здзічэла сады.
Рэдка загляне чыноўнік —
Глуш і ніякай бяды.

Рэчка збуцвела ў самоце,
Высах даўно вадаём.
Хаты згнілі ў адзіноце,
Вулка забіта быллём.

Лісы, зайцы — у разгуле,
Дрэвы растуць праз страху.
Зрэдку па вулцы бабуля
Прашкандыбае крыху.

Час заняпадам працяты,
Сум несусветны кругом.
Хіба такое расплаты
Наш заслугоўвае дом?

Што? Аддаём на пагібель?
Так пакрысе і ў прымус?
Змоўкніце, злыя агіды, —
Вечная Белая Русь!

* * *

На шумным праспекце сталічным,
Дзе ў спёку так моташна мне,
Духмяны палетак пшанічны
Здалёк нечакана дыхне.

Прымрою, бы светлае дзіва,
Жніво і саломы стажок,
Як золата зерня імкліва
З машыны ліецца на ток.

Дзяцінства малюнак цудоўны
Парушыць тралейбусны гуд,
І сэрцам адчую раптоўна,
Што я задыхаюся тут.

Збяруся хутчэй у дарогу,
Туды, дзе бацькоўскі наш дом,
Каб, скінуўшы сум і трывогу,
Надыхацца ўволю жнівом.

* * *

Той позірк помню нежывы.
Дзяўчынкі ледзяныя вочы
Мяне, як болем нажывым,
Працялі ў доме, у сірочым.

Каля закрытага акна,
Ні ў што не верачы, напэўна,
Старой бабулькаю яна,
Зірнуўшы, сцялася імгненна.

А за акном бруіўся май,
Дзесь звонка музыка гучала,
Пад яркі, цёплы санцаграй
Усё квітнела і спявала.

Ды ў гэтай дзіўнай пекнаце
Бяда пакутлівая раптам...
Як горка беднай сіраце,
Калі жывыя мама з татам...

* * *

Любоўю моцнай і бязмежнай
(Душою тут не пакрывіў я),
Сын Беларусі незалежнай,
Люблю цябе, мая Расія.

Ды патлумачыць тут жа мушу
Пачуцці шчырыя такія:
Твае магнаты і чынушы —
Яшчэ далёка не Расія...

## ВЕТЭРАНЫ

Адыходзяць... Так мала ў страі
Ветэранаў — сыноў Перамогі,
Назаўсёды ў былыя баі
Клічуць іх баявыя дарогі.

Адыходзяць... За праўду сваю
Пастаяць з маладымі сябрамі,
Што ў атаках палеглі ў зямлю,
Каб яна расцвітала садамі.

Адыходзяць... І звон медалёў
Замаўкае, нібыта адвага,
Што на тысячах спела палёў
Ад ускраін Масквы да Рэйхстага.

Адыходзяць... Няўмольна, без слоў...
Толькі рана ўсміхацца з надзеяй
Безаблічных і змрочных часоў
Крывасмокам, дзялкам, ліхадзеям.

Адыходзяць... А бітва ідзе —
За сумленнасць, святло Перамогі,
Толькі вераць: жахлівай бядзе
Не бываць! Хоць не тояць трывогі.

Адыходзяць... Ды спраў найсвятых
Зноў трымаецца моладзь упарта,
Гэта ўнукі і праўнукі іх
Заступаюць на верную варту.

* * *

На сэрцы зноў крывавіць рана.
Пайшлі мае сябры зарана.
Пайшлі туды, адкуль звароту
Век не было й не будзе потым,

Адкуль і вестак не бывае.
Як *там* і што — не запытаеш.
Ды бедаваць ці ёсць прычына?
Яшчэ сустрэнемся, магчыма…

* * *

Падрабнела, агрубела,
Знікла звонкая краса.
Ну, пра што ты загудзела,
Песня новая — папса?

Дзе салоўкава таема,
Цнота ласкавай цішы?
Дзе святой любові тэма?
Дзе акрыленасць душы?

Дзе пяшчоты водар весні?
Дзе жывільнае святло?
Не! Жыццё сапраўднай песні
У нябыт не адышло!

І паводка ачышчэння
Скіне шэрхлы слоўны друз,
Дачакаецца збавення
Ад брыдоты беларус.

## ЛЯ РОДНАЙ РЭЧКІ

Я зноўку адзін на адзін з цішынёй,
Зноў чую, нібыта ў маленстве далёкім,
Зум яркіх стракоз над санлівай вадой
Рачулкі, што ў сэрца ўпадае глыбока.

Гляджу, як пад ценем высокай травы
Чародка язёў асцярожна пасецца,
Як спелае сонца з глыбінь сінявы
Ліловымі промнямі ціха ліецца.

Я чую, і бачу, і сэрцам лаўлю
Дзівоснае, звонкае, хмельнае шчасце.
Нібыта ў дзяцінстве, свет цэлы люблю —
І гэтак, што хочацца з рэчкай абняцца.

* * *

Ведай: Святая Троіца
Вечнай надзеяй радуе.
Сэрца святлом загоіцца —
Неба сустрэне спагадліва.

Не замуці ў застромістым
Бегу
        душы чуллівае,
Каб у Сусвеце агромністым
Ззялі світанкі шчаслівыя.

Будуць тваімі стараннямі
Зоры высокія ўсцешаны.
Стануцца досвіткі раннімі,
Сонца заходы — няспешнымі.

* * *

Росы, як жамчужыны-кара́лі,
Падаюць на смяглую зямлю.
Гэтак позна, скажуць, адшукалі
Кветку мы чароўную сваю.

Месяц усміхнуўся крутарогі,
Зоры адбіваюцца ў вадзе...
Ёсць яшчэ наперадзе дарогі,
Па якіх нас поўня правядзе.

* * *

Зноўку восень дыхае стамлёна,
Зноў вятры сцюдзёна загулі.
Прыкладу далоні я да клёна
І адчую сум жывой зямлі.

І, напэўна, вельмі доўга клёну
Гэты міг кранальны не забыць,
На мяне зірне ён, як ікона,
І на добры шлях благаславіць.

* * *

Не багаты на мільёны,
Рады хлебу, што я маю.
Хоць турботамі стамлёны,
Ды на лёс не наракаю.

Не палохае і старасць,
У людзей усё — ад Бога.
І жыццё маё не кара,
А нялёгкая дарога.





Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

* * *

Адвучваю сябе ад люстэрка. Хіба гэта цікава назіраць, як здзекуецца старасць з твайго твару? Можа б, і забыўся я, адвык ад гэтай назойлівай шкліны, калі б не штодзённае галенне. Гэтым самым трыадзінствам мы і звязаны: брытва, люстэрка, твар. Але ведаю я іншыя люстэркі чалавечай насалоды. Трэба часцей глядзецца ў свой лес, у сваю рачулку, возера, нават сажалку, нават у дажджавую лужыну… Там і пабачыш сябе маладым і бадзёрым, нават шчаслівым. І хіба няма праўды ў тым, што з лесу ты, хай нават і стомлены, а вяртаешся з маладымі вачыма, памаладзелы душой, крыху мудрэйшы думкамі.

* * *

Людзі творчыя ўвесь час маюць патрэбу ў доглядзе сваіх дамашніх архіваў. Не праходзіць і тыдня, як ты абрастаеш нейкімі паперчынамі, цыдулкамі, выкрамзолкамі і занатоўкамі. Не спахопішся своечасова — і яны вырастаюць у стосікі, потым у стажкі. Пачынаеш перабіраць: а там нейкія цікавыя запісы, выкідаць не хочацца, адкладваеш убок, хаваеш у нейкія папкі. І ўрэшце забываеш. А потым, аднойчы, нечакана адшукаеш, і такая радасць: паперка каштоўная, спатрэбілася.

Нядаўна, пераглядаючы старыя паперы, наткнуўся і на гэты, ужо ад часу пажаўцелы, аркушык. А на ім дзіцячай рукой намалявана птушачка — жоўценькая, прадаўгаватая, з доўгім хвастом, падобная зусім на рыбіну, крылцы,

---

*__Камейша Казімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у альманаху «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

як плаўнікі, але ёсць ножкі — два аранжавыя крыжыкі, а яшчэ ўсмешлівая дзюбка крыху ніжэй дзвюх краплінак чорных вачэй. Намалявана дачкой. І сама — як птушка. Выпырхнула аднойчы і растварылася недзе ў вечнасці, пакінуўшы толькі цёплыя ды шчымлівыя ўспаміны.

Была сярэдзіна чэрвеня, калі мы адправіліся з ёй у вёску да маёй маці, а яе бабулі.

Хіба згадаеш усё, што было ўтраіх перагаворана ў вясковай хаце, а вось летні дзень у лесе і сёння як сфатаграфаваны памяццю. Я мітусліва блукаў па даўно знаёмых сцяжынах: нідзе ніводнага грыба, ні ягады. А ёй, адной, лес нібы нашэптваў пра свае сакрэты. То сыраежку падыме, то бабку, недзе нават пару лісічак выкалупала з вільготнага моху. А потым на прыдарожнай высечцы натрапіла на сунічную палянку, цэлы паўлітровы слоічак суніц, першых сонечных ягадак новага лета, сабрала, і сама шчаслівая, аж твар на сонцы ірдзее з тым жа сунічным водсветам.

— Частуйся, бацька! — усміхаецца.

— Ты што, дачушка?.. Вязі Дашы, унучцы маёй, а тваёй дачушцы… А потым хадзілі туды-сюды між высокіх, залацістакорых у ствалах соснаў, і ёй зноў пашанцавала. Пры самым корані сасны падняла некалькі кропель зусім праўдзівага бурштыну. Жоўтым празрыстым золатам рассыпаліся яны на маленькай далоньцы. Ніхто з маіх сяброў, калі я потым расказваў, не паверыў у гэты цуд, а я яго бачыў на ўласныя вочы. Ад прыроды сыходзіла сама боская ласка і, абмінаючы мяне, яна лілася поўнымі нябачнымі прыгоршчамі да яе. Яна любіла прыроду, і прырода тым жа самым адказвала ёй. А мяне, як быццам збоку ўсяго гэтага, яно толькі здзіўляла і цешыла.

А потым мы заязджалі яшчэ на могілкі і паклалі да помніка майго бацькі букецік ціхіх лясных званочкаў. Трапяталіся, уздыхалі ад ветрыку і свечкамі гарэлі на сонцы іх васільковыя пялёсткі. Гарыстай, размытай дажджамі дарогай наш «Жыгуль» споўз у лагчыну, а пасля мы зноў апынуліся на травяністым, зарослым кустамі старога бэзу ўзвышшы. Мы падрулілі да будынка маёй былой школы-чатырохгодкі. Асірацелы, ацёклы глінаю старой тынкоўкі будынак колішняга панскага маёнтка выглядаў сіратліва. Выбітыя вокны, разабраныя печы, жыўцом выдзертыя дзверы, узарваная падлога, — усё гэта крычала пра недалёкае тутэйшае варварства. На гэтым месцы мог бы ўзвышацца вельмі важны музей, і людзі прыходзілі б у яго сцены гэтак жа ўсхвалявана, як мы некалі ішлі ў школу, што месцілася пад гэтым дахам. Старая лістоўніца, якая памятае не толькі пана, але і мяне грэшнага, раздалася ў ствале, а зялёнай кронай пайшла яшчэ вышэй да неба, захінаючы сваёй гушчэчай нават яркае летняе сонца. Мае ўспаміны таксама паплылі недзе высока і далёка, і мне не хацелася зараз трывожыць імі дачку. Уздоўж разбуранага ганка, вакол сцен вясёла цвілі сінія і жоўтыя касачы, і ў горад мы адпраўляліся з шыкоўным букетам лета. А неўзабаве птушка мая назаўсёды адляцела ў незваротны вырай. Гэта была яе апошняя паездка ў пушчу. Сёння самотна думаю: «Няўжо я тады павёз яе развітацца з тым, што роднае, магчыма, больш мне, чым ёй? І няўжо гэта яна сама ўсё прадчувала? Няўжо прадчувала і сама прырода, так шчодра і так балюча, развітваючыся з ёй?..» Зрэшты, адкуль тут, у пакоі, кроплі дажджу? Гэта сляза неўпрыкметку капнула на даўні малюнак, аж уздрыганулася, здалося, тая жоўтая птушачка. Хаваю малюнак у папку.

…Халодным дажджлівым вечарам на Дзяды сяджу перад помнікам на яе магіле, на самым рагу Паўночных могілкаў у Мінску. Касы дождж змывае светлы і дарагі твар на граніце. А ён зноў выплывае і нават прыўсміхаецца мне праз гэту цемру і дождж. Які ўжо раз вецер тушыць свечку, а віхлястае трапяткое полымя змагаецца з ім, гасне і зноў загараецца. І раптам знекуль

з'яўляецца гэтая мітуслівая пташка, садзіцца на краёчак агароджы і доўга прыглядаецца да помніка. Вельмі ж падобная на тую, што на малюнку, але не жоўтая. Можа, гэта яна сама. Ну, вось, падумаў так, а яна ўзнялася і паляцела, прысела дзесьці на высокай прыдарожнай бярозе і яшчэ доўга глядзіць адтуль на мяне, здзіўлёна і пранікліва. Няўжо мы, пташка, знаёмыя з табой? Відаць, што так…

* * *

Згадваючы сваё дзяцінства, нечакана злавіў сябе на тым адным дзівацтве, пра якое дасюль нікому не прызнаваўся. Што ж гэта за дзівацтва? Любіў я ўсё тое, што гучала, перакладаць на словы. У шоргаце пілы чулася наступнае: «Сюды-туды, бя-жы, раз-зак». Калодзежны калаўрот выспеўваў мне такое: «Кульгай-кульгай, мая нага!» А нязмазанае, калывастае кола ў возе, здавалася, скардзілася: «Ка-лы-га-юся, ка-лы-га-юся…» На нейкія гукі музычна клаліся і спевы пачутых птушак.

Сёння я зразумеў, што ва ўсім, што здольнае на нейкія гукі, ёсць музыка. Тыя, хто мае слых, лёгка знаходзяць яе амаль ва ўсім сялянскім начынні.

Неяк давялося быць у Горках, на Магілёўшчыне. Мы выступалі з чытаннем вершаў, а потым быў невялічкі канцэрт. На яго запрасілі саксафаніста. Той выйшаў на сцэну з цэлым наборам большых і меншых бліскучых саксафонаў, і такія незвычайныя мелодыі выдаваў гэты музыка. А потым яго месца заняў другі майстра. Запомнілася і прозвішча ягонае: Скрылёў. А гэты ўсіх зачараваў мелодыямі, якія ён вытвараў пры дапамозе звычайных драўляных лыжак. І граў ён нам і Моцарта, і Глінку. Гэта музыка і сёння гучыць у маіх вушах. Музыку не варта шукаць далёка, яна побач з намі.

* * *

Жыццё пасля жыцця, другое жыццё… Многія вераць у яго і з гэтым паміраюць. Вядома ж, другое жыццё ў чалавека мусіць быць, але бывае яно толькі ў сне, у жывым сне. Там усё жывое, часам страшнае, але непраўдзівае. А ў тым, пазажыццёвым сне, там ужо не жыццё, а вечнасць.

* * *

На свой збор твораў, нават на выбранае я не спадзяюся. А вось на адну цікавую кнігу прапанову маю: варта было б выдаць збор ці хаця б выбранае айчынных даносаў. Думаю, разышлося б любым накладам. Ды і навука якая была б! Ці ў той ці ў гэты бок…

* * *

Маю друкарскую машынку даўно выцесніў камп'ютар. А вось тая, швейная, яшчэ ўсё трывае. Бо наўрад ці калі ганарыстая іголка адпусціць ад сябе паслухмяную нітку.

* * *

Хто большы пакутнік за аркушам паперы — празаік ці паэт? Аднаму, хочаш ці не, а патрэбна вялікая трывучасць сядзячага месца. А другому дастаткова і бунту, які часта творыцца ў яго душы. У адрозненне ад чытача, і тому і другому не проста.

* * *

Цікавае паведамленне пачуў па радыё: «Працаўнікі аранжарэі парадуюць жыхароў сталіцы кветкамі і *сваімі* пладамі». Цікава тут наконт тых пладоў.

* * *

Паэт на ўсю рэспубліку хваліць свайго калегу за яго геніяльны верш. Нічога ў мяне няма супраць геніяльнасці, хіба акрамя адной заўвагі. Калі гэта было ў нас, каб лён *жалі,* а не рвалі. А ў вершы менавіта яго жнуць. Можа, геніяльным такое і можна?

* * *

Скульптар Андрэй Заспіцкі зусім весела расказваў пра сваю працу над выявай свайго калегі Заіра Азгура. Вобраз пайшоў вельмі ўдала. Паставіў на паліцу і вось толькі памкнуўся нешта ўзяць з паліцы, а бюст — добры пуд гліны — як грымнецца, ды на аўтара. І ў гіпс ледзь не ўлажыла самога. «Няўжо з таго свету гэтакім чынам зрабіў мне крытычную заўвагу Заір Ісакавіч?» — пажартаваў расказчык.

* * *

Не кожнага Усявышні лепіць па падобію свайму, таму спосабы гэтага шукаюць творцы зямныя.

* * *

Нават калі браць з кожнага багатага па нітцы, не кожнаму беднаму выйдзе па світцы.

* * *

Сабака брахаў з тэлефоннай будкі. Здзівіўся і ўсміхнуўся я, убачыўшы і пачуўшы такое. «А чаму б і не пабрахаць, калі ты ў будцы?» — усміхуўся яшчэ раз. Тое ж, пэўна, рабіў і гаспадар сабакі.

* * *

Вецер гнуў крону таполі, і тады высвечваўся ліхтар, што хаваўся за ёю. Вецер гуляў адразу з кронаю і ліхтаром.

* * *

Увесь альбом селяніна змяшчаўся некалі на сценах ягонай хаты. У драўляных рамках самай рознай выкшталцонасці якіх толькі выяў там не было. Людзі ў вясельных уборах, у вайсковых мундзірах, з застылымі і вясёлымі тварамі перад аб'ектывам, стоячы і з прысядам. І… нават у труне. Не баяліся і нябожчыкаў. А што? Усё яно перад вачыма — як успамін і напамін…

* * *

Ёсць і такая мерка параўнання ў старэйшых людзей: «Як да вайны, як у вайну, як пасля вайны…» Занадта суровая мерка. Чую і такое: «І пасля вайны такога не было, каб у класе ды два-тры вучні. Няма школы — няма і вёскі».

* * *

Жанчына просіць фатографа:

— Не здымайце мяне на вялікую рамку. Бо там барадаўка будзе мая відаць. Гэта ж унукі як паглядзяць…

* * *

І ў празаічным, і ў паэтычным творы павінна быць мастацкая магічнасць, калі яе няма, усё нагадвае пратакол, занатоўку, дзе і паху таго мастацкага не будзе. Але часта ў літаратуры пісар падмяняе пісьменніка.

* * *

Сын не ў бацьку ўдаўся, бадзяецца па свеце, басячыць.

— Ён у вас вучыўся дзе, канчаў што? — пытаюцца ў чалавека.

— А як жа, — адказвае ўжо жартуючы. — Акадэмію прайшоў, *жульфак* закончыў. Грамацей, калі сам пры чарцы, а маці пры пліце.

— А калі б пайшоў у бацьку , то і паэтам мог бы быць, — жартуе ўжо той, хто нядаўна пытаўся.

* * *

Словы ўсё часцей набываюць новы сэнс. Цяпер нават калі і націск не на тым месцы паставіш, сэнс усё роўна будзе. Раней казалі «б*у*хаў», а зараз часцей — «бух*а*ў». Зразумела, што ў першым выпадку нечым грукаў, або кашляў. І ў другім таксама зразумела: піў, значыць. І не слаба.

* * *

Пасля зацяжной зімы і дажджлівай вясны яму нязвычна адрыгалася свежым агурком.

* * *

Сябры пазнаюцца не толькі ў бядзе, але і ў п’янцы, і ў блудзе.

* * *

Разбудзіў ён мяне і зусім рана, яшчэ і гімн у насценнай скрыначцы не прайгралі:

— Вікенцьевіч! Трэба дапамагчы.

— Ну і што табе дапамагчы? — я працёр сонныя вочы.

— Мяшкі з бульбай пагрузіць на трактар і развезці па полі.

Я хуценька падхапіўся, нешта будзённае нацягнуў на сябе. Потым удвух з ім закідалі ў вялізны, як засек, прычэп важкаватыя мяхі з бульбай. А пазней

я на выбоінах калыхаўся з тымі мяшкамі, хапаючыся за хісткі борт. Але як хораша свежай веснавой раніцай! Хіба я пабачыў бы вялізнага каршуна, што раскрыжаваў неба над намі, калі б ляжаў у ложку?

Трактар пастраляў зацяжкамі чорнага дыму і прыпыніўся на хутары ля плота, пры самай лазні. І тут мы ўбачылі, як з-пад самага гарода шуганул да лесу цэлы вывадак рыжаватых лычасцікаў-дзікоў.

— Цьфу ты, маць тваю, — вылаяўся ён з адчаю. — Што ж гэта будзе? Гэта ім буду я садзіць тую бульбу? Выаруць жа, чэрці, на другі дзень.

Пастаяў некалькі хвілін, кінуў пад ногі недакураную цыгарку і скамандаваў:

— Паехалі, не будзем садзіць тут бульбы.

Вось так. І я моўчкі пачаў узбірацца на той прычэп.

* * *

Правіла ці, як крытыкі кажуць, галоўны прынцып нашага літаратурнага клопату, як мне здаецца, вельмі ўдала сфармуляваў мой вясковы сусед яшчэ некалі даўно: «Што не кажэце, важна, як яго вы скажаце». Дальбог, мудра.

* * *

Старасць — гэта суцэльнае непаслушэнства: унукі нашы не слухаюць сваіх бацькоў, бацькі іх, дзеці нашы, — нас. Мы не чуем самі сябе. Але да начальства ўсё яшчэ прыслухоўваемся.

* * *

Як можна глядзець на кепку, якая табе не падабаецца? Вядома ж, кептычна.

* * *

Вось і яшчэ адна вясковая хата апусцела. Адразу ж вокны забілі дошкамі, каб не пераглядвалася шыбінамі з тымі, жывымі.

* * *

Ап'яненне філасофіяй цікавае тым, што крона вядомага вам дрэва вельмі лёгка мяняецца сваім месцам з карэннем, а ствол, якім яны адзіна паяднаны, нават гэтага не заўважае.

* * *

На вечарыну «Вожыка» ў музеі Якуба Коласа нашу машыну падахвочваў і жарт: на будзе́ нейкай гандлёвай машыны, зверху да нізу заляпанай граззю, хтосьці пальцам вывеў: «Гразь лячэбная».

* * *

Тое, што бесклапотна праспалася ў маладосці, цяпер, старэючы, дабіраеш сваёй бяссоніцай. Яна бывае не такой ужо і пакутлівай, як здаецца іншым,

а часам, наадварот, надае адчування тваёй прысутнасці ў часе, пасылае веры ў тое, што свет наш не такі і цесны, як гэта бачыцца днём.

* * *

Чарэнь печы — гэта не трон для вясковага гультая, як многія думаюць. Гэта яшчэ і лякарня, і чытальная зала (па сабе добра ведаю), і сушня для цыбулі і каўбас, а яшчэ добры сугрэў для дзяжы з цестам і для памяці таксама.

* * *

І грошы нашы з часам старэюць, трацяць сваю сілу, а на змену ім прыходзяць новыя, як правіла, заўсёды скупейшыя за папярэднія. Але і са старымі развітвацца цяжка, асабліва калі ты зарабляў іх сумленна, сваім мазалём. Не падпальваць жа імі ў печы. Многія ім рыхтуюць зусім дэкаратыўную ролю: абклейваюць знутры шуфляды камодаў, вечкі куфраў. У сваёй вёсцы сустракаў я абклееную керанкамі шафу, нават сцяну. А пісьменнік Уладзімір Мацвеенка расказаў мне наступную гісторыю.

Адбывалася гэта недзе яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. У той час шмат нашых землякоў ехала на заробкі ў Амерыку. Прагнучы нечакана разбагацець, безаглядна ехаў за свет і вясковы люд. Некаторым нават шанцавала, яны ўладкоўваліся на фабрыку ці завод і мелі па сваіх сялянскіх мерках нядрэнныя грошы. Сёй-той нават заставаўся назаўсёды на той чужыне. А некаторыя неўзабаве вярталіся, махнуўшы на ўсё рукою. Апошніх было больш. Сын бабулі нашага расказчыка таксама адправіўся ў краіну «долараvага д'ябла» разам з некалькімі вяскоўцамі на тыя заробкі.

Неўзабаве суседзі пачалі атрымліваць пасылкі з нейкім тамашнім адзеннем, а сын нашай бабулі дасылаў у канвертах якіясьці зялёныя паперкі з партрэтамі «не нашых» людзей. Бабуля злавалася: «Здурнеў ці што наш хлопец, разумныя людзі вунь дабро шлюць, а наш нейкія карцінкі дасылае. Хоць бы папера нармальная была, а то і самакрутку з яе не зверціш, ды і ў печы не падпаліш — не хоча гарэць». Але знайшлося і гэтаму дабру прымяненне. Праз нейкі час усё вечка бабінага пасажнага куфра было аклеена тымі зялёнымі «карцінкамі». І, дальбог, нават някепска глядзелася ў вачах вяскоўцаў. Старая часта паказвала сваю «галерэю» незнаёмым людзям, не хвалілася, а смяялася пры гэтым са свайго неразумнага дзецюка. Але аднойчы гэта бабуліна ўпрыгоства ўбачыў сапраўды разумны чалавек з суседняй вёскі, і аж ахнуў:

— Што ж вы, даражэнькая, нарабілі? Вы ж амаль знішчылі жывыя грошы, ды яшчэ якія. На вечку вашага куфэрка сапраўднае багацце — амерыканскія даляры.

Аж залямантавала ад роспачы жанчына:

— А божачкі мае, а хто ж гэта ведаў… Што ж мне цяпер рабіць?

Пачалі думаць, што рабіць. Клей, забоўтаны з аржаной мукі, быў бездакорным. Усе купюры трымаліся за вечка мёртвай хваткай. Але выйсце знайшлося. Тут жа адвінцілі завесы, знялі тое века, загарнулі яго ў дзяружку і назаўтра ж адвезлі ў далекаваты гарадскі банк. Вядома ж, рабілася ўсё пад кіраўніцтвам таго разумнага дарадцы. Казалі, у горадзе ўвесь персанал банка збегся, каб пабачыць дзіўнае відовішча. Многія рагаталі ад убачанага, але і самыя рагатлівыя зайздросцілі бабульцы: грошы яе не прапалі. І калісьці найбяднейшая вясковая кабета адразу зрабілася багатай. Колькі разоў потым хадзіла ў царкву і ўсё малілася, дзякавала Богу, што паслаў ёй такога разумнага сына.

* * *

Непрыемна, калі праўду прамаўляюць шэптам, і зусім нецярпіма, калі прамаўляюць яе моўчкі. Здараецца і такое.

* * *

Калі цябе не разумее немец, англічанін, нават блізкі паляк, ці варта на гэта крыўдаваць. Ты ж не можаш вадзіць за сабой нейкага перакладчыка ці бегчы ў бібліятэку па слоўнік.

Калі ж цябе не разумеюць бацька, маці, жонка і дачка, табе можа дапамагчы толькі адзін перакладчык: слёзы.

* * *

Набыў электрабрытву. Хоць яна і не дужа пяшчоціць мой ужо не малады твар, але як хораша дражніцца з суседавай газонакасілкай.

* * *

Снегу, па якім ужо засумавала душа, тут, на прылясным сябравым лецішчы, насыпала дабравата. Нават легкавушка наша пад колер таго ж снегу крыху пабуксавала, узбіраючыся на горку. На яблыні — прыснежаныя, але яшчэ з добрым восеньскім румянцам круглашчокія яблычкі. Яшчэ ўсё чакаюць сваіх птушак. Але ўжо тут як тут, гайданулася на мокрай галінцы svoйская сойка. Яна ўсё бліжэй і бліжэй крадзецца да мутнавата-цёмных гронак вінаграду, якія цяжарыста вісну ць над высокім ганкам, зусім не зважаючы на раптоўную зазімеласць. Як многа тут суцяшальнага для вока ды сэрца, зусім нечаканага, але і звыклага, дэкору. Горад не дае спакою і тут, нагадвае пра сябе дакучлівым мабільнікам у кішэні. А тут, дзе так хораша душы ад гэтай ціхай светлыні, сумна бывае толькі ад адной тае самае думкі, што неўзабаве трэба вярнуцца назад, у сваю тлумную заўсёднасць і звыкласць. Нібыта схадзіў у лазню, і ўжо на цэлы тыдзень чысты, хай сабе толькі сваім настроем.

* * *

Булькатлівы крынічны струмень на песняровай сядзібе ў Вязынцы. Гаючы глыток прыемна асвяжыў і вусны, і саму душу. Вязынка так і не адспявалася ў лёсе паэта, ёй не так пашанцавала як Коласавай крынічцы ля Акінчыц. І ці віной тут ранняя вандроўнасць лёсу?

Позняя песня, магчыма, яшчэ ўсё выспявала ў душы, і зачын яе няцяжка ўлавіць нават у той жа «Спадчыне».

* * *

Не надта радуюць мяне ўраджаем дачныя грады. На дачы маёй добра растуць толькі ўнукі.

* * *

У памяці часта ўсплывае ягонае прозвішча — Рыгор Соза. Прозвішча, як мне здаецца, дужа б пасавала паэту. Але ён быў самым галоўным вясковым

начальнікам — старшынёй нашага Навікоўскага сельсавета. У вачах ужо сцерліся рысы ягонага твару, але станістая высокая пастава яшчэ ўсё не забылася. У вайну разам з сынам ён партызаніў у нашых мясцінах. Сын пасля вайны служыў у Войску Польскім, бачыў яго аднойчы ў форме польскага палкоўніка. Памятаю, мы, малыя, цэлым гуртам бегалі ў Вялікія Навікі, каб падзівіцца на польскага палкоўніка. Высокі, прыгожы, светлатвары ды яшчэ ў незвычайнай форме, для нас ён выглядаў не на палкоўніка, а сама меней — на генерала. Да генерала ён, казалі, і даслужыўся. А бацька штораніцы сядлаў свайго гнедага жарабца і конна скакаў з вёскі ў вёску. Часцей за ўсё яго бачылі ў нашых Малых Навіках. Ён сябраваў з маім бацькам, любіў разам пасядзець за чаркай, але застолле рэдка абмяжоўвалася толькі імі двума, яно амаль заўсёды разрасталася ў добрую сябрыну. Созу я паважаў яшчэ і за тое, што быў ён пры нагане, якім часам даваў пагуляць і мне. Цяжка і выказаць, якімі радаснымі для мяне былі тыя хвіліны.

Партызан Грыша, так называлі яго вяскоўцы, як мяркую я сёння, пачуваўся ў нашым краі адзінаначальнікам і нікога больш не прызнаваў і не баяўся.

Неяк бацькоў маіх не было дома, час быў жніўны, і час гэты яны бавілі ў полі. Калгас яшчэ да вёскі не датопаў, і ўсе вяскоўцы былі аднаасобнікамі, кожны стараўся на сваёй ніве. Я ж заставаўся дома за няньку ў сваёй маленькай сястрычкі Ванды. Клопат у няньki не такі і дакучлівы: плача малое — сунь у рот соску, пагайдай драўляную калыску на крутых ножках-рожках. Я нават калыханак пару ведаў, а напяваў час ад часу гэтае:

Пайшоў коцік пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток —
Ці самому есці,
Ці малому несці?..

А засне малая — можна выскачыць і самому на вуліцу, пагуляць з сябрамі ў пікара.

Гэтым разам сястрычка добра заснула, прысмоктваючы ў сне салодкую соску, а я з нейкай сваёй гульнёю бавіўся каля хаты. І раптам бачу, як проста ў наш двор кіруецца верхавы. Конь прыпыніўся, а з яго, ціха дзынкнуўшы стрэмем, саскочыў сам Соза.

— Адзін дома? — пытаецца.

— Адзін…

— Ведаю, што ты харошы хлопчык і са мной будзеш таксама харошым, працягвае ён. — Скажы, гарэлка дома ёсць?

— Не, няма, — кажу, як вучылі бацькі.

— Ну, мы ж дамовіліся, што ты будзеш харошым.

— Дальбог, няма, — трымаюся я на сваім.

— А пісталет такі, як у мяне, хочаш мець? — і пачынае расшпіляць жоўты кабур на баку. Ведае бывалы партызан, як падысці да малечы: зброя ў нас, пасляваенных падшыванцаў, — рэч самая жаданая. Я гляджу прагавітымі вачыма, як выпаўзае з кабуры чорненькая, дужа прываблівая штуковіна.

— На, — тыцкае ён у маю руку. — Будзе тваім.

Я, прытаіўшы дыханне, хапаю ў рукі такую жаданую рукаятку, адчуваючы не толькі важкасць, а і халадок не цацачнай зброі. Кругам ідзе ад шчасця галава, і круціцца ў ёй толькі адна думка: «Вось зараз пабягу і пахвалюся сябрукам — во будзе ў мяне зайздроснікаў».

— Во, бачыш — сапраўдны баец! — пахвальвае мяне Соза. — Ну, цяпер, браце, паказвай!..

— Ды во тут! — крычу я, на ўсё забыўшыся і адчыняю склеп. А таму, у куточку, стаіць маленькая дубовая бочачка, а на ёй, як вужака, ружовы гумовы шланг. Соза падымае бочачку, расхіствае яе ў руках, а потым бярэ шланг і апускае яго ў гарлавіну бочачкі, ла яго ног ужо стаіць вялікі алюмініевы кубак. Вось ён смактануў губамі другі канец таго шлага — і ў кубак пацурчэў сіняваты моцнага паху струмень. Потым мы пайшлі ў хату: ён з кубкам паперадзе, а я з пісталетам ззаду. І вось ужо мой госць сядзіць за сталом, пацягвае па глытку з таго кубка, моршчыцца, закусвае скваркай, якую мы адшукалі ў шкафчыку, хваліць мяне, а я — ягоную зброю. Гэтакі малюнак і ўбачылі мае бацькі, якія неўзабаве вярнуліся з поля. Спачатку яны разгубіліся, а потым бацька схапіўся за папругу, уцяміўшы, што тут адбываецца. Соза ўлагоджваў яго, прыгаворваючы:

— Малайчынам хлопец расце, ваякам будзе…

Неўзабаве да госця падсеў і бацька. Калі кубак быў апаражнёны, пайшлі ў склеп наліваць другі. Соза пакінуў наш двор толькі надвячоркам. Але перш, чым паставіць нагу ў стрэмя, паклікаў мяне, пагладзіў шурпатай рукой па выгаралай ад сонца чупрыне і ціха, амаль на вуха, сказаў:

— А пісталет аддай сюды. Пагуляў і — хопіць…

А як ад’язджаў ён, я ўжо не бачыў праз слёзы.

Гэты смешны выпадак ніколі потым і не знікаў з маёй памяці. Больш таго, ён стаўся для мяне на ўсё жыццё своеасаблівым урокам. «Вось, Казючок, не ўстаяў ты перад спакусай», — дакараў я праз гады сам сябе. А спакуслівага, лёгкага траплялася і потым шмат у жыцці. І калі ў нялёгкім выбары штосьці змушала вагацца, я заўсёды згадваў сябе з Созавым пісталетам у руцэ. І спакуса адступала перад зброяй даўняга выпадку.

Што ж, мой лёс, як кажуць, увесь навідавоку, а як жа склаўся ён у партызана Созы? Неўзабаве на тутэйшыя пушчанскія мясціны пачалі наступаць калгасы. Мясцовыя начальнікі, былыя партызаны, пачалі здаваць у сховы дзяржавы сваю зброю. Развітаўся з пісталетам і Рыгор Соза. Хоць і казалі, што недзе пару ствалоў прыхаваў. Была ў былога партызана і яшчэ адна слабасць: дужа любіў ён чужых кабет. Жонцы надакучыла змагацца са шматлікімі палюбоўніцамі мужа, а самога яго чапаць баялася. Само сабой знайшлося і выйсце. На жыхарства бацькоў настойліва клікаў сын з Польшчы. Недзе там, за Бугам, і згубіўся след Рыгора Созы.

* * *

Шумлівае скрыжаванне вуліц Румянцава і Захарава ў Мінску. Чародкі стракатых студэнтак-лінгвістычак то з мабільнікамі каля вуха, то з цыгаркай у нафарбаваных вуснах, а яшчэ і з пляшкай нейкай вадкасці ў руцэ. Усё гэта нагадвае кветнік, дзе хоць бы адну асобную кветку выдзеліць цяжка.

* * *

Аднойчы ў садзе гэтага жыцця я страціў сваё самае дарагое дрэва, і ўвесь сад для мяне адразу стаўся абыякавым.

* * *

Зіма, як скупая і занудлівая старушэнцыя, прымаруджвае і эканоміць час, затое вясна і лета трацяць яго як лёгкую дармавую манету.

* * *

Твары людзей, нават калісьці вельмі блізкіх, паступова сціраюцца з памяці, сціхаюць галасы, забываецца манера гаворкі, нават убранне, у якім мы звыкліся іх бачыць. Які ж тады андарак апрануць мне прабабулі, якой і ў вочы не бачыў?

Немагчыма ўзнавіць у памяці і дотык дзявочага гарачага цела, ад якога працінала токам і ты страчваў прытомнасць. Згадваючы гэта праз многа гадоў дзе-небудзь у бестурботным зацішку, можна і заплакаць ад роспачы, што ўсё гэта ты назаўсёды страціў і паўтарыць яго ўжо немагчыма.

* * *

Птушкі спяваюць цудоўна і непаўторна таму, што ў іх няма сваіх крытыкаў.

* * *

Чалавечую міжусобіцу, раз’яднанасць можна тлумачыць і так: дзе больш, чым адзін, там хочацца самастойнасці. А як жа? Нават вочы на вашым твары — паасобку, вушы — паасобку, дзіркі ў носе — таксама паасобку. Толькі вусны заўсёды разам, і тыя кожны раз просяць кубка ў імя сваёй раз’яднанасці.

* * *

Суцяшайма сябе і тым, што ацэньваць нас будуць чытачы будучыя, нашы, яшчэ не народжаныя, нашчадкі. А тых не падкупіш, не запросіш у карчму, не замовіш слова праз нейкага добрага дзядзьку.

* * *

Узяў у рукі важкі том Бібліі, якую мне калісьці падараваў Іван Рубін, і згадаў адразу двух: і яго, паэта, і мастака Жэню Ларчанку, з якім разам працавалі ў «Вясёлцы» і які хараша, з душой і па-мастацку аднавіў і аздобіў той амаль ужо безнадзейны фаліянт. Абодвух сёння з намі ўжо няма. Згадваў яго, Жэню, ягоную цёплую ўсмешлівасць, і ўсплыло з памяці, як ён пасля нейкай сваёй далёкай дарогі расказваў мне пра цыганку, што падышла да яго ў вагоне цягніка:

— Ты ведаеш, падышла, прысела, узяла руку і ўсю праўду, нават з нейкімі драбніцамі, мне расказала.

Я не распытваў у яго, што гэта была за праўда, але сам ён быў задаволены, нават шчодра заплаціў за гэта цыганцы. Яму нават зрабілася лягчэй, хоць гадалка, адчуваў я, выцягвала з яго ж памяці не самае салодкае… Адно мне ў той прыгадцы не спадабалася. Гэта тое, што за праўду трэба плаціць.

* * *

На нейкіх вясковых зборышчах, якія сёння бываюць не такімі мнагалюднымі, як некалі, машын часам ля хаты стаіць больш, чым у самой хаце сядзіць тых людзей. На ўсіх гэтых «збюрках» пачынаюць хваліць сваіх гарадскіх дзяцей. Гарадскія яны таму, што проста збеглі з вёскі ад цяжкой сялянскай працы, а там ужо, здалёку, не так сорамна і ў бацькоў сваіх прасіць той самай беларускай «гуманітарыі» ў выглядзе грошай, кумпячка ды мяшка той жа

бульбы. Хваляцца заўсёды і кватэрамі: «У майго трохпакаёўка з трыма балконамі», а «У маёй у самым цэнтры чатырохпакаёўка…»

Мала-памалу гаворка набліжаецца і да мяне. Гляджу: амаль усе вочы пераскочылі з майго відэльца і глядзяць мне ў рот:

— А як жа ты, Вікенцьевіч, уладкаваўся ў гэтым жыцці?..

Адказваю так:

— Я жыву ў маленькай аднапакаёўцы, у ёй нават цесна для абдымкаў, але які прастор для думкі!

Пасля такога жарту добра ідзе чарговая чарка.

* * *

Можна, аказваецца, з беларускай мовы перакладаць на тую ж беларускую. Так і зрабіў аднойчы Мікола Базарэвіч, дзякуючы памылцы супрацоўнікаў газеты. Але ўжо і без жарту многае з сённяшняга вершаванага друкаванага просіць свайго перакладу, бо незразумелае чытачу.

* * *

Прырода толькі насміхаецца з няўдалых хваласпеваў, якімі надакучаюць ёй паэты. Яна намнога вышэйшая і таленавіцейшая за іх.

* * *

Гэты свет цесны, а той, па ўсім бачна, яшчэ цяснейшы. Ужо і там магіла лезе на магілу, а ў нас дом падмінае пад сябе іншы дом. Што зробіш, калі і ў лоне маці будучаму дзіцяці таксама цесна. Вось і ўявіўся мне наш зямшар сціснутым адным кулаком, які сам сабе і пагражае.

* * *

Экзотыкі нашаму краю дадаюць сёння і нашы воданапорныя вежы. Летам на іх хораша кароняцца бусліныя гнёзды з клёкатнай чачоткаю ды белымі дзюбастымі аблачынамі на дзвюх чырвоных промнях-нагах, зімой тыя вежы вітаюць вас магутнымі ледзянымі барадамі, што звісаюць аж да самай зямлі, зусім не кажучы вам пра тое, што ваду трэба берагчы.

* * *

Усе нашы беларускія азёры трымаюцца не толькі за свае берагі, але і кожнае за сваю легенду.

* * *

Калі графаман пачынае красці ў графамана, значыць, усё лепшае ўжо раскрадзена.

* * *

Кажуць, Міхась Калачынскі, калі быў галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь», не любіў прымаць да друку тэксты без правак сваіх супрацоў-

нікаў — бо не відаць іх працы. За што ім грошы плаціць? За тое, што тэкст гатовы падсунуць? Часта і вяртаў назад матэрыялы, хоць яны былі і бездакорныя: «Папрацуйце яшчэ!» Але супрацоўнікі знайшлі з гэтага становішча сваё выйсце: яны закрэслівалі густым чарнілам нейкія словы ў тэксце і зверху пісалі тыя ж самыя. Вось тут праца была бачная адразу. Так і ўлагоджвалі даверлівага, але патрабавальнага рэдактара.

* * *

Прадавец расхвальвае дзіцячую кнігу:

— Бачыце, якая папера трывалая. Гэтую кнігу ўжо вашы дзеці, будзьце ўпэўнены, не парвуць.

— Не парвуць, — кажа пакупніца. — Хіба бацька дапаможа.

* * *

А гэта ўжо з сучасных прыгодаў нашых айчынных дзядоў-марозаў. Пасля добра ўзятай чаркі адчуў сябе наш дзядуля рэгуліроўшчыкам дарожнага руху, нават пачаў сваім посахам кіраваць рухам машын на гарадскім праспекце. У выцвярэзніку назаўтра дзядуля ўсё спісваў на чарку, а яшчэ чамусьці на сваю маладосць. Растала недзе, як сняжынка, і яго снягурка. І гэта яшчэ не ўсе прыгоды нашых навагодніх дзядуляў. Другога падабралі з адным валёнкам на дзве нагі, трэці дзесьці пасеяў кудзельную бараду. Гумар сапраўды навагодні.

* * *

Кожны чалавечы лёс — гэта непаўторная кніга. І чытачоў у гэтай кнігі роўна столькі, колькі меў чалавек у жыцці сяброў, родных і блізкіх.

* * *

У роднай хаце і блін сонцам свеціць, а ў чужой і абразы на покуці глядзяць пагрозна.

* * *

Мая зямля, якую я звыкся адчуваць і босымі, і абутымі нагамі, абарвалася нечакана берагам шумлівага блакітнага мора. І гэта было падобным на канец свету. Далей можна было толькі плысці, а я гэтага не ўмеў, таму заварожана і сумна ўглядаўся ў далечыню, а думкамі азіраўся назад. Як жа мне будзе вярнуцца назад, з гэтага канца, туды, да свайго пачатку?

* * *

Зямлю спачатку прысыпала, а потым і заваліла цяжкім пластом снегу. Праз нейкі дзень на той самы ўляжалы пласт лёг яшчэ адзін снегавы цяжар. А потым неба падсыпала яшчэ. І было сумна глядзець, як горад змагаецца з гэтым белым дзівам, бясконца адвозячы самазваламі яго дзесьці за свае межы. А снег для зямлі — зусім не цяжар, ён лёгкі, цёплы і прыемны, як і цукровы лядок на пагорку каравая.

* * *

Толькі нядаўна дайшло да мяне, чаму ў нашых мясцінах так часта бываюць навальніцы. Побач Аколава, залежы жалезнай руды, а тая мае ўласцівасць прыцягваць спакуслівую маланку. Трэба дзякаваць Богу за наша жалезнае багацце і прасіць у яго, каб маланкі, якія пасылае нам неба, не былі надта злоснымі.

* * *

Вакол праўды заўсёды стаяць двое: той, хто змагаецца за яе і той, хто змагаецца з ёю.

* * *

Самая непераможная думка ў галаве чалавека — гэта думка пра непазбежную смерць. Як ты ні выкручвайся ад яе, а яна ўсё роўна круціцца за табою.

* * *

Любоў чалавека да дрэў і кветак вядомы рускі праваслаўны пісьменнік Барыс Шэргін тлумачыць напамінам аб страчаным райскім садзе: «Сад быў рай». Відаць, таму ледзь не кожны з нас шукае ў гэтым свеце свой райскі куточак у выглядзе саду. Штосьці падобнае да раю ўбачылася мной калісьці ў Валошынскім садзе ў Тактэбелі. Гэта адчуванне добра падмацоўвалі велічныя горы, жамчужна-блакітнае мора, а яшчэ самотная і загадкавая постаць самога Максіміліяна Валошына.

* * *

Спекаць… Цела чалавечае адгукаецца на голас вады і просіцца да берага. Але ў вадзе акрамя ласкі ёсць і шмат прытворнага, каварнага, дзікага, небяспечнага зману. Слабенькіх нават падсцерагаюць д'яблавы абдымкі віроў. З таго часу, як чалавек пасябраваў з вадой, ён мусіць і баяцца яе.

* * *

З Паўлам Кавалёвым упершыню я пазнаёміўся яшчэ, калі быў студэнтам першага курса Белдзяржуніверсітэта. Памятаю, мы з Эдуардам Зубрыцкім па нейкай патрэбе, а можа, і без яе зазірнулі ў стары будынак Саюза пісьменнікаў на Энгельса. Той самы будынак, дзе ў свой час падарвалі гаўляйтэра Кубэ. Цягнула ў той дом не толькі таму, што хацелася пабачыць жывых класікаў, але каб і дух самой гісторыі адчуць. А тут аўтобус ад'язджае ў Каралішчавічы на семінар маладых гумарыстаў. Семінар ладзіць часопіс «Вожык». У аўтобусе палавіна месцаў пустых. Значыць, малавата падрастае нашага гумарыстычнага падлеску. І тады галоўны рэдактар часопіса, яшчэ малады Павел Кавалёў, хапае і нас двух «за шкірку» і піхае ў той самы аўтобус. Вылузваюся, кажу, што гумарыст з мяне ніякі.

— Нічога, — супакойвае. — Падвучышся, будзеш пісаць.

Той тыднёвы семінар запомніўся мне добрымі знаёмствамі з многімі вядомымі пісьменнікамі. Мы амаль на роўных размаўлялі з самім Кандратам Крапівой, Максімам Лужаніным, каталіся на машыне Алеся Кучара. І пачалі,

змусілі сябе пісаць гумарыстычныя вершы. Мабыць, дзякуючы таму семінару я і працую сёння ў «Вожыку». Сувязь у гэтым, хоць і далёкая, але ёсць.

Ужо крыху бліжэй з Паўлам Нічыпаравічам пазнаёміў мяне мой паэтычны настаўнік Анатоль Вялюгін. Спачатку праз сваю эпіграму:

Сёння ў друку шмат навін:
Едзе Паўлюс у Берлін.
Толькі наш фон Кавалёў
Штось не едзе ў Магілёў.

Зразумела, што эпіграма напісана ў дзень вяртання паланёнага Паўлюса на радзіму. Не ведаю, як адносіўся да гэтай эпіграмы сам Кавалёў. Мы часам бралі чарку ў пісьменніцкім бары, дзе ён шмат расказваў пра самы пачатак вайны і пра свае стасункі з ёю. Падахвочваў размову заўсёды зацікаўлены Вялюгін і рабіў гэта не столькі для сваёй цікаўнасці, а для мяне, недасведчанага.

А неяк выпала мне цэлы тыдзень выступаць разам з Паўлам Нічыпаравічам у Гомелі, куды нас паслала Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў. З ім мне было і проста, і добра. Меў ён гомельскіх прыпамінаў — і даваенных, і пазнейшых — процьму. У будучых чыгуначнікаў ён столькі цікавага згадваў пра Міхася Лынькова, у музычным вучылішчы імя Нестара Сакалоўскага шчодра выцягваў з памяці дэталі пра вядомага кампазітара, нават партытуру нейкую падараваў са сваім аўтографам.

Днём, перад выступленнямі, абедалі ў гасцінічным рэстаране.

— Ты як сабе хочаш, — кажа, — а я грамаў сто пяцьдзесят закажу. У мяне нешта са страўнікам.

Я прамаўчаў. Тое «нешта» было са страўнікам і ў мяне, аднак беднавата шалясцела ў кішэні.

Творчы тыдзень наш прайшоў хутка. Ад'язджаючы ў пятніцу вечарам у Мінск, ён пачаставаў мяне ў тым жа рэстаране, і нават шчодра. І з ягонай, і з маёй бяднейшай кішэні было вытрасена ўсё, што можна было вытрасці, і мы ў бадзёрым, нават святочным настроі вярталіся ў сталіцу. Я ўсё намерваўся, ды так і не прачытаў яму тую вялюгінаўскую эпіграму. І правільна, відаць, зрабіў. Больш мы, здаецца, не бачыліся. Не змог я і развітацца з ім, бо падчас пахавання не быў у Мінску.

Лёс потым звёў мяне з ягоным сынам Валерам. Па даручэнні Міністэрства адукацыі мы працавалі разам над фільмам пра Максіма Танка: я — у якасці сцэнарыста, а ён — рэжысёра. Мы нават пасябравалі. А потым ён цяжка захварэў, і я вазіў яго ў Рубяжэвічы да нашага аптэкара-траўніка пана Анатоля. Ён ведаў, што жыць яму засталося нядоўга і што ніякія зёлкі тут ужо не дапамогуць, але ўсё яшчэ хапаўся за апошнюю нітачку надзеі. Нітачка была кволай. Так вось і пайшлі ад мяне, але назаўсёды засталіся ў памяці два Кавалёвы, бацька і сын. Казалі, што не вельмі ладзілі бацька з сынам. Такое ў жыцці здараецца часта. Але памяць мая пра абодвух светлая.

## Блудны лес

Жнівень таго года выдаўся грыбным. У горадзе, куды ні павернешся, усюды толькі і чуеш размовы пра грыбы. Іх кашамі валакуць з прыгарадных электрычак, прадаюць у дварах і ля дарог. Ад грыбоў трашчаць прылаўкі на Камароўцы. Колькі разоў выпраўляўся і я ў сваю пушчу і вяртаўся адтуль з добрымі грыбнымі трафеямі. Ды, відаць, усё яшчэ не спатоліў сваёй грыбной смагі, бо лёгка згадзіўся на прапанову сябра махнуць аднойчы ў канцы

рабочага для ў яго лагойскія грыбныя мясціны. Дзе тут адмовішся, калі абяцаў сябра тое, чаго і ў пушчы ў нас не бывае. У іх нібыта баравікі без перабольшвання не сцізорыкам рэжуць, а касой косяць. Лёгка даў на тое згоду і наш бывалы радыёшафёр, машына якога яшчэ ўсё лічылася ў камандзіроўцы. З радасцю ўсеўся ў наш уазік і мой часовы начальнік Віктар, і другі мой сябра Мікола. А Пятро, што ўгаварыў нас на тую паездку, быў на сёмым небе ад радасці. Гэта і зразумела: ён ехаў у свае родныя мясціны, не такія і блізкія ад Мінска. Мы стрэслі апошнія нашы капейкі, купілі пляшку, нейкую лёгкую закусь і тут жа адправіліся ў дарогу. Шчыра кажучы, не люблю я чужога лесу. Ды не, чаму гэта не люблю, як можна не любіць лес? Проста баюся яго, бо ён чужы, незнаёмы табе, заўсёды аблудны. Гэтак я і сказаў свайму сябру, калі мы выпраўляліся ў лес.

— А вы не бойцеся, — супакоіў нас Пятро. — Я дам вам кожнаму па свістку. І вы, калі што, свішчыце. Я пачую. Даю слова, што нікога не згубім.

— Гэта падобна на нейкі дзіцячы сад! — незадаволена буркнуў Мікола і абыякава паклаў свісток у кішэню. А свісткі тыя, як я потым зразумеў, любы сіпаты вецер перасвішча. Трэба сказаць, што на грыбнікоў мы зусім не выглядалі, прыехалі ў тым самым убранні, у якім штодзённа заяўляліся на працу. Нехта нават у лёгкіх летніх туфліках. Але Пятро падшукаў для кожнага вясковы абутак, а ў шафёра былі прыхаваны свае рабочыя строі. І разышліся мы пяцёх са свісткамі ў кішэнях і поліэтыленавымі мяшкамі ў руках па раздолішчы незнаёмага лесу.

Грыбы ў чужым лесе таксама не дурныя. Будуць яны падстаўляць свае шапкі пад любы выпадковы нож! Зрэшты сёе-тое, мізэрнае, на вока траплялася. То сыраежку, белую ці чырвоную, зрэжаш, то лісічку-адзіночку падымеш, часам трапіцца і баравік не першай ужо свежасці. А вакол шмат зрэзаных карэньчыкаў, чужых акуркаў. Відаць, што не першыя мы тут сёння грыбнікі.

Паблукаўшы, можа, з гадзіну і ўвесь час азіраючыся, каб хоць дзе-небудзь ухапіцца вокам за нейкі прыкметны кусцік для арыенціру, баючыся ўсё таго ж блуду, я сумна адзначыў, што ў торбе маёй было зусім легкавата. Тупкаватая сцяжына, якой я ўвесь час трымаўся, быццам сама збегла з-пад маіх ног, і я з нядаўняй яловай гушчэчы выбіўся на нейкую невялічкую палянку, дзе і сустрэў Міколу. На душы крыху павесялела. Мы выцягнулі з яго ружовага пачка «Прымы» па цыгарэціне, зацягнуліся гаркаватым дымам, і я супакоіў сябе тым, што сябрава торба не на шмат цяжэйшая за маю.

— Збрахаў нам Пятро, — сумна сказаў Мікола. — Ніякімі грыбамі тут і не пахне.

— Можа, каму і пахла, — абыякава сказаў я, і мы зноў разышліся ў розныя бакі. Заламаная галінка на лазовым кусце падказала, што я кручуся дзесьці на адным месцы, нават паказала пару нязрэзаных сыраежак, крыху далей трапілася на вочы нясмелая жаўтлявая сямейка лісічак, і толькі пасля гэтага заўважыў, што ў лесе прыкметна пацямнела. Рэзкаваты пошум ветру, што прабег па высокіх вершалінах сосен, падказаў, што гэта хмара. Я трывожліва прыгледзеўся да неба, і адразу ўбачыў, што яго ўсё імклівей і настойлівей зацягвае густая цёмная хмара. Неўзабаве схавалася і сонца — самы галоўны арыенцір ляснога чалавека. На душы зрабілася яшчэ больш трывожліва. І я ўспомніў пра свой свісток. Мне здалося, што я сам не пачуў яго свісту, ніводная адзінокая птушка не адгукнулася на слабенькія зыкі. І тады я пачаў гукаць. Тут жа басавіта азваўся Мікола. Мы зноў сышліся і, прадчуваючы нядобрае, пачалі муштраваць свае свісткі. Але тут жа захацелася іх выкінуць. Прабіраючыся праз рэдкаваты малады ельнік, мы трапілі на нейкую даўнейшую ўтравелую дарогу і вырашылі падацца ўправа, куды яна і вяла. Па нашых разліках

дарога павінна была вывесці да вёскі. Ішлі, як здалося, даўгавата, нарэшце ўперадзе нібыта пасвятлела. Перад намі ляжала вялізная, як акінуць вокам, балаціна. Чарнаватыя тарфяныя доўгарадкоўі, што тут і там перакрэслівалі балацяны прагал, сведчылі, што ў гэтым месцы нядаўна працавалі міліяратары. Непадалёку стаялі нават два экскаватары з апушчанымі долу каўшамі. Па ўсім было відаць, што бульдозеры тыя даўно не задзіралі ўгору сваіх жалезных хобатаў. Торф на іх быў засохлы, нават патрэсканы. За балацінай густой сцяной стаяў лес — і нідзе ніякага прасвету. Пакуль закурвалі, Мікола лаяўся на чым свет стаіць. Такіх хмарачосных мацюкоў не чуў я і ад нашага вясковага мацюкайлы Гэндзі. І ўсе яны зараз адрасаваліся, здаецца, толькі аднаму з нашай каманды — Пятру. Здарылася якраз тое, чаго я ўвесь час баяўся — мы заблудзіліся. Той жа самай дарогай, прыспешваючы крок, вярталіся назад. А хмара ўжо насунулася ўсім сваім цяжарам на лес, грозна зашумела разам з верхавінамі дрэў, нават застагнала, страшнымі здаліся налітыя ліловым яе адрывістыя бакі. І адзін і другі раз пракаціліся долам раскацістыя грымоты, неба бязлітасна крамсалі асляпляльныя маланкі. І нечакана на ўсё зямное абрынуўся аблажны лівень. Мы беглі, уцякаючы як мага далей ад высакарослых ялін і хвой, а траскатлівая перуновая страляніна рассякала паветра недзе за нашымі спінамі. Неўзабаве заўважылі некалькі густаватых маладых ялінак, кінуліся пад іх ніжняе прыгнутае голле, але гэта ўжо ратавала мала. Неўзабаве ручаямі пацякло не толькі з галін, але і з усяго, у чым мы былі апрануты, з валасоў і шапак. Дарога, што вяла нас назад, знікла і растварылася ў шумлівай навальнічнай змрочнасці. Ужо і не было сэнсу сядзець пад ялінамі, мы неўзабаве выйшлі з-пад іх. Трэба было прабівацца, шукаць нейкага выйсця, бо разам з навальніцай падступаўся і вечар. Цешыла толькі тое, што мы ўдвух, а не паасобку, а разам трымацца заўсёды лацвей. Навальніца ж сціхаць не спяшалася. Зараз мы проста не зважалі на яе. Спыніліся і пачалі задумліва раіцца, а потым нават спрачацца, у які бок ісці. Я раіў брацца правей, Мікола ж настойваў на левым кірунку. Добра паспрачаўшыся, нават рассварыўшыся, выбралі ягоны, левы, кірунак. Ішлі доўга, ужо зусім не зважаючы на лівень. Грымоты паступова сціхалі, толькі дзесьці за лесам адгукаліся запаволеным водгуллем. Урэшце ж мы не з цукру, не размокнем, як кажуць у такіх выпадках. Усё часцей і часцей пачалі трапляцца нам баравікі, прыгожыя, здаровыя, тыя самыя чарнагалоўцы. Але падымаць іх чамусьці не хацелася. Наперадзе нечакана як штосьці завіднелася. А прайшоўшы яшчэ колькі метраў, убачылі вялізны прагал, нават абрадаваліся. А калі добра прыгледзеліся, зразумелі, што гэта тая ж балаціна. Воддаль нерухома стаялі тыя ж бульдозеры. На душы зрабілася яшчэ больш маркотна, нават нейкімі малаточкамі застукала ў скронях. Мы пачыналі хадзіць аблуднымі кругамі. Тут я адразу нават прыгадаў страшны сон, які мне бачыўся гэтай ноччу. Быццам хаваем мы свайго блізкага сябра, які невядома якім чынам памёр. Нясём гуртам труну, а яна разам з нябожчыкам падае з нашых рук. Анікому я не адважыўся расказваць пра той сон, не захацеў страшыць ім і Міколу. Але зараз, згадаўшы яго, нібыта адчуў нейкі безвыход. Трывожлівыя думкі паплылі да гарадской кватэры, да сям'і. Цяпер мы зноў вярталіся назад, адкуль, як нам здавалася, і прыйшлі. У ботах хлюпала, адзенне халоднай хваляй прыліпала да цела. Цыгарэты, якія нас ратавалі, былі яшчэ не зусім мокрыя, а вось запалкі размоклі ўшчэнт. Добра, што ў Міколы знайшался запальнічка. Цыгарэта адразу адагрэла сэрца. Мы працягвалі ісці, шукаючы выйсця, спатыкаючыся, лаючы адзін аднаго. І ўжо зусім не здзівіліся, а ледзь не заплакалі ад крыўды, калі зноў выбіліся да тых самых двух бульдозераў.

А лівень крыху супакойваўся, але сціхаць усё яшчэ не хацеў. Ужо добра-такі прыцямнела, насоўваўся вечар. У нейкі момант мы схапіліся нават і за

такое выйсце: «А што калі забрацца ў кабіну аднаго з тых бульдозераў ды і пераначаваць?» Але тут жа самі адбіліся ад такой думкі.

Во дык уліплі. Нават не згаворваючыся, мы адшукалі ў нашых кішэнях тыя самыя свісткі і як мага далей шпурнулі іх у лес. Быццам гэткім чынам адпомсцілі нашаму Пятру.

Цяпер, апусціўшы галовы, мы сумна ішлі ў той самы бок, куды ўжо сёння хадзілі неаднойчы. Не ўдалося нам прыкурыць і чарговую цыгарку — газ у запальнічцы скончыўся.

— Божа літасцівы! За што ж такое пакаранне? — ужо не лаяўся, а маліўся адзін з нас.

— Не распускаць нюні! — рашуча сказаў другі. Лівень пакрысе аціх, перайшоў у дробны дождж, грымоты даўно супакоіліся, і лес паступова рабіўся чуйным. І тут слыхам сваім я ўлавіў нейкі гук.

— Ціха! — ледзь не крыкнуў адразу. Мы прытаіліся і напружана ўслухаліся ў цішыню. Не, не здалося: недзе далекавата брахаў сабака. Гэта было якраз тое, што магло нас зараз выратаваць. Асцярожна, спыняючыся і прыслухоўваючыся, нібыта баючыся спалохаць сабаку, мы ледзь не вобмацкам пайшлі на яго брэх. Ішлі, спыняліся, прыслухоўваліся і зноў ішлі. Сабачы брэх здаваўся працяглым і ўедлівым, магчыма, мы і былі тымі самымі, на каго ён брахаў. Часам ён нават бянтэжыў і блытаў нас, бо здавалася, што гучыць ужо зусім з іншага боку. Даводзілася спыняцца і добра прыслухоўвацца. І вось нарэшце лес пачаў радзець, а потым праз рэдзь ствалоў бліснулі нейкія агеньчыкі. Мы прыспешылі крок і неўзабаве ўбачылі перад сабой прысадзісты прылясны хутарок. Добра прыгледзеўшыся, зразумелі, што гэта зусім не хутарок, а ўскрай вёскі, яе першая ці апошняя хата, што стаяла на водшыбе. Але яе адгароджвала ад лесу роўным паскам зусім не вузкая рака. Ні моста, ні кладкі на рэчцы мы не знайшлі. Як жа пераправіцца на той бераг? Тады Мікола адламаў канчур нейкай лазовай патарчакі і, намацваючы дно, пайшоў уброд. Я асцярожна ступаў за ім. Вады ў рачулцы было крыху вышэй калена, ды мы ўжо і не баяліся яе, бо намокліся так, што самі здаваліся вадзянымі. На другім беразе мы адразу апынуліся перад невысокімі расчыненымі веснiцамі. Сабакі ў двары не аказалася, а брэх яго чуўся недзе побач. Сенцы ў хаце былі таксама разнасцежаны, яны высвечваліся яркаю электрычнаю лямпачкай. У іх гаспадарыла жанчына. Толькі падышоўшы да расчыненых дзвярэй, мы добра разгледзелі яе твар. Гэта была яшчэ маладая, чарнявая, вясёлага твару кабета. Нашаму з’яўленню яна, адразу было бачна, здзівілася.

— Добры вам вечар! — ледзь не ў адзін голас прывіталіся мы.

— Добры-добры, — скорагаворкай выпаліла яна.

— Заблудзіліся вось, — пачаў Мікола. — Скажыце, куды мы трапілі?

— Гэта Трубачы, — адказала жанчына. — А вам куды трэба?

— Мы прыехалі ў Міхалкавічы, — успомніў я назву Пятровай вёскі.

— А да каго ж вы там, у Міхалкавічах? — пацікавілася яна адразу.

Я сказаў, што да Пятра С.

— Ведаеце такога? — падхапіў Мікола.

— Во, чаму ж не, ён нават сваяком нейкім нам даводзіцца…

Гаворка адразу пайшла весялей, і ў нас на душы павесялела.

— Адмахалі вы, хлопцы, дабравата, — уздыхнула жанчына. — Да Міхалкавічаў адсюль добрых вёрст дзесяць будзе.

Мы папрасілі ў гаспадыні запалак і, прысеўшы на ганку, пачалі прыпальваць адсырэлыя цыгаркі. З хаты расчыніліся дзверы, адтуль, хаваючыся, выглянулі два тварыкі — хлопчыка і дзяўчынкі, узросту ўжо, здаецца, школьнага. Толькі цяпер я добра разгледзеў сенцы. У іх на ўсе чатыры канфоркі

гарэла газавая пліта, кіпела водарнае грыбное варыва. Грыбы, у асноўным белыя, чорнагаловыя, стаялі і ў некалькіх вёдрах, у кошыку, яшчэ не перабіраныя. Убачыўшы такое багацце, мы сумна і сарамліва зірнулі на свае сціплыя торбачкі. Тут пачаліся звычайныя роспыты: што ды як. Пыталася ў асноўным жанчына, а мы ёй па чарзе расказвалі, як ішлі, як заблудзіліся. Калі ўзгадалі пра балотца з двума бульдозерамі, жанчына аж перахрысцілася:

— От добра, што далей не пайшлі: там адна багна, без канца і краю, адтуль ужо вы б не выйшлі…

Мы сумна пераглянуліся.

— Бог вас яшчэ бярог, — уздыхнула гаспадыня і тут адразу задумалася: — Што ж тут можна парадзіць?

Мы ўважліва сачылі за яе тварам.

— Ведаеце што, — памеркаваўшы, сказала яна. — Вось зараз з кароўніка вернецца муж, дык папрашу яго, каб скокнуў у Міхалкавічы па вашу машыну.

Мы гатовы былі цалаваць рукі гэтай жанчыне за яе незвычайную спагадлівасць да нас.

Неўзабаве ў цемры завуркатаў матацыкл. Моцная палоска святла ад фары сцебанула па вокнах. Высокі загарэлы мужчына сустрэў нас, някліканых гасцей, даволі падазроным, нават варожым позіркам. Але жонка яго тут жа астудзіла:

— Саша! Гэта Пятра Юзікавага з Міхалкавіч таварышы. Прыехалі з Мінску ў грыбы і заблудзіліся. Падскочыў бы ты ў Міхалкавічы: там іх машына.

Мужчына тут жа, не раздумваючы, асядлаў матацыкл і адразу знік, як растаў у цемры. Толькі яшчэ доўга недзе далекавата было чуваць вуркатанне матора. А потым стала ціха. У сенях смачна пахла варанымі грыбамі і ўсё настойлівей нагадвала нам пра наш голад. А цела нясцерпна ныла ад макраты, прабіралі нават дрыжыкі. Дзесьці на даляглядзе яшчэ ўспыхвалі, адсвечваліся бліскавіцы. Дождж даўно ўжо аціх, адцурчэў нават капеж. А мы цярпліва чакалі, размаўляючы з гаспадыняй, стараючыся не дужа адрываць яе ад грыбнога клопату.

Калі чакаеш, час заўсёды нібыта прыпыняецца. Я прыгледзеўся да гадзінніка. Колькі ж гэта мы згубілі часу ў гэтым безвыхадзе чужога лесу? Загублена добрых шэсць гадзін. І за што якое… Зараз я, нібыта перад нейкім развітаннем, пакутліва згадваў сваю цёплую мінскую кватэру, жонку, дзяцей, бацьку і маці, і ўсіх астатніх найблізкіх людзей, нібыта быў перад імі ў нечым вінаваты. І дакараў сябе: «Навошта было перціся ў тыя грыбы? Мала табе сваіх, пушчанскіх?» Але ахвота, кажуць, горш за няволю. Не столькі ў тыя грыбы, колькі на прыроду пацягнула.

Частае, самотнае паглядванне на гадзіннік рабіла наша чаканне яшчэ больш трывожлівым і пакутлівым. Мы ўрэшце падняліся з халоднага ганка, выйшлі за веснічкі і пачалі напружана прыглядацца ў той бок, адкуль магла паказацца наша машына. Але цішыня і цемра пакуль што нічога добрага не абяцалі. Апошнюю цыгарку мы дакурвалі па чарзе. І вось там, куды была скіравана ўся наша ўвага, нібыта пасвятлела. Потым палоскі святла сталіся больш выразнымі. Яны рухаліся і ўсё бліжэлі. Хутка ў цемры выразна акрэсліліся тры агні. Было зразумела, што рухаецца матацыкл, а за ім — машына. З душы нібы сам спаў той цяжкі камень, які ціснуў і не даваў спакою ўвесь гэты сумны час.

Нашы калегі выкаціліся з машыны, гучна пасміхаючыся:

— Вось яна, наша згуба, нашы блудныя сыны!..

А мы не находзілі сабе месца ад крыўды і злосці.

— Свісткі твае, тваю маць, — лаяўся Мікола на Пятра.

— Як можна не чуць? Вы што, глухія? — апраўдваўся той.

Віктар, які быў за начальніка, засмуціў яшчэ больш:

— Мы ўжо збіраліся ад’язджаць на Мінск. Нават у машыну селі.

Нічога, думаем, не маленькія, не згінеце.

— Мы паўбака бінзіну спалілі, шукаючы вас, — падтрымаў яго шафёр.

Пляшка наша, вядома ж, была даўно апарожнена. Пра нейкі сугрэў думаць не выпадала. Мы з Міколам падзякавалі гаспадыні і гаспадару асобна за дабрыню і наша выратаванне. І тут жа зялёны ўазік узяў кірунак на Мінск. Наперадзе была яшчэ доўгая і пакутлівая дарога. Ехалі моўчкі.

## Вопыт насценгазеты

Сакавік 1965 года я сустрэў у лясным гарнізоне пад Нагінскам. Ішоў другі год маёй вайсковай службы. Я, «недавучаны студэнт» (М. Аўрамчык), яшчэ ніякіх лічбаў у каляндарыку не крэсліў, бо служыць заставалася большая палова ад таго, што адслужыў. Яшчэ не хутка вярнуся на свой родны факультэт, адкуль мяне так неспадзявана паклікалі армейскаю позвай. І тут я загрымеў «на губу» — так вайскоўцы называюць гаўптвахту. Значыць, правініўся малодшы сяржант Камейша і застаецца толькі суцяшаць сябе даўнім выслоўем: «Той не салдат, хто на губе не пабудзе». А тут набліжаецца 8 Сакавіка, жаночае свята, а я нават не павішную сваёй *нежычонай*, за якую і трапіў на тыя пяць сутак арышту. Самае дзіўнае, што камандаваў гаўптвахтай яфрэйтар азербайджанец Багіраў. І дасюль не разумею, як гэта яму ўдалося пры такім мізэрным пачатковым званні. Але што тут дзіўнага? Гісторыя сведчыць, што яфрэйтары здольныя кіраваць нават дзяржавай. А з Багіравым мы былі нават знаёмыя: падчас маіх дзяжурстваў па кухні ён заглядаў да свайго земляка-повара, які ўмеў гатаваць якуюсьці дужа смачную смажаніну (толькі для нас!), да якога можна было зазірнуць і пасля адбою, калі не спалася. Багіраў забраў у мяне запіску аб арышце, паўсміхаўся ды адвёў у глухаватую адзіночку. Думаю, што гэтым ён хацеў падкрэсліць сваю павагу да мяне: «Прымаю цябе не як усіх астатніх, а як нейкую персону ўсё ж». Зусім не цесны квадратны пакойчык ледзь не да самай столі быў афарбаваны ў чорнае. Уверсе свяцілася невялічкае закратаванае акенца. І больш — нічога, нават табурэткі. Яе разам з бушлатам давалі толькі нанач. «Персоне» такая адзінота не спадабалася.

За сцяной, у агульнай камеры, шумелі, перамаўляліся, часам нават грымелі гучным смехам, а то і спявалі. А я ў сваёй адзіночцы ім зайздросціў. Ноч мая прайшла ў бяссонні, а таму здалася доўгай і пакутлівай. Але што ж я хацеў: арыштант ёсць арыштант, цябе ж не на адпачынак сюды прыслалі. Гэта — пакаранне, а яно, хоць і сімвалічнае, мусіць быць для цябе навукай.

Гаўптвахта лічылася гарнізоннай, грэшнікі траплялiся самага нечаканага кшталту, нават у марской форме, хоць дачыненне да мора ў іх было вельмі адноснае, далёкае; уперамеж з імі — авіятары, сувязісты, а большасцю — наш брат, неўтаймаваны «страйбатавец». Раніцой з кожнай воінскай кухні прыбягалі «ганцы» са сваім сняданкам, не спазніліся, прынеслі і маю «пайку». Але апетыту не было, елася з неахвотай. Пасля сняданку ўсю арыштанцкую каманду адвезлі кудысьці на «працоўнае перавыхаванне», разгружаць нейкія вагоны, парадкаваць склады, а я заставаўся бавіць час у сваёй адзіночцы.

Касыя праменні ранішняга сонца зазірнулі ў маё маленькае акенца, прабеглі па сценах і падлозе, усталявалася нязвыклая цішыня, і мяне нечакана пасля доўгай бяссоннай ночы змарыў сон. Так і заснуў, прысеўшы ў куточку на падлозе. Разбудзіў мяне жалезны лязгат дзярэй, ад якога аж падскочыў, не расплюшчваючы вачэй. Камеру адчыніў высакаваты сярэдніх гадоў маёр-сувязіст з чырвонай павязкай дзяжурнага па гарнізоне на рукаве. Змераў мяне

кароткім, але ўважлівым позіркам і адразу ж традыцыйна пацікавіўся, за які грэх сяджу. Было і без гэтага відаць, што за яе, традыцыйную нашу «самаволку». Паўшчуваў і тут жа запытаўся, на што скарджуся. А не пачуўшы ніякіх скаргаў, запытаўся гэтак:

— Ці даюць што чытаць?

— Не даюць, — кажу.

— Даць літаратуры! — загадаў ён Багіраву, які таптаўся моўчкі за спінай маёра. Пасля гэтага маёр падаўся на выхад, а Багіраў прынёс мне «літаратуру». Гэта былі зацёртыя да немагчымага асобнічкі армейскіх статутаў каравульнай ды гарнізоннай службы, якія надакучылі мне яшчэ ў сяржанцкай школе. Я склаў іх стосікам, і атрымалася даволі-такі нядрэнная падушка. На ёй і драмаў потым да самага абеду. А ў абед мы па-сяброўску пагаварылі з Багіравым, і ён згадзіўся перавесці мяне ў агульную камеру. Але папрасіў за гэта вечарам правесці заміж яго вечаровую прагулку.

— Правяду, — адказаў я. — Толькі ці захочуць пад маю каманду маршыраваць штрафнікі?

— Захочуць! — супакоіў Багіраў.

Вечарам я далучыўся да агульнай «кумпаніі». На душы адразу павесялела. З дзённага «працоўнага выхавання» сакамернікі вярталіся з трафеямі. Нехта выцягваў прыхаваную дзесьці ў гумцы трусоў цыгарэту, хтосьці ўмудрыўся пранесці яблык і памідор, усё гэта ішло на агульны «кацёл». За некалькі хвілін мы пераznаёміліся і неўзабаве ўжо ведалі, хто за што трапіў сюды. Я стаўся шостым у гэтым дзіўным гурце і адразу зразумеў, што сумаваць тут хлопцы не дадуць. Сваім асаблівым досціпам між іншых вылучаўся круглатвары курносы марачок, які адразу ж пачаў развучваць з намі не зусім звычайную песеньку. Запяваў ён сам:

В пещере каменной
Нашли бочонок водочный
И хвост селедочный
На камешке лежал…

А мы падпявалі:

Сели, поели, выпили
И вновь налили…

Хораша рабілася на душы, быццам і сапраўды перад намі стаяў той самы спакуслівы «бочонок».

Але наперадзе была тая самая вечаровая «прагулка». Падняліся ўсе нехаця. Сам я адчуваў сябе ніякавата, таму папрасіў ледзь не плачучы сваіх новых знаёмых пахадзіць крыху па крузе, бо гэтак мы дамовіліся з начальнікам гаўптвахты. І пайшлі, затопалі вакол невялічкага цаглянага будынка часовага нашага зняволення, нават нешта напяваючы, не вельмі ладным строем, пад маю нягучную каманду.

Пасля гэтага камера яшчэ доўга не магла заснуць — то той, то гэты падкіне нейкі свой жарт ці прыпамін, потым яшчэ некаму захочацца распавесці пра сваё. Так і прагаманілі да поўначы. Затое пад раніцу сон набраў сваёй моцы.

А раніцой, ледзь толькі закончыўся сняданак, прыбег усхваляваны пісар са штаба нашай часці. Ён уручыў Багіраву нейкую паперку на маё вызваленне і сказаў, што мяне чакае ў сваім кабінеце зампаліт. «Што ж ты мне скажаш, маёр? — ламаў я галаву, ідучы нясмелым крокам услед за пісарам. — Падвёў я цябе».

А маёр нават не заікнуўся пра маю правіннасць, толькі коратка сказаў:

— Хуценька пераапранайся ў параднае. Вось табе адпускны. У чатыры гадзіны каб быў у ВСУМе[1].

Назваў нумар пакоя, дзе мяне будуць чакаць. Усе мае трывогі адразу развеяліся. Ужо сам даверлівы тон гаворкі маёра нічога дрэннага не абяцаў.

У салдата зборы доўгімі не бываюць. Адна-другая хвіліна — і я ўжо ў дарозе. За КПП доўга лавіў спадарожную машыну — аўтобус маршрутны адпраўляўся толькі апоўдні. А я гэтым часам быў ужо ў Нагінску. Адразу ж пашанцавала і з электрычкай. Так што ў Маскве я апынуўся, калі яшчэ не было і трох гадзін дня. Каб трапіць у будынак ВСУМа, трэба праехаць у метро да Смаленскай плошчы, дзе я заўсёды сімвалічна кланяўся высотнаму будынку МЗС, бо там, як мне ўяўлялася, сядзіць зараз у нейкім шыкоўным крэсле, прыгнуты над сталом, густа аплеценым правадамі многіх тэлефонных апаратаў, наш славуты зямляк Грамыка. Пасля нейкіх пакручастых завулкаў, якія ўжо мне былі даўно знаёмыя, і знаходзіўся той самы жаўтаваты будынак, куды я кіраваўся.

Сустрэў мяне невысокі, з рысамі ўсмешлівага дзявочага твару капітан, быў ён у добрым, нават вясёлым настроі, відаць, таму не дазволіў мне па-вайсковаму адрапартаваць аб маім з’яўленні. Адразу ўсадзіў за стол і пачаў тлумачыць, што ад мяне патрабуецца. А гэта не так многа і не зусім мала. Трэба выпусціць святочную насценгазету, прысвечаную жанчынам гэтай шаноўнай ваеннай установы. Капітан уручыў мне спіс прозвішчаў чалавек на трыццаць. Кожнаму з тых прозвішчаў трэба было напісаць нейкае віншавальнае вершаня. Адкуль капітан ведаў пра мае паэтычныя «задаткі»? Хутчэй за ўсё па ВСУМаўскай шматтыражцы, дзе я ўжо засвяціўся з нейкімі радкамі. Дык вось, аказваецца, хто мяне вызваліў з гарнізоннай каталажкі. Што ж, дзякуй табе, капітан. Толькі ці змагу я апраўдаць твой давер? Трэба пастарацца.

Каб славіць чалавека, ды яшчэ ў вершах, не лішне пра яго нешта ведаць, хоць нейкую дробязь, за якую можна зачапіцца. Капітан усё прадугледзеў — супроць кожнага прозвішча некалькімі радкамі былі згаданы і заслугі асобы, а то і тыя самыя «дробязі» кшталту «сціплая», «недатыкальная», «любіць жарты», «пявуння» і г. д. Усяго гэтага, вядома, мала, калі ты ніколі сам не бачыў чалавека.

— Ат, як напішаца, так і добра, — кінуў урэшце капітан. — А калі ўзнікнуць пытанні, павяду да самой «гераіні».

Тут жа ён пазнаёміў мяне з мастаком, які павінен малюнкамі аздабляць тыя віншаванні, расклаў на стале стосік фотаздымкаў з выявамі тутэйшых прыгажунь. А яшчэ сказаў, што на выкананне такога важнага задання даецца нам тры дні (больш нельга — на чацвёрты дзень пачынаецца свята). На столькі ж быў выпісаны і адпускны дакумент. На харчаванне нам выдзелілі нават нейкія грошы, а начлегам забяспечылі ў адной са сталічных будаўнічых часцей. І ў мастака, і ў мяне былі асобныя рабочыя пакойчыкі. І мы адразу ўзяліся за справу. Пісаць, вядома ж, трэба было на рускай мове. Цяжкаватая гэта справа, але, паднапружыўшы сябе, штосьці зарыфмаваць можна. Я адразу ўспомніў радкі, якія чуў ад нашага аднаго паэта-франтавіка, што, апынуўшыся ў падобнай сітуацыі, знайшоўся гэтак:

Дайте водку і закуску —
Напишу стихи по-русску!

Асмеліўся працытаваць гэтыя радкі капітану, на што ён аджартаваўся так: «І на тое, і на тое трэба яшчэ зарабіць!» Мой заказчык сапраўды аказаўся

[1] ВСУМ — Ваенна-будаўнічае ўпраўленне г. Масквы.

добрым жартаўніком і час ад часу заводзіў у мой пакойчык то адну, то другую прыгажуню, кажучы пры гэтым:

— Вось гэта Света! Яна ў цябе пад нумарам пятнаццаць.

Света, скажы паэту на што ты здатная.

—Хі-хі-хі ды ха-ха-ха, — чулася ад Светы. Але па ўсім было відаць, што здатная яна не толькі на гэта. Але пра тыя сакрэты мог ведаць хіба што капітан.

Услед за Светай забягала нейкая Наташка з ярка падмаляванымі вуснамі, кінула нейкі жарцік, размяла ў пальцах цыгарэтку, адну паклала на стол для мяне і вельмі міла адкланялася. Потым заходзілі яшчэ нейкія Нінкі ды Людмілкі. І тут я зразумеў, што гэты «жаночы прагляд» зусім не спрыяе майму творчаму натхненню, не дае магчымасці засяродзіцца. І папрасіў, як цяпер кажуць, рэкламную паўзу, падчас якой і сказаў капітану, што турбаваць яго буду я сам, калі раптам узнікне якое пытанне, а то толькі дарэмна трачу час.

Пасля доўгага творчага здранцвення я нарэшце «асядлаў» рыфму. Пачало нешта складвацца ў радкі. Часам да мяне заходзіў мастак, прапаноўваў перакурыць. У яго, як мне здалося, праблем было значна менш. А неўзабаве я панёс капітану некалькі пробных чатырохрадкоўяў. Ён зачытваў іх услых, прыдзірак не меў ніякіх, толькі падахвочваў:

— На гумар націскай пабольш!

І я націскаў, як мог. Але рабочы дзень канчаўся. І ўсю пісаніну давялося адкласці да заўтра.

— Пагуляй, паглядзі Маскву, — кінуў на развітанне капітан. І я адправіўся ў горад. Доўга блукаў па старым Арбаце, выйшаў на Красную плошчу, паглядзеў, як мяняецца каравул ля Маўзалея У. І. Леніна, потым сядзеў, пацягваючы піва ў нейкім кафэ па вуліцы Горкага. А позна вечарам адшукаў часць, дзе паабяцалі начлег. У шумлівай цемнаватай казарме днявальны паказаў ложак, на якім даўно ніхто не спаў. Я пачаў яго рассцілаць, паціху распранаючыся. Якраз аб'явілі адбой, пагасла святло. І ледзь не ўся мая ноч, як і там, на гаўптвахце, прайшла ў бяссонні. Не паспеў я заплюшчыць вочы, як падбег нейкі «страйбатавец» з просьбай:

— Слухай, друг! Ты ляж на мой ложак, а я знікну на нейкі час. Выручай, значыцца. Разумееш?

Я нічога не разумеў, а таму не выручыў яго, не пагадзіўся. Не хапала мне яшчэ і тут прыгод. Мацюкнуўшыся, салдат пабег ад мяне прэч. А я глыбей засунуў пад падушку свой пакецік з дакументамі і грашыма. У казарме ўсю ноч грукалі, шапталіся, нехта выбягаў, нехта вяртаўся. Раптоўна ўключылі святло і некага шукалі. Яшчэ да пад'ёму я заслаў свой ложак, наспех пагаліўся ў падслепаватай бытоўцы і, развітаўшыся з днявальным, падаўся ў горад.

Капітан ужо чакаў мяне, дзверы ў ягоны пакой былі расчынены, ён адразу ж запрасіў мяне на каву. «Во дажыўся, — усміхаўся я сам сабе, — цябе, малодшага сяржанта, абслугоўвае сам капітан». Ёсць жа яшчэ афіцэры: ніякага салдафонства, амаль сяброўскія адносіны. Вось бы і да самага дэмбеля з такімі служыць! Усё гэта было падобна на нейкі дзіўны сон, і прасоння мне зусім не хацелася.

А радкі ў мяне неўзабаве паплылі з-пад пяра самі. І ўжо недзе пасля полудня я паставіў апошнюю кропку. Сёе-тое адразу з капітанам падправілі. І адразу мой часовы куратар панёс тую пісаніну да яшчэ вышэйшага начальства. Яго даўгавата не было, але вярнуўся задаволены: вышэйшыя ўсё ўхвалілі. Потым я глядзеў, як усё маё вымалёўвалася мастаком на белым ватмане. На маіх вачах вырастала цэлае каляровае палатно. А ўнізе красавалася нават маё прозвішча. Капітан шчыра падзякаваў нам і нават пачаставаў півам, а на развітанне паабяцаў, што гэта сустрэча наша не павінна быць апошняй.

А ў часці нібыта забылі пра маё свавольства. Толькі праз тыдзень выклікалі ў штаб і сказалі, што мяне пераводзяць у іншую часць, у самую Маскву. І я тут жа пачаў збірацца ў дарогу. Вестка спачатку засмуціла, бо за ўсім гэтым была невядомасць. Ніхто не мог мне сказаць, што там мяне чакае. А калі даведаўся, што служыць буду ў Ізмайлаве, дык па сэрцы нібыта пракацілася цёплая хваля. Я ж і пачынаў адтуль сваю службу.

Мой капітан мяне не забыў. І перавод у новую часць, напэўна, была яго работа. Усё часцей і часцей я пачаў бываць ва ВСУМе, запрашалі мяне на нейкія сустрэчы і вечары, і пачуваўся я там чалавекам зусім не чужым. Праз нейкі час пазнаёміўся нават з нейкай Святланай і ўсё адразу пачало закручвацца на новы і дзіўны «страйбатаўскі» раман.

## Прэм’ера з прэм’ерам

Ліпень 1982 года. Самы яго пачатак. Нядзельны дзень. Усхвалявана рассаджваемся ў чырвоны, увесь са шкла, «Ікарус» каля Дома літаратараў. Першыя месцы ніхто не займае, бо неўзабаве на іх сядуць самыя высокія асобы дзяржавы, між іх і першы сакратар ЦК КПБ Ціхан Кісялёў. Можа, і не тыя словы — «між іх»? Хутчэй за ўсё «вакол Яго — яны». Ну, і мы таксама разам са сваім «галоўнакамандуючым» Максімам Танкам. Пачуў бы ён, як тут «ваяўніча» я яго ўзвялічыў! Аўтобус кранаецца. І адразу ў салоне — вясёлы, ледзь не сяброўска-хатні настрой, гамонка, нейкія жарты, прыколінкі… Аўтобус, вядома ж, у суправаджэнні міліцэйскіх «мігалак-канарэек» бярэ накірунак на Вязынку, дзе мае адбыцца Купалаўскае свята паэзіі, дзе і мне сёння давядзецца прачытаць свой верш. А які, я нават не ведаю яшчэ і сам. Хочацца, каб нешта па памяці. Каб не заглядаць у паперку, якая яшчэ можа і трэсціся ў расхваляваных і пужлівых руках.

І вось сяджу я, маладзейшы, але запрошаны, недзе на самым заднім месцы ды ўсміхаюся сам сабе: «А мы ж з Ціханам Якаўлевічам ужо знаёмыя!» І пачаў прыгадваць тое знаёмства.

Працаваў я тады на Беларускім радыё, быў адным з тых, каму часта даручалі нейкія адказныя перадачы. І вось аднойчы раніцой выклікаюць нас разам з Анатолем Пётухам, калегам маім, да самага галоўнага начальніка радыё. Размова хуткая і кароткая:

— Выходзьце ўніз, там вас чакае машына з Саўміна. Паедзеце на сустрэчу да самога прэм’ера Ціхана Якаўлевіча Кісялёва.

«Яшчэ гэтага не хапала!» — ёкнула ў мяне ў грудзях тая самая далікатная і грымлівая штука. Учора быў такі бурны вечар, можна сказаць, — ноч. Нават паспаць не было калі. Тут бы палячыцца чым… Але ціхенька сеў у «Волгу» — і яна паімчала нас да знаёмага (толькі здалёку) вялікага дома. Неўзабаве мы сядзелі ў светлым і прасторным кабінеце, дабраватым, рознаўзроставым гуртам. Потым з нейкіх дзвярэй — там яны былі не адны — выйшаў сам прэм’ер, знаёмы мне па здымках ды тэлеэкране, усмешлівы і светлы, зняў з плячэй пінжак і пачапіў яго на спінку важкага крэсла. Бліснуў яркай белай кашуляй з лагоднага колеру гальштукам. І адразу ж пачаў з таго, дзеля чаго ён нас сюды паклікаў.

Блізілася гадавіна Кастрычніка, і яму трэба было выступіць ад імя рэспублікі па Усесаюзным радыё. А хто ж хоча выступаць так, каб выступленне тваё было незаўважаным? Ды і размовы кулуарныя хадзілі: «Ціхан у Маскву меціць».

Мы, значыцца, і павінны былі гуртам падрыхтаваць той выступ, а заадно і «праявіць» сябе. Пачаў ён з анекдота, які я ўжо дзесьці чуў. Паводле яго падобнае выступленне пісаў нейкаму начальніку якісьці маёр. А той выйшаў

на трыбуну, задаволены сабою, прачытаў яго з такім захапленнем, што нават кропку абмінуў, і закончыў словамі: «Напісаў маёр Пятроў». Мы падтрымалі дружным смехам той анекдот і прыціхлі, каб не прапусціць міма вушэй самую галоўную ўстаноўку.

— Вы чыталі ў «Правде» выступленне Пятра Міронавіча? — перайшоў ён адразу на сур'ёзны тон. І хто чытаў, і хто не чытаў адказалі дружным «але».

— Дык вось, выступленне павінна быць гэткім жа ўдалым, а пажадана, каб яшчэ лепшым…

«Як жа мы будзем пісаць? — разгубіўся я. — Нас тут вунь колькі — некалькі дзесяткаў, знаёмых і незнаёмых ілбоў. Калі кожны па сказе крамсане — дык на паўдня эфіру будзе. І як усіх усадзіць за адзіны стол?» Але тут прэм'ер падняў высакаватага мужчыну, які сядзеў з ім побач і штосьці перакладаў у папцы:

— Вы пішыце, а ён усё падагуліць, — сказаў Ціхан Якаўлевіч.

Тут неўзабаве адчыніліся яшчэ адны дзверы таго вялізнага кабінета, і з падносам у руках адтуль выйшла даволі прыгожая маладзіца. Перад кожным яна паставіла сподачак з духмяным кубачкам кавы, а размова працягвалася. Цяпер гаварыў той высокі. Мае сабраты па глыточку пацягвалі каву і слухалі. Пакуль высокі гаварыў, я ўвесь час адсоўваў свой кубачак далей ад сябе. Я не аматар кавы і баяўся, што пасля ўчарашняга яна проста пашкодзіць мне. Высокі разахвоціўся і гаварыў больш за прэм'ера. Мае калегі даўно дапілі свае кубачкі, астыў і перастаў дыміцца і мой, нявыпіты. І вось зноў з'явілася прыгажуня, пачала складваць на паднос пустыя кубачкі, потым падышла да мяне і даволі гучна спытала:

— Вы будзеце піць ці забіраць?

Гэта апошняе, не самае прыемнае ў любой гаворцы слова, прагучала для мяне сапраўды страшнавата.

— Забірайце! — кіўнуў я галавой. І тут не выцерпеў прэм'ер, пэўна, добра мяне зразумеўшы:

— Молодой человек по утрам кофе не пьет, — коратка падшпільнуў ён, і гучны смех адразу памяняў твары дужа засяроджанага журналісцкага гурту.

Пасля гэтага і разыходзіцца нам было не так сумна, бо заданне было дужа сур'ёзным. На яго давалася некалькі дзён, і кожны вызваляўся ад сваіх службовых абавязкаў.

Выступленне для прэм'ера ішло тугавата. Філасофіі тут не патрабавалася, не ішлі ў разлік ніякія лірычныя адступленні. Але кожны пісаў з адзінай думкай: «Ну, я здзіўлю, ну, я выдам такое».

Праз некалькі дзён на Чырвоную, 4 падкаціла машына прэм'ера. Ён прыехаў запісваць ужо гатовае выступленне. Дзіўна, але ніводнае з маіх слоў і з таго, што пісаў мой калега Анатоль Пётух, ды і астатніх, мне знаёмых, у тое выступленне не трапіла.

* * *

Не ведаю, як для ўкраінскага чытача, а для нашага беларускага паэма ўкраінца Міколы Нагнібеды «Матулям з Расонаў» была поўнай нечаканасцю. Пра беларускія трагічныя падзеі часоў апошняй вайны, дзе рэквіемна згадвалася і пакутніцкая смерць маці П. М. Машэрава, пісаў не наш паэт, а сябра з Украіны. Не ведаю, колькі часу пайшло ў аўтара на стварэнне паэмы, а перакладаць яе трэба было тэрмінова. Паэму ставілі ў свае ўжо гатовыя нумары тры тоўстыя літаратурныя часопісы. Для «Полымя» твор перакладаў даўні сябра Нагнібеды Анатоль Вялюгін. Кінуў усё «адмірал паэзіі» і засеў за

пераклад. І, здаецца, здзейсніў яго за адну бяссонную ноч. Я тады працаваў у аддзеле крытыкі і літаратуразнаўства часопіса, і ўсё адбывалася на маіх вачах. Раніцой вялюгінаўскі пераклад ужо друкавала рэдакцыйная машыністка. Перакладчык тут жа вычытваў тэкст і па гарачых слядах рабіў нейкія праўкі. Пераклад быў зроблены па-вялюгінску бездакорна і, як сёй-той адзначаў, гучаў нават «магутней», чым арыгінал. Паэму тут жа ўслых чыталі ў рэдакцыі, перакладчык быў трыумфальна ўстрывожаны. Можна зразумець Анатоля Сцяпанавіча: ён ведаў, што пераклад будзе ўважліва чытаць сам кіраўнік рэспублікі. Ужо збіраліся адпраўляць тэкст у друкарню, як зазваніў тэлефон у галоўнага рэдактара Кастуся Кірэенкі. І галоўны, і перакладчык, ён жа загадчык аддзела паэзіі, сядзелі тады ў адным пакоі. Кастусь Ціханавіч падняў трубку, і вясёлы выраз ягонага твару адразу прыкметна змяніўся.

— Так-так. Зразумела! — адказаў ён казённымі словамі. Галоўны сумна паклаў трубку, і тут жа тое «зразумела» сталася зразумелым для ўсіх нас.

— Так. Пераклад у друкарню не адпраўляем, — глухавата прамаўляў Кірэенка. — Званілі з ЦК. Ёсць другі пераклад — Пімена Панчанкі. Загадана друкаваць яго. Усе з нейкай няёмкасцю, ці спачуваючы, ці шкадуючы, сачылі за выразам твару Анатоля Вялюгіна. На ім чыталася нешта незразумелае. Адчувалася, як, перамагаючы сябе, паэт стараецца быць спакойным. Але ж збоку ўсё відаць. Нават па тым, як курыць вядомы майстра паэзіі, адчуваецца, што на душы ў яго неспакойна.

— А як жа з..? — спрабуе хтосьці заікнуцца. І тут усё вырашае новы званок з ЦК. Пакрыўдзіўшы аднаго, там вырашылі «нікога не пакрыўдзіць». Пераклад Анатоля Вялюгіна тут жа адвезлі ў «Маладосць», не менш тады папулярны часопіс для маладых. Так лістападаўскі нумар «Полымя» за 1979 год выйшаў з паэмай М. Нагнібеды ў перакладзе П. Панчанкі, а чытачы «Маладосці» знаёміліся з творам у перакладзе А. Вялюгіна. Не бяруся сцвярджаць, чый пераклад лепшы. Можа, лацвей весці гаворку пра сам арыгінал. А ў «Нёмане» быў рускі варыянт паэмы ў перакладзе Браніслава Спрынчана.

Ніякага чытацкага «шуму» твор украінскага аўтара, здаецца, не нарабіў. А самае галоўнае — ніхто ні з кім не пасварыўся. Не ведаю толькі, ці перакладалі калі ў нас які твор тры аўтары адначасова.

## Трапіць на вусны

У студзені 1977 года, працуючы на радыё, я рыхтаваў рэпартаж з творчага вечара, прысвечанага шасцідзесяцігоддзю Міхася Калачынскага. Вечар ладзілі ў Талачыне. «Талачынскі Калачынскі», — жартавалі мы ўсю дарогу, хоць сам ён і з Крупак. Зала была перапоўненай. Урачыстасць падагравала і прысутнасць гераіні паэтычнай кнігі юбіляра «Докшыцкі каравай» Ульяны Крышталевіч. Сам я на той вечарыне «засвяціўся» і як выступоўца, і як аўтар будучага рэпартажу. Шумным, цікавым і вясёлым атрымалася тое ўшанаванне, асабліва яе другая застольная частка. Сталы дэманстравалі моц і сілу беларускага застольнага госцеразгару, уменнем здзівіць і смакам, і водарам. Гэта была толькі першая частка неафіцыйнага святочнага мерапрыемства, другая працягвалася ўжо ў гасцініцы. Была, здаецца, і трэцяя частка, ужо ў дарозе, калі вярталіся ў Мінск.

Праз дзень, насунуўшы на вушы слухаўкі, я сядзеў у студыі і выбіраў з усяго запісанага на плёнку самае «смачнае». А неўзабаве рэпартаж з вечарыны прагучаў у эфіры, і я задаволена пацяшаўся тым, што вось дагадзіў аўтару-юбіляру, што пра ягонае свята даведалася ўся рэспубліка. Аж тут выклікаюць да вышэйшага начальства.

— Што гэта ты ўтварыў? — строга спыталі мяне.

— Што я такое ўтварыў? — спалохаўся адразу.

— Ты рассакрэціў дзяржаўную таямніцу, больш таго — таямніцу ваенную. Увесь Галоўліт цяпер толькі і трубіць аб гэтым, — крычаў, нервова тупаючы па пакоі, начальнік. Не адразу дайшло да мяне, у чым жа мая віна. А была яна ў тым, што ў выпускным лістку, які заўсёды чытае дыктар, але не чытае ўсёвідзячы цэнзар, было напісана: «На вечары прысутнічалі рабочыя, калгаснікі, воіны Савецкай Арміі…»

— На хрэна табе былі тыя воіны? — крычаў начальнік. — Ты што, не ведаеш, што ў раённых цэнтрах яны не павінны быць.

Выходзіць, я вінаваты, што ў Талачыне яны былі. Мая страта пільнасці каштавала добрага наганяю не толькі мне, але і майму начальству. Але на гэтым усё не скончылася. Я адразу стаўся «героем» усіх вялікіх і малых нарад. Дзе толькі не зойдзе гаворка пра журналісцкую пільнасць, тут адразу ж згадваюць і маё прозвішча. Але ж як згадваюць! І цягнулася так бясконца. «Няўжо ж ніхто пасля мяне так і не правініўся?» — думаў я часамі. Выходзіла, што ніхто.

Мінула некалькі гадоў. І сам я даўно ўжо забыўся пра той выпадак, ды вось на адной з нарад чую: «Павучальны тут выпадак з Камейшам…» І ўсе, хто сядзіць у зале, адразу паварочваюцца ў мой бок, нават тыя, хто не ведае мяне.

Не выцерпеў я, адразу ж пасля тае нарады пайшоў да таго, хто зноў папракнуў мяне ў «страце пільнасці».

Начальнік, якога ніколі не бачылі без цыгаркі, прапанаваў цыгарэціну і мне, ды неяк весела крутануўся ў крэсле. Тады я і выказаў яму сваё крыўдаванне:

— Ну, колькі ж можна, Міхаіл Андрэевіч, згадваць даўно мінулае і забытае?

— Усё правільна, — адказаў ён. — Пара і забыцца. Але ж дужа спадручны прыклад. Ты ведаеш, як страляе!..

І рассмяяўся. А прыклад той, як мне казалі, яшчэ не раз «страляў». Добры прыклад бывае даражэйшы за падарунак.

* * *

Паэты маюць звычку занатоўваць свае думкі на чым толькі можна, што трапіць пад руку: на абрыўку газеты, на пачку ад цыгарэт, а то і на нейкім квітку, і ўжо ў самым крайнім выпадку — на грашовай купюры. Бо думка тая, як птушка, толькі выпусціў — і ўжо можаш не зладзіць. Колькі разоў даваў сабе зарок насіць у кішэні хоць нейкую запісоўку. Дзе там, заўсёды не да яе. Запісваю ўсё на тых жа абрыўках-паперках. Часам іх набіраецца цэлыя кішэні. Сядзіш тады, перабіраеш, перачытваеш, нешта выпісваеш, а потым кідаеш у печ. Раней думаў, што я такі адзін. А потым пераканаўся, што падобных да мяне многа.

Неяк, яшчэ ў свае маладыя гады, спяшаўся на працу, у рэдакцыю. І толькі гэта намерыўся заскочыць у трамвай, як пачуў голас Алеся Ставера:

— Казімір! Куды так спяшаешся? Пачакай, братачка, пагаворым. — А сам бачыць, што спяшаюся на працу.

— Ды пачакае тваё радыё, — кажа. — Давай во пройдземся па паветры, пагаворым.

І так шчыра просіць, што цяжка адмовіць. Угаварыў. І пайшлі мы з ім пешшу па ўсёй Даўгабродскай. А з Алесем ідучы, дужа не разгонішся. Ступае ён, не спяшаючыся, прыкульгваючы, як кажуць калегі, па-байранаўску. Так і тэпаем, пра нешта гамонячы, а я сам сабе яшчэ злуюся, хоць і не паказваю гэтага. Заўважыў, што ідзе ён неспакойна. Дзе на шляху ўбачыць урну са смеццем, кідаецца да яе, нават руку туды засоўвае. А я ўсё бокам-бокам паўз яго: яшчэ чаго добрага падумаюць, што бутэлькі збіраем. Такім вось чынам датопа-

лі ажно да «Вячэрняга Мінска». І тут, на самым рагу дома, ён убачыў чарговую урну. Ды як кінецца да яе. Сунуў руку, крыху пакалупаўся, ды як закрычыць:

— Ура!.. Знайшоў!..

Нехта з прахожых азірнуўся. А ён ідзе да мяне, разгортвае пакамечаную паперку, вочы ззяюць ад шчасця:

— Гэта ж, братачка, я тут такую думку запісаў, а потым разам з пачкам цыгарэт і выкінуў… Не запомніў, у якую сметніцу. Але, бачыш, знайшоў. Ах, як добра… Ну яна ў мяне цяпер выбухне!

І тут жа адразу пачаў развітвацца:

— Ну то ўжо ідзі. Не буду цябе затрымліваць.

Я развітаўся і сам сабе падумаў: «А навошта ў гэтым творчым пошуку патрэбен быў я?» Хоць за паэта радасна: добрая думка і сярод смецця не губляецца.

* * *

Паэт А. лічыў сябе шчаслівым чалавекам. Пісалася яму лёгка, выдавалася таксама. За тую ж творчую капейчыну мог утрымліваць немалую сям'ю. У маладосці ён часта сустракаўся, падымаў чарку з А. Твардоўскім, М. Ісакоўскім, А. Пракоф'евым. Часам паказваў знаёмым, ганарыўся кнігамі з іх цёплымі аўтографамі. А неяк паэту патэлефанавалі з букіністычнага магазіна і папрасілі неадкладна зайсці. Дзеля чаго, не сказалі. Паэт хуценька апрануў свой шляхецка-чысцюткі гарнітур і накіраваўся да магазіна.

У кнігарні загадчыца паказала яму тыя самыя кнігі з аўтографамі рускіх класікаў, якімі ён дагэтуль хваліўся перад іншымі.

— Вы і праўда прадаяце гэта багацце? — здзівілася загадчыца.

Гневу паэта не было меры. Кнігі яму, вядома, вярнулі. А хто ж тады асмеліўся аднесці іх на продаж? Казалі, што гэта былі паэтавы дзеці.

* * *

Жаданне друкавацца… Што гэта такое? Найлепш пра тое ведаюць тыя, каго не хочуць друкаваць. У жыцці мне даводзілася бачыць самых розных рэдактараў. Памятаю тых, што скрупулёзна правілі, нават перапісвалі чужыя тэксты. Сустракаў і тых, што бракавалі і не давалі ў друк вартае таго друку. Ведаў і самых розных аўтараў. Аднаго перапішаш так, што ад яго і кропкі не застанецца. А ён табе і слова на гэта гнеўнага не скажа: абы надрукавалі. А іншаму адно толькі слова падкрэсліш: на дыбы становіцца. І ўсё ж сяму-таму хочацца дапамагчы, выцягнуць ці падцягнуць, асабліва калі гэта аўтар малады. Добра, калі і ў рэдактара, і ў аўтара ёсць узаемапаразуменне. Горш, калі яго няма. Самых розных прыкладаў і таго, і другога было ў маёй рэдактарскай працы нямала.

Вось і зусім нядаўна, вырашыўшы падтрымаць аднаго правінцыйнага вершатворцу, паправіў некалькі ягоных радкоў, прыбраў русізмы. І твор з'явіўся ў друку. Думаў, аўтар будзе ўдзячны. Але неўзабаве атрымаў гнеўны ліст. У мой адрас сыпаліся самыя нечаканыя пагрозы. Урэшце аўтар гразіўся падаць на мяне ў суд за яго сапсаваны верш. Вось і сяджу, і чакаю судовай позвы, спадзеючыся, што суд будзе справядлівы.

* * *

Графаманія — хвароба таксама злаякасная. На жаль, і самі хворыя, і лекары яе часта замоўчваюць.

* * *

На пасляваенным пушчанскім хутары паперы не было, і заядлыя курцы дапальвалі апошнюю старонку з маёю калыханкаю. А заклапочаная гаспадыня, захінуўшы ў нейкую анучу, хавала ў запеку стары зачытаны лемантар, прыгаворваючы: «Што ж гэта будзе, калі справа дойдзе і да яго».

* * *

Гэтыя кудзелістыя навальнічныя аблокі чамусьці нагадваюць разбэрсаныя, узарваныя ветрам кудлы д’ябла.

* * *

Стол быў густа прапячатаны застыглымі кружочкамі ад вінных шклянак. Нават адчувалася, што тыя спрачаліся паміж сабой.

* * *

Не такая ўжо гэта велікадушнасць кінуць вясёлым галубам кавалак сухога батона, куды высакародней запрасіць на начлег бамжа.

* * *

Паэзія правяраецца крытыкамі, а сяброўства — дарогамі.

* * *

Усё пад націскам часу ці губляецца, ці згладжваецца ў памяці чалавека, але ніколі з яе не знікае. Ляжыць дзесьці там, прытаіўшыся на нейкай паліцы, як забыты рукапіс. А здарыцца, і аднойчы прачнецца ад нейкага штуршка ці выплыве нечакана з нейкага дзіўнага сну.

Сёння, недзе пад раніцу, калі сны самыя моцныя, прысніўся мне былы шафёр М., з якім мы калісьці змералі нямала кіламетраў па дарогах Беларусі. Прысніўся без машыны і дарогі, у нейкім чужым лесе, але такі зацяты, марудлівы ды ўпарты, якім потым і паўставаў з памяці.

Дзіўнаваты быў чалавек. Яго службовую шэрую 21-ю «Волгу» даўно можна было здаваць на металалом, ужо і бярозка на прагніўшым заднім крыле пачынала расці, і верх увесь пад сонцам і дажджом стаўся невядома якога колеру, а ён усё ездзіў на ёй, вазіў нас, здатных да прыгодаў журналістаў. Паважліва бярог і баяўся, каб не зліняў на дзверцах надпіс — «Белрадыё». Дзе б і колькі ні спыняўся, а перш чым сесці за той самы рулявы абаранак, некалькі кругоў зробіць вакол самога самахода, абгледзіць-абмацае ўсё і зверху, і знізу, і з бакоў і толькі тады пачне заводзіць матор. І ніхто яму тут не пакамандуе, над ім камандзіраў у дарозе няма. Ты яму нешта кажаш, а ён глядзіць на цябе і ўсе твае словы прапускае міма вушэй. Характар!

Машына была абсталявана так, што правае месца ад кіроўцы займала высокая скрыня з магнітафонам. У дарозе яна заўсёды зачахлёная ў зялёны брызент. А ззаду на прасторным трохмесным, седлаве калышамся мы з тэхнікам гуказапісу. Было ля нас яшчэ адно вольнае месца, якое часта адда-

валі шчасліваму спадарожніку. Любіў М. пасажыраў-спадарожнікаў, асабліва пажылых кабет. З тых і капейчына нейкая на гарбату будзе, і навін тутэйшых пад самую завязку хапае.

Дарога з М. заўсёды здавалася доўгаю, а іншай яна і быць не магла. Стрэлка спідометра старой дабітай машыны рэдка калі перацягвала за лічбу шэсьдзясят. З М. добра было ехаць пасля бяссоннай ночы, аддаючыся дарожнай дрымоце пад вуркатлівую калыханку, што спявалі матор разам з дарогаю, зрэдку расплюшчваючы вочы на чарговым выпадковым прыпынку. А прыпыняцца М. любіў ля кожнага сельмага. Адтуль яго ніякімі малітвамі не вырвеш добрую гадзіну. Зойдзе за парог, стане ля прылаўка і будзе стаяць ля яго, не зводзячы вачэй з адной кропкі, будзе абавязкова таўчыся вакол кабет-пакупніц, разглядаць, нават кратаць рукамі нейкі там крэпдэшын на сукенку, а то пачне вярцець у руках ды правяраць на звон просценькі фарфоравы кубачак. І не купіць нічога, пойдзе з пустымі рукамі, яшчэ доўга аглядаючыся на расчыненыя дзверы сельмага. А ў дарозе пашкадуе, што не купіў таго кубка і тут жа супакоіць сябе: «Нічога. Яшчэ ж назад вяртацца будзем».

Начных дарог не любіў. Колькі разоў, бывала, прыпынімся дзесьці на паўшляху, там жа, у машыне, і начуем, лаючы яго пры гэтым на чым свет і прадаючы дрыжыкі. Не паеду, кажа, нізашто. Яго, бачыце, машыны слепяць сустрэчныя. А іншых, што, яны не слепяць? Такі вось упарты. Таму, адпраўляючыся ў дарогу з М., заўсёды бралі і штосьці трапічна-моцнае для сугрэву, нават калі гэта была раніца — ці мала што ён выкіне на незнаёмай дарозе.

Усе, хто выпраўляўся з ім у тую дарогу, не прамінalі, каб пасмяяцца, сказаць нешта падколістае, нават здзеклівае дзіваку-вадзілу. І я не быў лепшым за іншых. Але аднойчы пасля зімовай, хоць і не надта далёкай, але цяжкаватай паездкі, мае адносіны да М. рэзка памяняліся.

Быў зімовы марозны вечар, ужо добра сцямнела, а мы кіраваліся з Івянца на Рубяжэвічы. У машыне толькі мы ўдвух — ён ды я. Спяшаліся, каб завідна патрапіць у мае Малыя Навікі, дзе меліся пераначаваць, аднак забавіліся, ледзь паўзлі па слізкай дарозе. Рубяжэвічы былі недзе яшчэ далекавата, за гарою, наперадзе леваруч выбліснула вечаровымі вокнамі вёска Буцькавічы.

І тут, не даязджаючы некалькі метраў да павароткі на яе, М. тармазнуў. Машыну крутанула, яна развярнулася, і перад яе памяняўся месцамі з багажнікам. М. асцярожна выраўняў машыну, а я ў святле фар убачыў чалавека, які ляжаў на ўзбочыне дарогі. Не ведаю, як М., а я разгубіўся.

— Трэба памагчы чалавеку, — сказаў М.

Мы выйшлі з машыны і падышлі да чалавека, які ляжаў. Гэта быў мужчына, ужо не малады, у цемры цяжка было і разлічыць, якога ён узросту. Мужчына спрабаваў падняцца, але гэта яму не ўдавалася, ён голасна мацюкаўся. А на каго, было не зразумела. Магчыма, і на нас.

— Ды п’яны ён, — зразумеў я адразу. — Не хапала нам яшчэ прыгод.

— Ну і што, хай сабе і п’яны, трэба яго ў машыну, — затупаў устрывожана М. — Чалавека кідаць нельга.

Мне хацелася запярэчыць, што не мы яго тут паклалі, але я прамаўчаў. Пачалі ўдвух падымаць нямоглага, цягнулі за рукі, нават штырхача далі пад бок. Мужчына быў высокі, грузнаваты. З вялікімі намаганнямі паставілі яго на ногі і сяк-так упіхнулі на задняе сядзенне. У машыне выратаваны адчуў сябе і зусім героем, пачаў нешта спяваць, кідацца ў абдымкі.

— Дзе ты жывеш? — нецярпліва дапытваліся мы.

— Вы мяне не чапайце, я вас перастраляю!.. — лаяўся мужчына.

— У Буцькавічах жывеш? — зноў перапытаў я.

Тут ён нібыта крыху працверазеў, нават арыенцір назваў:

— Злева, трэцяя хата.

Мы неўзабаве спыніліся ля трэцяй хаты. Там, за вокнамі, слепавата гарэла святло. Адчувалася, што працаваў тэлевізар. Мы пастукалі ў шыбіну. Тут жа з хаты, завязваючы на хаду хустку, выбегла жанчына. Скрыпнулі дзверы і ў суседняй хаце.

Мы адчынілі дзверцы машыны і паказалі на мужчыну:

— Ваш?

— А божачкі мае, — залямантавала жанчына, — забілі бацечку нашага, бандыты няшчасныя.

— Ды не забілі, а выратавалі, — супакойваю кабету. — А то замёрз бы на марозе такім…

— Спаць вунь улёгся на дарозе, — уставіў сваё слова і М.

— Дык чаго вы, паганцы, напаілі яго? — не сунімалася жанчына.

У грудзях у мяне закіпела нядобрая хваля.

— Хто яго паіў?! Мы першы раз яго бачым, — агрызаўся М.

Прыбеглі суседзі, дапамаглі выбавіць п’янага з машыны.

— Вы дзякуй людзям скажыце, што падабралі п’янтоса гэтага, — заступілася за нас суседка.

Я гатоў быў пабіць міласцівейшага М. за яго мяккацеласць і дабрыню. А ён усё паўтараў:

— Не, нельга кідаць чалавека, які б ён ні быў.

І пераканаў, супакоіў маё сэрца толькі потым, у дарозе. Дзякуй, здаецца, нам ніхто так і не сказаў.

«Вось табе і М., дзівак наш славуты, — развражаў я потым. — Не кінуў, бачыш, чалавека, не праімчаўся, адвёўшы вочы». А іншы б і ў той бок не глянуў: «Ляжыш, ну і ляжы сабе, твае гэта праблемы. Не я цябе паіў». Эх, ці мала сёння тых самых «іншых». І праязджаюць, і праходзяць раўнадушна, адвёўшы ўбок вочы, каб і, бачачы, не бачыць.

І мне, маладому тады, урок які адразу! Я і сёння з павагай згадваю шафёра М. і кажу сам сабе і ўсім астатнім: «Паболей бы нам, людзі, вось такіх дзівакоў!»

* * *

Почырк чалавека часта бывае падобным на яго паходку. І ніякімі ўрокамі чыстапісання, ніякімі пропісямі яго ўжо не паправіш.

* * *

Калі б з таго свету падняўся бацька, ён бы, напэўна, пасмяяўся з усяго таго, што зараз дзеялася ў гэтым свеце. А можа б, разгневаўся і зноў вярнуўся ў свой вечны сон. Гневацца ён умеў. А дзеялася на свеце гэтым вось што. Неўзбавае пасля смерці бацькі ўзнікла пытанне аб перапісе ўсёй маёмасці — і хаты, і таго, што ў хаце і вакол яе, на маці, бо ўласнікам, гаспадаром усяго, як і павінна быць, лічыўся ён, бацька. Вось тут усё і пачалося.

Паехаў я ў Стоўбцы, у тую самую кантору, дзе ўсё дзейства і павінна імем закона дакументавацца, а там мне — ад варот паварот.

— Шаноўны Казімір Вікенцьевіч, — кажуць, — «маёнтак» бацькаў на маці перапісваць не можам, хіба што на вас з братам.

— Як гэта? — уздыбіўся я.

— А так… Пакажыце дакумент, што маці ваша была ў шлюбе з бацькам!..

Заняло ў мяне адразу дыханне, адняло мову. Канечне, мы з братам — не дакумент. І тое, што бацька з маці душа ў душу пражылі больш за паўсотні

гадоў, не ведаючы сну і адпачынку цягнулі разам гаспадарскі воз, гаравалі і бедавалі, — таксама не дакумент. І тое, што пра гэта ўсё не толькі ў нашай вёсцы ведаюць людзі і могуць пацвердзіць, — таксама дакументам не лічыцца. Патрэбна тая самая дзяржаўная паперчына з пячаткай. А яе ў маці не было. У сельсавеце свой шлюб засведчыць бацькі, вядома ж, не маглі: не існавала проста ў вайну таго сельсавета. Шлюб бралі ў Дзераўнянскім касцёле. Запіс у касцельнай кнізе — гэта ўжо дакумент. Ведаю гэта, бо сам калісьці ўзнаўляў метрыку па запісе ў кнізе Рубяжэвіцкага касцёла. Там і дакладную дату свайго нараджэння даведаўся, а так да дзясятага класа хадзіў я на год маладзейшым за сябе.

І адправіліся мы з мамай у Дзераўнянскі касцёл. Старэнькі і ўжо нямоглы дзераўнянскі ксёндз сустрэў нас у плябаніі, і размова наша была хоць і працяглай, але не суцяшальнай. Метрычная кніга ў касцёле не захавалася. Не знайшлося яе і ў архівах. Знікла яна бясследна ў гады вайны. Вось цяпер і даказвай, што твая маці ёсць твая маці, а яшчэ — жонка твайго бацькі. Прыкладна гэтак я пажартаваў і гэтым пакрыўдзіў маму. Але даказваць усё ж давялося праз народны суд.

Гарачым ліпеньскім днём 1998 года, якраз у панядзелак, на раніцу якога было прызначана судовае пасяджэнне, мы ад’язджалі ў Стоўбцы. У маіх «Жыгулях» акрамя маці сядзелі яшчэ двое сведак: дзядзька Юзік, далекаваты сваяк па бацькавай лініі ды цётка Анця, добрая сяброўка маці, таксама ўжо ўдавіца. Перажываў я, баяўся за той суд: хто ж яго ведае, як ён усё вырашыць. А дарога ўжо на самым пачатку не абяцала нічога добрага. Толькі даехалі да Гуменаўшчыны, а гэта добрых пяць кіламетраў, як маці раптам схамянулася: дакументы дома забыла. А прыкмета даўняя што кажа? Калі вяртаешся, нешта забыўшы, — абавязкова не пашанцуе.

Мы вярнуліся, схапілі на стале мамін пашпарт, пенсійную кніжку. Да пачатку судовага пасяджэння часу яшчэ хапала. Яно было прызначана на дванаццаць гадзін. Едзем, а сведкі мае ўсё ахкаюць ды охкаюць.

— Што я буду гаварыць? — трывожыцца цётка Анця. — Дальбог, не ведаю.

— Скажы, што гулялі разам, маладыя. Помніш, як жаніліся, — падказвае дзядзька Юзік.

— Во-во, скажу, што каляжанкамі былі, — падхоплівае цётка Анця.

— І пражылі паўжыцця сцяна ў сцяну разам, — падказвае ўжо маці.

— А я раскажу, што быў на вяселлі вашым, — упэўнены за сябе дзядзька Юзік.

Гаворку нашу перапыняе новае нешанцаванне. Машыну рэзка тузанула і павяло. І я адразу зразумеў, што трэба мяняць кола. Спыніўся, хуценька выцягнуў дамкрат і пачаў падважваць машыну. Спушчанае кола памяняў хуценька на запаску. І мы зноў едзем, апраўдваючыся перад сабой і дарогай тым, што сёння ўсё ж панядзелак, не той дзень, каб вырашаць нейкія сур’ёзныя справы. Але што мы зробім, калі вырашаць іх трэба.

Каля будынка суда людна. Адны ў яго заходзяць, другія выхозяць, трэція толькі збіраюцца заходзіць. Людзі судзяцца. У цемнаватым доўгім калідоры шмат пустых крэслаў. Там, пры самых дзвярах, прыселі і мы, пачалі цярпліва чакаць сваёй чаргі. І неўзабаве дачакаліся. На пасяджэнне нас запрасілі ўсіх разам. І была гэта ніякая не зала, а проста рабочы пакой суддзі. Сам суддзя, мужчына сярэдніх гадоў, рабіў ураджанне чалавека прыемнага, заклапочанага, не было на яго твары нейкай напускной суровасці, якая б яму патрабавалася па чыне. Сваю гаворку ён пачаў, задаўшы некалькі пытанняў маці. А потым перайшоў да сведак.

— Ну што вось вы можаце сказаць па сутнасці справы? — падняў ён дзядзьку Юзіка.

— Я вам нагавару, вы толькі запісвайце! — выпаліў дзядзька.

Запісвала якраз сакратарка, маладая чарнявая дзяўчына.

— Вы гаварыце толькі па сутнасці справы, — паправіў дзядзьку суддзя.

— Я толькі па справе, — не стушаваўся дзядзька. — Ну я быў у Вінцука з Ядвіняю на вяселлі. Там, на хутары, гулялі…

— Якую-небудзь падрабязнасць з вяселля памятаеце? — пацікавіўся суддзя.

— Чаму ж не… Ужо ж вайна ішла. І партызаны там былі. І быў гэты, як яго, малы такі, з Беламошша. Дык ён, нечага раззлаваны, як падскочыць, як пальне з нагана па століі. Усе аж умлелі…

— Нікога не забіў? — усміхнуўся суддзя.

— Ды не. Але напалохаў…

— Ну і добра, — яшчэ больш павесялеў суддзя.

А дзядзька працягваў:

— Задзіра нейкі быў. Некалі ж, ведаеце, пане суддзя, ніводнае вяселле без бойкі не абыходзілася. А тут яшчэ вайна. Дык чаму б і не пальнуць?..

— Зразумела. Сядайце, — прамовіў суддзя.

Цяпер прыйшла чарга цёткі Анці.

— А што вы можаце сказаць па сутнасці справы? — лагодна звярнуўся да яе суддзя.

— Многа чаго магу, — пачала цётка. — Хто ў Малых Навіках Камейшы не ведаў? І гаспадар добры быў, і сем’янін, з Ядвіняй, маёй каляжанкай, значыцца, душа ў душу жылі, двое сыноў вунь вырасцілі…

— Ну а вы хоць вяселле помніце? — перапыніў яе суддзя.

— Чаму ж не. Дык я ж і ў касцёле была, як шлюб бралі.

І тут цётка кінулася ва ўспаміны. А суддзя мнагазначна паглядзеў на гадзіннік і ўрэшце прыпыніў свой допыт.

Вярталіся мы са Стаўбцоў у добрым настроі. Суд вырашыў матчыну справу станоўча. Дома мама накрыла стол. І цяпер тое, што трэба было казаць на судзе, лёгка і весела казалася пад чарку, якая ішла таксама лёгка і весела.

— Налівай, — падбадзёрваў мяне дзядзька Юзік. — Вінцука памянём. Ён во і памёр, не ведаючы, што Ядвіня не яго законная жонка.

— Гэта ж і праўда, — падхапіла ўжо цётка Анця. — Ніхто ж і не падказаў, каб замальдаваліся потым у сельсавеце.

— Усё было б законна, калі б не згубілася тая касцельная кніга, — адставіў убок чарку дзядзька Юзік.

З-за стала ён падымаўся з цяжкасцю. Калі я праводзіў яго дамоў, ён плакаў і згадваў нешта сваё. Ішоў пахістваючыся, часта спыняўся і, абдымаючы мяне, усё паўтараў:

— А суд мы выйгралі!

Да хаты нашага галоўнага сведкі мы ішлі доўга і прыйшлі, калі ўжо добра звечарэла.

— Зойдзем да мяне. Я цябе пачастую такой збажуўкай, — цягнуў мяне дзядзька ў хату. Я адмаўляўся. А ён настойваў. Нарэшце махнуў рукою:

— Ну ладна. Ступай. Толькі кола не забудзь заклеіць. Без запаскі на машыне толькі неразумныя ездзяць.

* * *

БДУ. Як магічна гучала для мяне гэта абрэвіятура ў першы год майго студэнцтва! Гэта надавала мне больш чым трэба ганарыстасці. І вось аднойчы

тупаю, сышоўшы з аўтобуса, да сваіх Малых Навікоў. А хады будзе добры пяток кіламетраў. І ў спадарожнікі мне трапляецца высокі інтэлігентны незнаёмец. Разгаманіліся. Я пахваліўся, што студэнт, а яшчэ пішу вершы. А ён тут і давай мяне экзаменаваць. Пачаў цытаваць радкі:

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма…

Цытуе, а сам хітравата дапытваецца: «А ведаеш, чыё гэта?» Я не ведаў, ды і чуў упершыню. А ён, задаволены сваёй перамогай, ужо развітваючыся, сказаў: «А гэта, дарагі мой, Багдановіч». Мне было сорамна. З Багдановіча я ведаў хіба што верш «Слуцкія ткачыхі» па школьнай хрэстаматыі. Вярнуўшыся потым у Мінск, пайшоў у бібліятэку-«Ленінку», заказаў томік Багдановіча. Але верша, які цытаваў незнаёмец, здаецца, не знайшоў. Пра Багдановіча, як пра класіка, гаварылі тады яшчэ вельмі сціпла, ці не баючыся пакрыўдзіць двух ужо непахісна-трывалых класікаў. Але ж як сёння хораша ім у вялікім і пашанотным трыадзінстве! Ды і нам — таксама. Хораша і велічна ад іх вялікасці. А мне ўсё яшчэ сорамна пры ўспаміне пра незнаёмца на даўняй дарозе.

* * *

Хітраватыя дразды з самай раніцы выглядаюць ужо даспелую, адзіную ў нашым двары дачную чарэшню. Двое сядзяць на провадзе электраліній і так залівіста выспеўваюць свае вясёлыя песні, а іншыя гэтым часам кідаюцца незаўважна ў лісце і пачынаюць дзяўбці чорныя сакаўныя ягады. Адчыняю акно на другім паверсе і ў які ўжо раз сваруся:

— Я вам, хітруны, зараз паспяваю!..

А ў адказ нібыта чую такое:

— А хто табе за так спяваць будзе?!

Не скажаш ім, на жаль, што сам я апошнім часам вельмі шмат спяваю проста за так.

* * *

Вінаградная лаза каля майго дачнага дома выплела цэлы зялёны прыдомак. Пад яго зялёнай стрэшкай можна схаваць і машыну. Ну чым не гараж — ціха, утульна і густа, нават промень сонца і ліўневы струмень не праб’ецца. Гляджу, як чапляюцца за ўсё жывое і нежывое зялёныя выкручастыя кіпцікі, і на душы робіцца весела, як ад таго віна, што яшчэ будзе.

* * *

Сіняя гожая кветка, якой зацвіў баклажанавы куст на градзе, нагадала ордэн, што добра глядзеўся б на нейкай каралеўскай стужцы, але і каралеўству гарода яна таксама пасуе.

* * *

Чалавек, беднаваты на грошы, ходзіць заўсёды з думкай, як іх знайсці. Некаторым шанцуе, знаходзяць. Лепш за ўсё, вядома, натрапіць на нейкі

кашалёк. І хай бы яго згубіў які багаты чалавек. Багатага беднаму ніколі не шкада. З такою думкаю па жыцці хадзіў і мой знаёмы. І вось аднойчы ў далёкай і нуднай, на цэлы дзень, дарозе, калі недзе ў лесе дзяўчатам быў загад пайсці налева, а хлопцам направа, пад ялінкай, якую ён лашчыў сваім гарачым струменем, глянулі на яго пакамечаныя і немалыя па лічбах паперкі чужой валюты. Імі нейкі багацей чыніў тое, аб чым мне зараз сорамна пісаць. І заскакала заечымі скокамі ў чалавека сэрца: «Падняць ці не падняць?» Можа, усё ж падняць, а потым і адмыць тыя паперкі? Хто будзе ведаць? Але ж як агідна. Пастаяў, пакрывіўся, плюнуў і пайшоў. Перамог усё ж самога сябе. А потым нават хваліў сябе: «От які я маладзец, не спакусіўся, не падняў, перамог сябе самога». Як многа часам значыць для чалавека перамагчы сябе!..

* * *

Позні вечар на лецішчы пры глумна-вясёлым тэлевізары і ясным паскокванні агню ў стаяку. Сумнаватая невядомасць пра дзень заўтрашні, здаровы холад за дзвярыма знадворку і адна з нейкіх цёплых згадак пра вёску, куды, на жаль, не зазірнеш праз экран тэлевізара. Але думкі якраз імкнуцца туды. А куды ж ім яшчэ? І тут у вачах як бы між іншым учарашняе сцюдзёнае перадвечароўе з курлыканнем журавоў. Ах, як яны хораша выструненым ды завостраным жывым, развітальным клінам прачарцілі неба! Якая зладжанасць строю, руху крыл, плачлівага падгалосся! Ім адна дарога — у цяпло, на поўдзень. А мне сюды, бліжэй да стаяка з цяплом ды ўспамінамі. Балазе ўспамінаць ёсць што.

* * *

Карэспандэнт тэлебачання задае пытанне хлапчуку:

— Ці прагульваеш ты ўрокі?

— Ага, — кажа, — прагульваю. Учора беларускую мову прагуляў.

І засмяяўся. Э, хлопча, ты толькі нейкую гадзіну яе прагуляў. А намнога старэйшыя за цябе — цэлыя дзесяцігоддзі.

* * *

У ранішняй нядзельнай тэлеперадачы чарговы «герой» рыхтуе сняданак. Далікатэсных прадуктаў у яго цэлы стол.

— Зараз нешта такое зварыць, — кажа гаспадыня каля тэлевізара.

— З такім наборам і дурань зварыць, — скептычна махае рукой гаспадар. — Хай бы ён з тапара суп зварыў, такі разумны.

* * *

Ружовы дажджавы чарвяк у пальцах рыбалова малюе вачам даволі прываблівую серабрыстую рыбіну.

* * *

У веснавым садзе ўсё слепне ад дзіўнага святла. Май запаліў жырандолі расквітнелых яблынь. Дзіўнае бела-ружовае святло суквеццяў соладка раска-

лыхвае вясёлая, жыццесцвярджальная музыка пчол. Цёпла, светла, урачыста і велічна вачам і душы!..

* * *

Грады ў садзе зацярушаны сняжком апалых пялёсткаў. І па іх боязна ступаць маладому дажджу.

* * *

Павага да мурашкі, што цёпла паўзе па дачным стале, і непрыняцце мухі, якая, хітруючы, спрабуе сесці на акраец хлеба ў вашай руцэ.

* * *

У сённяшніх песнях словы страчваюць сэнс, а музыка — мелодыю. Як растлумачыць новым творцам, што, страчваючы, нічога не набудзеш?

* * *

Як пачуваецца птушка, што толькі-толькі звіла сабе гняздо і засялілася ў яго? Ніхто вам пра гэта, нават яна сама, ніколі не раскажа. Але чалавек можа зразумець гэта сваім жыццёвым вопытам, чалавечай дагадкай і радасцю.

* * *

Цёплы, з расой пасля дзённага дажджу, надвячорак. Выйшаў на ганак, і так захапіўся, расчуліўся салаўіным канцэртам. Ах, якія каленцы, пераломы ды пералівы! І гэта, відаць, на ўсю ноч. А душа, хоць і падпявае салаўю, а сама маркоціцца.

* * *

І бярозы, і сосны вельмі цудоўныя, песенныя дрэвы, але над імі так паздзекаваліся варвары ад паэзіі.

* * *

Якая высакароднасць — стварыць скрыпку, каб на ёй ігралі і шалелі ад славы іншыя, а цябе нават не ўзгадвалі!..

* * *

Пры самым пні, у пабітай вузлаватымі нарастамі старой бярозавай кары, у сухаватых яе баразёнках, ручаіняцца і прысалоджваюцца першым веснавым сокам мурашы. Часам рух іх мне нагадвае шумлівую мітусню густа заплеценых гарадскіх вулачак. Але тут усё пад знакам цішыні.

Хутка ўсё гэта скончыцца зялёным успыхам на выстуджаных за зіму кронах. Адно дрэва падпаліць другое. І ў кожнага — свой час. Сваім часам усё і цікавае. Свой час, напэўна, павінен быць і ў творцы. У кагосьці ён меншы, у кагосьці большы. А пра тое, што ён «свой», часта даведваюцца са спазненнем.

* * *

Пра паэта часта пішуць, абмінаючы яго асобу. Але нават адна дробязь з жыцця творцы бывае мацнейшай за ўсе аргументы крытыка.

* * *

Люблю слухаць, як шуміць, спрачаючыся з ветрам, наш амшарок, галіны якога ледзь не кранаюцца маіх вясковых акон. Шум гэты нагадвае часам хвалю марскога прыбою, што нябачна коціцца па самых верхавінах і перарастае ў магутны вал, дзе зліваюцца ў адно: і стогн, і трывога, і нават якаясь незразумелая пагроза, а то і нейкі напамін. Заслухаюся — і чую, што нечага мне не хапае ў гэтай з маленства знаёмай шумлівасці. Што ж гэта не дае спакою маім вушам, а заадно і душы? Ага, згадалася. Не хапае задумлівага гуду правадоў. А яны, ухапіўшыся за зялёныя шкляныя кубачкі на слупах, спявалі мне некалі такія мелодыі. Сумнаватыя, праўда. Вось і яны ўжо ў мінулым. А тыя, правіслыя, што разгоніста працягнуліся праз усю пушчанскую далеч, — тыя нямыя.

Але з'явілася іншая мелодыя. Яе спявае новая шаша-асфальтаўка за сцяной. Ды мяне, ужо даўно гарадскога, гэта музыка амаль не трывожыць. Урэшце, і шаша, і амшарок, і правады нагадваюць чалавеку пра адлегласці, якімі лучыцца гэты свет. А сама пушча ўвесь час нагадвае пра карані, якім тыя адлегласці ўсё ж чужыя.

* * *

Як добра, калі ты прачынаешся раніцой, а ў цябе пытаюцца:

— Што будзеш есці на сняданак?

А ці мала на свеце і тых, хто прачынаецца з ужо гатовым пытаннем: «Што ж я на сняданак буду мець у роце?» А ў ледніку ягоным — пуста, а то і ледніка таго няма, а ў кішэнях і вецер не гуляў. Але думае ён не пра нейкую там страву «ўсухамятку», а пра тую самую пахмельную кроплю моцы. Тут жа апранецца ды сунецца ў нейкую хату, як носам чуе, дзе вядзецца тая самая кропля, хоць заўсёды яна скупая, вымаленая. Вось ён заходзіць у хату, прысаджваецца на нейкі табурэцік пры парозе і пачынае казаць усё тое, што трапляе на язык, дзе пачутае, а дзе і для гэтага выпадку прыдуманае. А ў прагных вачах зусім жа выразна напісана: «Ну наліце вы мне грамулю». Але не кажа пра тое, хоць гаспадыня і сама ўсё бачыць. І паводзіць яна сябе так, каб даць зразумець чалавеку, што не налье яму. Наколькі нецярплівы ён, настолькі цярплівая і яна. Ну хто каго пераможа ў гэтым пачакальным спаборніцтве? Ужо ці не пятым кругам ідзе гаворка, а ён сабе сядзіць ды сядзіць. Потым возьме ды з неахвотаю зачарпне і вып'е ўчарашняй вады з вядра. І тут жа само знаходзіцца выйсце: убачыўшы, што ў вядры амаль пуста, тут жа схопіцца за дужку:

— Во, дык я вам вады прынясу.

І бяжыць да калодзежа. А гэта — як-ніяк паслуга. І за яе трэба плаціць. Недзе з нейкага закутка выцягне жанчына тую кроплю горкае муты́:

— На ўжо, глыні. Бачу ж, што трываць цяжка.

І вось павесялелі, зайгралі вочкі ў ранішняга госця і пасыпаліся з вуснаў такія абяцанкі:

— Я вам, цётка, і гною прывязу, і соткі заару, і…

— Добра-добра, заарэш, — ужо ледзь не гоніць яго кабета, ведаючы наперад, што гэта ўсяго толькі абяцанкі. — Ідзі, суседзе, ідзі! Мне пацеры гаварыць трэба.

Сусед хоць і ў касцёл не ходзіць, але з Богам сварыцца не жадае, а таму пацеры на яго дзейнічаюць. Малым і сам ён ведаў іх на памяць, часта яны і цяпер усплываюць самі па сабе ў галаве. Зачыняе дзверы ён нават з «дзякуем», а выйшаўшы з хаты, зноў задумваецца, на які б такі дымок, у які яшчэ дамок ды зазірнуць? Дзень толькі ж пачаўся…

* * *

Сын, калі прыязджае з горада, заўсёды разам з гасцінцамі прывозіць ёй і нейкія лякарствы. Яна, старая і знядужалая, ужо на адных тых аптэчных пігулках і трымаецца. Гэтым разам дастаў з сумкі і пудэлачак дарагой «ношпы». Яна дужа памагае матулі ў цяжкія хвіліны болю. Паставіла іх на стол пры ложку і па адной глытае, калі дужа забаліць. А тут забег гэты вясковы вісус, прынёс бабулі дроў, вады, яна дастала з шафкі бутэльку і наліла яму чарку. І вось сядзіць ён, нешта сваё расказвае, пацягвае ўжо другім разам чарку, а сам усё на пудэлак пазірае. Ён даўно чуў пра гэтыя дарагія таблеткі, за якія вясковыя кабеты аддаюць апошнія грошы. Калі гаспадыня недзе адвярнулася, ён схапіў той пудэлак дый сыпануў усё яго змесціва сабе ў кішэню, а яго паставіў на тое самае месца на стале.

Вечарам за тыя таблеткі ён падымаў ужо большую чарку ў іншай хаце. А ў гаспадыні гэтай хаты моцна забалела пад грудзьмі. Яна кінулася да пудэлка, а ён пусты. Заплакала. А потым усё гадала, хто ж гэта мог такое ўчыніць. Усе здагадкі сыходзіліся на ім. «Але ж за руку я яго не злавіла», — казала сама сабе. Сёння тая рука падымае чарку ў нейкай новай хаце, а ногі баязліва абыходзяць бабуліну хату.

* * *

Гэты незвычайны куст маліны нейкім цудам прыжыўся ў маім вясковым гародчыку. Бо дзевяць астатніх, якія прывёз ад аднаго свайго знаёмага мінчаніна, засохлі, а гэты, самы жывучы, чамусьці ўпадабаў тутэйшую глебу. Ягады на ім буйныя, на добрую трускаўку выглядаюць. Мама мая потым ледзь не з плачам расказвала мне:

— 34 ягадкі налічыла я на тым кусце. Ну, думаю, праз дзень выспеюць, тады і сарву. А праз дзень гляджу: толькі адна ягадка чырванее. Нехта збродлівы абарваў ноччу.

Здагадаўся я адразу, хто той збродлівы. Птушкі, вядома. Апярэдзілі старую. Толькі як іх лічыць — сваімі ці чужымі?

* * *

Я падпісаў нашаму вяскоўцу сваю сціплую кніжачку «Вячэрняя малітва». Дужа дарагая для мяне кніжачка, і выдаў яе наш славуты зямляк Анатоль Грэкаў у добрапрадуманай серыі «Мне сонцам свеціць Наднямонне». Веча-

рам вясковец адчыніў дзверы нашай хаты яшчэ раз. У вачах яго гарэла дужа падкрэсленая хітрынка.

— На во, паглядзі, якую кнігу выдаў мой пляменнік.

Я ўзяў у рукі сапраўды важкаваты, глянцава-бляскавы, у добрай фарбавай размалёве томік і зніякавеў: маім сціплым кнігам такія «адзежыны» і не сніліся. Адну з вокладак упрыгожваў партрэт пляменніка ў палкоўніцкай форме. Размашысты аўтограф зычыў: «Моему дяде на долгую память…» Ну а пра вершы казаць не буду. Думаю, чытач і сам здагадваецца, што гэта за вершы. Я перагартаў іх хуценька, праўда, на адным затрымаўся, бо там згадвалася маё прозвішча. Аўтар супрацьпаставіў чамусьці сваё майму. Гучала гэта прыкладна так: «Я, конечно, не Камейша, но пишу от всей души». Падколінка!..

«Можа, і праўда, Камейша піша не «ад усёй душы», — падумаў, напэўна, палкоўнікаў дзядзька.

Я гартаў атласныя старонкі, а ён хітравата сачыў за маім тварам і чакаў, што я скажу. І тады я сказаў тое, чаго ён не чакаў:

— Грошай няма куды дзяваць вашаму палкоўніку.

Пра вартасць самой кнігі я, вядома, прамаўчаў. Не ведаю, ці перадаў гэтыя словы ён самому аўтару, але сваёй падараванай кніжыцы мне стала шкада. А яшчэ горка падумалася вось пра што. Дажыліся мы да таго часу, калі чытачоў у нас зусім не засталося. Усе рынуліся ў пісьменнікі. Багатая і бедная графаманія святкуе сваю перамогу.

* * *

Унук з бабуляй, чакаючы мяне з далёкай дарогі, адкуль я павінен прывезці грыбоў і салодкіх чорненькіх ягад, што растуць у лесе, прыбралі мой рабочы стол, нават букет з рамонкамі на яго паставілі. Я падзякаваў за такую цёплую сустрэчу і выклаў свае лясныя падарункі: бярэмца зеляніны з матчынага гарода, вядро чарніц і добры кош залацістых лісічак. А ўнук з запытаннем:

— Прывет зайцу перадаў?

— А як жа, — смяюся. — Не толькі перадаў, я табе нават «зайцавага хлеба» прывёз.

— Ты што, дзед, здзекуешся з мяне, — пасур’ёзнеў унук. — Які ў зайца хлеб?

І, каб не засмучаць яго, расказаў пра трох казулек, што сёння праскакалі праз мой ранак, і пра тое, як ледзьве не наступіў на качынае гняздо ў густой траве пры канаве, і пра бусла, які клякоча на суседскім коміне. А сам зноў згадваў зусім іншае: сваё далёкае дзяцінства і той «зайцаў хлеб», які заўсёды прыязджаў разам з бацькам з пушчанскай зімовай дарогі. Цяпер мае лепшыя ўспаміны толькі і кормяцца тым «зайцавым хлебам». Унуку гэтага не зразумець. І падарункі мае, бачу, цешаць яго мала. У Міхаські сваё, больш сучаснае, чаканне бацькі з дарогі. Ягоны бацька прывозіць яму новенькую маленькую машынку. Рыхтык такую, якую хоча Міхаська. Ні ў адным гаражы свету няма столькі машын, колькі ёсць іх у пакоі Міхаські. А мне ўсё здаецца, што ў сваім дзяцінстве быў я намнога багацейшым за свайго ўнука: са мной, як вокам і сэрцам ахапіць, і днём, і ноччу была мая пушча.

* * *

Мадэльеры, і нашы, ды і сусветныя, сёння амаль не ўлічваюць тое адметнае, нацыянальнае, што вылучае чалавека з натоўпу агульначалавечнасці.

Аднак жа яшчэ ўсё не знікае грузінская кепка-аэрадром, узбекская цюбецейка, казахскі халат ды цыганская чырвоная касынка. Можа, і наш беларускі паясок яшчэ нагадвае пра сябе. Хаця абутак «з таго краю, дзе на дрэва ўзлазяць босыя, а злазяць абутыя» (А. Клышка), здаецца, заваяваў свет. Я маю на ўвазе тыя ж лапці.

* * *

Хітры засцянковец пытаецца ў малога хлапчука:

— Што робіць мама, калі ў печы не хочуць гарэць дровы?

— Тады мама бярэ паперу ці газы, — кажа малы.

А ў таго, што пытае, адразу сваё меркаванне пра самога гаспадара, які лайдакаваты, значыць, што і карчажак, смалякоў нейкіх для распалу не можа прыдбаць жонцы.

* * *

Ёсць і такі марны чалавечы занятак — як біццё мух. І палюе ён цэлы дзень з мухабойкаю за той, якая не толькі насміхаецца з яго, але яшчэ і здзекуецца. Але ж якая радасць, калі ўпалюеш!..

* * *

Суседскія войны часта разгараюцца з-за тых жа курэй. Здавалася б, усё добра было, жылі ў згодзе, акно акну ўсміхалася. А тут ён, рызыкоўны, дужа грабяністы ды шпорысты суседскі пявун, сабірае пад крыло сваю чубатую гвардыю і праз нейкае лазіва вядзе яе на суседскія грады. Гром і маланкі сыплюцца з суседавай хаты. Так і ўспыхваюць міжусобніцкія агні паміж двума дварамі.

* * *

Рубяжэвіцкая крыніца… Ёсць і такая. Гэта там, пры мосце, за старым млынам. І прыемна, і хораша цурчыць з трубы, недзе з-пад самай падрубы хаты, свежы і празрысты струмень. І збірае каля сябе чэргі люду. Спыняюцца загарэлыя шафёры і трактарысты, каб напоўніць свежым халадком нейкую пасудзіну. Нехта з вялізным малочным бідонам на калясцы, а хтосьці з вядзерцам. Нават сястру з тутэйшай бальніцы ўпрасілі хворыя, каб прынесла ім у спякотлівы ліпеньскі дзень глыток тае гаючасці.

І туды, і назад едучы, спыняюся і я. Ах, як прыемна ліецца па самым сэрцы той халодны струмень. Чалавек тутэйшы, на ровары, з дзвюма пластмасавымі пляшкамі ў «тэчцы» прыгаворвае:

— Во адна, сіротка, засталася. А колькі іх было некалі. Там, дзе сёння выкапалі возера, крыніца на крыніцы струменілі. І ўжо даўно няма. А хто ж вінаваты? Сам ён, чалавек, усё знішчае. Праўду кажа, і нават горкую. Высыхаюць крыніцы ў родным краі…

* * *

Нядзеля. Дачны сусед прачнуўся яшчэ да пеўняў і ўжо лупіць малатком па нейкай плешцы. Другі брыдка зудзіць газонакасілкаю. А трэці і проста брыд-

касловіць. А нядзеля ж з маёй душы выплывае дужа боскім, ціхім і лагодным святам. Ды і казалі як ласкава — «нядзелька». У нядзельку і ранішні блін больш сонечны, і яешня святлейшая, а нядзельную імшу ў касцёле чуюць самі нябёсы. Памятаеце ў Коласа?

Быў дзень святы. Яшчэ ад рання
Бліны пякліся на сняданне.
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці… Пад рукою
Таўкліся дзеці, замінаді,
Або смяяліся, спявалі…

І да самага вечара столькі цёплага, ласкавага, светлага і святочнага было ў нашай нядзелі. І не дай бог, каб хто якім малатком недзе грукнуў. Нядзеля пасылалася Усявышнім як дарунак за шчодры працоўны тыдзень. Жыццё, цяжкае і непрасветнае, толькі і асвятлялася тымі нядзелямі. У нядзелю сумна бывае мне на лецішчы.

* * *

Вёз учора мёд у слоіку. А пакуль даехаў дахаты, ён разліўся. Добрая палавіна выцекла ў поліэтыленавую торбу. Напілася мёду і мая «самапіска». Доўга прамываў яе вадой каля калодзежа. А мёд і зараз нейкімі тлустымі кроплямі праступае на джальцы-пяры. Думаў, можа, салодкае што пачне пісаць. Ды не, усё толькі сумнае ды горкае.

* * *

Чытаю дзённікавыя запісы Максіма Танка. І паволі ўжываюся ў Вільню 1935 года. Нават лёгка ўяўляю сабе віленскую летнюю ноч усё праз той жа цокат падкоў на брукаванцы. Нават гул матораў за мінскім акном не выбівае мяне з гэтага ўяўленчага стану. Я там, далёка, у маіх вушах гучаць толькі падковы. Гэта самота па іх кіруе і ўладарыць зараз над маёй душой.

* * *

Запамінаецца часам не сама дарога, а яе нечакана вострыя ды і крутыя завароты. Гэтаксама і думка, часта яна запамінаецца сваім нечаканым паваротам.

* * *

Называючы кіно «важнейшым з усіх мастацтваў», Ленін меў калі не рацыю, дык наперад глядзеў далёка. Не пасадзіш жа непісьменную бабулю за кнігу, каб чытала нейкі там нашумелы раман. А вось любавацца, як «жывыя балваны па сцяне скачуць», пойдуць і нават пабягуць і стары, і малы. Так, памятаю, і было некалі ў вёсцы, якая пачынала «прачынацца ад сну» з дапамогай заезджай кінаперасоўкі.

Мінуў час, і экран сёння ў сваім тэлевізійным абліччы так пацісну ўкнігу, што той і найшыкоўнейшыя «апрананні» не дапамагаюць. А доўгаграйныя серыялы, якія сёння бясконца круцяць па ўсіх каналах, набылі наркатычную

сілу. Ужо забыліся даўно тыя багатыя, што таксама «плачуць», а жанчыны, кінуўшы ўсё, бягуць глядзець цыганскую «Кармеліту». А тут яшчэ на поўную моц заявіў пра сябе Інтэрнэт. І ўжо мой вучоны сусед кажа суседцы:

— А навошта мне тая кніга, я і ў Інтэрнэце ўсё адшукаю, што мне трэба.

Так што трымайся, кніга! Цяжка табе зараз, а будзе яшчэ цяжэй.

* * *

Шмат чаго добрага і дрэннага ў гэтым свеце творыцца, дзякуючы зайздрасці.

* * *

Толькі гадзіннік можа ісці ў цемры, не спатыкаючыся.

* * *

Яго, занямонца-прымака, за доўгі нос-глюгу называлі не па імені, а глюгачом. За вочы, вядома. Глюгача асцерагаліся тутэйшыя мужчыны, і з перашэптамі ды нейкай дзіўнаватай цікавасцю прыглядаліся да яго жанчыны. А мудры стары вясковец казаў:

— Пажывём — пабачым, колькі тут не нашых насоў у гэтым свеце з’явіцца.

* * *

Колькі ўрэшце можна паўтараць, што жыццё — гэта рух. Рухаюцца нават тыя, каму няма чым хадзіць. Дрэва таксама рухаецца, бо расце. Сокі ў ім таксама рухомыя. Для руху існуюць тры прасторы: зямля, вада, неба. Як шмат чаго ў свеце павязана той самай трыядай. Але само жыццё чалавека замыкаецца толькі двума крокамі — першым і апошнім.

***Мінск—Рудзенск— Малыя Навікі***
***2009—2010***

## Мікола ЧАРНЯЎСКІ



* * *

Па-над Будаю,
Па-над Ліпаю
У нябёсах, у жніўнай цішы,
Зоры ноч,
Як з сявенькі, рассыпала
І ўтапіла ў прадонні душы.

А душа, бы ўтрапёная, леціцца
Ад цяпла, як ад ласкавых воч,
Ад каўша, што ў Вялікай Мядзведзіцы
Да світання пазычыла ноч.

Мне б туды,
Дзе са сцежкай няўлоўнаю
Знік у жыце ўчарашні мой след,
Поўню срэбную
Чашай поўнаю
У далонях трымае сусвет.

Мне б туды,
Дзе здзічэлаю грушкаю
Кут бацькоўскі у сэрца мне ўрос,

---

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

На арэлях маленства разгушканы
Сад увесь
Ад галін да нябёс.

Мне б туды,
Дзе світаннямі золкімі
Пугай хлеб зарабляў ад вясны,
Дзе з драчамі ды перапёлкамі
Вечары забягалі ў сны.

Мне б туды,
Дзе ўзбалотак з дурнічнікам
Нас купаў у сваёй сіняве,
Нават росы
На досвітку знічкамі
Трапяталі-зіхцелі ў траве.

Мне б туды,
Дзе ў ласкавасці дзіўнай,
Слёз нямала аддаўшы вайне,
З першым крокам,
Як маці, радзіма
Прытуліла да сэрца мяне...

Па-над Будаю,
Па-над Ліпаю,
Не заспаўшы у ночы ў гасцях,
Сонца зоры,
Як росы, выпіла —
Заспяваў і зайграў прасцяг!

Пеўнем
Сонныя веснічкі ўскрыкнулі.
Толькі дзе ты, над хатаю дым?
Мне б туды,
Дзе ўсё роднае, звыклае,
Мне б іх зноў расчыніць,
Як тады...

## СВЯТЛО НА ПАГОСЦЕ

Хто бачыў —
У бабы Уладзі
Праменіла сонца ў паглядзе,
Вясновая ўсмешка блукала,
Здалёк да сябе падклікала, —
Сінечай нябёс падзяліцца,

Парадавацца,
Падзівіцца.
Яе клапатлівыя рукі
Не ведалі ў працы прынукі:
Даілі, палолі, вязалі —
Спачыну ніколі не зналі.
Яе тупатлівыя ногі,
Здаецца, не зналі знямогі:
Няўседныя, поўныя сілы,
Яе як на крылах насілі
Ад ганка
Да дзялкі, да студні,
Ці дзень быў нядзельны, ці будні.
Спагадная, добрая, шчырая,
Ляцела, як птушка з выраю,
З гасцей, з сенажаці дахаты:
Там дзеці — яе птушаняты,
Там, пэўна, чакаюць унукі,
Каб зноў узяла іх на рукі,
З усмешкаю роднаю, мілай
Да сэрца свайго прытуліла,
Прылашчыла,
Пацалавала:
З пяшчотай і ласкай душу аддавала
І дзецям, і ўнукам,
Апошнім — найболей.
У Бога прасіла ім ласкі і долі.
Хто ведаў —
У бабы Уладзі, бывала,
Душа, як і пчолкі ў іх садзе, спявала.
Яе весялосці зайздросцілі госці...
Ды змоўкла душа
На асеннім пагосце,
Ды склаліся рукі,
Спыніліся ногі,
Нібыта ў спачынку ў чаканні дарогі
Па свеце,
Дзе вечнасць з людзьмі прамаўляе,
А ў пекла ці ў рай —
Толькі Бог выбірае...

……………………..................

Жвір,
Якім пасыпа́ла падворак,
Каб святлей каля хаты было,
Перабраўся грудком на пагорак,
Каб і т а м
Ёй спрыяла святло.

* * *

Глядзела сонца з-пад нябёс —
І я за гэтым сонцам рос.
І я за гэтым сонцам бег,
Свой рассыпаў дзіцячы смех:
Мне б узляцець,
Як сонейка, высока,
Праплыць, на крыгах быццам,
На аблоках.
А сонца —
ўсё вышэй, усё ярчэй,
За сінявой
Хавалася з вачэй.
А сонца промні сыпала ў душу,
Я вымаўляў:
«Пабудзь са мной, прашу,
Я ўсё перанясу як трэба,
Як дабяруся да цябе,
Да неба...»
Мне ўсё здавалася,
Што сонца чуе:
Вяртаецца ж, калі пераначуе
За лесам недзе,
У сваёй выгодзе,
Заружавеўшыся, як шар, на ўсходзе...
Ссівелы ўжо,
Я зразумеў, прызнацца:
Дзівацтва гэта ўсё —
За сонцам гнацца.
Ды не было б яго,
Як самі бачым, —
Дзіцячы свет
Не быў бы ім, дзіцячым,
Дзе ўсё ад сонца,
Ад бацькоў, ад Бога...
Вяртай часцей туды,
Жыцця дарога!..

* * *

Прачнуўся бор,
Закалыханы цішай.
Сінявай стужкай наплыла смуга.
На ўзлесак лось
З-пад шат паважна выйшаў —
З-за лесу сонца
Вынес на рагах.

Застыў на ўзлеску —
У птушыным храме,

Які звінеў ад мноства галасоў,
Які для спеваў
Адамкнуў рагамі,
Бы лесавік той —
Звязкаю ключоў.

* * *

Восень,
Каб за ёй замкнулі дзверы,
Сон вярнуўшы ўзлескам ды палям,
Як той дар,
Захутаныя ў шэрань,
Зноў ключы ўручыла жураўлям.

І ў падхмар'і з развітальнай песняй,
Што на выспах спела да пары,
Пад крылом
іх жураўлі панеслі
На журлівым і жывым шнуры.

Сум чужыны зведаўшы бязмерны,
На радзіму з выраю памкнуць:
Зноў ключы нябёсам родным вернуць —
У вясну ўжо дзверы адамкнуць.



Уладзімір ЛІПСКІ

# МУЖЫК

***Дакументальная аповесць***

*Настаў час, калі трэба разбудзіць у кожным з нас «спячую пупышку», каб яна стрэльнула жыватворным парасткам. Селянін — кармілец дзяржавы, корань нацыі, яе плоць і ядро душы. Дык дайце ж волю селяніну, мужыку. Хай вольна, творча працуе і дастойна, па заслугах атрымлівае за сваю гаспадарчую разваротлівасць.*

Аляксей Скакун

Хто ж гэты «садоўнік» Аляксей Скакун, які так па-дзяржаўнаму дбае пра «спячую пупышку»?

Хто ён, сённяшні мужык Аляксей Скакун, які так смела заступаецца за селяніна?

З якой гаючай крыніцы наталіўся ён ведамі, набраўся моцы і ўзвысіўся?

Чаму не збег з вёскі, калі ўсе валам ляцелі на гарадскі асфальт і займалі там хаця б якое-небудзь седала?

За што людзі паверылі яму і пайшлі за ім, і што яны маюць з гэтага?

Ці бачыць Аляксей Скакун з вышыні сваёй мудрасці райскае жыццё селяніна, якое задумваў сам Бог?

Каму перадасць мужык Аляксей Скакун лейцы сваёй сялянскай навукі, сваёй хрышчонай любові да роднай зямлі?

Сем пытанняў, як і сем дзён у тыдні, за якія Тварэц і ўдыхнуў жыццё на Зямлі, і стварыў першых зямлян — Адама і Еву, і паспеў прыгожа адпачыць.

Сем першых гадоў чалавек налiваецца сокамі духоўнасці, пазнае свет, вучыцца хадзіць, гаварыць, думаць. А тады яго вядуць у школу, пасылаюць удасканальваць веды, розум, пачуцці.

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З'яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар кніг прозы: «Аўцюкоўцы» (1995), «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Мы» (2006), «Янкаў вянок» (2009) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Аляксандра Грына, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001).*

Адзнака сем — высокі бал і ў цяперашняй ацэнцы вучнёўскіх ведаў.

Сем Я складваюць шматдзетную сям'ю.

Сем перыядаў жыцця, сем месцаў вучобы і працы Аляксея Скакуна. Менавіта на сёмым ён знайшоў сябе і стаў слынным на ўсю Беларусь мужыком.

Бачыце, сем — магічная лічба. Ёй я і пакарыстаўся, калі пісаў аповесць пра Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Партрэт яго выпісаны на сямі «палетках» жыцця. Як бы на іх апусціліся сем колераў нябеснай вясёлкі. Толькі яны, тыя колеры-фарбы ў майго героя — свае, адметныя, непаўторныя. Як і ўсё яго жыццё.

Які атрымаўся «севазварот» кнігі, меркаваць самім чытачам. Толькі б хацелася, каб жыццёвыя ўрокі майго героя ўстрывожылі тых, хто ідзе следам, хто перахопіць у спадчыну самы дарагі скарб беларусаў — нашу пакутную і грэшную, шчодрую і багатую зямельку.

***Аўтар***

# ПАЛЕТАК ЖОЎТАЙ ДАЎНІНЫ

## I. Скакунова крыніца

*Лишь трудом и борьбой достигается самобытность и чувство собственного достоинства.*

Фёдар Дастаеўскі

### 1. Дастойныя дастоеўцы

Дасціпныя чытачы адразу заўважаць: а чаму ў эпіграф вынесены афарызм самога Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага?

От і слаўна, што вы клюнулі на маю прынаду. Ведайце наперад: да ўсіх раздзелаў кнігі падрыхтаваны цытаты сусветна вядомага пісьменніка. Чаму? А таму, што карані Дастаеўскіх і Скакуноў з аднаго палетка — беларускага, палескага, дастоеўскага.

Не паверыце, з бацькоўскай хаты Аляксея Скакуна бачны ўзгорак, дзе некалі стаяў маёнтак дваранаў Дастаеўскіх. Дык чаму б гэту кароткую дарогу не асвятліць промнямі генія Фёдара Дастаеўскага? Чаму б не пашукаць і ў занятку нашага героя, дастоеўца Скакуна, свае адметныя вартасці, сваю паэзію сялянскай працы? А каб гэта здзейсніць больш пераканаўча, каб глыбей пранікнуць у духоўную крыніцу сучаснага мужыка Скакуна, давайце бліжэй зазірнём у дастоеўскі след Дастаеўскіх.

Захаваўся даўнейшы дакумент, выдадзены пінскім князем Фёдарам Яраславічам 6 кастрычніка 1507 года. Згодна з той Граматай князь падараваў свайму пану Даніла Іванавічу Ірцішчавічу некалькі дворышчаў у вёсках Дастоева, Палкоцічы, Парэчча, Востраў, Моладава.

Пачуйце голас старажытнай паперы, якая «писана у Пинску» і замацавана подпісам «его милости руки господаря короля и великого князя Жигимонта»:

«Я князь Фёдор Иванович Ярославич и с княгинею своею Оленою чиним знакомито сим нашим листом, кому будет потреба того ведати або чтучи его слышати. Дали есмо боярину нашему пану Данилу Ивановичу Иртищевичу имение… А дали есмо тому нашему боярину тое именье со всим с тым, што из старины к тем дворищом прислухало, с землями пашными и бортными, из их ловы, и з реками, и з луги, и з сеножатьми, и з озеры, и со всих тых земель входы. А волен тот боярин наш в том своем именью, в данине нашой, двор собе поселити и пашню вчинити, и млыны сыпати, как налепей может вчинити в том своем именью…»

Князь даў свайму баярыну Данілу Іванавічу пэўныя льготы, вызваліў яго людзей ад некаторых павіннасцей. Маёнтак дараваў «вечно и непорушно» яму, яго жонцы, іх дзецям — іх нашчадкам. Значыць, і нашчадак Фёдар Дастаеўскі мог бы карыстацца гэтым князевым дарам. І каб гэта здарылася, то прадзед Аляксея Скакуна Аляксандр служыў бы ў маёнтку Дастаеўскіх. Ох і мудрагелістую сетку з чалавечых лёсаў пляце пані Гісторыя!

З Даравальнай граматы ясна, што Даніла Ірцішчавіч — мясцовы баярын. Ён жа, бачыце, нечым выслужыўся перад князем і за гэта займеў добры кавалак зямлі на Піншчыне. А маёнтак збудаваў сабе не абы-дзе, а ў чароўных мясцінах каля паселішча Дастоева, дзе любіў адпачываць і сам князь.

Тут сяліліся і жылі людзі задоўга да таго, як Ірцішчавічы пераехалі сюды. Гісторыкі называюць 1452 год, калі вёска Дастоева ўпершыню згадваецца ў складзе Пінскага княства. А мясцовыя краязнаўцы абверглі гэту дату. Яны знайшлі надмагільны камень, на якім высечана дата — 1438 год. Але ж пад ім пахаваны тутэйшы жыхар. Ён жыў тут як мінімум паўсотні гадоў.

Адным словам, Ірцішчавічы пасяліліся ў абжытай мясціне, прывабнай і для адпачынку, і для асалоды райскай, і для працягу свайго радаводу. Пад уплывам, відаць, паважаных, дастойных людзей, якіх пінскі князь сяліў у Дастоеве, і самі Ірцішчавічы пачалі сябе называць і пісаць у дакументах Дастаеўскімі.

Па сённяшні дзень у Дастоеве жывуць нашчадкі дастойных Ткачукоў, Шаўчукоў, Кухарчукоў, Кавальчукоў, Бандарукоў, Гарбарукоў, Скакуноў. Продкі гэтых людзей няйначай як славіліся сваімі ўмелымі рукамі, валодалі вельмі ж патрэбным рамяством. А прозвішчы Бурак, Сахарчук ці не напамін, што непадалёк ад Дастоева, у Моладаве, быў заснаваны некалі першы на беларускіх землях цукровы завод.

У маляўнічыя дастоеўскія мясціны любілі наязджаць высокія, шаноўныя госці. Сведкамі таму ўрочышча «Граднае», дзе прыпыняліся княжацкія дружыны, урочышча «Сакільніца» — месца сакалінага палявання князёў. А рэчка Струга хіба проста так названа? Можа, каля яе дастоеўцы майстравалі драўляныя рачныя судны — стругі, якія з гэтай ціхмянай, рыбнай рэчкі выходзілі на прасторы Ясельды, Прыпяці, Дняпра.

Усім прыродным багаццем гэтага Божага куточка зямлі амаль два стагоддзі карысталіся Дастаеўскія герба «Радаван». З іхняга роду найбольш вылучыліся маршалак пінскі Пётр, падстароста оўруцкі Яраш, суддзя гродскі пінскі Пётр, падчашы пінскі Бенядзікт, харунжы валынскі Андрэй.

Найбольш уславіў сямейнае дрэва Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. Ён нарадзіўся ўжо ў Маскве ў сям'і лекара. За свае шэсцьдзесят гадоў жыцця і вучыўся, і праходзіў салдатчыну, і адбываў катаргу ў Омску, і быў прыгавораны да пакарання смерцю. А ўвекавечыў сябе, свой род і ўвесь свет чалавечы сваімі мастацкімі, філасофскімі, кранальнымі раманамі «Бедныя людзі», «Уніжаныя і зняважаныя», «Злачынства і кара», «Ідыёт», «Браты Карамазавы». Хто ведае, можа, па спадчынных генах, назапашаных стагоддзямі, перадаўся Фёдару Дастаеўскаму і талент продкаў, іх вопыт жыцця, ураджанне ад цнатлівай палескай прыроды, захапленне ад мудрасці і ўмельства дастоеўскіх мужыкоў.

Не збіраюся адбіраць хлеб у даследчыкаў творчасці Дастаеўскага, але выкажу сваю падсвядомую думку пра яго апавяданне «Мужык Марэй». Мне здаецца, яно напісана пад уражаннем нейкага далёкага аповеда-ўспаміну пра нашых, палескіх мужыкоў. Сюжэт у ім нібыта просты. Дзевяцігадовы хлопчык гуляў у густым кустоўі, а побач, на палетку мужык араў на коніку. І зрэдку чуўся яго вокрык: «Ну-ну!» Мужык узорвае зямлю. Хлопчык заняты сваёй гульнёй. Выломвае арэхавы дубец, каб палохаць ім жаб. Збірае жучкоў, казюрак розных. Ды раптам хлопчык скалануўся, як бы нехта крыкнуў: «Воўк бяжыць!»

Ён спалохаўся і сам з крыкам пабег на паляну да мужыка, які араў. Гэта быў Марэй, рослы і моцны селянін з цёмна-русай барадой. Фёдар Дастаеўскі апісаў тую нечаканую сустрэчу праз пачуцці хлопчыка і ўзвысіў мужыка:

«Он протянул руку и вдруг погладил меня по щеке.

— Ну, полно же, ну, Христос с тобой, окстись. — Но я не крестился; углы губ моих вздрагивали, и, кажется, это особенно его поразило. Он протянул тихонько свой толстый, с черным ногтем, выпачканным в земле палец и тихонько дотронулся до вспрыгивающих моих губ.

— Ишь ведь, ай, — улыбнулся он мне какою-то материнскою и длинною улыбкой, — господи, да что это, ишь ведь, ай, ай!

Я понял наконец, что волка нет и что мне крик: «Волк бежит» — померещился…

— Ну, я пойду, — сказал я, вопросительно и робко смотря на него.

— Ну и ступай, а я те вослед посмотрю. Уж я тебя волку не дам! — прибавил он, все так же матерински мне улыбаясь, — ну, Христос с тобой, ну, ступай, — и он перекрестил меня рукой и сам перекрестился. — Я пошел, оглядываясь назад почти каждые десять шагов. Марей, пока я шел, все стоял с своей кобыленкой и смотрел мне вслед, каждый раз кивая мне головой, когда я оглядывался. Мне, признаться, было немножко перед ним стыдно, что я так испугался, но шел я, все еще очень побаиваясь волка, пока не поднялся на косогор оврага, до первой риги; тут испуг соскочил совсем, и вдруг откуда ни возьмись бросилась ко мне наша дворовая собака Волчок. С Волчком-то я уж вполне ободрился и обернулся в последний раз к Марею; лица его я уже не мог разглядеть ясно, почувствовал, что он все точно так же мне ласково улыбается и кивает головой. Я махнул ему рукой, он махнул мне тоже и тронул кобыленку…»

Божа мой, у вобразе мужыка Марэя ўбачыліся мне мой дзед Янка і бацька Сцяпан, яскрава ўявіўся нехта з далёкіх продкаў Аляксея Скакуна, прыгадаліся ўсе нашы вясковыя мужыкі, грубыя, здавалася, цёмныя, неабгабляваныя, як дзікае дрэва. А калі ўзнікала неабходнасць, яны праяўлялі сапраўдную бацькоўскую пяшчоту. Іх тоўстыя, запэцканыя зямлёю пальцы рабіліся мяккімі, ласкавымі, надзейнымі. Яны, прыгонныя і бязвольныя, заставаліся цярплівымі і душэўнымі, жылі з надзеяй і любілі дзяцей, сваіх і барчонкаў. Веру ў дзяцей выношвалі пад сэрцам. Нашы продкі-мужыкі не ведалі раскошы, не ўмелі чытаць і пісаць. Ды ў той жа час былі высокаадукаваным народам. З яго асяродку выраслі таленты, якія жывяць нашу сённяшнюю яву. Вось што прачытаў я паміж радкамі апавядання Фёдара Дастаеўскага.

Мы стаім з мясцовым краязнаўцам, музейшчыкам Анатолем Бураком, як бы на тым даўнейшым, зжаўцелым палетку, які ўзорваў мужык Марэй, а можа, мужык Скакун. Здаецца, вунь з тых кустоў алешніку каля Стругі зараз выскачыць хлопчык і будзе выратавальна крычаць «Воўк, воўк!..» Мы кінемся да яго, а ён вопрамеццю да нас. У міг бяды людзі бягуць насустрач адзін аднаму, з падмогай і падтрымкай, са спачуваннем і міласцю. Так было, так павінна быць, калі хочам заставацца людзьмі, калі не баімся страціць пачуццё ўласнай годнасці.

Праз туман такіх пачуццяў бачу ўстрывожаны твар майго экскурсавода Бурака, чую яго заклапочаны голас:

— Вунь, на ўзгорачку, захавалася купка дрэў. Там і стаяў маёнтак Дастаеўскіх. Да яго вяла палявая дарога. Па ёй мы ў дзяцінстве з Лёшам Скакуном бегалі да таямнічых руін. Ніхто ж толкам не ведаў, хто там жыў. Казалі, паны нейкія. А да ўсіх паноў пры савецкай уладзе існаваў адзін прысуд: яны — міраеды, ворагі простых людзей. Вось і выкарчавалі запушчаны панскі сад. Ліпавую алею пусцілі на дровы. Не паверыце, нехта даў каманду, спілавалі

векавыя дубы, якія помнілі ўсіх Дастаеўскіх. І згарэлі тыя «сведкі» ў калгаснай кацельнай. Ох, цяжка… — Анатоль Іосіфавіч змаўкае, азіраецца наўкол, глыбока дыхае. — А пасля сюды прыгналі меліяратараў. Тыя ўсё зруйнавалі: і землі з-пад маёнтка ворывам зрабілі, і па прыроднай крынічцы плугамі прайшліся, і Стругу выпрамілі, і з балота жаб павыганялі і нават урочышча «Царкоўніца», дзе ў сямнаццатым стагоддзі стаяла драўляная царква, перакапалі, як краты сляпыя...

Падыходзім да той мясціны, дзе быў маёнтак Дастаеўскіх. Анатоль Іосіфавіч здымае шапку. Даўкія ўспаміны, як бы выбачальны сповед, выціскае з душы:

— У маленстве гулялі тут. У сырой, глыбокай яміне лавілі вінаградных смаўжоў. Там мо раней была рыбная сажалка. Вакол раслі кусты чаромхі, бэзу, крыху далей стаялі збуялыя кусты парэчак, агрэсту. Захаваліся парэшткі глыбокага склепа. Тут пазней з вучнямі рабілі раскопкі, знайшлі экспанаты для школьнага музея: відэльцы, лыжачкі, кавалкі кафлі, цагліну з адбіткамі пальцаў, манеты, фрагменты посуду…

Кажуць, адзін меліяратар выкапаў каля былога маёнтка старажытны куфар. Занёс дадому, схаваў яго. Як памёр, жонка прагаварылася:

— Там нейкія паперы ляжалі.

— А дзе яны цяпер?

— Мышы, ліха на іх, пагрызлі…

Але ёсць, слава богу, дзяржаўныя людзі, якія беражліва захоўваюць рэліквіі даўніны. У Цэнтральным архіве Украіны ў Львове знойдзены інвентар 1754 года, у якім падрабязна апісана сядзіба Дастаеўскіх у Дастоеве.

Давайце хаця б у летуценні пабываем у радаводным маёнтку продкаў Фёдара Дастаеўскага. Палявой дарогай праз сад трапім да панскага двара і фальварка. Сядзіба абнесена драўляным частаколам, а з боку параднай брамы — цагляна-каменнай сцяной. Галоўны ўезд збудаваны ў форме магутнага двух’яруснага гонтавага шатра. Тут варта спытае, хто вы і да каго завіталі. Служкі правядуць у двор, дапамогуць прывязаць коней да драўляных слупоў. Калі захочацца папіць з дарогі, да паслуг падарожнікаў і коней — калодзеж з гонтавым дахам. Крыху далей — драўляны маёнтак гаспадароў літарай «П». У ім — прасторныя сенцы, як прыёмны пакой, сталовая, зала для ўрачыстых прыёмаў, кафляная печка, шафа з посудам. У доме — пяць жылых пакояў, хатняя капліца, гаспадарчыя памяшканні. Асобна стаялі пабудовы з кухняй, каморай, канюшняй, карэтнай, склепам. У фальварку жылі абслуга, рамеснікі, чэлядзь. У паноў быў свой бровар, дзе рабілі квас, піва, гарэлку…

Дырэктар народнага музея Дастоеўскай сярэдняй школы імя Ф. М. Дастаеўскага настаўнік-гісторык Анатоль Іосіфавіч Бурак ужо каторы год марыць аднавіць сядзібу Дастаеўскіх. Там шыкоўна размясціўся б музей, бо тром тысячам экспанатаў вельмі цесна ў школьных сценах. Там можна было б мець гасцінны двор, кавярню і бровар з нацыянальнымі стравамі і напоямі, зробленымі па старажытных рэцэптах. Шматлікіх паломнікаў у былы маёнтак Дастаеўскіх маглі дастаўляць на конях, якіх разводзяць у СПК «Дастоева».

— Паверце, — пераконвае Анатоль Іосіфавіч кожнага, — увесь свет прыедзе ў Дастоева, каб пакланіцца Божаму куточку беларускага Палесся. Тут карані генія мастацкага слова. Адсюль пайшлі ў людзі і набылі вядомасць шмат выпускнікоў школы. Сярод іх — Скакун Аляксей Сцяпанавіч…

Маці Анатоля Бурака, доўгажыхарка Надзея Цімафееўна, падтрымлівае сына:

— Ага, так многа развялося сваіх, каб запусціў камень, то не трапіў бы ў чужога, ды ўсё ў свайго, — Надзея Цімафееўна па-маладому смяецца. — Глеба ў нас такая — растуць у Дастоеве дастойныя…

## 2. Радня ў сёмым калене

Адкуль Скакуны, калі з'явіліся ў Дастоеве? Хто з іх пачынальнік роду? На гэтыя пытанні адказваць, што іголку шукаць у стозе сена. Але можна і трэба шукаць, тады і пашанцуе.

Багатаму шанцуе часцей, яму падчас і воўк коней пасе. Паны маёнткі свае мелі, сямейныя гербы вызначалі, дваранскія, шляхецкія званні атрымоўвалі. Пра іх у старажытных дакументах часта згадваецца, як і пра Дастаеўскіх з Дастоева.

А ў мужыкоў біёграфаў не было. Яны, часам, не ведалі свайго дня нараджэння. Калі мужык здароў, то над ім — сем паноў, а як занямог, то адзін Бог. У спадчыну найчасцей перадавалі толькі пот, мазольныя рукі, ды неба над галавой.

Вось і мой мужык Аляксей Сцяпанавіч Скакун, хаця і вядомы ў Беларусі чалавек, а са свайго радаводу мог назваць самым старажытным толькі дзеда Васіля. Памяць прасеяла ўсе дробязі, засталіся агульныя звесткі:

— Дзед Васіль трымаў белага каня. Працавіты быў, гарушчы. Папросіць бывала: «Бэжы, запыні корову... Возьмі вэроўку, прынэсі дроў...» Паслухаю яго, а ён капейчыну дасць на кіно... Дзеда Воранам клікалі. Мо таму, што чарнявым быў?.. А ў каго ён чарнявым удаўся?..

Пытанне павісае, як дамоклаў меч. Аляксей Сцяпанавіч маўчыць, сорамна прызнацца, што нічога не ведае пра свой радавод. А я маўчу, бо не хочацца крыўдзіць шаноўнага чалавека далейшым роспытам, баюся, што абарвецца наша размова. А як жа пісаць пра чалавека, калі не ведаеш яго каранёў, якім жывільным сокам напаўняюць яны крону, галіны, лісце? Якое ўвогуле Скакунова дрэва? Як знітоўвае яно ўсіх Скакуноў, якіх сустракаў ці не ў кожным раёне беларускага Палесся.

Неяк начаваў у Брэсце. Сусед па гасцінічным пакоі ледзь у тэлевізар не ўлез, глядзеў, сачыў, як здаровыя хлопцы ганяюць мяч па футбольным полі. А я захапіўся тэлефонным даведнікам. Выпісаў у свой блакнот дваццаць тры сям'і Скакуноў. Яны жывуць на розных вуліцах Брэста, у вёсках раёна — Дамачава, Ляплёўка, Богданы, Кабелка, Падлужжа, Борысы. Паспрабаваў некаторым званіць, толькі растрывожыў душу. Ніхто не ведае пра свой род далей асабістага носа.

Значыць, трэба лезці ў архівы. Там пра мужыкоў мізер звестак. Хіба толькі, як пан купляў зямлю ці вёску з сялянамі, то ў купчых указваліся прозвішчы прыгонных. Яшчэ часам праводзіліся «по государевому велению» рэвізіі ўсіх маёнткаў. Вось у тых перапісах можна сустрэць прозвішчы парабкаў. А калі ўлічыць, што беззямельны люд быў зацугляны да пэўнага гаспадара, то з роду ў род яны і служылі яму, былі як бы прывязаны да яго паселішча. Ад нашых бедных продкаў нават прымаўка дайшла: «Лепей гніць у магіле, чым жыць на чужыне».

Мне пашанцавала, дарогу ў архіў праклала Галіна Аляксееўна Скакун. Яна таксама з Дастоева, але ўжо даўно жыве і працуе ў Мінску, выкладчык нямецкай мовы ў лінгвістычным універсітэце, кандыдат філалагічных навук. А яе падштурхнула да пошукаў радні нечаканае пісьмо з Даніі. Яго даслаў нейкі Скакон, які пісаў:

«Я вычытаў у Інтэрнэце прозвішча Скакун, мінскай перакладчыцы. Яе прозвішча нагадвае маё. Я ведаю, што нашы продкі з Усходу, з Беларусі ці Украіны. А болей нічога не ведаю...»

Галіну Аляксееўну зацікавіла гэта вестка. Яна чула, што яе далёкія продкі Цімох і Леўка ў 1855 годзе пайшлі ў армію і не вярнуліся. Служылі яны ў Эстоніі, а адтуль — рукой падаць да Фінляндыі, Швецыі, Даніі. Зусім магчыма, што адгукнуўся родзіч. Але на тым кароткім сігнале і абарвалася сувязь.

Цікаўлюся ў Галіны Аляксееўны пра самае галоўнае:

— А з Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном вы родзічы ці аднафамільцы?

— Архівы пацвердзілі: мы з ім — на адной радаводнай галіне, родзічы ў сёмым калене...

Даследчыца Скакуноў давярае мне нумары архіўных фондаў, вопісаў, спраў, і я літаральна лячу на Крапоткіна, 55, у Нацыянальны гістарычны архіў. Некалькі гадзін чакання, афармленне патрэбных заявак, і вось перада мной аб'ёмная гара папер, склееных, прашытых, пісаных умелай рукой пісара. Ну, няйнакш пад тысячу старонак. Гэта і ёсць «Ревижские сказки 1816 года, февраля 20, по Минской губернии Пинского повета».

Уяўляеце, тут перапісаны жыхары ўсіх вёсак Піншчыны. Божа, колькі ж у гэтых паперах захоўваецца тайнаў, пра якія нават і не здагадваюцца сённяшнія палешукі! А я цярпліва і няспешна гартаю старонкі, шукаю патрэбныя мне аркушы. О, на 154 старонцы сэрца маё замірае. Пачынаецца вопіс сем'яў вёскі Дастоева. Апісваецца, хто жыве ў хатах Івана Грыцава Бурака, Івана Сямёнава Сахарчука, Тодара Лукашова Кухты, Елісея Андрэева Антанюка...

Усяго на той час у Дастоеве 111 мужчынскага полу душ і 89 жаночага полу. А дзе ж Скакуны? Чаму ў іх няма сваёй хаты? Няўжо іх тады яшчэ не было ў Дастоеве?

Перачытваю прозвішчы ўсіх жыхароў яшчэ раз, як бы нанова заходжу ў іхнія хаты, здароўкаюся і перапытваю: «А ці няма сярод вас Скакуноў? Дзе яны жывуць? Іх мо забыліся запісаць?..»

Думаю гэтак і раптам аж ускрыкнуў у ціхмянай чытальнай зале архіва. Усе зразумелі мае эмоцыі, а зямляк, намеснік старшыні Рэчыцкага райвыканкама Віталь Атаманчук, які па тым часе быў у зале, падышоў да майго століка.

— Во, паглядзіце, напісана — Скакун!.. — паказваю яму архіўную старонку.

Віталь Генадзьевіч не да канца разумее маю радасць, а я даводжу яму, якімі завітушкамі вывеў пісар прозвішча Скакун, як урачыста, з густам выпісаў літару «С», як па-заліхвацку закруціў «хвост» у літары «к», як закончыў слова «цвёрдым знакам».

— Шукайце, і вы абавязкова знойдзеце сваіх Атаманчукоў! — падбадзёрваю свайго рэчычаніна.

Цяпер я не проста перапісваю знаходку ў свой блакнот. Мне яе пераздымаюць. І я пачынаю «смакаваць» адкрыццё.

Аказваецца, у сям'і Вакулы Ніканава Ламазы жыў яго зяць Іван Сцяпанаў Скакун. Яму падчас перапісу — 22 гады. Значыць, ён з 1789 года нараджэння. Па бацьку — Сцяпанавіч, выходзіць, род Скакуноў пачаўся са Сцяпана, недзе ў сярэдзіне васямнаццатага стагоддзя. Званю майму герою ў Астрамечава:

— Аляксей Сцяпанавіч! У вашага бацькі Сцяпана знайшоўся прародзіч, Сцяпан, заснавальнік вашага роду. Віншую!

Маўчыць мой мужык Скакун, не верыцца яму, якія тайны захоўваюць даўнейшыя паперы.

Ведаю, той далёкі продак Скакун Сцяпан не апошні ў радаводзе. Можна прадаўжаць пошукі ў глыбейшых нетрах гісторыі. Але я супакойваю сябе, што даволі і знойдзеных фактаў.

Дык вось, у каранях дрэва дастоеўскіх Скакуноў стаіць загадкавы Сцяпан. Ведаем толькі імя. Пра яго сына Івана архівы крыху прыадкрываюць заслону тайнаў. У 1816 годзе ён жыў прымаком у вёсцы Дастоева, у сям'і Вакулы Ніканава Ламазы. Яму на той час было 22 гады. Жанаты на Таццяне Ламаза, якой 21 год. У іх — дачка Ганна. Але што цікава, з Іванам, у сям'і

Ламазы, жывуць і яго сёстры Марыя, 14 год, і Лікера, 6 год. Можна зрабіць вывад, што іх бацькі на той час памерлі і галоўным у родзе стаў Іван. Памёр гаспадар Вакула Ламаза ва ўзросце 46 гадоў, у 1813 годзе. І ад яго засталіся малыя дзеці — Лукаш, Аляксей, Іван. Вось і атрымліваецца, што на маладыя плечы Івана Скакуна лёг увесь цяжар і сваёй сям'і, і сям'і Ламазы.

Адчуўшы, відаць, сябе поўным гаспадаром у хаце, Іван дбаў не толькі пра хлеб надзённы, але клапаціўся і пра дастойны працяг свайго роду. З пазнейшых архіўных крыніц даведаўся, што Іван Скакун ужо мае ў Дастоеве шматдзетную сям'ю: дачок — Ганну, Параскеву, Акуліну і сыноў — Данілу, Фёдара, Цімафея, Леўку, Міну. Вось жа, каб ажывіў іх усіх ды параспытваў няспешна, як склаўся іх лёс, атрымалася б новая кніга. Але ляжыць яна на тайных паліцах гісторыі, і ўжо, відаць, ніхто і ніколі не прачытае яе.

Нам жа ўдалося толькі ўдакладніць, што ад сыноў Івана Скакуна Данілы і Фёдара пайшлі дзве магутныя галіны дастоеўскіх Скакуноў. Сённяшнія, жывыя іх нашчадкі, нават сумняваліся, ці радня яны, а мо ўсяго толькі аднафамільцы. Але, мае харошыя, злучайце свае абедзенныя сталы, стаўце на іх лепшыя прысмакі, любімыя напоі і святкуйце дзень нараджэння. Хай гэта будзе першага сакавіка — дзень пачатку вясны, дзень народзінаў вашага Аляксея Скакуна, які ўславіў на ўсю Беларусь і сваё прозвішча, і усё дастоеўскае радаводнае дрэва.

Менавіта ад Данілы Скакуна, нараджэння 1827 года, з жонкай Фядорай Бурак пайшла развівацца сямейная галіна нашага героя. У Данілы былі дзеці — Таццяна, Якаў, Георгій, Сцяпан, Лука і Аляксандр. Ад Аляксандра пайшоў сын Васіль, 1892 года нараджэння, які і стаў дзедам Аляксея Скакуна. У Васіля дзеці — Ганна, Сямён, Іван, Сцяпан — бацька Аляксея. Пра ўсіх іх падрабязны аповед у наступным раздзеле. А цяпер вернемся і скажам, што ведаем, пра другую галіну дастоеўскіх Скакуноў, якой даў энергію Фёдар Скакун, 1822 года нараджэння.

Ад Фёдара пайшлі дзеці Міхаіл, Іосіф, Іван, Ганна, Агаф'я. Звернем увагу на Міхаіла. Ён, відаць, першы са Скакуноў, хто умеў чытаць і пісаць. Жыў у дзедаўскай хаце, у Ламазаў. Быў плытагонам. Ганяў плыты на Брэст, Торунь. Гадаваў бычкоў, вазіў прадаваць у Лагішын. Па капеечцы збіраў, каб купіць шнур зямлі і адбудаваць сваё дворышча. Пра такіх кажуць: «Калі суджана, вылезе і з лужыны». Вось і ён займеў свой кут і адзінага спадчынніка Мікалая.

У гады Першай сусветнай вайны Мікалай Скакун панюхаў пораху ліхалецця. Прывёз з фронту біблію. Стаў бацькам адзінаццаці дзяцей.

З дочкамі старэйшага яго сына Аляксея-краўца я сустракаўся ў Мінску. Нагадаю, Галіна працуе выкладчыцай нямецкай мовы ў лінгвістычным універсітэце, а Марыя — вядомая журналістка, аднакласніца Аляксея Скакуна, жыве ў Брэсце.

З Рыгорам Мікалаевічам Скакуном пазнаёміліся ў Дастоеве. Ён тут, як кажуць, на бацькавым грунце звекаваў. Пасля вайны служыў шэсць гадоў у арміі. А потым, ажно да пенсіі, працаваў у мясцовым калгасе. Яго заметкі за подпісам «бухгалтар, эканаміст» я часта сустракаў у раённай газеце.

Стаяць на дастоеўскай вуліцы два Скакуны — Аляксей і Рыгор — ды «мазгуюць», якая ж яны радня. А я з дапамогай архівістаў маю для іх падказку:

— Паважаныя, вы — блізкая радня. Рыгор Мікалаевіч і бацька Аляксея Скакуна Сцяпан — на адной радаводнай галіне, радня ў шостым калене. Можаце адзначаць гэту навіну!

Так і арганізавалася ўрачыстае застолле ў бязлюднай бацькоўскай хаце Аляксея Скакуна. Да месца была песня Ігара Лучанка, якая нікога не пакінула раўнадушным:

Зноў вяртаюся я да бацькоўскае хаты,
Дзе паветрам жыцця быў на крылы узняты,
Дзе гады мільганулі маланкай бліскучай,
Адышлі, нібы сон, сталі ранай балючай...

У той дзень, відаць, смачна ікалася ў Ляхавічах Усеваладу Мікалаевічу Скакуну. Яны з Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном прайшлі аднымі сцежкамі — тая ж школа, гродзенскі інстытут, праца ў сельскай гаспадарцы рэспублікі. Бывала, сустракаліся на партыйных нарадах у Брэсце, Мінску, але ведалі толькі, што яны — аднафамільцы. А тут, на табе, блізкая радня па лініі бацькоў.

На галіне Рыгор — Аляксей — Усевалад асобнае месца займае іх брат Арсеній, 1919 года нараджэння. Яго жыццё таксама просіцца ў асобную кніжку. Быў здольны да матэматыкі з дзяцінства. Шмат чытаў. Вучыўся ў Пінскай гімназіі. Закахаўся ў дачку мясцовага святара Люсю Лазіцкую. Задумалі стварыць сваю сям'ю. Бацькі Люсі не хацелі і слухаць, што іх дачка-прыгажуня пойдзе замуж за мужыка. Пачалася Айчынная вайна. Арсенія сілком збіраліся вывезці ў Германію. За ім добраахвотна паехала Люся. Узяла з сабой толькі гітару. Маладым давялося зведаць мазольную працу ў баўэра, пабываць у канцлагеры, вытрымаць усе ўніжэнні чалавечай годнасці. Дапамагло выратавацца і застацца людзьмі вялікае каханне.

Вядомасць і прызнанне атрымаў Арсеній Мікалаевіч Скакун у Польшчы. Ён стаў запатрабаваным вучоным-матэматыкам. Шмат гадоў ездзіў у Афрыку — у Гвінею, Заір, чытаў там лекцыі па-французску. У яго з Люсяй дзеці — Юрэк, Янэк, Вітэк, Ромэк. Ёсць унукі, праўнукі.

Сам жа Аляксей Скакун у складзенай намі радаводнай схеме апынуўся ў сёмым калене. На яго лініі — дваццаць дзевяць Скакуноў. На наступнай, восьмай, — ужо звыш сарака. Дык вось якое магутнае дрэва жыцця ўзрасло ад Сцяпана Скакуна, які меў адзінага сына Івана! Во як паскакалі Скакуны па ўсім свеце! Іх сямейнае дрэва яшчэ адзін яскравы прыклад таго, што ад кожнага з нас да любога іншага чалавека на Зямлі толькі пяць крокаў. Усе мы — радня, аднакроўцы, касмічны экіпаж адной планеты.

### 3. Бацькоўскі парог

Жыве на нашым Палессі такая легенда.

Захацеў адзін пан даведацца, чаму людзі заўсёды незадаволены. Адпусціў бараду, перакінуў цераз плячо хатулёк з хлебам, узяў у рукі кій дый пачаў вандроўку па сваіх вёсках. Каго не сустрэне, пытаецца: «Чым ты незадаволены?» У кожнага чалавека свае прымхі.

Вырашыў пан пачуць слова дзяцей. Убачыў іх на беразе рэчкі, падышоў і кажа: «Дзеці, скажыце мне праўду, калі чалавечае вока перастане зайздросціць, а будзе задаволена тым, што бачыць і што мае?»

Дзеці прадаўжалі гуляць, як бы і не чулі незнаёмца. Ды раптам адзін хлопчык выпадкова сыпануў лапатку пяску ў бок дзеда з барадой. Зачыхаў, закашляў пан, пачаў вочы праціраць хусцінай. Нічога яму ўжо няміла. І зразумеў пан, што тады чалавек будзе задаволены, калі яму пяском прысыплюць вочы.

Гэта легенда справядлівая ўжо тым, што яна роўна тычыцца кожнага, хто спачывае на пагосце. І хто б ён ні быў, пан ці мужык, а пясок раўняе ўсіх. Усе там маўчаць: ні зайздрасці, ні рэўнасці, ні амбіцый.

Далёкая радня Аляксея Сцяпанавіча Скакуна таксама маўклівая, амаль цалкам забытая. І толькі выратаваныя ў войнах і пажарышчах архівы ледзьледзь прыадкрываюць векавыя тайны. З іх мы даведаліся, што прапрадзед

Даніла Скакун нарадзіўся ў Дастоеве ў 1827 годзе. Пражыў пяцьдзесят сем гадоў. Ён быў сведкам, калі сялян, згодна з Маніфестам Аляксандра II, вызвалялі ад прыгону. От бы пачуць яго аповед, як гэта адбывалася ў Дастоеве, дзе па тым часе ў вёсцы мелася 197 двароў. Як кажуць, усе анучы былі ў адной кучы. У паселішчы, пад адным сонцам жылі ўсе, хто ад бяды ўцёк ды ў гора трапіў, хто не хацеў паміраць, бо трэба было дзень «цяраць».

З цярплівых даўнейшых папер даведваемся пра вяселле Данілы, якое адбылося 8 лістапада 1847 года. Маладому было дваццаць гадоў, і ўзяў ён у жонкі Фядору Паўлаўну Бурак. Інфармацыя не ахці якой важкасці, але ж яна падштурхоўвае да новых пошукаў. Скакунам можна і трэба шукаць радню сярод дастоеўскіх Буракоў, сярод якіх галоўны тутэйшы краязнавец — Анатоль Іосіфавіч Бурак.

У Данілы і Фядоры былі дзеці: Таццяна, Якаў, Георгій, Сцяпан, Лука, Аляксандр. У кожнага свая доля, свой лёс. Яны — за сям'ю пячаткамі гісторыі.

З Данілавых спадчыннікаў нас вельмі цікавіць Аляксандр, бо менавіта ён прадоўжыў лінію героя нашай аповесці. Ёсць падставы меркаваць, што Аляксандр Скакун узяў жонку Ксеню Сахончык з вёскі Ляхавічы. Чаму? А таму, што хросны бацька яго сына Васіля родам з Ляхавіч, старажытнай вёскі, што ў якіх пяці кіламетрах ад Дастоева. Вядомы гады жыцця Ксені: нарадзілася ў 1862 годзе, памерла 24 студзеня 1913 года. У гэты ж прамежак часу, відаць, умяшчаецца і жыццё яе мужа Аляксандра Данілавіча Скакуна.

Вось так пакрысе мы і падабраліся па радаводнай лесвіцы да Васіля Скакуна. Яго ведаюць старыя дастоеўцы. Яго помніць нават унук Аляксей Скакун.

Васіль — адзіны сын у Аляксандра і Ксені. Ён нарадзіўся 20 ліпеня 1892 года. Жаніўся 6 мая, на Юр'еў дзень, у 1913 годзе. Узяў Соф'ю Кандратаўну Чорненькую з Вулькі. У Дастоеве яе звалі Зоня, а мужа «ахрысцілі» Воранам. Можа, за тое, што прывёў у хату жонку і па прозвішчы, і па колеры валасоў — чорную. Жылі яны дружна, у любові. Дастоеўцы з зайздрасцю казалі: «Сваю варону Васіль нават у Маскве пазнае».

Пра дзеда Васіля рознае баяць у Дастоеве. Негаваркі, крыху замкнуты ў сабе. «Працаваў як вол, языком не любіў мянташыць». Хадзіў крыху сутулена, як бы ўзіраўся ў зямлю і пра нешта важнае думаў. Кожнаму сустрэчнаму казаў: «Дзень добры», а не як ўсе — «Здрастуйце». Рабацяшчы быў у полі і дома. Старастам царкоўным служыў. Брыдкіх слоў ніколі не ўжываў. Любіў есці крышаны — бульбяны суп, таўканіцу — стоўчаную бульбу і цалякі — звараную, неаблупленую бульбу. Адным словам, дзед Васіль быў поўным бульбашом.

Не згадаю, хто мне расказаў, але запомніліся два выхаваўчыя прыёмы дзеда Васіля. Аднойчы нехта з яго ўнукаў, але дакладна не Лёша Сцяпанаў, залез на бярозу і пачаў дражніць дзеда Ворана: «Кар-р, кар-р». Дзед спакойна пайшоў да суседкі, каля хаты якой стаяла тое дрэва і папрасіў: «Каця, дазволь тваю бярэзіну спілаваць». А была якраз святая Сёмуха. Суседка перахрысцілася і кажа: «Воля Божая, дзядзечка, рэжце». — «Ну, то я пайду пілу вазьму». Дзед Васіль рашуча пакіраваў у свой двор, а нахабны «варанёнак» вопрамеццю сігануў з дрэва і тыдзень не паказваўся на дзедавы вочы. Пасля яны памірыліся.

А другі выпадак таксама звязаны з дзецьмі. Панадзіліся яны да дзедавых яблынь, рвуць зялёныя плады, не даюць ім наліцца сокам. Дзед Васіль абсыпаў яблыкі мукой, сабраў сваю і суседскую малечу і папярэдзіў:

— Дзеці, не рвіце садавіну. Я абсыпаў яе дустам. Гэта — яд!..

— Дзядуля, навошта ты так зрабіў? — спытаў са шкадаваннем Лёшка.

— Каб вусень не лезла на зялёныя яблыкі...

Не ведалі тады дзеці, што «вусенню» дзед абзываў менавіта іх.

Калі вось такую народную педагогіку прымяняў Васіль Аляксандравіч Скакун да ўнукаў, то можна ўявіць, як жа пяшчотна, з розумам, ён выхоўваў сваіх дзяцей.

З жонкай Зосяй Чорненькай яны займелі дачку Ганну і сыноў Сямёна, Івана, Сцяпана, якія і занялі шостую галіну сямейнага дрэва. Пра шматдзетных у Дастоеве жыве прымаўка: «Каб не тыя Васілі, не было б дзяцей на сялі».

У Ганны свае дзеці пайшлі — Жорж і Вольга, унукі — Іван, Валянціна, Раечка.

Іван толькі жаніўся, а тут — вайна. Пайшоў на фронт і не вярнуўся. Бацькі атрымалі пахавальную.

Сямён меў дзвюх жонак. Яго дзеці — Анюта, Лена, Марыя, Жэня, Рыгор. Унукі — дзве Лены, дзве Наташы, два Аляксандры, Вольга, Міхаіл, Алег, Юля, Дзіма, Сяргей. Усе яны — родныя па крыві Аляксею Скакуну. Але, адчуваю, мала ведаюць і пра свой радавод, і пра свайго знакамітага дзядзьку. Ужо адно гэта надае мне злой упартасці шукаць Скакунову крыніцу, каб наталіць ёю ўсіх жадаючых.

З такімі пачуццямі падабраўся па шматгалiністым дрэве Скакуноў да бацькоўскага парога героя маёй аповесці. Вось яна, жоўтая дастоеўская хата пад шыферам, з белымі аконнымі рамамі. Адчыняем брамку, ідзём па зялёнай мураве, якую даўно тут ніхто не таптаў. Хата жыве сама па сабе, у адзіноце і цішыні. Бачу, як напружана хвалюецца Аляксей Сцяпанавіч, як вочы яго ўстрывожана бліщчаць, як на твар ускочыла і застыла сарамяжлівасць.

— Вось тут мы жылі, — гаворыць, як бы апраўдваецца перад бацькоўскай хатай. — Ад вуліцы стаяла хата дзеда Васіля. У ёй мы ўсе нарадзіліся. А гэта ўжо наш кут, адкуль і разляцеліся...

З гэтай абжытай хаты Скакуноў адляцелі ў вечнасць яе гаспадары — бацька Сцяпан і маці Вера. У сваю дастоеўскую хату перасялілася іх старэйшая дачка Марыя. У Мінску займеў пастаянную прапіску сын Васіль. У Пінску звіла сваё гняздо дачка Галя. А сын Алёша сягнуў у брэсцкае Астрамечава, дзе стаў паважаным Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном.

Стаім на апусцелым дворышчы. Як учора і вечна, над хатамі Дастоева павольна праплываюць аблокі. Засумаваў калодзеж, відаць, ад таго, што ніхто не чэрпае з яго халодную і чыстую вадзіцу. Стаяць у задуменні яблыні, ацяжараныя чырвона-жоўтымі пладамі і быццам заклапочаныя: «А хто ж сабярэ ўраджай, каму ён спатрэбіцца?» Над дахам — высокая антэна. Яна ловіць блізкія і далёкія тэлепраграмы, але ж у хаце няма каму іх глядзець.

Мы ўсе стаім каля Скакуновай хаты, і як бы не адважваемся, не спяшаемся націснуць клямку дзвярэй. Хораша думаецца, прыгадваюцца паэтычныя радкі Якуба Коласа:

Ой, многа, як многа
Для думак дарог!
Не спыніць іх лёту
Ніякі парог...

Для думак няма перашкод, а пачуцці прыпыняюць усіх перад бацькоўскім парогам, развярэджваюць душу. Сапраўды, без Бога не дойдзеш да парога. У кожнага ён свой: для каго — узвышэнне, для каго толькі прыступка, для каго ўваход у хату, раз і назаўжды («Ні нагою за парог, ні кроку з дому»), а для каго — касмічны Байканур, з якога чалавек стартуе на сваю жыццёвую арбіту.

Стаяць Скакуны — сын Аляксей, дочкі Марыя і Галя — перад бацькоўскім парогам, прыгадваюць былое і як бы хрысцяцца перад тым, як увайсці ў свой сямейны храм. Агульнае шкадаванне выказвае Аляксей Сцяпанавіч:

— Не ўсе нашы змаглі прыехаць... Каб усе сабраліся, хата разышлася б у вуглах...

Падлічваем «нашых», а гэта Сцяпана і Веры Скакуноў нашчадкі: чацвёра дзяцей, восем унукаў, восем праўнукаў, ды плюс мужы, жонкі, цешчы, сваты. Набіраецца каля паўсотні чалавек самай блізкай радні. Вось як апраўдаў Сцяпан Васільевіч Скакун давер свайго продка Сцяпана, які ў васямнаццатым стагоддзі адкрыў для Скакуноў дастойнае паселішча Дастоева.

Урэшце мы ўваходзім у хату, у якой сёстры Аляксея Сцяпанавіча і прапалілі ў печы, і накрылі гасцявы стол. У гэтай хаце рос, уздымаўся на ногі, аперваўся Лёша Скакун.

Націскаем клямку ўваходных дзвярэй, і мы ў прасторных сенцах. Тут — газавая пліта, паліца для посуду, вешалка. У другой палове прыбудовы — камора. Пры бацьках у ёй было поўна ўсяго: збожжа і мукі, сала і вяндліны, яек і марынаваных грыбоў, малака і сыроў.

Шалёвачныя дзверы злева ўпускаюць нас непасрэдна ў хату, у пакой-кухню. Першай сустракае гасцей тоўстая печ. Пабеленая, з чырвоным, лагодным вогнівам у сярэдзіне, яна абдае кожнага прыветлівым цяплом, запрашае адчуваць сябе жаданым госцем.

Дзверы каля печы вядуць у спальню, дзе любілі адпачываць бацька і маці. Тут і цяпер стаяць ложкі, швейная машынка. Адзінае акно цэдзіць у гэты пакой жоўтае святло восені.

Пасярэдзіне хаты — белы стаўбун грубкі. Яна як бы аб'ядноўвае, злучае, згуртоўвае сваім цяплом усіх, хто знаходзіцца ў трох пакоях: адпачывальні бацькоў, дзіцячай спальні і святліцы.

У тым пакоі, дзе бачылі свае дзіцячыя сны Лёша, Вася, Марыя, Галя, стаяць і цяпер канапы, два ложкі. Адным акном пакой пазірае на вуліцу Першамайскую, якая выводзіць сваіх жыхароў у цэнтр Дастоева.

У святліцы — тры акны, таму яна і самая прасторная, і самая асветленая. Тут — гасцінны стол, шафа, канапа, тэлевізар. Са сцяны, з партрэтаў пазіраюць на нас Сцяпан Васільевіч і Вера Пракопаўна Скакуны. Іх вочы пранікнёныя, лагодныя. Гаспадары як бы хочуць павітацца з намі, быццам жадаюць нешта сказаць. Мне чуюцца іх душэўныя, мудрыя прызнанні: «Просім вас, ніколі не піце пра запас. Мы век звекавалі, ніводнага дня не прагулялі. У грашах не купаліся, як курыца ў пяску, але былі багатыя, бо нікому не вінаватыя. Хай жа, дзеткі, спрыяе вам доля. Нікому яе не давярайце, у сваіх руках трымайце».

Вось і сказалі бацькі тост. Мы ўсе ўздымаемся і маўкліва памінаем іх. Яны тут, з намі. Гэта толькі целам спачываюць бацькі на пагосце. А іх душы ў вырай не адлятаюць. Яны жывуць у дзецях, з дзецьмі. Сёння і вечна!

## 4. Павітуха напрарочыла

Сцяпан Скакун і Вера Анішчук пабраліся ў вайну.

Рызыкоўна было гуляць вяселле пад варожымі кулямі. Свежай ранай крывавіла трагедыя, якую ўчынілі фашысты ў вёсцы Застружжа.

У паселішчы за ракой Струга, зусім непадалёк ад Дастоева, 3 лістапада 1942 года спраўлялі вяселле маладыя. На свята да іх прыйшлі з суседняга гарнізона два немцы. Іх цёпленькіх, на падпітку, партызаны пазбавілі жыцця. Уляцеў у вёску карны атрад, і расстралялі ўсё вяселле — дзевяноста сем мірных жыхароў. Гітлераўцы не пашкадавалі ні нявесту з жаніхом, ні малых, ні старых. Аб гэтай дзікунскай бойні нагадвае цяпер помнік у вёсцы Застружжа. На гранітнай пліце высечаны выявы маладых, якія пайшлі ў Царства Нябес-

нае ў шлюбных уборах. А побач з імі — прозвішчы ўсіх ахвяр таго ваеннага лістападаўскага дня.

Сцяпан і Вера жаніліся праз год пасля трагедыі ў суседняй вёсцы. Ціха, спакойна аб’явілі аб сваім рашэнні толькі самай блізкай радні. У Сцяпана Скакуна гэта былі бацькі Васіль і Зося, а ў Веры Анішчук — яе сёстры Алеся і Праскоўя.

Кажуць, сабраліся ўсе разам, пасёрбалі нейкага баршчу, наглыталіся слёз, дый блаславілі маладых на шчаслівую жытку: «Каб елі хлеб з мякінкай, як пірог з начынкай».

Былі і такія злаcліўцы: «Што надумаўся, Сцяпан, фронт набліжаецца, а ты любошчамі займаешся? Апомніся...» Але хлопец трымаўся сваіх меркаванняў.

Сцяпана не ўзялі на вайну па здароўі, меў праблемы са зрокам. Хадзіў зарабляць кавалак хлеба на панскай цагельні. Туды прыбілася наймічкай і хутаранка Вера Анішчук. Яе аповед-прызнанне ашаломілі маладога дастоеўца.

Вера выпадкова засталася жывой. Яе маці рана памерла. А бацьку, мачыху і яе фашысты сагналі разам з іншымі жыхарамі ў вялізны хлеў. Стогны, крыкі, плач. Людзі зразумелі, іх будуць паліць. Перад самымі варотамі бацька раптам рэзка штурхануў Веру ў бок, прашаптаў: «Бяжы кустамі ў лес!.. Ратуйся!..»

Па дзяўчыне стралялі карнікі, але Бог падмог выратавацца. Праз нейкі час сірата Вера Анішчук аб’явілася на заводзе пана Орды, дзе рабілі цэглу. Там і сустрэла яна спагадлівага Сцяпана Скакуна. Пакахаліся, і вырашылі стварыць сваю сям’ю.

Была, як мне здаецца, яшчэ адна вельмі важкая прычына іх паспешнага вяселля. Наступіў якраз перыяд, калі фашысты арганізоўвалі масавы хапун юнакоў і дзяўчат. Сілком вывозілі моладзь у Германію адбываць у рабстве працоўную павіннасць. Бралі толькі халасцякоў. Вось і прывёў Сцяпан у бацькаву хату сваю каханую. Роўна праз дзевяць месяцаў у іх з’явілася першая дачка — Марыя. Да вызвалення Беларусі заставалася некалькі месяцаў.

У маладых Скакуноў усё ладзілася так, як наканавала маці Зося за вясельнай вячэрай:

— Нарадзіце спачатку сабе няньку, а потым сыноў-арлоў. Каб зямлю аралі і ўсіх нас абаранялі...

Сцяпан і Вера не падвялі бацькоў. Пасля Марыі ім Бог падараваў яшчэ Аляксея, Васіля і Галю.

Узіраюся ў даўнейшы здымак, на якім шчаслівая маладая пара дастоеўцаў у акружэнні дробненькай дзятвы. Самыя малыя — на прыполе ў мамы, на каленях у бацькі, большыя — каля іх, на сваіх нагах. Твары ў дзяцей, як пульхныя булачкі. Вось толькі вочы крыху спалоханыя, здзіўленыя, устрывожаныя. Яшчэ б, першыя фотаздымкі ў жыцці. На іх навялі нейкае вялізнае «вока», якое бліскае маланкай.

Затое твары бацькоў поўныя гонару і задавальнення. Сцяпан адчувае сябе гаспадаром, абаронцам сям’і. Род прадаўжаецца! А Вера ў белай кофтачцы і чорнай спадніцы — адно зачараванне. Валасы і вочы смаляныя. На твары — мілая, цнотная ўсмешка. Здаецца, адымі ад яе чацвёра дзетак, і яна зноў дзяўчына, вольная птушка. А яшчэ адчуваецца ў вачах рашучасць. Толькі кранi яе дзіця і яна стане ваяўнічай львіцай, не задумваючыся ні на міг кінецца абараняць сваю крывінку.

Мяне ж найбольш цікавяць народзіны іх другога дзіцяці — сына Алёшы. Па макавым зярнятку збіраў я звесткі пра тое, як з’явіўся новы зялёны лісток на магутным дрэве Скакуноў. Мае цярплівыя пошукі, роспыты, роздум адкрылі і гэту тайну.

Аляксей Скакун нарадзіўся не проста 1 сакавіка 1946 года. Гэта быў першы дзень першай пасляваеннай вясны. Ну-ка, матэматыкі, адыміце ад гэтай даты назад тэрмін знаходжання дзіцяці пад сэрцам маці і вы атрымаеце — май 1945 года. Пераможны, святочны май! Божа, якім жа ён быў жаданым, чаканым для кожнага беларуса!

Вайна параніла ўсіх, і кожны хацеў неяк па-свойму праявіць радасць, адметна адсвяткаваць Перамогу, арыгінальна адсалютаваць ёй. Так што сынок Сцяпана і Веры мог па праву насіць імя Віктара-пераможца. «Аве віктар!» — так рымляне сустракалі палкаводцаў у дні трыумфу. Яго маглі назваць і Георгіем-пераможцам або Юрыем, бо ў тыя майскія дні палешукі якраз святкуюць Юр'еў дзень. Але сынок займеў бацькоўскае блаславенне на імя Аляксей.

Была якраз пятніца.

Снег яшчэ ляжаў на палетках, аселы і крыху счарнелы, ён дажываў апошнія дні зімовага раявання. Неба ачышчалася ад кудзельных воблакаў. Разбуджанае сонца ўсё больш упэўнена займала свой высокі трон.

Іванаўская раённая газета «Сталинский путь» у гэты дзень паведамляла, што сяляне рыхтуюцца да веснавога севу. У раённай машынна-трактарнай станцыі (МТС) адрамантавана два трактары і дзве сеялкі, завезена трынаццаць тон паліва. Каваль Пётр Баль вырабіў дваццаць новых і назубіў сто старых сярпоў. А ў Моталі стварылі арцель па вырабе валёнак. «У нас павінна быць і будуць калгасы!» — пісала газета.

На фоне вось такога раённага энтузіязму ў хаце Скакуноў чакалася прыбаўленне ў сям'і. Вера падказала мужу паставіць у печ вялікі чыгун вады: «Хай будзе цёплая. Спатрэбіцца...» Папрасіла прывезці бабу-павітуху. Замітусіліся і іх бацькі — Васіль, Зося. Васіль сам падахвоціўся ехаць у Вульку па народную акушэрку. Добра, што быў запрэжаны яго белы конь, на якім у той дзень перавозіў дровы.

Васіль не шкадаваў стомленага каня. Цярабіў яго лейцамі, падганяў пугай, вокрыкамі: «Но!.. Не лянуйся!.. Унучак хоча пабачыць свет...» Толькі каля Зайчышынай хаты крыху перавёў дыханне, ускочыў у двор і зноў не стрымаў трывогі:

— Цётачка, хуценька паедземце да нас. Нявестачка мая Вера хоча ўнука мне падарыць...

— Адкуль узяў, што ўнук будзе?

— Бо ўнучка ўжо ёсць.

— Каго Бог пашле, таму і радуйся, — рашуча сказала Зайчыха і пачала збірацца.

Найперш павітуха акуратна прычасала валасы, адзела на іх ільняны, самавязаны чэпчык. З непакрытай галавой нельга ісці нават да калодзежа, не тое што да парадзіхі. Паверх белага чэпчыка завязала клятчастую хустку-намітку. Накінула на плечы паліто.

— Паехалі! — не проста прамовіла, а як бы загадала Васілю, гэта азначала: гані каня, не шкадуй, бо роды не выбіраюць пагоды.

У той жа дзень, у Божую пятніцу, род Скакуноў абагаціўся хлопчыкам, якога ахрысцілі Аляксеем. Першай яго блаславіла павітуха. Яна спаласнула немаўля ў начоўках з цёплай вадой, перавязала пупавіну, адрэзала яе, прамовіла:

— Хто ў пятніцу радзіўся, той да ўсяго згадзіўся.

Зайчыха мела звычку прыкладваць нешта да пупавіны, верыла, што гэта вызначала далейшы лёс дзіцяці. Прыкладзе серп — вырасце жняёй вопытнай, прыкладзе грошы — будзе багаты. Да пупавіны Алёшкі павітуха прыклала тое, што было пад рукой, што ляжала на стале — аловак і скібку печанага хлеба, прыгаварыла:

— Хай жа ваш сынок, Вера і Сцяпан, з розумам здабывае хлеб!

Зайчыха, добрая душа, пацалавала хлопчыка, спавіла і передала Веры дарагі скарб:

— Беражы!.. Гадуй, вырасці заступніка, гаспадара зямлі!.. Запомні, мужыка не кажух грэе, а сякера. Не будзе аратага, не будзе і багатага...

Вопытная павітуха Зайчыха мела сваіх сямёра дзяцей. Бабіла нават панскіх спадчыннікаў. Была вядомай у вёсках далёка ад Дастоева. Да яе парад і пажаданняў прыслухоўваліся. І верылі ёй, як сённяшнія маладыя вераць сучасным гараскопам.

Возьмем і мы на прыкмету некаторыя прароцтвы старажытных календароў. Яны сведчаць, што нарадзіўся хлопчык Алёша Скакун пад сузор'ем Рыб. Яго шчаслівыя дні — панядзелак, чацвер, пятніца. Спрыяльная лічба — сем! І ўсе лічбы, якія дзеляцца на сем. Яго год нараджэння 1946, дарэчы, таксама дзеліцца на сем. Добрая прыкмета!

Імя Аляксей складваецца з сямі літар. Кожная з іх нясе свой жыццёвы знак, мае адметны сэнс:

А — жаданне нешта важнае пачаць і здзейсніць.

Л — тонкае ўспрыяцце прыгажосці, мастацкі густ.

Я — пачуццё сваёй вартасці, жаданне дасягнуць павагі.

К — вынослівасць, крэда жыцця: усё ці нічога.

С — імкненне да ўсяго трывалага, надзейнага.

Е — патрэба да самавыяўлення.

Й — тонкая духоўнасць, чуллівасць, дабрыня.

Запомнім яшчэ, што Аляксей у старагрэчаскай мове азначае — «той, які аберагае, абараняе». Царква ўшаноўвае памяць святых Аляксеяў ажно сорак дзён у год.

Ёсць свята Аляксей, якое праваслаўныя адзначаюць у канцы сакавіка, у месяцы нараджэння Аляксея Скакуна. У той дзень людзі чакаюць прылёту буслоў, журавоў. Бусел нават сваю прымаўку мае: «Хоць заб'юся, а на Ляксея з'яўлюся». На Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік лезе на хвою. Пачынаюць рыхтавацца да сяўбы лёну, аўсу.

Гараскопы сцвярджаюць, што людзі, якія нарадзіліся ў дзень з лічбай «адзінка», як Аляксей Скакун першага сакавіка, падпадаюць пад апеку самога Сонца. Яны рашучыя, высакатворчыя, цвёрда трымаюцца сваіх поглядаў, валодаюць вялікай сілай волі. Каб зрабіць нешта па-свойму, могуць перавярнуць усё ўверх дном. Людзі пад знакам адзінкі ўздымаюцца высока па прафесійнай лесвіцы.

1946 год па Усходнім гараскопе быў годам Сабакі. Мудрацы сцвярджаюць, што людзі якія нарадзіліся ў гэты год праяўляюць у сваім жыцці вернасць, чэснасць. Ім можна давяраць тайны. Яны ўпартыя ў дасягненні мэты, крыху эгаістычныя. Для іх багацце — не самамэта, але грошы заўсёды водзяцца, яны ўмеюць іх зарабляць і лічыць. Маюць востры язык. Самакрытычныя, змагаюцца за справядлівасць. Даводзяць справу да задуманай мяжы і звычайна перамагаюць. З іх атрымліваюцца выдатныя кіраўнікі.

У год Сабакі ў свой час нарадзіліся Цыцэрон, Вальтэр, Шаўчэнка, Дзюма, Гюго, Мальер, Рэмарк, Лермантаў, Карамзін, Твардоўскі, Чэрчыль, Сталыпін. А пад знакам Рыбы — Мікеланджэла, Расіні, Шапэн, Эйнштэйн, Рэнуар, Вашынгтон, Рымскі-Корсакаў...

Кім жа стане Лёша Скакун, які нарадзіўся 1 сакавіка 1946 года ў бацькоў Веры і Сцяпана, у хаце дзеда Васіля?

Як спраўдзіць ён прароцтвы мудрай і вопытнай павітухі, бабы Зайчыхі? Ці апраўдае прадказанні ўсходніх гараскопаў? Яны, дарэчы, даводзяць, што

Аляксей Сцяпанавіч Скакун ужо нараджаўся ў мінулых стагоддзях. Было гэта, як ні дзіўна, у Паўднёвым Кітаі. І працаваў ён там рамеснікам, які вырабляў рыбалоўныя кручкі і гарпуны.

Што ж, нам застаецца пільна ўгледзецца ў зямное жыццё дастоеўскага хлопчыка, прасачыць яго сталенне, мужанне ды пераканацца, што словы павітухі, вывады гараскопаў і праўдзівыя, і прарочыя.

## 5. І скокам, і бокам

Кажуць, дзе маці нарадзіла, там і радзіма.

Пра Аляксея Скакуна нам вядома: яго радзіма — вёска Дастоева ў Іванаўскім раёне. Больш дакладна — пасёлак Бэрвы дастоеўскага паселішча. Яшчэ больш канкрэтна — хата дзеда Васіля. Маючы такія звесткі, можна было б пачаць апісваць яго маленства, але стрымлівае адно пытанне: чаму ў майго героя прозвішча Скакун? Здаецца, разгадаўшы яго, займею залаты ключык ад многіх таямніц.

Справа ў тым, што я даўно паверыў у адну ісціну: прозвішча чалавека — гэта яго генны, радаводны код. У ім зашыфравана пэўная гістарычная загадка. У прозвішчы, як і ў архіве, захоўваецца тое забытае нешта, якое можа і вочы прасвятліць, і слых палагодзіць, і розум узбагаціць.

Ну чаму Аляксей Сцяпанавіч Скакун мае такое прозвішча? Які далёкі продак падараваў яму гэты «пашпарт»? У чым вытокі яго? Што разам з прозвішчам перадаецца новаму спадчынніку?

Пытанні вострыя, як лязо брытвы, абрывістыя, як горныя скалы, высозныя, як летнія воблакі, недасягальныя, як касмічныя зоркі, і амаль такія ж таямнічыя, як сам сусвет. І ўсё-такі хочацца займець журава ў небе. Давайце навучымся не губляць надзею заўсёды, усюды і ва ўсім.

Званю аўтарытэтнай, вядомай вучонай Валянціне Пятроўне Лемцюговай. Яна даўно і плённа даследуе сучасную беларускую мову, напісала папулярную кнігу «Тапонімы распавядаюць», вядзе рубрыку ў рэспубліканскай газеце «Што ў імені тваім?» На другім канцы гарадскога тэлефона чую маладжавы, прыветны голас:

— От і добра, Уладзімір Сцяпанавіч, што разблытваеце загадку прозвішча Скакун. А то іншы гатоў на печы замёрзнуць, а ў лес па дровы не паедзе, — падхвальвае мяне і задаволена жартуе акадэмічны доктар навук, пасля пераходзіць на сур’ёзную размову. — Скакун, ведаеце, нібыта простае прозвішча, быццам у ім зразумелы сэнс, але ж усё ў свеце і мае сваю індывідуальнасць. Адметна тое, што прозвішчы — багацце чыста нацыянальнае. У мове можа быць запазычанасць. Тут — не!..

Валянціна Пятроўна ў свой час пісала рэцэнзію на маю кнігу «Мы. Аповесць пра нашы прозвішчы», таму наша размова набывае зразумелы і вельмі зацікаўлены змест. Прыгадваем, ад каго і ад чаго паходзіць слова «скакаць». Скачуць конь прыручаны і дзікі тарпан, конік лугавы і блыха кусачая. Вавёрка скача па дрэвах і заяц, калі яго хто напалохае. Сярод павукоў ёсць скакунчыкі. Яны не плятуць павуціну, як усе іхнія сабрацці, а ловяць здабычу наскокам, знянацку. Адна з парод акул называецца рыба-скакун. Ёсць жабы-скакухі і стракозы-скачкі. Род жукоў-скакуноў перамяшчаецца скачкамі-пералётамі. Галава ў іх вялікая, вочы пукатыя, а сківіцы — сярпом загнутыя.

От і разбярыся, ад якога прыроднага скакуна прыйшла да чалавека мянушка Скакун?

Тое, што гэта прозвішча ўтворана з мянушкі, абзывалкі, дражнілкі сумненняў няма. Але ж хто і чаму паспрыяў такой назве? Ніхто з жывых Скакуноў ніколі не знойдзе адказаў на гэтыя пытанні. Яны, як кажуць, павісаюць у паветры, бо вельмі ж доўга просты люд быў маўклівым, бязродным, цёмным, адным словам, Іванамі, не помнячымі свайго роду. От і прымаўкі пайшлі: «Жыў калі скокам, а калі і бокам»; «Ні скакун, ні граюн, а ў куточку сядун».

Ад усіх тых, хто надзелены скокамі як жыццёвай неабходнасцю, чалавек пераняў у свае звычкі пэўныя якасці. Ён ходзіць падскокваючы, калі нага баліць, калі мае кульгавасць, няроўныя ногі. Мужык можа цераз плот пераскочыць, на каня скокнуць. Скакуном называюць заўзятага танцора. «А чаму б нам не скакаць, калі ўмеем танцаваць». Ёсць нават танец полечка-скакуха, весялуха. Відаць, падчас вяселля нарадзіліся такія выслоўі: «Вашы скачуць, а нашы плачуць», «Абадранцы пайшлі ў танцы, а галабокі паляцелі ў скокі».

Тураўцы, такія ж палешукі як і дастоеўцы, могуць сказаць: «Як удырыўся, то ў вочах куры скачуць». Пра венік у іх свая загадка: «Сухі стахвей па хаце скача».

Карацей, ва ўяўленні людзей скакун — гэта чалавек вёрткі, непаседлівы («Скакун ты гэткі»), жвавы, няўрымслівы, неўтаймоўны, неспакойны, нястомны, а ў дзяцінстве — свавольны, гарэзлівы, крыху дураслівы («Супакой ты скакуна етага»).

Жыхар пэўнай мясцовасці, які вылучаўся сярод іншых менавіта такімі якасцямі, і мог займець мянушку «Скакун». Яна так моцна прыліпала да чалавека, што міжвольна замяняла яму і пасведчанне, і пашпарт, і даведку, рабіла яго адметнай, распазнавальнай асобай сярод іншых мазольнікаў. Будзем мець гэта на ўвазе пры стварэнні партрэта Аляксея Сцяпанавіча Скакуна.

Мяне ж, калі шчыра, прываблівае іншая версія прозвішча Скакун. Яна хутчэй за ўсё ўтворана ад пэўнай прафесіі яго продкаў. Нездарма ж ад іх дайшлі такія прымаўкі: «Не я скачу, а скача няволя, прымушаюць панове»; «Дам хлеба, скокні да неба».

Вось той, скакуновай прафесіяй, і зараблялі прыгоннікі кавалак хлеба. Радаваліся яму, выпрошвалі яго ў сваіх малітвах: «Ойча наш! Хлеба штодзённага дай нам сёння, і выбач нам правіны нашы... Госпад наш! Падмажы мне грэшнаму ў гэтай маёй працы, што цяпер пачынаю рабіць, як для Цябе Самога, у імя Айца і Сына і Святога Духа. Амінь».

Відавочна, што старажытная прафесія Скакуноў звязана з канём — вернай рабочай сілай мужыка, асноўным рухавіком яго працы, абароны, жыцця. Нездарма і па сёння шмат людзей носяць «конскія» прозвішчы: Конеў, Каневіч, Канёнкаў, Конікаў, Конін, Конюхаў, Канякін, Жарабцоў, Жарабятнікаў, Кабылін, Кабылінскі, Кабылкін, Лашакоў, Мерынкаў, Лашадзілін, Табуноў, Калеснікаў. Коні, як і людзі, маюць сваю «масць», нораў, характар. Адсюль і новыя прозвішчы: Буланаў, Рабаконь, Сіўко, Гнядзько, Гнядоў, Варанюк, Варанчук. Ёсць коні клячы, шаўлюгі, ламавікі, вазавікі. Ад іх — людскія прозвішчы. Лекар коней канавал увекавечаны ў прозвішчах Канавалаў, Канаваленка, Канавальскі.

А наш мужык — Скакун. Яго фамільны эпіграф таксама звязаны з канём. Але, заўважце, не з абы-якім, а канём хутканогім, шпаркім, чыстакроўным. Такога пародзістага скакуна-рысака ў плуг не запражэш, воз дроў цягнуць не прымусіш. Ён служыць чалавеку для іншых патрэб. На ім вершнік выязджаў на абарону Айчыны. Такі конь абслугоўваў рассыльных, веставых, дзяржаўных паштароў, пажарных дазорцаў.

Кім жа працавалі дастоеўскія Скакуны? Хто з іх ездзіў на дабрэнных конях, у якіх ногі, як вытачаныя, і ўся іх постаць аж спружыніла над зямлёй, калі яны скакалі галопам?

Святло на гэту тайну крыху праліваюць гістарычныя архівы. На якіх мы ўсе павінны маліцца, даражыць імі ды ўмела ствараць новыя, сучасныя, па якіх будучыя летапісцы адкрыюць нас, цяперашніх.

Учытаемся яшчэ раз у нашы архіўныя здабыткі ды раскінем іх, як цыганка карты. На якія думкі наводзяць кароткія звесткі даўніны?

У архіўным дакуменце сказана, што вёску Дастоева ў 1806 годзе перакупіў у Стравінскага былы польскі генерал, князь Тадэвуш Венядзіктавіч Гедройц. Ён жа і перавёў Івана Скакуна ў Дастоева з іншай сваёй вёскі.

Я добра ведаю Валерыя Карлавіча Гедройца, дзеяча культуры нашай рэспублікі, які жыве і працуе ў Мінску, званю яму:

— Шаноўны Валерый Карлавіч, мне стала вядома, што ваш родзіч князь Тадэвуш Гедройц некалі купіў вёску Дастоева з усімі жыхарамі, пасяліў там слаўных Скакуноў, пра аднаго з якіх я зараз пішу. Ці ведаеце што-небудзь пра свайго далёкага родзіча?..

Валерый Карлавіч перадаў мне старонкі кнігі пра радавод князёў Гедройцаў. Яе аўтары даводзяць, што гэта вельмі старажытны род на Беларусі. Яму ці не тысяча гадоў. Сярод Гедройцаў шмат слаўных людзей. А вось пра Тадэвуша (1750—1824 гг.) сказана: «Служыў у войску Вялікага Княства Літоўскага, быў паслом Сейма. У Царстве Польскім, калі яно ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, — генерал дывізіі». Ён, прафесійны ваенны, удзельнічаў у вайне 1792 года. У паўстанні 1794 года, як член Вышэйшай Рады літоўскай, абараняў Варшаву. Будучы буйным уласнікам зямлі і прыгонных людзей, ён меў сваю харугву, падраздзяленне вайсковай кавалерыі. Вершнікі ахоўвалі свайго ўладара ў мірны час, а калі ўзнікала патрэба, выступалі з ім у паход на абарону дзяржавы.

Даследчыца архіваў Галіна Аляксееўна Скакун звярнула ўвагу на такую акалічнасць. Іван Скакун быў пераведзены Гедройцам у Дастоева, у сям'ю Вакулы Ламазы, ва ўзросце 18 год. Было гэта ў 1807 годзе. Той Іван Скакун, як бачым, яшчэ маладзенькі, нежанаты. У яго перад князем, генералам Гедройцам заслуг няма. Значыць, яны ёсць у яго бацькі Сцяпана, які ў хуткім часе памёр.

Кім служыў той Сцяпан Скакун у Гедройца? Кавалерыстам? Пасланцом? Ганцом? Кур'ерам? Нарачным?

У адным з старых дакументаў вычытаў цікавы факт: «Поле ў тры пераклікі, а ён ганца шле». Уяўляеце, каб перадаць нейкае важнае паведамленне з аднаго канца палетка ў другі, гаспадар трымаў падрыхтаваных людзей з магутным голасам. Мо яны знаходзіліся на спецыяльных вышках або на пагорку і перадавалі загады, павяленні, папярэджанні. Адзін выгукваў іх, другі падхопліваў, а трэці лавіў і адрасаваў каму трэба. Во які існаваў жывы тэлефон-пераклік! А калі ён не спрацоўваў, гаспадар пасылаў ганца. Такія пасланцы, з вуснай ці пісьмовай весткай, меліся паўсюдна: і ў сельскай гаспадарцы, і ў лясніцтвах, і ў войску, і пры панскіх маёнтках. Дык, можа, такім ганцом служыў Сцяпан Скакун?

Кім бы ён ні быў, але ўласнік Дастоева князь Тадэвуш Гедройц пра яго клапаціўся. Значыць, той мужык Скакун дастойны высокай увагі і павагі. А гэта і ёсць галоўнае, што нам трэба запомніць і ведаць. Выходзіць, герой нашай аповесці Аляксей Сцяпанавіч Скакун мае глыбокія і надзейныя карані, якія сілкуюць магутнае сённяшняе дрэва дастоеўскіх Скакуноў.

Дык гарцуйце, скачыце, зялёныя радаводныя парасткі, у новую вышыню, па новых стагоддзях? Дзе скокам, а дзе бокам, толькі не на застойным месцы, бо, як кажуць дастоеўцы, «хто мала дбае, той у дзежцы нічога не мае, у таго ў галаве ціха, а ў кішэнях — пуста». Адным словам, каб з вас коні не рагаталі.

## 6. Салаўі шалелі

Сядзіць на ложку векавуха-дастоеўка Надзея Цімафееўна Бурак і ахвотна баіць пра мінулае. Памяць вострая, маладая, голас зычны:

— Я, галубок, баба яшчэ хоць куды. Вот толькі вочы падводзяць, не хочуць чыста пазіраць. Добра, што малітвы ведаю на памяць. Вунь ляжыць на стале малітоўнік, назавіце старонку, і я вам скажу, аб чым там напісана...

Надзея Цімафееўна лёгка вытрымлівае экзамен і несхавана радуецца, што яе аповедам цікавіцца мінскі госць:

— Я, галубок, нядаўна прачытала кніжку пра трох мушкецёраў. А вот «Ціхі Дон» тры разы бралася і не адолела. Брыдкіх слоў там замнога, не люблю такога...

Мне прыемна слухаць бабу Надзею, як бы чую і бачу маму Аляксея Скакуна. Яны ж аднагодкі, сябравалі і не ведалі, што радня. Пытаюся ў яе пра крынічку, якая згуртоўвала ўсіх дастоеўцаў:

— От я табе, галубок, такое згадаю. Аднаго разу ішлі мы з бацькам гнаць самагонку. Сама на дзень займалася. Каля крынічкі я прыпынілася, прашуся: «Бацько, пастойма, пачуй, што салаўі выраблюць!..» Чаромха белая-белая. Ад яе мо і неба пасвятлела. А салаўі шалелі. Божа, ніколі не забудуся таго рання. Дак мы з бацькам тады ледзь не забыліся, куды і чаго ішлі. От што рабілася ля той крынічкі...

Пра дастоеўскую прыродную крынічку чуў амаль ад кожнага вяскоўца, з якім давялося гаварыць. Яна ў некалькіх сотнях метраў ад хаты Скакуноў. Яна — жывы помнік Алёшкавага маленства.

Цяпер, праўда, толькі месца тое завецца Крыніца, а сам прыродны струмень вады парушылі меліяратары. Слязіцца зямля ў тым месцы, дзе бруілася адвечная крыніца. Кажуць, вада была халадзенная, чысцюткая, святая. Непадалёк стаяла драўляная царква і на Макавея, і на Мядовы спас вернікі хадзілі туды хрэсным ходам.

Бацюшка асвячаў вадзяны ключык. Людзі бралі земляную расу вёдрамі. Мылі гаючай вадой галовы, каб добра раслі валасы і каб у іх нічога не заводзілася. Абмывалі свянцонай вадой раны, балячкі, прыкладвалі кампрэсы да хворых мясцін. А дзеці збіраліся каля крыніцы для сваіх забаў.

— Помню і я тое месца, як жа забыцца, — гаворыць Аляксей Сцяпанавіч Скакун. — У вольную часінку беглі туды вады папіць, смагу прагнаць. Каб спякоту адагнаць, абліваліся. Візгам, крыкам напаўнялася ўсё наваколле. Тут жа, у альховых кустах гулялі ў вайну. Рэчка Струга недалёка. Зімою каталіся на самаробных каньках, лыжах. Крыніца згуртоўвала нас усіх...

Гэта пацвярджаюць яго брат Васіль, сёстры Марыя, Галя:

— Там раслі кусты чорных парэчак. Маліннік быў. Ягад наядзімся, вады пап'ём, а яна аж у зубы заходзіць, як з маразілкі. Воддаль ад крынічкі шчаўе збіралі. Яно, казалі, было лячэбнае. А маці нам з яго халаднік варыла. На лузе каля крынічкі зімою каток ладзілі. Коўзаліся хто на чым, абы толькі бацькі адпускалі з хаты...

Усю старажытную вёску Дастоева можна назваць прыроднай крыніцай для людзей. Кажуць, тут даўным-даўно пралягаў шлях з Пінска ў Вільню, а ў Дастоеве была буйная стаянка. Падарожнікі мянялі коней, кармілі іх і самі адпачывалі. От і казалі: «Даехаў да стойбішча», «да стоева». Адсюль мо і першасная назва прыстанішча — Дастоева. А калі пінскі князь выбраў гэту мясціну для сваёй рэзідэнцыі ды пачаў сяліць тут дастойных людзей, то назва Дастоева замацавалася на вечныя вякі.

Ветэраны згадваюць, што не так яшчэ даўно перад дастоеўцамі людзі з суседніх вёсак здымалі шапкі і першымі паважліва здароўкаліся.

Гэта добрая традыцыя, відаць, пачалася з 1506 года, калі тут распачалі жытку слаўныя Дастаеўскія. З сямнаццатага стагоддзя Дастоевам валодалі Стравінскія, Гедройцы, Чапліцы, Орды. Падобна, і яны трымаліся добрых традыцый. Апошніх паноў Ордаў помняць нават сённяшнія, дастоеўскія пенсіянеры:

— Яны пазіралі на нас па-людску, а не як баран на стрыжаную авечку. У нас быў пан Тадэвуш Орда, дык ён свой пляц адпусціў пад царкву. Неблагі пан удаўся. З намі па-нашаму гаварыў. Пройдзе па вуліцы, убачыць якога бедака, скажа: «Мо ў цябе, галубок, няма чаго есці, то прыходзь». Насыпле ў торбу круп, зерня, мукі...

Ганьбай лічыліся распуства і нявернасць. От і нарадзіліся ў Дастоеве свае прымаўкі: «Добрую карову і добрую дзеўку з сяла не выпускаць»; «Рабі, нябожа, то і Бог дапаможа». Гэтым і вылучалі дастоеўцаў ад жыхароў-суседзяў з Моталя, Янава, Моладава, Замошша, Ляскавіч, Ляхавіч, Кротава. Аб'ядноўвала ўсіх тое, што людзі імкнуліся жыць сваім розумам. Чакалі і шукалі волі, таму жыло тут адвечнае жаданне «людзьмі звацца». Ва ўсім імкнуліся быць прыстойнымі: і ў сям'і, і ў полі, і на гулянцы. Кажуць, дастоеўцы вельмі любілі «скокі». Можна толькі здагадвацца, якімі спрытнымі былі хлопцы і дзеўкі Скакуновы на тых танцах. Прымаўка нават хадзіла па вёсцы: «Танцоваты — нэ работа, а нэ ўміеш — соромота».

Мова ў дастоеўцаў трапная, не скарагаворка, з роздумам і з пэўнай дасціпнай хітрынкай, як у цяперашняга Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Любога грамацея могуць прыпыніць сваім мудрым дыялектам. Былая суседка Скакуноў прыгадвае іх маці Веру, расказвае пра яе ўмелае ткацтва і раптам, каб узвысіць і ацаніць яе рамяство, прамаўляе:

— Ведаеце, на гатовым вярстаты можэ і жаба плэскаты...

Сапраўды, на ўсім гатовенькім любы можа нешта рабіць, а ты сабяры той складаны самаробны ткацкі станок, падрыхтуй пражу, умела выберы ўзор і знітуй, запраграмуй яго, а тады плескачы бёрдамі з набіліцамі.

Не кожны адразу адгадае Скакунову загадку, якую пераняў ад мамы: «Каля ямы ўсе з кіямі». Аказваецца, гэта сям'я абедае, з лыжкамі каля агульнай, вялікай місы. У ёй духмяны шчавельнік, згатаваны са шчаўя, што расло каля Крыніцы.

Кожным разам, калі еду ў Дастоева, адчуваю нейкае асаблівае хваляванне. Пад перашэпт колаў аб асфальт чую ўзмоцненае біццё сэрца. Тут, у палескай вёсцы, сустракаюць высокія, зіхатлівыя купалы Ільінскай царквы. Побач, за кудлатымі елкамі, сядзіць у задуменні на лаўцы вялікі і мудры, бронзавы Фёдар Дастаеўскі. Каля яго штодня праходзяць у школу вучні і настаўнікі. Злева і справа — новыя дамы. Тут — магазіны, праўленне СВК «Дастоева», клуб, дзіцячы сад, пошта. Гэта і ёсць цэнтр вёскі. А да хаты Скакуноў — кіламетр вуліцы. Хочацца запомніць кожнае дворышча, кожнае дрэўца, кожнага сустрэчнага дастоеўца і неба над імі. Нейкі незвычайны водар паветра ахутвае ўсё Дастоева. І я каторы раз лаўлю сябе на думцы, што вялізная, старажытная вёска з яе насельнікамі, прасторнае наваколле і палетак за былой крыніцай і Стругай, на якім быў маёнтак Дастаеўскіх, — усё гэта разам узятае і ёсць тая калыска, у якой люляўся хлопчык Лёша Скакун, і ёсць тая жыватворная крыніца, з якой ён уволю наталіўся дабрынёй і сокамі жыцця.

Ён выхаваны ў вялікай павазе да вёскі і вяскоўцаў. А гэтыя ўрокі давалі найперш яго бацькі — Сцяпан Васільевіч і Вера Пракопаўна. Усе дзеці называлі іх толькі на «Вы».

— Пасля арміі, — прыгадвае Аляксей Сцяпанавіч, — я адчуў сябе ўжо дарослым і неяк няўзнак звярнуўся да таты на «ты», дык ён вельмі абурыўся. Сказаў: «Каб такога больш не чуў». І я вініўся перад ім да апошняга дня яго жыцця...

А як засвоіў бацькаў выхаваўчы ўрок Аляксей Сцяпанавіч, пра гэта расказала былая яго настаўніца Ганна Якаўлеўна Кандратчык:

— Сяджу аднойчы на лавачцы, пастухі ідуць ад кароўніка. Твары зіхацяць, як валачобныя яйкі. Наперабой хваляцца: «Ці не паверыце, Якаўлеўна, прыязджаў наш Скакун з Астрамечава, дык прыпыніўся каля нас, кожнаму падаў руку. От чалавек! О, ёй-ёй, з кожным паздароўкаўся за руку!..

Дарогу да крынічкі дастоеўцы назвалі Царкоўніцай. Па ёй хадзілі старыя, сталыя, малыя вяскоўцы. Крынічка ўсіх частавала сваёй найчысцейшай зямной вадой. Крынічка ўсіх адорвала хараством свайго зялёнага покрыва, чароўным спевам салаўёў, якія тут цёхкалі да шаленства. Крынічка выхоўвала людзей, аб’ядноўвала іх, давала ім сілу. Яна сталася многім людзям тым першым вянком жыццёвага зруба, на якім трымаецца духоўная моц чалавека. Яна і для Аляксея Скакуна — важкі пачатак пазнання і прыгажосці, і сяброўства, і душэўнай чысціні. Яна для яго, як і бацькоўская хата, як і ўсё Дастоева — жыццёвы магніт, святыня, перад якой пасля цяжкай хады хочацца стаць на калені і паспавядацца.

## 7. «Хачу быць Ходасам!..»

Дзед Васіль і Лёшка пазіраюць на мяне з фоткі, і я не магу адарваць позірку ад іх. Нават узброіўся лупай, хачу ўбачыць нешта большае, хачу адчуць той міг, які засведчаны на памятным здымку.

Яны ў садзе, каля дрэў, на якіх гронкі маленькіх яблычкаў, зялёных і кіслых. Да Спаса яшчэ далёка, а значыць, на дварэ — лета. Гудзяць пчолкі, пырхаюць матылькі, траўка цягнецца да сонейка. А дзед Васіль у ботах. Відаць, яны ў яго адны, на святочны і будзённы дзень, запыленыя, даўно не ваксаваныя. Побач стаіць босы Лёшка ў кароткіх штоніках. Ногі яго адчуваюць траўку сакавітую, зямельку цёплую.

Дзед апрануты, здаецца, ва ўсё самаробнае. Штаны і кашуля на ім як бы з аднаго сувоя палатна, толькі пафарбаванага. Кашуля на тры гузікі, з дзвюма накладнымі кішэнямі. Правая не зашпілена, у ёй нешта ляжыць. Мо самае дарагое і важнае, што ён заўжды трымае пры сабе, — грошы, малітвы, курыва?

Лёшка таксама ва ўборы ад найлепшай мадэльеркі-краўчыхі мамы. Пакамечаныя штаны, такая ж куртачка з вялікімі гузікамі і з дзвюма кішэнькамі. З-за шырокага расхлістанага каўняра кароткай курткі, з якой ён яўна вырас, бачна сподняя маечка. Кішэнькі адтапыраныя, відаць, туды часта забягаюць ручкі, каб нешта пакласці, схаваць, узяць.

Па ўсіх хрысціянскіх правілах стары дзед сядзіць у крэсле, вынесеным у сад з хаты. А ўнучак паважліва стаіць побач. Яны, Скакуны, — адно цэлае. Іх як бы знітоўваюць рукі: дзедава, якую ён трымае на правым калене, і Лёшкава, якую ён паклаў на левае дзедава калена. У дзеда Васіля рука жылістая, спрацаваная, з доўгімі пальцамі. У Лёшкі — пульхная, з ямачкамі на згібах, але, адчуваецца, яна ў яго не беларучка.

А твары ў старога і малога Скакуноў такія, што не адарваць вачэй. Дзед Васіль пазірае не проста ў аб’ектыў, а ў нейкую аднаму яму вядомую далячынь. Пазірае з глыбокім роздумам. На хударлявым твары з пасівелымі вусамі і бародкай застыла стрыманая, мілая ўсмешка. Левай рукой падтрымлівае за спінай унучка і як бы просіць усіх: «Беражыце гэтага хлопчыка!..»

Лёшка пазірае на нас вялікімі, адкрытымі вачыма, у якіх гатовы ўмясціцца ўсё неба, агромністы свет наўкол. У яго вачах — яснасць і трывога, здзіўленне і не зусім дзіцячая сур’ёзнасць. Ды толькі пульхныя шчочкі, белабрысая галоўка,

адтапыранае вушка выдаюць у ім хлопчыка-скакунка, якому ад роду ну якіхнебудзь гадкоў пяць-шэсць. А гэта той узрост, калі актыўна спазнаецца жыццё, у якое ён прыйшоў, але, на жаль, у памяці амаль нічога не застаецца.

Колькі я ні дапытваў Аляксея Сцяпанавіча Скакуна пра яго ранняе, дашкольнае маленства, ён увесь час сарамліва ўсміхаўся:

— Выветрылася ўсё... Складана што-небудзь канкрэтнае згадаць. Помню, мама жне жыта, а я каля яе кручуся. Помню, едзем з дзедам на белым кані, але ж не на прагулку, а па снапы ці па сена. Помню, бацька пілуе дровы, а я складваю. Памяць высвечвае адно — работа, работа, работа...

І зноў лезу ў архівы, у кніжкі, у старыя газеты, прыстаю да ветэранаўдастоеўцаў. Хачу аднавіць тыя, ужо далёкія гады, у якіх праходзіла маленства Лёшы Скакуна. Гэта нам спатрэбіцца, каб глыбей зразумець, як уздымаўся ў жыццё наш герой, якім быў час, якія клопаты агортвалі вёску, людзей, увесь Іванаўскі раён.

Закончылася вайна. Дастоеўцы не толькі залечвалі раны ліхалецця, а пачыналі занава ладзіць сваё жыццё. Маладзейшым чытачам мушу патлумачыць. Дастоеўцы, як і ўсе іванаўцы, да 1939 года доўгія дваццаць гадоў жылі пад Польшчай. Толькі ўз'ядналіся з усёй Беларуссю, як пачалася вайна. З гітлераўскай акупацыяй вярнуліся ў свае маёнткі ўласнікі польскія. І толькі з перамогай і вызваленнем у Дастоеве, як і паўсюдна ва ўсёй Заходняй Беларусі, пачалі ўстанаўлівацца савецкія парадкі.

Найперш, у вёсках арганізоўвалі калгасы. У Дастоеве калектыўную гаспадарку назвалі «Чырвоная звязда». Яе членамі сталі бацька і маці Лёшы Скакуна. А вось дзед Васіль не захацеў аддаваць свайго белага каня ў агульную канюшню. Застаўся аднаасобнікам. Па тым часе — смелае рашэнне, бо з-за яго можна было загрымець у Сібір. Але ўпартасці ў Скакуна-старэйшага не займаць. Прага да волі была закладзена ў яго радаводных генах.

Пра той час, у якім праходзіла маленства Лёшы Скакуна, можа, як ніхто, расказаць адзін дакумент. Ён называўся «Пісьмо Вялікаму Сталіну ў дзень 70-годдзя ад беларускага народа». Яно абнародавана ў сакавіку, у месяцы нарадзінаў дастоеўскага Лёшкі, а яму тады было ўжо чатыры гадкі. Лепшыя паэты рэспублікі напісалі генералісімусу звыш ста куплетаў хвалебнага гімна:

Товарищ Сталин, наш отец любимый,
Наш вождь и вдохновитель всех побед!
Тебе из Белоруссии родимой
Мы шлем свою любовь и свой привет...

Кім толькі не называўся Сталін: і бацькам родным, і тварцом лёсаў, і горным арлом, і сонцам нашага жыцця. У пісьме, якое абмяркоўвалася паўсюдна, у тым ліку і ў Дастоеве, сцвярджалася:

Мы создали колхозный строй богатый,
И на просторах радостной земли
Мы, в дружбе с песней и мечтой крылатой,
Зажиточную долю обрели...

Гартаю іванаўскую раённую газету «Сталинский путь» за 1946—1950 гады, і раскрываецца крыху іншы малюнак «зажиточной доли» селяніна.

Як вялікую падзею, паведамляла газета, што вясковец Несцер Дзяркач прадаў дзяржаве дзесяць пудоў збожжа. Пуд — шаснаццаць кілаграмаў. Той сумленны Несцер высыпаў у агульны засек ажно тры мяхі зерня. Жыві і квітней, дзяржава, а дзеці селяніна падцягнуць папружку.

«Куда девался керосин?» — пытаецца газета і паведамляе, што выдзелены для настаўнікаў 91 літр газы не трапіў да іх.

А ў гэты час у дастоеўскім калгасе «Чырвоная звязда» пасеялі ажно тры гектары проса, 16 гектараў лубіну і 68 гектараў аўса. Калгас набыў паўтаратонную машыну і мае 16 падвод. Газета б'е трывогу, што ў раёне няма належнага клопату пра рабочых коней.

І вось новае паведамленне: пачалі стварацца ўзбуйненыя калгасы. У жніўні 1950 года аб'ядналіся калектыўныя гаспадаркі вёсак Вулька-Дастоеўская, Застружжа, Заруддзе, Смярдзячая (пазней гэта вёска стане называцца Красіеўка) з цэнтрам у Дастоеве. І агульны калгас назвалі па-дастоеўску «Чырвоная звязда». Старшынёй абралі райкамаўскага пасланца Мікалая Якаўлевіча Ходаса.

Гэтага чалавека і кіраўніка Лёша Скакун добра запомніў. Можа таму, што ён бываў у іхняй хаце? Бацька працаваў пры Ходасе то брыгадзірам, то загадчыкам фермы. Можа, тым спадабаўся хлопчыку, што быў самым галоўным дзядзькам у вёсцы, і яго ўсе слухаліся? Можа, і яму, Алёшу, мроілася ўжо тады вырасці і, як Ходас, ездзіць у павозцы на самым лепшым скакуне?

Адным словам, калі ў хлопчыка Алёшы Скакуна дарослыя дапытваліся, кім ён хоча стаць, адказ яго быў заўсёды цвёрдым і рашучым:

— Хачу быць Ходасам!

У раённай газеце за 8 кастрычніка 1950 года я адшукаў артыкул старшыні аб'яднанага калгаса «Чырвоная звязда» Мікалая Ходаса. Ён паведамляе, што яго арцель мае дзве тысячы гектараў зямлі, аб'ядноўвае шэсць вёсак. Паспяхова ідзе пасяўная азімых. Пад будучы ўраджай уносяцца ўгнаенні. Купілі дванаццаць пародзістых кароў. Будуюцца жывёлагадоўчыя фермы. Пачалі капаць гліну для сваёй цагельні. Плануецца запусціць ветраны млын, крупадзёрку, маслабойку. Закладваецца калгасны сад на пяці гектарах зямлі...

Артыкул М. Я. Ходаса пададзены з яго фотапартрэтам. Ёсць магчымасць паўзірацца ў таго чалавека, кім хацеў стаць Лёша Скакун.

На нас даверліва пазірае маладжавы, з сялянскім, простым тварам кіраўнік калгаса. На ім — пашыты ў мясцовага краўца пінжак з доўгімі і шырокімі бартамі. Цёмнага колеру кашуля, чарнявыя валасы. Вочы насцярожаныя. Няпростая доля дасталася яму — кіраваць савецкім калгасам у апалячаных вёсках.

На маленства Лёшы Скакуна выпала і будаўніцтва хаты. На дзедавым пляцы, воддаль ад вуліцы, бацька Сцяпан распачаў узводзіць сваю сядзібу. У сям'і ўжо было чацвёра дзяцей: Марыі — шэсць гадоў, Лёшу — чатыры, Васілю — тры, а Галя яшчэ люлялася ў калысцы. Рана сталелі вясковыя дзеці. Рана наведвалі іх сур'ёзныя думкі, кім яны хочуць стаць, чаго ім хочацца ў жыцці.

Вось і пазірае на нас са старога здымка не проста хлопчык Лёшка, а мужычок, селянін, вясковец, якім задаволены бацькі, якім ганарыцца дзед Васіль. На фота — яны адно цэлае, шчаслівае спалучэнне мудрасці старога і дасціпнасці малога.

— Хачу быць Ходасам! — гэтым Алёшка пацешваў дарослых і надаваў ім веры, што расце не толькі спагадлівым спадчыннікам, а і надзейным іх заступнікам. Абаронцам той зямлі, на якой узнялося ў жыццёвы вырай не адно пакаленне Скакуноў.

***Працяг будзе.***



## Расул РЗА

*(1910—1981)*

# ДОЎГАЕ РЭХА

Восень 2009 года. Баку. З падтрымкі Чынгіза Алі-аглы і яго паплечнікаў-чыноўнікаў, якія запрасілі нас на кніжную выставу ў Азербайджан, я стараюся за лічаныя дні як мага шырэй адкрыць для сябе нацыянальную літаратуру, пазнаёміцца з пісьменнікамі краіны, куды патрапіў упершыню. І вось адна з сустрэч — у Саюзе пісьменнікаў. Старшыня творчай супольнасці Анар (як пасля я высветліў па падараванай кнізе — цікавы празаік, надзелены ўменнем разгледзець час, знайсці месца сучасніка ў сённяшняй прасторы, вядомы кінадраматург) расказвае пра тое, як выжываюць азербайджанскія пісьменнікі, што выдаюць, як працуюць выдавецтвы. У размове — і роспыты. Канешне ж, пра знакавыя для беларускай літаратуры імёны.... І толькі пасля (ізноў шкадаванне!), выйшаўшы з прахалоды кабінета, я даведваюся, што Анар — сын славутага Расула Рзы. Шкадаванне яшчэ і таму, што я — даўні чытач гэтага яркага паэта, які здолеў і ў савецкім часе, як здолелі Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, адкрыць і данесці да наступнікаў душу свайго народа. І мне карцела распытаць пра Расула, яго погляды і памкненні ў 1930—1970-я гады. Што ж, будзем спадзявацца, што такая магчымасць яшчэ надарыцца.

Расул Рза нарадзіўся ў 1910 годзе. Пайшоў з жыцця ў 1981. Усё жыццё, лічы, у савецкім часе. Незадоўга перад смерцю — у 1980-м — народны паэт Азербайджана стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Улада — адтуль, з Масквы — як быццам прыглядалася, вывучала, ці цалкам можна яму, паэту-філосафу, тонкаму лірыку, аўтару няхай сабе і паэмы «Ленін», давяраць. Хаця ў 1951 годзе была і Сталінская прэмія, а ў 1939 годзе і ў партыю ўступіў. Але ж трывожны майстар слова, праўдашукальнік, мастак, які за пафасам стараўся разгледзець сутнасць. Таму і зараз цікавы, прыцягальны. І таксама прыцягальны — для перакладу.

Паэт — родам з сям'і вядомай. Яго прашчуры Мамедханлы валодалі некалькімі маёнткамі, сядзібамі. Праўда, да 1917 года прыкметна збяднелі. Пасля сярэдняй школы малады чалавек закончыў Інстытут кінематаграфіі ў Маскве. Працаваў начальнікам сцэнарнага аддзела, а пасля — і дырэктарам Бакінскай кінастудыі. У 1948—1949 гг. — міністр кінематаграфіі Азербайджанскай ССР. У 1960-я гады ўзначаліў калектыў Азербайджанскай Савецкай Энцыклапедыі. Але ж галоўны час займала паэзія. Першыя вершы надрукаваў у 1927 годзе. Асобны зборнік выйшаў у 1932 годзе. Кніга «Сі Ау» была прысвечана нацыянальна-вызваленчай барацьбе ў Кітаі. Чаму такі тэматычны выбар? Кітай надзвычай цікавіў увогуле маладую савецкую літаратуру. Прыкладаў такой увагі звышдастаткова ў рускай паэзіі і ў паэзіі народаў Савецкага Саюза. А яшчэ ж браты азербайджанцы змагаліся за свае правы ў Турцыі, Іране. У 1946 годзе некаторы час будзе існаваць нават аўтаномія Дэмакратычны Азербайджан.

У 1920—1930-я гады Расул Рза шмат піша пра інтэрнацыянальную барацьбу супраць фашызму і каланіялізму. Права народа на свой выбар, вызваленне чалавека ад насілля, гвалту і здзекаў — гэта надоўга становіцца галоўнай тэмай у вершах будучага азербайджанскага класіка. Асаблівую цікавасць чытачоў выклікалі ў тыя гады

вершы «Германія», «Мадрыд», «Інгалесіо», «Кармэн», «Жанчыны» і іншыя яркія творы. Але росквіт паэзіі майстра прыйшоўся на 1950—1970-я гады. Расул Рза ўсю сутнасць свайго таленту, усе яго адценні раскрывае ў філасофскіх паэмах «Учора, сёння і заўтра», «1418», «Насустрач ветру», «Лейлі і Меджнун». Апафеозам можна лічыць вершаваны зборнік «Доўгае рэха». Так, рэха паэзіі Расула Рзы і зараз гучыць у прасторы Азербайджана. Далятае — праз выразнае прачытанне перакладчыкамі — і ў Беларусь. Сённяшняя сустрэча з вершамі выдатнага мастака слова на беларускай мове — і ёсць такая праява.

Дарэчы, і сам Расул Рза быў выдатным перакладчыкам. Гэта ён праўвасобіў на азербайджанскую мову паэтычныя радкі Шандара Пецёфі, Джорджа Байрана, Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава, Мікалая Някрасава, Аляксандра Блока, Уладзіміра Маякоўскага, Тараса Шаўчэнкі і многіх іншых паэтаў.

У мяне ўсё ж у Баку была яшчэ адна сустрэча з паэтам — вячэрняя прагулка па вуліцы Расула Рзы. У вераснёўскую гарачыню прарвалася тады з парывістым ветрыкам і пэўная прахалода. Былі і размовы з азербайджанскімі калегамі пра тое, што слаўны, здольны на трываласць найперш той народ, які шануе сваіх Паэтаў, у творчасці іх шукае філасофскую параду для прадаўжэння жыцця, вызначэння і асэнсаванасці яго існасці.

***Алесь Карлюкевіч***

## АД КОЖНАЙ ХВАРОБЫ ЁСЦЬ ЛЕКІ

Быў час, як горкія памінкі, —
не мелі хлебнае скарынкі.
Што прамаўлялі мы тады?
— Не бойся! Выстаім, стрываем,
не вечны ён, палон бяды!
Ў мароз без паліва былі мы,
ды не адужалі нас зімы,
не аглушыў віхуры спрыт.
Мы ведалі: прыйсці цяплыні,
жывы развесніцца блакіт.
Хвароба, ростань, подых смерці —
упарта іх перамаглі мы.
І ў найпакутнейшы час гэты
з жыцця пуціны не сышлі.
І ўсё ў імя агульнай мэты
пераадолець мы змаглі.
Нас вылечыць бальзам надзеі
ад знанай горычы і страт.
І хай замоўкнуць дабрадзеі,
якія ведаюць так мала,
а прамаўляюць аж зашмат.

***1972***

## АБ ТРАДЫЦЫІ

Калісьці грунт адоленых дарог
быў кмечаны слядамі нашых ног.

Ды вось у гулкім наступе гадоў
бетон укрыў дарогі. Нашы ногі
на ім не пакідаюць больш слядоў.
Дык што рабіць? Крышыць паўсюд бетон,
каб адшукаць сляды мінулых дзён?
І як дарогам палявым на плечы
машыны ўзваляць
цяжар гэткіх тон?

***1962***

## КРОПЛІ

Кропля за кропляй — дождж.
Кропля за кропляй — слёзы.
Кропля за кропляй ступае раса
на травы ў лугах басанож.
Кропля за кропляй — жыта імкнецца ў засекі.
Кропля за кропляй — так вырастае турбота.
Кропля сцюдзёнай вады
іншых жаданей шчадрот
для смагаю сцятага рота.
Яду змяінага кроплі адной
хапае, каб жыццё абарваць.
Іскрына лятучая — кропля адна —
здатна пажар лясны ўзгадаваць.
Кропля за кропляй — бясконцасць жыцця
бруіцца па жылах галін, як кроў.
Людзі, сэрцы якіх, як кропля, малыя,
разбіваюць нас кроплямі слоў.

***1967***

## МОВА РУК

У рук —
мова свая.
Расстайнай часінай
у рук мова адна,
пры сустрэчы —
другая.
У радасны час —
адна,
горкай часінай —
другая.
Я ведаю, што ёсць мова
жалю,
няўцерпу,
адчаю.

…Рукі мае
загаварылі аднойчы
мовай сваёй,
калі вочы мае,
разумеючы ўсё,
з тваімі сустрэліся.

***1970***

## Я — ЗЯМЛЯ

Я — зямля, не гару ў агні,
вугаль ёсць ува мне і попел.
Я — вясна, ёсць лугі ў мяне,
дзе кветкам і травам цёпла.
Я — вецер; калі ў спакоі,
нічога ў свеце не значу.
Я — высокая хмара,
убачу пустыню —
заплачу.
Я — гарачае сэрца,
і калі не пачну біцца, —
застыну.
Чалавек я, і калі не стану людзьмі ганарыцца,
іх справамі годнымі, —
згіну.

Я — святло, і таму вораг цямрэчы.
Я нясу ў сабе радасць
і зберагаю самоту.
Я — вочы, не магу не глядзець.
Я — ручай, не магу не журчаць.

Чалавек я, і ёсць радзіма ў мяне.
Я ўмею назваць
вышэйшую ісціну,
я магу заклікаць,
я магу гаварыць
пра каханне і волю.

Я — граніт,
я ў сабе адчуваю такую пароду,
што яе не скрышыць
ні ў баі, ні ў бядзе,
ні ў працы.

Чалавек я —
без сяброўства памру.
Я — ручай і ў гарах свой пачатак бяру.

Я — пачатак быцця,
я ў дарозе заўжды,
я ў дыханні, у мары,
і ў вачах, і ў руцэ.

Я — зямля,
і зашчодра багацці людзям адкрываю.
Я — гарачае сэрца,
не б'юся калі —
паміраю.

***1965***

## ВЕР

Не давярай маладосці, —
сыдзе яна і пакіне табе
нямогласць,
твар у маршчынах…
Прыгажосці не давярай, —
яна пакіне табе
толькі горычны ўздых
аб мінулым…
Вер сэрцу свайму!
Яно будзе з табой
з першай
да апошняй хвіліны.
І калі яно часам
і баліць,
і сумуе,
дык ад вернасці
толькі.

***1966***

## БЕЗ ЗАХОДУ

Патрэбны мне свет без заходу,
Без легкаважнасці жартаў
І цяжару гора пры гэтым,
Каб дні ўсе былі без заходу,
Каб свет быў цэлым Сусветам.
Чалавек, напэўна ж, прытоміцца
Ад дня без канца і краю,
Дзе сонца, як толькі ўзыдзе,
Болей зайсці не жадае,
Дзе пясчынка зямнога шара
Ў сусветным святле палае?
Не!

У свеце святло сыходзіць
Не толькі ад сонца.
Таму што сонца ўзыходзіць,
А потым яно заходзіць.
Ёсць ззянне мацней, як у сонца.
І гэта ззянне жыцця.
Жыццё сысці не можа.
Свет яго — несыходны.
Жыццё супыніцца не можа,
Пакуль існуюць у ім людзі.
І сонца над намі не згасне,
Калі не патушаць людзі.

***1966***

## НЕСПАКОЙ

Гавораць:
Няўжо клопаты свету
Гэта ўсяго твае клопаты?
Дык чаму ж непакоішся гэтак,
Чаму заўсёды задумлівы,
Вечна пахмуры?

Адказваю:
Свет — гняздоўе маё,
Мая нара,
Мая схованка.
Свет — гэта дом чалавечы.
І як жыць,
Каб не мучыцца мукамі дому,
Каб не гараваць горам свету,
Каб не смуткаваць у ягоных нягодах,
Каб не радавацца радасцю свету?

***1966***

## ПАДСНЕЖНІК

Як толькі згінулі снягі —
трава на схілах мкне шалёна.
Падснежнікі, як жэмчугі,
гарэць на покрыве зялёным.
Як быццам бы на зыркі луг
па кроплі воблака апала…
Цвітуць падснежнікі наўкруг,
нібыта ўжо вясна настала.
Яшчэ марозу сняцца сны,
не здасца сцюжны ўзвей без бою.
Ты з весткай добрай, сын вясны!

Ды ўсё ж расправяцца з табою.
Няхай!
Для ўсіх жывых істот
прыход вясны такі жаданы.
І нават змерзнуўшы на лёд,
спяшаеш, юны, з году ў год,
у стан драпежніка-тырана.
І нават смерць яго калі
не будзе бачнай на зямлі,
ён сумаваць аб тым не стане.
Не ў крыўдзе ён.
І падміргне
сінечай воч сваіх вясне.
Няхай замерз —
вясна настане!

***1962***

## ПРАМЕТЭЙ

Праметэя
прысніў я, малы…
Ланцугамі прыкуты ён быў
у вышыні да скалы.
Рваў каршун кіпцюрамі
грудзі яго з усіх сіл.
Быў скаваны герой ланцугамі,
ды збавення ён не прасіў.
У вачах яго адбівалася
святло
аднаго чалавечага ачага.
Ледзьве кметна, лагодна
пасміхаўся яму Праметэй.
…Быў шчаслівы пакутай сваёй
на стагоддзі.

***1970***

***Пераклад з азербайджанскай***
***Міколы Мятліцкага.***

**Таццяна СІВЕЦ**

# ЗАХАВАННЕ АСАБЛІВАСЦЕЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ХАРАКТАРУ Ў ПЕРАКЛАДАХ З ДЖОРДЖА БАЙРАНА НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Пры аналізе перакладаў з Джорджа Байрана, зробленых айчыннымі творцамі ў ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя, можна адзначыць не толькі перадачу думкі іншанацыянальнага аўтара, але і захаванне нацыянальнай спецыфікі яго творчасці (там, дзе гэта з'яўляецца функцыянальна неабходным), а часам уводзяцца і адметныя характарыстыкі нацыі-прымальніка перакладной літаратурнай з'явы, выражаюцца спецыфічныя рысы беларускага нацыянальнага характару. Узнікае пытанне: што ж павінна заставацца з нацыянальных асаблівасцей арыгінала і што можна дадаць да іх з ліку нацыянальных рыс творчасці перакладчыка?

На першы погляд, пераклад — гэта стварэнне новай нацыянальнай формы, бо змест твора, напісанага на адной мове, «абгортваецца» ў новую моўную плынь, якая з'яўляецца першаэлементам формы. Па сутнасці ж, пераклад — гэта адлюстраванне арыгінала ў цэлым, перастварэнне і формы, і зместу на новым моўным матэрыяле, таму ў ім праяўляецца ўся нацыянальная спецыфіка перакладчыка, выражаная ў сістэме мастацкіх элементаў. Пераклад у гэтым рэчышчы становіцца арганічным сінтэзам асаблівасцей арыгінала, без якіх пераклад перастае быць творчасцю народа, што даў жыццё аўтару тэксту, і асаблівасцей перакладчыцкага асяроддзя.

Перакладзены з іншай мовы твор — носьбіт іншага жыцця, іншага спосабу мыслення, іншых параметраў разумення свету. Чым вышэйшая мастацкая вартасць перакладу, тым большая магчымасць міжвольнага параўнання, якое непасрэдна ўплывае на нацыянальную свядомасць, што выступае як шматаблічная катэгорыя і ахоплівае розныя бакі жыцця, стасункі чалавека з прыродай, рэчамі, іншым чалавекам або грамадствам. Працэс гэты вельмі няпросты, на яго шляху ўзнікае шмат праблем і пытанняў. Пры аналізе перакладаў гаворка ідзе звычайна аб пераносе нацыянальнай спецыфікі арыгінала, ды амаль ніколі пра ўласную нацыянальную спецыфіку перакладу. Гэта адбываецца па той прычыне, што перанясенне спецыфікі арыгінала з гранічнай паўнатой сведчыць пра вартасць перакладу, а ўнясенне нацыянальнай спецыфікі перакладчыка лічыцца, часцей за ўсё, адхіленнем ад норм мастацкага перакладу. Аднак, калі разглядаць пераклад як творчасць, трэба ўлічваць і творчую індывідуальнасць перакладчыка, якая ўваходзіць у паняцце «нацыянальная спецыфіка». Практыка ж сцвярджае, што менавіта плён працы перакладчыкаў-творцаў становіцца неад'емнай часткай нацыянальнай літаратуры.

Слова і яго разуменне звязана з нацыянальнымі асаблівасцямі. У беларускім слове адлюстроўваецца менталітэт нашага народа і беларускі нацыянальны характар. Такім чынам, спецыфіка мастацкага перакладу, у адрозненне ад іншых яго тыпаў, у тым, што дадзены працэс робіць слова не толькі аб'ектам камунікацыі, але і набывае эстэтычную функцыю літаратурнага элемента. У працэсе перакладу адбываюцца якасныя змены, звязаныя з засваеннем і духоўным перастварэннем новай сістэмы вобразаў, нязвыклых рэалій, іншай нацыянальнай свядомасці. Але, разам з тым, арыгінальны твор не перастае быць першасным актам у гэтым працэсе, хаця пры перакладзе павінна захоўвацца

дыялектычнае адзінства нацыянальных і інтэрнацыянальных элементаў зместу і формы мастацкага твора, і яго мастацкі пераклад павінен быць адлюстраваннем такога адзінства. «Параўнанне нацыянальнай спецыфікі праз пераклад з іншай, замежнай — нязменны фактар эвалюцыі, самаўдасканалення», — сцвярджае даследчык Карлас Шэрман [7, с. 239]. Дзякуючы перакладам, адкрываюцца новыя магчымасці светаўспрымання, выкарыстання мовы, а чытач пашырае свой кругагляд, знаходзіць новыя моманты для рэфлексіі і духоўнага самаўзбагачэння, вывучае ўласную нацыянальную спецыфіку.

Нацыянальны каларыт твораў Байрана дасягаецца ўзнаўленнем пейзажнай лірыкі, сукупнасці партрэтных і бытавых апісанняў. Вывучэнне перакладаў, у якіх захавана нацыянальная спецыфіка радзімы аўтара, дазваляе лепш зразумець глыбінны змест твора, у якім праз нацыянальна-стылістычныя асаблівасці мовы раскрываюцца тыя ці іншыя ўзуальна замацаваныя спосабы апісання сітуацыі і арганізацыі дыскурса. Аўтар праектуе на чытача ідэнтыфікатары сваёй этнічнасці, нацыянальнай ідэнтычнасці і нацыянальнай спецыфікі сваіх твораў. Адпаведна, нацыянальная ідэнтычнасць пісьменніка як усвядомленая этнічнасць вызначаецца шэрагам фактараў, найгалоўнейшыя з якіх — моўны, геаграфічны, культурны, дзяржаўны, ідэалагічны, рэлігійны і фактар гістарычнай памяці. Але варта адзначыць, што пра пісьменніцкую ідэнтычнасць можна казаць, толькі калі нацыянальная ідэнтычнасць аўтара-індывіда і яго твораў поўнасцю супадаюць.

Так, у паэме Дж. Байрана «Дон Жуан», якую перастварыў на беларускай мове ў пачатку XXI стагоддзя пісьменнік і перакладчык Уладзімір Скарынкін [2], галоўны герой з’яўляецца адначасова і адлюстраваннем самога аўтара, яго мастакоўскага «Я». Яго пачуцці, думкі, густы, вартасці і заганы, яго адчуванне свайго месца ў свеце імкнуўся перадаць У. Скарынкін разам з аўтарам падрадкоўніка, дапамогай якога ён мусіў карыстацца ў працэсе працы над перакладам.

Яшчэ Гётэ ў сваёй «Прамове пра Віланда» сфармуляваў два перакладчыцкія прынцыпы. Адзін патрабуе, каб замежны аўтар быў «пераселены» да нас, каб мы маглі ўспрымаць яго сваім, другі прапануе «выправіцца» да іншаземца і зведаць яго жыццё. Відавочна, што правільным з’яўляецца менавіта другі шлях, першы ж аднімае ў перакладзенага твора значную частку яго пазнавальнай вартасці. Такім чынам, мастацтва паэтычнага перакладу — гэта ў большай ступені мастацтва «прыносіць ахвяры» і рабіць перастварэнні. Самае галоўнае для перакладчыка — ведаць, чым можна ахвяраваць і ў які бок змяняць тэкст. Але дазволіць сабе змены перакладчык можа толькі тады, калі ён глыбока пранік у сутнасць перакладаемага матэрыялу, ведае жыццё і псіхалогію народа, якому належыць перакладаемы твор, адчувае «пласты семантычных радоў, месца твора ў сістэме традыцыі», а таксама ведае культуру і побыт сваёй уласнай краіны [6, с. 113]. Таму перакладчыку-паэту даводзіцца спалучаць натхненне мастака слова з дакладнай працай даследчыка, вучонага, каб дасягнуць сапраўднага поспеху ў мастацтве перакладу.

Трэба адзначыць, што Уладзіміру Скарынкіну з вялікай доляй пераканаўчасці ўдалося перадаць дух байранаўскага твора, яго спецыфіку, хаця і ў «крыху спрошчаным выглядзе», што пацвярджае і калега-перакладчык У. Скарынкіна — Васіль Зуёнак [5]. Перакладчык вытрымлівае рытмічны малюнак арыгінала, выкананы актавамі, і тып рыфмоўкі (АбАбАбвв). У. Скарынкін амаль паўсюдна спраўляецца з адэкватнай перадачай арыгінальнага зместу, аднак часам злоўжывае экспрэсіўнай ці лексічна маркіраванай лексікай, выкарыстоўвае прастамоўныя, гутарковыя словы, выбар якіх не матываваны арыгіналам:

Дж. Байран:

The lady rising up with such an air
As Venus rose with from the wave, on them
Bent like an antelope a Paphian pair
Of eyes, which put out each surrounding gem;

And raising up an arm as moonlight fair,
She signed to Baba, who first kissed the hem
Of her deep purple robe, and, speaking low,
Pointed to Juan who remained below [10, c. 682].

У. Скарынкін:

Венераю, што выйшла з акіяна
На ярка палымнеючую мель,
Яна на еўнуха і Дон-Жуана
Зірнула *іскрамётна,* як газель,
І знакам папрасіла *старыкана*
Наблізіцца. Пацалаваў *круцель*
Край вопраткі *загадкавай* жанчыны
І паказаў рукой у бок *хлапчыны* [2, с. 171].

Падкрэсленыя выразы змяняюць стылістычнае ўздзеянне перакладу, яны дадаюць да байранаўскіх вобразаў новыя адценні, якія выклікаюць у беларускамоўнага чытача іншыя асацыятыўна-эмацыйныя рэакцыі.

У той жа час у беларускім перакладзе паэмы шмат удалых апісанняў, мастацкіх вобразаў, гумару і сцэн кахання, дзе праявы беларускага нацыянальнага каларыту ўжываюцца да месца, псіхалагічна набліжаючы пераклад да айчыннага чытача, як, напрыклад, у наступных радках: «бо сонца — рыжае, як лісяня, — // Схавалася за ўзгорак...», «з іх кожны — заваёўнік і герой... // І раганосец. Вось і ладзь з табой», «у задуменні лоб рукой пачухаў», «ён глупствы заўважаў у іхніх словах, // Але (от, шэльма!) дамам гаваркім // Ніколі не рабіў заўваг суровых...» і інш. А апісанні прыроды, аўтарскія развагі і адступленні дапамагаюць глыбей адчуць спецыфіку аўтарскага стылю Байрана і яго часу, да прыкладу:

Дж. Байран:

But this can't well be true, just now; for writers
Are grown of the *beau monde* a part potential:
I've seen them balance even the scale with fighters,
Especially when young, for that's essential.
Why do their sketches fail them as inditers
Of what they deem themselves most consequential,
The real portrait of the highest tribe?
'T is that—in fact—there's little to describe [10, c. 779].

У. Скарынкін:

Цяпер — інакш. Вядомыя паэты
Ў наш час сябры *beau monde* неадменныя.
Усе яны ўпісаліся ў свет гэты
Больш натуральна нават, чым ваенныя,
І ведаюць усе яго сакрэты.
Чаму ж яны (такія ўсе сумленныя!)
Нічога не напішуць пра яго?
Бо пра яго пісаць няма чаго! [2, с. 351]

На думку пісьменніка-перакладчыка і даследчыка Умберта Эка, «любы пераклад... рухаецца ў прасторы літаратурных традыцый і умоўнасцей, якія непазбежна ўплываюць на рашэнні, прадыктаваныя густам» [8, с. 328]. Уменне вызначыць неабходнае ў арыгінале — адна з каштоўных якасцей аўтара перакладу. І тут творчы метад перакладчыка вырастае з яго светапогляду, у якім адбіваюцца рысы нацыянальнага менталітэту.

Я. Г. Эткінд называў паэзію «найвышэйшай формай быцця нацыянальнай мовы, у якой сканцэнтравана духоўнае багацце нацыі, асаблівасці яе гістарычнага і культурнага развіцця, духоўнай і разумовай дзейнасці яе прадстаўнікоў» [9, с. 3]. Адпаведна, зразумець паэзію іншага народа — значыць зразумець іншы нацыянальны характар. А нацыянальны характар беларусаў мае свае адметнасці, прама ці ўскосна адлюстраваныя не толькі ў арыгінальнай творчасці нацыянальных пісьменнікаў ды айчынным фальклоры, але і ў перакладах, у нашым выпадку — у перакладах з Байрана.

Вядома, што фарміраванне нацыянальнага характару — рыс, уласцівых большасці прадстаўнікоў нацыі, — адбываецца пад уплывам разнастайных фактараў: гістарычнага, эканамічнага, палітычнага, геаграфічнага, псіхічнага і іншага кшталту і выражаецца ў нацыянальнай культуры і літаратуры краіны. Для беларусаў і брытанцаў адрознасць гістарычных шляхоў і сацыяльна-палітычных умоў развіцця абумовіла і пэўнае непадабенства менталітэтаў. І галоўную ролю тут адыграла геапалітычнае становішча нашых краін. Да прыкладу, брытанскі эгацэнтрызм тлумачыцца астраўным месцазнаходжаннем краіны, а беларуская талерантнасць і цярплівасць — нашым памежным становішчам між Усходам і Захадам.

Брытанскі нацыянальны характар, яскрава вымалеваны Дж. Байранам, развіваўся пад уплывам еўрапейскай культуры, а менавіта яе пратэстнага варыянта, аднак адна з галоўных рыс яго — кансерватызм. Гэтая ж адметнасць у вялікай ступені ўласціва і характару беларусаў. Нацыянальная боязь радыкальных перамен і адданасць традыцыям падкрэслена перакладчыкам, напрыклад, пры перастварэнні радкоў, прысвечаных вандроўніку Чайльд Гарольду.

Дж. Байран:

Now Harold felt himself at length alone,
And bade to Christian tongues a long adieu;
Now he adventured on a shore unknown,
*Which all admire*, but many dread to view
[10, c. 429].

М. Арочка:

І вось Гарольд адзін!
Хрыбты навокал.
Для хрысціянскіх моў тут край чужы.
Асмеліцца не кожны на вандроўку
Па дзікіх, цесных сцежках у глушы
[1, с. 118].

Пры перакладзе М. Арочкам было апушчана байранаўскае азначэнне «which all admire» (літ. «якім усе захапляюцца»), а змрочны малюнак чужыны, які ў Байрана характарызуецца як «незнаёмы бераг, на які многія баяцца зірнуць», узмоцнены вобразам «дзікіх, цесных сцежак у глушы». Такім чынам перакладчык перадае ўласцівую беларускай нацыі боязь невядомых краёў і далёкіх вандровак.

Павага да сваёй даўніны таксама ўласціва нашым нацыянальным характарам і з рознымі адценнямі: для брытанцаў — гэта гонар за славу продкаў, а для беларусаў часам — сорам ад няведання гэтай славы і пачуццё віны за згубленыя каштоўнасці, параўнаем:

Дж. Байран:

The Childe departed from his father's hall:
It was a vast and venerable pile;
So old, it seemèd only not to fall,
Yet strength was pillar'd in each massy aisle [10, c. 398].

Р. Барадулін:

Расстаўся з замкам продкаў юны Чайльд Гарольд —
З будынінаю велічнай, старою,
Дзе запусцення панаваў адчай.
Вякі прайшлі над ёй шумлівым роем… [1, с. 85]

Імкненне жыхароў Альбіёна да ўпарадкаванасці, сістэматызацыі і структурызацыі зрабіла іх мову дакладнай і фармальна ўмацаванай, у той час, як беларуская мова і па сёння працягвае развівацца разам з усёй беларускай нацыяй, таму і формы выражэння думкі ў беларускай мове — больш разнастайныя. Напрыклад, радок Байрана «My soul is dark» розныя беларускія перакладчыкі перадаюць, як: «Мая душа як ноч», «Змрок на душы маёй», «Душа мая ўначэла», «Схмурнеў мой дух», «У сэрцы змрок»; параўнальны зварот «She walks in Beauty like the night» перакладаюць, як: «Яна ідзе ў красе нямой», «Нясе красу сваю як ноч», «Як ноч у месячнай красе», «Яна ідзе ў красе сваёй»; ды і цэлая страфа, якая на мове Байрана гучыць: «Those smiles unto the moodiest mind // Their own pure joy impart; // Their sunshine leaves a glow behind // That lightens o'er the heart», набывае розныя варыянты перакладу:

Ю. Гаўрук:

Твой посміх так на сталы смутак мой
Струменем радасці ліецца,
Прагнаўшы прэч тугу і неспакой,
Надоўга ў сэрцы застаецца [4, с. 255].

У. Дубоўка:

Таксама ўсмешкаю вачэй
Шлеш водзіркі ты ў сэрца мне.
І стане ў ім святлей, лягчэй,
А найгарчэйшы жаль міне [4, с. 64].

Р. Барадулін:

Надзеліць радасцю ў бядзе
Усмешка цеплыні,
І сонца ў сэрца западзе
Свяціцца з глыбіні [4, с. 256].

Як бачым, кожны перакладчык прыўносіць у радкі Байрана ўласцівы яму стыль і адчуванне прыгажосці. Пры гэтым, калі «ўсмешкі» ў арыгінале «дораць сонечнае святло», у Гаўрука «посміх» ліецца «струменем радасці», у Дубоўкі — «усмешка вачэй шле водзіркі ў сэрца», а ў Барадуліна — «усмешка цеплыні надзяляе радасцю». Хаця ўсе перакладчыкі здолелі перадаць уражанне ад святла, адпаведнае байранаўскаму, аднак пры гэтым яны імкнуліся захаваць уласцівую беларусам сціпласць у перадачы інтымных пачуццяў.

У барацьбе супраць неспрыяльных геакліматычных умоў і ў брытанскім, і ў беларускім нацыянальным характары праявілася яшчэ адна падобная рыса — працавітасць і імкненне да пераадолення цяжкасцей. Аднак у брытанцаў гэтая асаблівасць набыла прыкметы змагарства, барацьбы за справядлівасць, а ў беларусаў — павышанай жыццястойкасці, павязанасці з зямлёй, імкненнем любымі сродкамі «прыдбаць свой кут», і калі Чайльд Гарольд, «не ўздыхнуўшы», пакідае дом у радках Песні Першай у перакладзе Р. Барадуліна, то ў «Развітальнай песні Чайльд Гарольда», пераклад якой выканаў Я. Семяжон, гучыць роспач хутчэй перакладчыка, а не аўтара:

Я. Семяжон:

Прэч жаль, дзіця! Каб волю даць
Мне сэрцу — бачыць бог, —
Я мог бы плакаць і рыдаць,
Калі б я плакаць мог [1, с. 85].

Дж. Байран:

Enough, enough, my little lad!
Such tears become thine eye;
If I thy guileless bosom had,
Mine own would not be dry [10, с. 384].

Увогуле беларускай нацыі ўласціва асаблівая любоў да роднай зямлі, адчуванне неаддзельнасці ад сваіх каранёў. З гэтага пачуцця — усе іншыя рысы нашага нацыянальнага характару. Перш за ўсё, патрыятызм, але без пачуцця ўласнай перавагі. Гэта адчуваецца і пры перастварэнні перакладчыкамі эпічных паэм і геранчнай лірыкі Байрана, напрыклад, намаганнямі У. Дубоўкі з'яўляюцца дадатковыя беларускія патрыятычныя адценні ў байранаўскіх радках: «Ці можа быць, каб я хвалу не ўзнёс — // Сваёй айчыне гордай — да нябёс?»; «Мая айчына! Ці дасі мне сіл, // Каб зграю вырадкаў я закляйміў…»; «І хоць тваіх зняволілі сыноў, // Забралі ў змрочны, падзямельны лёх, — // З іх мук Айчына йдзе да перамог, // Ты ўзнімеш крылы ў першым ветры зноў» і інш. З асаблівым пачуццём пераклаў Дубоўка радкі з паэмы «Бронзавы век», у якіх гаворыцца і пра нашу гісторыю часоў вайны з Напалеонам, і нават пашырыў байранаўскі змест:

…Ye who dwell where Kosciusko dwelt, remembering yet
The unpaid amount of Catherine's bloody debt! [3, с. 270]

У. Дубоўка:

Вы, жыхары Касцюшкавай зямлі,
Якую скрозь крывёю залілі
<u>*Сатрапы*</u> кацярынінскіх часоў…
Вы не забыліся на тую кроў! [4, с. 218]

Для брытанцаў характэрны дух спаборніцтва, барацьбы ўсіх супраць усіх, якая адпавядае знакамітаму выказванню англійскага філосафа-матэрыяліста Томаса Гобса «Homo homini lupus est» («Чалавек чалавеку воўк»). Гэтыя рысы праяўляюцца ў рамантычным светапоглядзе байранаўскіх герояў-адзіночак (Чайльд Гарольда, Манфрэда, Карсара і іншых), у той час як беларускую нацыю ў большай ступені характарызуе імкненне згуртавацца: ці пад кіраўніцтвам моцнай асобы, ці талакою на карысць усіх аднавяскоўцаў. Пры гэтым, беларусам уласціва вялікая мужнасць і здольнасць да аб'яднання ў часы выпрабаванняў, стойкасць перад тварам нягод.

Да прыкладу, у працэсе перакладу на беларускую мову Першай песні з паэмы Дж. Байрана «Паломніцтва Чайльд Гарольда» Р. Барадуліным быў перададзены вобраз маладой іспанкі, што «з мячом заручаная ў барацьбе, Радзіму ўславіць подзвігам жадае». Лірычная гераіня ў перакладзе нагадвае вобразы мужных беларускіх жанчын, якія баранілі нашу краіну ў час шматлікіх войнаў:

Дж. Байран:

Her lover sinks, — she sheds no ill-timed tear;
Her chief is slain — she fills his fatal post;
Her fellows flee — she checks their base career;
The foe retires — she heads the sallying host:
Who can appease like her a lover's ghost?

Who can avenge so well a leader's fall?
What maid retrieve when man's flush'd hope is lost?
Who hang so fiercely on the flying Gaul,
Foil'd by a woman's hand, before a batter'd wall? [10, c. 403]

Р. Барадулін:

Забілі жаніха — без слёз яна.
Паранен камандзір — сама на стрэмя,
Бягуць сябры — супыніць іх адна.
Пабег француз — дагоніць і пярэйме,
Прах любага аддасць зямлі каменнай
І лепш адпомсціць за правадыра;
Надзею ў сэрцы збудзіць і сумленнасць
Іскрынкай светлай веры ля кастра
Хто іншы, як не чэснай храбрасці сястра? [4, с. 127]

Пераклад Р. Барадуліна гучыць больш упэўнена, чым арыгінал. Замест чатырох байранаўскіх пытальных сказаў у ім — адно пытанне, а ўсё астатняе з'яўляецца абагульненым азначэннем гераіні. Акрамя таго, вобраз кастра, якога няма ў прыведзеных радках з Байрана, наводзіць на думкі пра беларускіх партызан, а эпітэт «чэснай храбрасці сястра» ўскладняе ўспрыняцце верша і ўзмацняе яго пафас. Аднак менавіта такі погляд на жанчыну адпавядае беларускаму нацыянальнаму характару і адначасова нагадвае верш А. Міцкевіча «Смерць палкоўніка», прысвечаны ўдзельніцы паўстання 1830—1831 гадоў гераіні Эміліі Плятэр.

Гэтак жа ўзнёсла перастварае на беларускай мове верш Дж. Байрана «Смерць героя» («Thy days are done» ці «The Patriot») Пятро Глебка. У дадзеным перакладзе адчуваецца ўплыў традыцый беларускага эпасу, у якім Герой надзяляўся рысамі волата, змагара і прарока. У той час, як у арыгінале гаворыцца толькі пра тое, што кроў героя будзе струменіць у жылах, а яго дух — у подыху **суайчыннікаў**, перакладчык робіць выснову пра ролю гераічнага ўчынку для «ўнукаў і сыноў», параўнаем:

Дж. Байран:

Though thou art fall'n, while we are free
Thou shalt not taste of death!
The generous blood that flowed from thee
Disdained to sink beneath:
Within our veins its currents be,
Thy spirit in our breath!
[3, c. 168]

П. Глебка:

Пакуль народ свабодзе рад,
Цябе ніхто забыць не ў сілах,
Бо кроў твая не знікла, брат —
Яна пульсуе ў нашых жылах,
І подзвіг твой натхніць ізноў
Тваіх унукаў і сыноў
[4, с. 67].

Аднак нацыянальны характар беларусаў выяўляецца і праз дыялектычныя супярэчнасці. Так, мужнасць спалучаецца з разважлівасцю, а цярплівасць — з пакорлівасцю. Пры перастварэнні радкоў з паэмы «Бронзавы век» У. Дубоўка вуснамі Байрана прамаўляе асноўны прынцып выжывання для беларуса мінулага:

«Ад усяго багацця тых часін // Застаўся толькі запавет адзін: // Цярпі, сціскайся, лепшага чакай // І на жыццё сваё не наракай…» У той час, як у англійскага паэта гаворыцца толькі пра «цярплівасць» і «задаволенасць» («And nought remains of all the millions spent, // Excepting to grow moderate and content» [3, с. 283]). Пра лёс беларусаў, відавочна, думае і Язэп Семяжон, перакладаючы радкі з Песні чацвёртай «Паломніцтва Чайльд Гарольда» Дж. Байрана наступным чынам:

Зямля, набраклая салёным потам, —
Твой грунт, твая ж карона — бездань неба,
Якое л'е дажджом і цісне гнётам
Хвароб, памору і нястачы хлеба
І горам там, дзе б радавацца трэба [4, с. 151].

У арыгінале ж гаворыцца пра тое, што горш за ўсе няшчасці — нямыя стогны невылечна хворай душы і сэрца, што не перастае балець («And worse, the woes we see not — which throb through // The immedicable soul, with heart-aches ever new»).

Няўпэўненасць нашага суайчынніка часам прыводзіць яго да песімізму, які адлюстраваны ў перакладзеных У. Дубоўкам «Стансах да Аўгусты» пры дапамозе метафар і параўнанняў наступным чынам: «Закацілася сонейка лёсу, // Зорка шчасця прымеркла зусім. // За людскою хлуснёй стогалосай // Сэрцам шчырым не йдзеш ты сваім» [4, с. 78]. Аднак той жа Дубоўка перапрацоўвае, пашырае байранаўскі вобраз «пустыні», выкарыстоўваючы сродак адмаўлення («Свет — не пустыня мне з табой!» [4, с. 77]), замест арыгінальнага простага параўнання дзяўчыны з крыніцай і дрэвам у пустыні («In the Desert a fountain is springing, // In the wide waste thee still is a tree…» [10, с. 129]).

Наогул нашым перакладчыкам удалося насыціць байранаўскія радкі беларускімі нацыянальнымі рэаліямі і нават адметным гумарам, калі гаворка ідзе, напрыклад, пра традыцыйную запаслівасць: «Not in vain he wore his sandal-shoon» — «Мы пройдзем з ім любыя церні, сандалій прыкупіўшы пра запас» [1, с. 147].

Такім чынам, у перакладах з Байрана адначасова адчуваецца ўплыў як англійскага нацыянальнага характару, так і беларускага. Да таго ж, у беларускім нацыянальным характары разам з адметна нацыянальнымі назіраюцца і агульнарамантычныя рысы: у сувязі з тым, што традыцыі рамантызму былі вельмі моцнымі на тэрыторыі нашай краіны. І асноўнае апірышча рамантызму — фальклор — адначасова і фарміраваў, і адлюстроўваў асаблівасці нацыянальнага характару беларусаў. Пры гэтым, у перадачы адметных рыс як англійскага, так і беларускага нацыянальнага характару перакладчыкі Байрана на беларускую мову здолелі пазбегнуць скажэнняў і схематызму, што дазволіла адлюстраваць як іх падабенства, так і адрозненне.

**Літаратура:**

1. Байран, Дж. Г. Выбранае: [зборнік] / Дж. Г. Байран ; [склад., агул. рэд. пер. і камент. Я. Семяжона]. — Мінск : Дзярж. выд-ва БССР, 1963. — 410 с.

2. Байран, Дж. Дон-Жуан; Прароцтва Дантэ: Паэмы / Дж. Байран; [пер. з англ. У. М. Скарынкіна]. — Мінск : Маст. літ., 2004. — 479 с.

3. Байрон, Дж. Г. Избранное = Selections from Byron / Дж. Г. Байрон. — 2-е изд. — Москва: Прогресс, 1979. — 520 с.

4. Байран, Дж. Г. Лірыка: [зборнік] / Дж. Г. Байран; [уклад., прадм. і камент. В. Небышынца]. — Мінск: Маст. літ., 1989. — 288 с.

5. Зуёнак, В. З Дон Жуанам па-беларуску… / В. Зуёнак // Род. слова. — 2003. — № 11. — С. 74—75.

6. Огнев, В. Ф. Свидетельства: дневник критика, 1970—1974 / В. Ф. Огнев. — М. : Совет. писатель, 1982. — 470 с.

7. Шэрман, К. Таямніцы почырку: літ.-крыт. арт., эсэ / К. Шэрман. — Мінск : Маст. літ., 1995. — 255 с.

8. Эко, У. Сказать почти то же самое : опыты о переводе / У. Эко. — СПб.: Симпозиум, 2006. — 572 с.

9. Эткинд, Е. Поэзия и перевод / Е. Эткинд. — М.; Л.: Совет. писатель, 1963. — 430 с.

10. Byron, G. G. The poetical works of Lord Byron / G. G. Byron. — London : Ward, Lock and Co., [1911]. — 836 p.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 жніўня 2010 года.

**Таццяна Сівец**
**«Захаванне асаблівасцей нацыянальнага характару ў перакладах з Джорджа Байрана на беларускую мову»**

**Рэзюмэ**

Беларускія перакладчыкі Байрана імкнуліся да рэалізацыі норм і узуса іншанацыянальнай мовы, творча і рупліва ставіліся да справы, перапрацоўваючы пераклады, стылістычна набліжаючы іх да арыгінальных твораў Дж. Г. Байрана.

У перакладах з Байрана, зробленых айчыннымі творцамі ў XX стагоддзі, не толькі перадаецца думка іншанацыянальнага аўтара, але і часткова захоўваецца нацыянальная спецыфіка яго творчасці, уводзяцца адметныя рысы нацыі-прымальніка перакладной літаратурнай з'явы.

Пераклад (у тым ліку і пераклад з Байрана) у XX стагоддзі заклаў аснову для развіцця нацыянальнай літаратуры.

**Tatyana Sivets**
**«Saving the Peculiarities of the National Character in Belarusian Translations of Byron's Poetry»**

**The summary**

Belarusian translations from Byron aimed at realization of the norms and usage of the English language, lubricated creatively when working at the texts, approximating them stylistically to Byron's originals.

In the translations of Byron made by the national authors in the XX-th century not only the thought of the foreign writer is delivered but his national particularity is kept and the characteristic traits of the translation recipient-nation are added where necessary.

Translating (from Byron including) in the XX-th century laid the basis for the further development of the national literature.

# НААСФЕРНАЯ ДУХОЎНА-ЭКАЛАГІЧНАЯ АСАМБЛЕЯ СВЕТУ

***18—20 кастрычніка 2010 года пры фінансавай падтрымцы Прэзідэнта Казахстана Н. А. Назарбаева ў горадзе Астана (Казахстан) адбыўся Сусветны форум духоўнай культуры. У яго рабоце прымалі ўдзел па запрашэнні міжнароднага аргкамітэта больш за чатырыста вядомых у свеце вучоных, палітычных, рэлігійных дзеячаў, прадстаўнікоў культуры з сямідзесяці краін усіх кантынентаў свету. Казахстан прызнаны ўдзельнікамі форуму Цэнтрам духоўнай наасфернай культуры на азіяцкай прасторы, дзе вырашана праводзіць наступныя аналагічныя форумы.***

***Удзельнікі форуму аднагалосна адобрылі наасферную Канстытуцыю чалавецтва, якую накіравалі на разгляд у ААН для зацвярджэння яе як вышэйшага інавацыйнага планетарнага Закона разумнай жыццядзейнасці зямлян.***

***У гонар 150-годдзя з дня нараджэння У. І. Вярнадскага форум прапанаваў ЮНЕСКА 2013 год аб'явіць годам гэтага найвялікшага мысліцеля планеты.***

***Каардынацыйная калегія Наасфернай духоўна-экалагічнай асамблеі свету (НДЭАС) выказала Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку шчырую падтрымку яго палітыкі, накіраванай на захаванне і развіццё краіны і яе народа. Была выказана ўпэўненасць, што Беларусь і надалей будзе ісці інавацыйным шляхам.***

***У рабоце форуму ад нашай краіны прымаў удзел аўтар тэорыі наасфернай эканомікі акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Пётр Георгіевіч Нікіценка.***

***Часопіс «Полымя» знаёміць чытачоў з выступленнем члена нашай рэдакцыйнай калегіі на гэтым форуме, дзе прагучаў заклік да сусветнай супольнасці выкарыстоўваць духоўна-маральныя метады гаспадарання, ліквідаваць беднасць, адмовіцца ад войнаў і насілля.***

Пётр НІКІЦЕНКА

# НААСФЕРНАЯ ЭКАНОМІКА — РАЗУМНАЯ ДУХОЎНА-МАРАЛЬНАЯ ГАСПАДАРЧАЯ СІСТЭМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА І ПЛАНЕТАРНАГА ГРАМАДСКАГА ЎЗНАЎЛЕННЯ

У Рэспубліцы Беларусь, пад кіраўніцтвам і непасрэдным удзелам Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі рэалізуецца мадэль станаўлення наасфернай эканомікі і наасфернага грамадства. Зыходзячы з аўтарскага досведу распрацоўкі інавацыйных праграм і мадэляў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі, варта звярнуць увагу на змест адной з усходніх прыказак: «Колькі б ні казалі «халва, халва…», але калі яе няма, то ў роце саладзей не стане…» Аналагічны стан будзе адбывацца і з рэалізацыяй палажэнняў Наа-Канстытуцыі, якая можа і павінна стаць вышэйшым інавацыйным планетарным Законам разумнай духоўна-маральнай жыццядзейнасці зямлян.

Для таго каб дадзены закон у кожнай дзяржаве і свеце пачаў дзейнічаць, неабходна фарміраваць і развіваць адэкватную палажэнням Наа-Канстытуцыі наасферны светапогляд, эканамічнае мысленне і натуральна-нарматыўную практыку гаспадарчай дзейнасці пад паняццем «наасферная эканоміка».

Пры гэтым важна само паняцце «эканоміка» тлумачыць у першапачатковым старажытнагрэчаскім словазлучэнні: «ойкос» — гаспадарка (хата, жыллё) і «номас» — закон. Эканоміка як натуральны гаспадарчы закон жыццядзейнасці людзей дзейнічае ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці з іншымі натуральнымі касмапрыроднымі і грамадскімі законамі: захавання матэрыі, энергіі і магнетызму, адмаўлення адмаўлення, адзінства і ўзаемапранікнення супрацьлегласцей, пераходу колькасці ў якасць, адпаведнасці попыту і прапановы, павышэння патрэб людзей і г. д. (гл. схему).



Нараўне з натуральнай эканомікай дзейнічае нарматыўная спажывецкая эканоміка на аснове ўстаноўленых дзяржавамі прававых нарматываў і законаў, якія, як правіла, адлюстроўваюць суб'ектыўныя інтарэсы ўладных структур і чыноўнікаў. Нарматыўная эканоміка патрабуе адміністрацыйных суб'ектыўных гвалтоўных метадаў кіравання шляхам усталявання забарон, пакаранняў, тарыфаў, штрафаў, норм, ліцэнзій, шматлікіх статыстычных паказчыкаў, ускладнення заканатворчай, бухгалтарскай, падатковай сістэм, разнастайнасці і шматступеннага кантролю, рэгулявання заработнай платы і пенсій па-за сувяззю з эфектыўнасцю прадукцыйнай працы чалавека і інш., гэта значыць, наша жыццядзейнасць, калі казаць мовай мастацтва майго земляка, сусветна вядомага віцебскага мастака Казіміра Малевіча, знаходзіцца ў «Чорным квадраце».

Нарматыўная ваенна-сілавая эканоміка ведаў

Нарматыўная папярова-бюракратычная эканоміка ведаў

Наасферная эканоміка

Наасфернае грамадства

Нарматыўная фіскальна-манетарная эканоміка ведаў

Ненарматыўная ценявая эканоміка ведаў

У выніку нарматыўная эканоміка ўсё больш уваходзіць у дысгармонію з натуральнай эканомікай, што выяўляецца ва ўзнаўленні фінансава-эканамічных крызісаў, войнах, катаклізмах, росце занятага працаздольнага насельніцтва ў папяровай, ценявой і інфляцыйнай эканоміцы, сацыяльным паразітызме і бязмоўі людзей да чарговых крызісаў, войн і катастроф.

Тэхнагеннае развіццё цывілізацыі, узрослая моц нарматыўнай эканомікі, негатыўныя тэндэнцыі яе глабалізацыі цяпер сталі галоўнымі фактарамі неабходнасці змены біясферных і наасферных канстант нашай планеты. Абвастрылася барацьба за рэсурсы, адбылося небывалае расслаенне свету па даходах, пазначыўся сістэмны крызіс духоўнасці Чалавека па прычыне яго адчужэння ад Прыроды і Космасу. У выніку чалавецтва апынулася перад пагрозай агульнацывілізацыйнага крызісу і дасягнула, вобразна кажучы, «межаў росту». Ужо ў XXI стагоддзі могуць узнікнуць умовы, пры якіх далейшае развіццё чалавечай цывілізацыі стане немагчымым.

Усё вышэйсказанае ўказвае на тое, што краіны свету знаходзяцца ва ўмовах аб'ектыўнага трансфармацыйнага імператыва — неабходнасці пераходу на рэалізацыю новай наасфернай планетарнай парадыгмы свайго сацыяльна-эканамічнага развіцця — забеспячэнні разумнай гаспадарчай гарманізацыі макрасістэмы «Прырода — Чалавек — Грамадства», дзе каштоўнасцю і самакаштоўнасцю грамадскага ўзнаўлення становяцца Чалавек і Прырода з улікам выкарыстання натуральных і міжнародных цывілізацыйных нарматыўных законаў, стандартаў, прынцыпаў і тэндэнцый, але з захаваннем сваёй гісторыі, духоўнай і матэрыяльнай культур.

Паняцце «наасферная эканоміка» намі тлумачыцца як ***разумная прырода- і чалавеказберагаючая духоўна-маральная гаспадарчая сістэма грамадскага ўзнаўлення прыроды, чалавека, тавараў, прац і паслуг на аснове гарманізацыі натуральнай і нарматыўнай эканомік, удасканалення сістэмы карпаратыўных інавацыйных планетарных вытворчых адносін і пера-***

***важна постіндустрыяльных прадукцыйных сіл з адпаведнымі крытэрыямі эфектыўнасці: крэатыўным развіццём асобы чалавека, максімальнай занятасцю працаздольнага насельніцтва краіны і росту даўгалецця людзей, захаваннем прыроды для будучых пакаленняў, істотным ростам ВУП і яго разумным размеркаваннем паміж адносна багатымі і беднымі членамі грамадства па эфектыўнасці іх працы.*** Пры гэтым чалавек намі тлумачыцца як разумны касмасапрыродны нанатэхналагічны біясацыяльны кластар, які складаецца з 3—5 працэнтаў бактэрый, мікробаў, вірусаў і 95 працэнтаў вады, здольны да пераходу, трансферу (рэйнкарнацыі) у іншыя энерга-магнетычныя формы існавання. Розум, думка, свядомасць, страх, інстынкт самазахавання, насілле, зайздрасць, каханне, вера, надзея, інтуіцыя і іншыя паняцці адлюстроўваюць назвы адпаведнай энерга-магнетычнай матэрыяльнасці малекул, бактэрый і вірусаў.

На ўсіх этапах і пры ўсіх спосабах (сістэмах) грамадскага ўзнаўлення Розум Чалавека выступаў у розных формах ведаў і ўвасабляўся як у інтэлекце чалавека, яго прафесіяналізме (чалавечым патэнцыяле), так і ў тэхналогіях, тэхналагічных укладах НТП. Па сутнасці, Розум Чалавека і яго планетарнае назапашванне забяспечвалі развіццё сусветных прадукцыйных сіл, тэхналогій і вытворчых адносін, якія змянялі спосабы нацыянальнага грамадскага ўзнаўлення, яго мэтавыя прыярытэты і каштоўнасці (гл. дыяграму).

Характэрнай асаблівасцю наасфернай эканомікі з'яўляецца прызнанне таго, што нараўне са стварэннем новага тавара — наасферных ведаў узрастае роля энерга-магнетычнай разумовай дыфузіі і трансферту розуму. Гэта падразумявае ўзмацненне ўвагі «размеркавальным адносінам сусветных назапашванняў ведаў» (сферы розуму) і «нацыянальным інавацыйным сістэмам», якія выступаюць выканаўчымі інструментамі і структурамі выкарыстання планетарнага розуму ў эканоміцы як тавара.

Зыходзячы са зместу і мэтавай функцыі наасферноай эканомікі, відавочна, што грамадскае ўзнаўленне ў ёй мэтазгодна разглядаць у адзінстве па трох сукупных сферах грамадскага ўзнаўлення:

$$\begin{array}{l} \text{I } C_1+V_1+M_1=\Pi_1; \\ \text{II } C_2+V_2+M_2=\Pi_2; \\ \underline{\text{III } C_3+V_3+M_3=\Pi_3;} \\ \sum C+V+M=\Pi \end{array} \qquad (1)$$

*дзе*

I — вытворчасць сродкаў вытворчасці (**П. Н.** — уключаючы прыродныя рэсурсы); II — вытворчасць прадметаў спажывання (**П. Н.** — уключаючы дарункі прыроды); III — вытворчасць чалавека як біясацыяльнага прадукта (розум, веды, навука, адукацыя, культура, паслугі); C, V, M, П — узнаўленне адпаведна пастаянных фондаў, пераменных фондаў, дададзенага прадукта і валавога нацыянальнага прадукта.

Зыходзячы з канцэптуальных палажэнняў аб цэласнай прыродзе назапашвання ў постіндустрыяльнай наасфернай эканоміцы важна вызначыць адэкватную ўсеагульную сацыяльна-эканамічную форму яго функцыяніравання. Тым больш, што, па сутнасці, у дачыненні да разглядаемага тыпу эканомікі такой навукова адпрацаванай усеагульнай функцыянальнай сацыяльна-эканамічнай катэгорыі як капітал пакуль не выяўлена, хоць пры разглядзе сутнасці назапашвання, а таксама ў схемах і матрыцах трохсектарнай мадэлі ўзнаўленчага працэсу прасочваецца аб'ектыўная магчымасць выкарыстання замест капіталу ў якасці функцыянальнай сацыяльна-эканамічнай катэгорыі «Фонды».

Дыяграма стадый развіцця наасфернага грамадства, складзеная па сістэме «SINIC».



Абгрунтаванасць такога падыходу пераконвае нас даследаванне праблем фондаёмістасці прадукцыі ва ўмовах усямернай інтэнсіфікацыі і інавацыйнасці вытворчасці. Менавіта гэта катэгорыя дазваляе не толькі ўсталёўваць і выяўляць агульную сувязь і супадпарадкаванасць мэт, крыніц, фактараў і формаў назапашвання ў наасфернай эканоміцы, але і ствараць шляхам пераважна фондаэканомных метадаў гаспадарання магчымасць ажыццяўляць пабудову сістэмы планамернага кіравання эфектыўнасцю дзейнасці ва ўсіх сферах (эканамічнай, сацыяльнай і экалагічнай), а таксама на рэгіянальным, галіновым і вытворчым узроўнях.

Усеагульнымі рэчыўнымі носьбітамі любога спосабу вытворчасці і тыпу назапашвання могуць быць толькі прыродныя рэсурсы, сродкі вытворчасці і людзі. Фонды ж, роўна як і капітал, з'яўляюцца па сваёй сацыяльна-эканамічнай прыродзе сацыяльна-эканамічнай формай назапашвання, перш за ўсё вытворчых адносін, якія прадстаўленыя ў гэтых і іншых назапашаных рэчыўных элементах і надаюць ім спецыфічны грамадскі характар. Пра гэта К. Маркс адзначаў: «Капітал — гэта не рэч, а вызначаныя, грамадскія, прыналежныя канкрэтнай гістарычнай фармацыі грамадства вытворчыя адносіны, якія прадстаўлены ў рэчы і надаюць гэтай рэчы спецыфічны грамадскі характар».

Па аналогіі з дадзеным азначэннем капіталу можа быць выяўлена і сацыяльна-эканамічнае значэнне фондаў: фонды гэта не рэч, а вызначаныя грамадска-вытворчыя адносіны, якія прадстаўлены ў рэчы і надаюць гэтай рэчы ў наасфернай эканоміцы духоўна-маральны грамадскі характар. Пры такой трактоўцы фонды ў адрозненне ад капіталу па сваёй сацыяльна-эканамічнай сутнасці выключаюць адчужанасць чалавека ад рэчыўных фактараў вытворчасці, эксплуатацыю працоўных і прыроды і сцвярджаюць сацыяльную справядлівасць на аснове ўсеагульнасці навуковай працы, эквівалентнага абмену вынікамі працы і беражлівае стаўленне да прыроды і чалавека.

Фонды, на наш погляд, па сваім рэчыўным саставе павінны адрознівацца ад капіталу колькасна. Адрозненне павінна складацца не ў тым, каб не ўключаць у свой склад працоўную сілу, што мае месца ў цяперашні час, а ў тым, каб гэтая катэгорыя, наадварот, уключала нараўне з рэчыўнымі фактарамі не толькі працоўную сілу, але і самога работніка, як яе працоўнага рэсурсавага носьбіта.

Гэта патрабаванне арганічна выцякае з разгледжанай намі сутнасці назапашвання ў наасфернай эканоміцы. Пры гэтым трэба адзначыць, што на практыцы для працоўных калектываў цяпер важнейшым і неабходным становіцца імкненне мець у сваім складзе не толькі працоўную сілу, але і самога работніка як крэатыўную асобу, якая актыўна і творча ўдзельнічае ў працэсе вытворчасі. Больш таго, у састаў фондаў, зыходзячы з разгледжанай намі сутнасці назапашвання, мэтазгодна ўключаць не толькі працоўныя, фінансавыя, інфармацыйныя, энергетычныя рэсурсы і сродкі вытворчасці, але і прыродныя рэсурсы, такім чынам, усё назапашанае нацыянальнае багацце. Інакш кажучы, фонды павінны адлюстроўваць вытворчыя духоўна-маральныя адносіны ў грамадскім узнаўленні наасферной эканомікі да ўсяго назапашанага нацыянальнага багацця.

Уключэнне кошту працоўных і прыродных рэсурсаў разам са сродкамі вытворчасці ў састаў фондаў мае выключнае значэнне для павышэння эфектыўнасці ў наасфернай эканоміцы. Яны ў выкладзеным рэчыўным складзе дазваляюць ажыццяўляць рэальны духоўна-маральны гаспадарчы разлік на ўсіх іерархічных узроўнях і ва ўсіх сферах дзейнасці. Яны рэальна змогуць падахвочваць рэгіёны, прадпрыемствы, індывідуальных вытворцаў дамагацца карыснага выніку не пры найменшых выдатках капіталу для атрымання прыбытку, што характарызуе сутнасць капіталу, а пры недапушчэнні ніякіх страт рэсурсаў (фондаў) для атрымання большага зноў створанага кошту (прыбытку), захавання чалавека і прыроды для будучых пакаленняў. У гэтым складаецца прынцыповая розніца ад капіталу, таму што сувымярэнне ўсяго зноў створанага кошту (прыбытку)

з фондамі (рэсурсамі) прадпрыемства або рэгіёна дазволіць даць аб'ектыўную комплексную ацэнку эфектыўнасці кожнага ўдзельніка вытворчасці.

Разам з тым не менш важна для абгрунтавання фондаў як формы назапашвання ва ўмовах наасфернай эканомікі зразумець, што яны, як і капітал, ёсць рух кошту, а не рэч, што знаходзіцца ў супакоі. У працэсе назапашвання фонды здзяйсняюць бесперапынны рух — кругазварот, які прадугледжвае рэгулярна аднаўляльнае злучэнне кошту сродкаў, умоў вытворчасці і работніка. Ён мае тры стадыі, якія схематычна можна паказаць наступным чынам:

$$\begin{array}{llll} & \to \textbf{ТР} & & \to \textbf{ТР}^1 \\ \textbf{Д – Т} & \to \textbf{СП} & \ldots \textbf{П} \ldots \textbf{Т}^1 \ldots \textbf{Д}^1 \ldots \textbf{Т}^1 & \to \textbf{СП}^1 \\ & \to \textbf{ПР} & & \to \textbf{ПР}^1 \end{array}$$

*дзе*

$Д$, $Д^1$ — грошы; $Т$, $Т^1$ — тавар, ТР, $ТР^1$ — працоўныя рэсурсы; СП, $СП^1$ — сродкі вытворчасці; ПР, $ПР^1$ — прыродныя рэсурсы.

Для нармальнага кругазвароту фондаў важнае значэнне мае яго паслядоўнасць і бесперапыннасць. Калі рух фондаў затрымліваецца на першай фазе, то ўтвараюцца скарбы і адбываецца інфляцыя кошту (грошай), што перашкаджае працэсу вытворчасці прадуктаў і паслуг; калі на другой фазе, то на адным полюсе будуць заўсёды знаходзіцца, не функцыяніруючы, рэчыўныя фактары, а на іншым — незанятыя, беспрацоўныя работнікі; калі на трэцяй — будзе ажыццяўляцца назапашванне нерэалізаваных прадуктаў, будуць ствараться ўмовы для іх дэфіцыту і ўтварэння скарбаў.

Пры гэтым вытворчасць усяго зноў створанага кошту і спажывецкага кошту, а таксама развіццё чалавека і ўдасканаленне духоўна-маральных вытворчых адносін (назапашванне фондаў), складае вядучую тэндэнцыю кругазвароту наасфернага сацыяльна-эканамічнага развіцця. Пастаяннае павелічэнне і якаснае ўдасканаленне фондаў становіцца ўмовай рэалізацыі ўказанай тэндэнцыі.

Узаемадзеянне і інтэграцыя эканамічных, сацыяльных і экалагічных фондаў падчас іх кругазвароту адбываюцца толькі пры той умове, калі іх розныя фазы без затрымак пераходзяць не толькі адна ў адну ў межах кругазвароту эканамічных і сацыяльных фондаў, але і фондаў у цэлым, як бы па вертыкалі, праз іх межы. Гэты працэс можна паказаць у наступным выглядзе.

$$\begin{array}{lllll} & & \to \textbf{ТР} & & \to \textbf{ТР}^1 \\ \textbf{I} & \textbf{Д – Т} & \to \textbf{СП} & \ldots \textbf{П} \ldots \textbf{Т}^1 \ldots \textbf{Д}^1 \ldots \textbf{Т}^1 & \to \textbf{СП}^1 \\ & & \to \textbf{ПР} & & \to \textbf{ПР}^1 \end{array}$$

$$\begin{array}{lllll} & & \to \textbf{ТР} & & \to \textbf{ТР}^1 \\ \textbf{II} & \textbf{Д –Т} & \to \textbf{СП} & \ldots \textbf{П} \ldots \textbf{Т}^1 \ldots \textbf{Д}^1 \ldots \textbf{Т}^1 & \to \textbf{СП}^1 \\ & & \to \textbf{ПР} & & \to \textbf{ПР}^1, \end{array}$$

*дзе*

I і II — адпаведна кругазварот эканамічных, сацыяльных і экалагічных фондаў.

На гэты важны бок руху фондаў эканамічная навука пакуль не звяртае ўвагі. Невыпадкова ў нашай свядомасці, асабліва штодзённай, нярэдка абсалютызуюцца і фетышызуюцца вынікі таварнай вытворчасці матэрыяльнай сферы, а нематэрыяльная, духоўная сфера выступае ў ролі яе падаткаспажыўца, утрыманца, марнатраўца, нахлебніка. Адгэтуль — жывучасць рэшткавага падыходу ў сацыяльна-эканамічнай практыцы да развіцця сацыяльнай сферы і прыродазберажэння.

Не менш важна ўсвядоміць неабходнасць карэннай змены падатковай, бухгалтарскай і статыстычнай сістэм. Для заканадаўца арыенцірам могуць служыць наступныя выслоўі: «Чым менш дзяржава займаецца эканомікай, тым лепш для эканомікі» (А. Сміт) і «Калі ў краіне шмат забаронных законаў, народ становіцца бедным. Калі растуць законы і загады, павялічваецца лік злодзеяў і разбойнікаў» (Лао-дзы).

Мае права на ўкараненне ў планетарным духоўна-маральным гаспадарчым механізме падатковая сістэма, на якую прыпадае не больш як 34 працэнты адлічэнняў ад ізноў створанага (дададзенага) кошту, з карэкціроўкай на індэкс дынамікі сукупнай фондааддачы. Пры гэтым важна максімальна ўключыць у сістэму інтарэсаў і адказнасць тэрытарыяльных органаў улады і мясцовага самакіравання.

Размеркаванне прыбытку (ізноў створанага кошту) на ўсіх узроўнях планетарнага гаспадарання можа ажыццяўляцца па адзіных дзяржаўных нарматывах: фонд развіцця (33—34 працэнты, дзе 15—17 працэнтаў — амартызацыйны фонд, 15—16 працэнтаў — прыбытак), 33—34 працэнты — фонд зарплаты і 33—34 працэнты — падаткі. Дэцыльны каэфіцыент размеркавання фонду зарплаты не больш як 1:5 паміж нізкааплатнымі і высокааплатнымі работнікамі.

Разгледжаныя аспекты фарміравання наасфернага грамадства, наасфернай эканомікі і назапашвання фондаў не толькі пашыраюць уяўленне аб змястоўным боку наасфернага ўзнаўлення. Яны ў вядомай ступені з'яўляюцца ключавым момантам ва ўдасканаленні навуковай метадалогіі і методыкі разумнай планетарнай і рэгіянальнай духоўна-маральнай жыццядзейнаснай гаспадарчай сферы на аснове рэалізацыі становішчаў Наа-Канстытуцыі, што мае ўсё падставы стаць эпахальным планетарным духоўна-маральным законам наасфернага цывілізацыйнага развіцця чалавецтва ў XXI стагоддзі.

У якасці першых крокаў на шляху рэалізацыі наасфернай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця планетарнага і нацыянальнага грамадскага ўзнаўлення можа стаць:

— стварэнне арганізацый пры ААН, кіраўніках дзяржаў або заканадаўчых органаў нацыянальных камітэтаў па наасферным развіцці, асноўнай функцыяй якіх будзе распрацоўка ва ўзаемасувязі з сусветнымі тэндэнцыямі стратэгічных пытанняў планетарнай нацыянальнай бяспекі, культуры, эканомікі і экалогіі.

— уводзіны ў сістэму адукацыі і навукі прадмета па фарміраванні наасфернага мыслення, светапогляду і ідэалогіі;

— стварэнне спецыяльных вучэбных структур, якія будуць выконваць ролю падрыхтоўкі кадраў наасфернага мыслення, светапогляду і ідэалогіі.

У гэтым кантэксце выказванне вялікага руска-амерыканскага мысляра XX стагоддзя Пітырыма Аляксандравіча Сарокіна: «Больш ведаў! Больш навукі! Больш паняццяў! Астатняе ўсё прыкладзецца», — хацелася б дапоўніць наступнымі словамі: «Больш розуму! Больш інавацыйнай працы! Больш духоўнай культуры! І наасферная эканоміка і наасфернае грамадства ў Беларусі, Казахстане, Расіі, Украіне і іншых краінах свету адбудуцца!»

***Пераклад з рускай Рагнеда Малахоўскага.***

**Тэрэза ГОЛУБ**

# «ТАЛЕНАВІТЫ ЧАЛАВЕК — ТАЛЕНАВІТЫ ВА ЎСІМ»

*(Да 80-годдзя з дня нараджэння Міхася Мушынскага)*



*Міхась Іосіфавіч Мушынскі*

Міхась Іосіфавіч Мушынскі — член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар. Яго імя шырока вядома ў гуманітарным асяродку Беларусі і за яе межамі. Выдатны тэкстолаг, гісторык беларускай літаратуры, крытык, пісьменнік сустракае свой юбілей з багатымі і плённымі набыткамі, сапраўдным скарбам для айчыннага літаратуразнаўства, педагагічнай навукі, нацыянальнай культуры. На яго рахунку звыш 300 навуковых прац, у ліку якіх 12 манаграфій. Пад кіраўніцтвам М. Мушынскага выдадзены зборы твораў 11 выдатных беларускіх пісьменнікаў, колькасць тамоў якіх складае лічбу 80. М. Мушынскі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980) за ўдзел у напісанні «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры», «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове); яго манаграфія «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30-я гады» (1975) адзначана Бронзавым медалём Галоўнага камітэта ВДНГ СССР (1977). У 1991 годзе вучоны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР за вялікі ўклад у развіццё беларускага савецкага літаратуразнаўства і актыўную грамадскую дзейнасць. М. Мушынскі неаднаразова адзначаны ведамаснымі ганаровымі граматамі за значны ўклад у вывучэнне і прапаганду творчай спадчыны класікаў беларускай літаратуры, грунтоўную распрацоўку праблем гісторыі і метадалогіі айчыннай літаратуры, праблем тэксталогіі, актыўны ўдзел у рабоце па атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі. У 2009 годзе ён узнагароджаны Юбілейным медалём «У гонар 80-годдзя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі».

Нарадзіўся Міхась Мушынскі 24 студзеня 1931 года ў вёсцы Мокрае Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Бацька, Іосіф Кірылавіч, працаваў на чыгунцы, маці, Марфа Іванаўна (дзявочае прозвішча Крукоўская), займалася штодзённай сялянскай працай, гадавала дзяцей. Іх у сям'і Мушынскіх было чацвёра: Іван, Міхась, Анатоль і Валянціна. Раслі яны, атуленыя бацькоўскай любоўю і ласкай. Спасцігаць жыццё маленькі Міхась пачынаў з самага блізкага яму акружэння. Такія якасці, як працавітасць, прага да ведаў, любоў да кнігі, настойлівасць у дасягненні мэты, павага да людзей, вытанчанае ўспрыняцце прыгожага, жаданне пранікнуць у сутнасць той або іншай з'явы і знайсці ёй тлумачэнне, уменне выслухаць субяседніка, сціпласць фарміраваліся ў характары хлапчука, паводле нагляднага прыкладу сваіх бацькоў, традыцый, закладзеных продкамі.

Пачатак жыццёвай біяграфіі М. Мушынскага ў многім падобны да біяграфіі яго аднагодкаў, тых, чыё дзяцінства было апалена вайной, каму давялося зведаць жахі крывавых падзей, перанесці голад і холад, спазнаць цану жыцця.

У сямігадовым узросце (1938) Міхась пайшоў у першы клас Макранскай сярэдняй школы, у якой да вайны паспеў скончыць тры класы. Пасля трохгадовага перапынку працягнуў вучобу ў гэтай жа навучальнай установе. Экзамен за восьмы клас здаў экстэрнам (1948). Сярэднюю адукацыю атрымаў у Быхаве, дзе школу № 1 закончыў з сярэбраным медалём (1950). Ён шмат чытаў кніг, якія яму прывозіў бацька і якія сам браў у мясцовай бібліятэцы ці суседзяў. Паводле ўспамінаў самога Мушынскага, «Ціхі Дон» Міхаіла Шолахава быў прачытаны ім у трэцім класе. У пераліку іншых аўтараў называе Дж. Лондана, М. Рыда, Ж. Верна, Р. Стывенсана, Дж. Свіфта, А. Дзюма, В. Катаева. Вельмі вялікае ўражанне на падлетка зрабілі аповесць Я. Коласа «На прасторах жыцця» і раман Я. Маўра «Амок». Сярод тых, хто дапамагаў пранікнуць у «загадкавы свет “кніжнай мудрасці”», М. Мушынскі з пачуццём глыбокай павагі і ўдзячнасці згадвае сваю першую настаўніцу і выкладчыкаў беларускай і рускай мовы і літаратуры. Ён прызнаецца, што «змешчаныя ў школьных чытанках вершы, урыўкі з апавяданняў, выразна, артыстычна прачытаныя, агучаныя настаўніцай, пакідалі ў маёй душы незабыўны след. Яны і па сённяшні дзень успрымаюцца, без перабольшання, як нейкі цуд, як штосьці незвычайнае, святочнае, чарадзейна-казачнае».

Першыя прыкметы творчага характару праявіліся ў падлетка ў дзесяцігадовым узросце, калі ва ўражлівай дзіцячай душы нарадзілася жаданне занатаваць на паперы толькі што ўбачанае, пачутае або прачытанае. Менавіта гэтымі акалічнасцямі тлумачыцца абуджэнне прыроджанага таленту пісьменніка-даследчыка, зроблены ім выбар далейшага жыццёвага шляху. У 1950—1955 гадах юнак паспяхова скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а затым на працягу года працаваў рэдактарам у выдавецтве БДУ. Справядліва адзначыў Віктар Каваленка, што «гэты год» не выпадковая «з’ява ў біяграфіі літаратара», што менавіта рэдактарская праца, якая «шмат у чым нагадвае тэксталагічную», прадвызначыла далейшы лёс нядаўняга выпускніка-філолага. У 1956 годзе Міхась Іосіфавіч перайшоў на працу ў Інстытут літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР (цяпер — Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі). Ён быў прызначаны на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка сектара рукапісаў і выданняў (цяпер — аддзел выданняў і тэксталогіі), дзе актыўна вялася работа па зборы і выданні класічнай спадчыны: падрыхтоўцы да выдання Збору твораў Янкі Купалы ў 6 тамах (1961—1963) і Якуба Коласа ў 12 тамах (1961—1964). Падрыхтаваныя тэксты вершаў і паэм Янкі Купалы 1905—1907 гадоў і напісаныя да іх каментарыі, якія ўваходзяць у 1-шы том (1961) Збору твораў Я. Купалы — тэксталагічны дэбют М. Мушынскага. Пра сур’ёзнае стаўленне да працы, жаданне спасцігнуць асновы тэксталагічнай навукі, а праз яе і сутнасць мастацкіх з’яў даволі пераканаўча сведчыць праведзенае маладым даследчыкам вывучэнне гісторыі тэксту паэм Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка». У асабістым архіве Мушынскага захоўваецца «Справаздача», зробленая ім за 1959 год, калі тэксты згаданых твораў яшчэ толькі рыхтаваліся да ўключэння іх у 6-ты том Збору твораў Я. Коласа ў 12 тамах (1961). Каштоўнасць гэтага дакумента ў творчай біяграфіі вучонага ў тым, што яго змест адлюстроўвае не толькі працэс выканання ім планавага задання, але і пачатковы этап тэксталагічнай працы, глыбокае ўсведамленне маладым даследчыкам значнасці таго, што ён робіць, уменне вылучыць самае істотнае, па-навуковаму карэктна афарміць і выказаць думку, акрэсліць прыярытэтныя арыенціры. Менавіта на гэтым этапе ён прыходзіць да глыбокага пераканання, што пытанне аб нараджэнні задумы стварэння паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка» да яе ўвасаблення вельмі важнае як для коласазнаўства, так і для гісторыі беларускай літаратуры ў цэлым, што яно «чакае свайго даследчыка».

І гэтым даследчыкам стаў ён сам. У 1963 годзе Міхась Мушынскі паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю «Творчая гісторыя паэм Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка»». Праз два гады на яе аснове выдаў манаграфію «Ад задумы да здзяйснення». Напісаная М. Мушынскім праца — наватарская з'ява ў коласазнаўстве і айчыннай літаратуразнаўчай навуцы ўвогуле. Даследчык, упершыню выкарыстаўшы тэарэтыка-метадалагічныя прынцыпы аналізу творчай гісторыі, на прыкладзе сапраўдных шэдэўраў беларускай літаратуры паказаў, як «вершаванае апавяданне з'явілася адной з тых крыніц, з якіх узяла свой пачатак магутная рака нашай літаратуры — паэма «Новая зямля», як з развіццём філасофскага спасціжэння рэчаіснасці змянялася і ўдасканальвалася ідэйна-мастацкая задума новай у коласаўскай творчасці рамантычнай паэмы «Сымон-музыка», як адбывалася светапоглядная і мастацкая эвалюцыя Коласа.

Навуковая дзейнасць Міхася Мушынскага разгортвалася ў гармоніі з жыццём. У 1956 годзе ён стварыў сям'ю: ажаніўся з Тамарай Фёдараўнай Кляноўскай. У 1958 і 1964 гадах у іх нарадзіліся дзеці — Таццяна і Андрэй. Паслядоўна і ўпэўнена ўзнімаўся таленавіты даследчык на кожную новую прыступку літаратуразнаўчай навукі. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі і выхаду першай манаграфіі ў хуткім часе яму прысвоена вучонае званне старшага навуковага супрацоўніка (1968). Дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук М. Мушынскі паспяхова абараніў у 1978 годзе, праз год быў прызначаны загадчыкам аддзела выданняў і тэксталогіі. У 1991 годзе ён абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, у 2001 годзе атрымаў вучонае званне прафесара.

Калі паглядзець з вышыні дасягненняў Міхася Мушынскага (а вышыня гэта вымяраецца лічбай у 55 гадоў працы ў інстытуце і сотнямі навуковых публікацый), то не беспадстаўна напрошваецца выснова, што фарміраванне і станаўленне М. Мушынскага як глыбокага і сур'ёзнага літаратуразнаўца адбылося якраз у той перыяд, калі ён пранікліва засвойваў і паспяхова прымяняў на практыцы тэксталагічныя прыёмы даследавання. І першая яго манаграфія, і ўсе пазнейшыя працы, дзе вучоны прыходзіць да значных гісторыка-літаратурных абагульненняў — самы яскравы прыклад і пацвярджэнне справядлівасці сказанага рускім вучоным Д. Ліхачовым, што «тэксталогія — аснова літаратуразнаўства».

Міхась Мушынскі быў і застаецца вядучым і галоўным тэкстолагам Беларусі. Аддзелам выданняў і тэксталогіі, які ён узначальваў дваццаць тры гады, выдадзены навукова каменціраваныя зборы твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, З. Бядулі, К. Чорнага, М. Зарэцкага, П. Пестрака, І. Мележа, М. Лынькова, П. Броўкі, Я. Пушчы. Уласнаручна М. Мушынскім падрыхтаваны асобныя і выбраныя творы многіх беларускіх пісьменнікаў, напісаны прадмовы, пасляслоўі да іх, каментарыі. У сувязі з гэтым варта назваць выданні творчай спадчыны Я. Коласа, што пабачылі свет цягам апошніх васьмі гадоў: «Новая зямля» (2002), якая выйшла да 120-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа на трох мовах: беларускай, рускай і польскай; электронны варыянт гэтага ж твора і трылогіі «На ростанях» выпушчаны на дыску да 125-годдзя класіка (2007); зборнікі «Нёманаў дар» (2003), «Песні жальбы», «Казкі жыцця» (2007). М. Мушынскі — адзін са складальнікаў кнігі «Волшебная свирель. Фольклор и литературные памятники Беларуси» (Москва: Художественная литература, 2009), што падрыхтавана ў рамках праекта «Классика литератур СНГ». У аднатомніку М. Мушынскім для рускамоўнага чытача прапанаваны лепшыя ў мастацкіх адносінах творы Я. Коласа, напісаны разгорнуты гісторыка-літаратурны і рэальны каментарыі да «Новай зямлі» і «Казак жыцця».

Як вядучы коласазнаўца і аўтарытэтны біёграф Я. Коласа М. Мушынскі небеспадстаўна заклапочаны, каб творы класіка, «якія годна прадстаўляюць нацыю, яе духоўнае аблічча», мелі дасканалы, адэкватны арыгіналу пераклад. На падставе вывучэння арыгіналаў і перакладных ліра-эпічных паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка» вучоны ў многіх сваіх выступленнях і артыкулах справядліва і абгрунтавана пераконвае, што існуючыя пераклады гэтых унікальных твораў

«не задавальняюць эстэтычныя запатрабаванні сучаснага чытача», іх рускамоўныя варыянты «значна адрозніваюцца ад напісанага аўтарам», у тэкстах зроблена «шмат істотных скарачэнняў, якія парушылі аўтарскую творчую волю». У выніку ідэйна-мастацкая канцэпцыя паэм «аказалася збедненай, спрошчанай». Узнятая праблема — гэта адзін з прыкладаў глыбокага разумення даследчыкам духоўнай і сацыяльнай значнасці мастацкага слова, неабходнасці папулярызацыі творчай спадчыны прадстаўнікоў беларускага народа.

Зробленае Міхасём Мушынскім у галіне тэксталогіі ў многім прадвызначыла яе сучасны стан. Тэарэтычныя распрацоўкі і метадычныя рэкамендацыі вучонага эфектыўна выкарыстоўваюцца ў практычнай дзейнасці тэкстолагаў. Менавіта на падставе навукова абгрунтаванай ідэі Мушынскага ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве рэалізавана выданне поўных збораў твораў М. Багдановіча ў 3 тамах (1991—1995) і Я. Купалы ў 9 тамах (1995—2003), у найбольш поўным аб’ёме завяршаецца выданне творчай спадчыны Я. Коласа: Збор твораў у 20 тамах (з 2007 года выйшла ў свет 12 тамоў). Безумоўна, ажыццяўленне якасна новых выданняў больш высокага тыпу адкрыла новыя перспектывы для айчынных тэкстолагаў, істотна ўзбагаціла ранейшыя ўяўленні пра класікаў беларускай літаратуры, стала грунтоўнай асновай для напісання навейшых гісторыка-літаратурных даследаванняў.

Калі звярнуцца да Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах, то яскравым прыкладам такога роду прац з’яўляецца прадмова «Свайму часу і вечнасці», аўтар якой Міхась Мушынскі. Тут вучоным дадзена глыбокая інтэрпрэтацыя творчасці народнага паэта, паўней сказана пра нацыянальную адметнасць класіка беларускай літаратуры, пра яго вялікую ролю як пісьменніка-наватара ў гісторыі айчыннай літаратуры, пра ўклад Коласа ў сусветнае прыгожае пісьменства. Практычную рэалізацыю ў Зборы твораў знайшлі многія тэарэтычна абгрунтаваныя прапановы і тэксталагічныя рашэнні, выкладзеныя даследчыкам у раней напісаных ім артыкулах. Зараз яны ўключаны ў параўнальна нядаўна выдадзеныя кнігі М. Мушынскага: «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа» (2007) і «Мае Каласавіны» (2010). Напрыклад, на падставе вывучэння праблем апошняй творчай волі Я. Коласа адносна тэксту апавяданняў «Туды, на захад!», «Калектыў» пана Тарбецкага», аповесцей «На прасторах жыцця», «Адшчапенец», паэмы «На шляхах волі» ўзноўлены фрагменты, дзе мела месца цэнзура і аўтацэнзура. Паводле пераканаўчага сцвярджэння Міхася Мушынскага, што «дзве рэдакцыі «Сымона-музыкі» — гэта розныя этапы творчага развіцця Якуба Коласа, кожны з якіх мае свой аб’ектыўны змест, свой унутраны пафас, па-свойму цікавы і значны», твор друкуецца ў дзвюх рэдакцыях: 3-й і 1-й. Прычым першая падаецца паводле друкаванай першакрыніцы, а не паводле аўтографа, як гэта было ў папярэдніх выданнях, і змешчана ў раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Да твораў, з асабліва складанай гісторыяй тэксту, М. Мушынскім напісаны пасляслоўі. Імі суправаджаецца паэма «На шляхах волі» (т. 6, с. 469—489), аповесць «Адшчапенец» (т. 12, с. 491—506), а таксама публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы (т. 16 і 17). У пасляслоўях вучоным дадзена новая ў літаратуразнаўчым плане трактоўка гэтых розных па жанры твораў, раскрыта змястоўная і разам з тым драматычная старонка пісьменніцкай біяграфіі Якуба Коласа.

Міхась Мушынскі ў сваіх даследаваннях ахапіў шырокі спектр праблем тэксталогіі твораў Якуба Коласа (напрыклад, праблемы аўтарскай творчай волі, выбару крыніцы асноўнага тэксту, цэнзуры і аўтацэнзуры, датавання, жанравай дыферэнцыяцыі, падачы варыянтаў і разначытанняў у корпусе выдання), тэарэтычнае асэнсаванне якіх з’явілася той неабходнай перадумовай, што ў многім актывізавала працу і забяспечыла высокі ўзровень падрыхтоўкі новага навукова каменціраванага выдання. Нельга не згадаць пры гэтым выдадзены даследчыкам у 1982 годзе «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа» як адну з багацейшых крыніц звестак пра шырокія абсягі жыццёвай і творчай дзейнасці народнага паэта, як настольную кнігу тэкстолага. Канцэпцыя Поўнага збору твораў Я. Кола-

са, распрацаваная М. Мушынскім у артыкуле «Нам засталася спадчына» (1986), фактычна пакладзена ў аснову дваццацітомнага выдання.

З 2007 года пры актыўным удзеле Міхася Мушынскага вядзецца праца над падрыхтоўкай першага навукова каменціраванага Збору твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах, які ажыццяўляецца паводле «Распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Акрамя арганізацыйна-метадычных рэкамендацый, распрацоўкі мадэлі выдання, напісання пасляслоўя да 4 тома, член-карэспандэнт палічыў патрэбным самастойна падрыхтаваць том, дзе змешчаны раман «Крыніцы». Па выніках абмеркавання працы можна сказаць, што яна выканана на ўзорным навукова-тэксталагічным узроўні, адпавядае тыпу выдання, гісторыка-літаратурны каментарый пададзены з выкарыстаннем багатых архіўных матэрыялаў і дакументаў, крытычнай літаратуры. Пракаменціраваны таксама факты рэальнага жыцця, гістарычныя падзеі і інш. Усё гэта, безумоўна, узбагаціць чытача новымі звесткамі пра народнага пісьменніка, павялічыць яго цікавасць да ўсяго выдання.

Тэарэтычныя і практычныя праблемы тэксталогіі твораў многіх беларускіх пісьменнікаў, абагульненне вопыту выдання літаратурнай спадчыны класікаў, вызначэнне перспектыў і далейшых шляхоў развіцця тэксталогіі айчыннай літаратуры знайшлі навуковае абгрунтаванне ў шматлікіх працах Міхася Мушынскага. Абапіраючыся на тэарэтычныя асновы тэксталогіі рускай літаратуры, традыцыі, закладзеныя заснавальнікамі айчыннай тэксталагічнай школы (І. Замоціным, Я. Барычэўскім, А. Вазнясенскім, Ю. Пшырковым), даследчык на прыкладзе твораў беларускіх пісьменнікаў пераканаўча сцвярджае адзінства тэорыі і практыкі ў тэксталогіі, паказвае дыялектычную сувязь тэксталогіі з гісторыяй літаратуры. Сваімі ўласнымі працамі ён даказвае праўдзівасць высновы, зробленай Д. Ліхачовым, што тэксталогія — гэта самастойная навуковая галіна філалогіі, якая перастала быць прыкладной дысцыплінай, скіраванай пераважна на вырашэнне выдавецкіх задач.

Уменне працаваць з аўтарскім тэкстам, з рукапіснымі і друкаванымі крыніцамі, глыбока засвоеныя прынцыпы вывучэння тэксту ў яго гісторыі і ўсіх яго зменах прывялі даследчыка да пераканання, што праўдзівая гісторыя беларускай літаратуры можа быць напісана толькі на аснове «дакладных філалагічных ведаў, г. зн. тэксталогіі ў шырокім сэнсе гэтага слова». Канцэптуальнае абгрунтаванне гэтай высновы дадзена ім у кнізе «І нічога, апроч праўды: Якой быць “Гісторыі беларускай літаратуры”» (1990). Тут М. Мушынскі звяртаецца да разгляду твораў Я. Коласа («Новая зямля», «Сымон-музыка»), К. Чорнага («Трэцяе пакаленне»), З. Бядулі («Язэп Крушынскі»), М. Зарэцкага («Падарожжа на новую зямлю», «Лісты ад знаёмага»), В. Каваля («Нянавісць»), А. Якімовіча («Перамога»), Ц. Гартнага («Зялёны шум»), П. Галавача («Спалох на загонах») і інш. Выкарыстоўваючы багаты фактычны матэрыял як самы каштоўны ў гісторыка-літаратурным і тэарэтычным плане, даследчык паказвае, з якімі цяжкасцямі даводзілася сутыкацца пісьменнікам 20—30-х гадоў XX стагоддзя пры асэнсаванні грамадскіх канфліктаў і супярэчнасцей часу. Як ідэалагічныя ўстаноўкі афіцыёзу негатыўна адбіваліся на развіцці творчай індывідуальнасці мастакоў слова, абмяжоўвалі іх патэнцыяльныя магчымасці, перашкаджалі праўдзіваму адлюстраванню рэчаіснасці.

Трэба адзначыць, што выкладзеныя Міхасём Мушынскім меркаванні аб ідэйна-эстэтычным змесце новай «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.» у 4 тамах, 5 кнігах (1999—2003), знайшлі поўную адпаведнасць у напісаных ім параграфах, прысвечаных жыццю і творчасці М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, Р. Мурашкі, а таксама развіццю нацыянальнай крытыкі.

Міхась Мушынскі праявіў талент у розных галінах навукі пра беларускую літаратуру. Многія сцвярджаюць, што даследаванне гісторыі беларускай крытыкі і літаратуразнаўства — прыярытэтныя накірункі яго дзейнасці. Спрачацца цяжка, бясспрэчна адно: М. Мушынскі ўнёс вялікі ўклад у распрацоўку праблем гісторыі беларускай тэарэтычнай і літаратурна-крытычнай думкі. І пацвярджэннем гэтаму

з'яўляюцца фундаментальныя манаграфіі «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гг.» (1975), «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40-х — першая палова 60-х гг.» (1985), «Каардынаты пошуку» (1988), асобныя раздзелы ў калектыўных працах, напрыклад, «Нарысах па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» у 4 кнігах (1993—1995), у згаданай вышэй «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ ст.», пазней напісаных даследаваннях. Пра раздзелы, змешчаныя ў «Гісторыі...», вельмі трапна сказаў Вячаслаў Рагойша і, калі разглядаць названыя працы Міхася Мушынскага ў комлексе, то гэта цалкам характарызуе зробленае ім на гэтай навуковай дзялянцы: даследчыкам «створаны цэласны малюнак развіцця крытыкі і літаратуразнаўства як арганічнага складніка нацыянальнага пісьменства, як фактару дзейснага ўплыву на літаратурны працэс, раскрыты галоўныя тэндэнцыі і заканамернасці развіцця крытычнай і навуковай думкі».

«Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі» — адна з апошніх манаграфій Міхася Мушынскага (2008) і адна з найноўшых прац у беларускім літаратуразнаўстве, у якой дзейнасць Максіма Гарэцкага ацэньваецца, «зыходзячы з крытэрыяў, выпрацаваных навуковай думкай ХХІ стагоддзя», жыццёвы і творчы шлях раскрываецца паводле слушна вызначанай даследчыкам перыядызацыі і ахоплівае ўсе этапы яго ідэйна-мастацкага развіцця. Кніга істотна ўзбагачае веды чытачоў пра Гарэцкага як «мастака-наватара», як «асобу шырокага творчага дыяпазону» (пісьменніка, перакладчыка, фалькларыста, крытыка, публіцыста, лексікографа, арганізатара выдавецкай справы, педагога, грамадзяніна), распавядае пра яго неацэнны ўклад у развіццё беларускай культуры.

Творча засвоеныя М. Мушынскім прыёмы і прынцыпы мастацкага аналізу, дзе ў разлік бярэцца «ўся сума фактараў» нараджэння твора, і сёння з'яўляюцца вызначальнымі рысамі яго даследчыцкага стылю, а высокая ўнутраная патрабавальнасць да сябе прыводзіць даследчыка да пераасэнсавання раней напісанага ім, да новага прачытання літаратурнай спадчыны беларускіх пісьменнікаў.

Міхась Мушынскі падтрымлівае цесныя стасункі з выкладчыкамі-філолагамі рэспублікі, выступае перад навучэнцамі ВНУ, школ, каледжаў, ліцэяў. Ён дасведчаны ў многіх пытаннях педагогікі, з'яўляецца членам Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадскай сферы пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. Напісаныя М. Мушынскім раздзелы пра жыццё і творчасць Я. Коласа, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага ўваходзяць у падручнікі «Беларуская літаратура» для 9 (2001) і 10 класаў (2009). Сваімі навуковымі разважаннямі і адкрыццямі прафесар Мушынскі шчодра дзеліцца на старонках выданняў вучэбна-педагагічнага профілю, яго артыкулы друкуюцца ў часопісах «Роднае слова», «Полымя», у газеце «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкай газеце». У 2006 годзе, калі асабліва востра абмяркоўваліся пытанні, звязаныя са зменамі ў сістэме школьнай адукацыі, М. Мушынскі не застаўся ўбаку ад гэтай актуальнай для нашага сучаснага грамадства праблемы. Ён выступіў у друку з артыкулам, дзе выказаў справядлівыя, абгрунтаваныя думкі адносна «выкладання прыгожага пісьменства» ў школе. Па глыбокім перакананні вучонага «ў працэсе школьнай рэформы» неабходна аддаць «прыярытэт літаратурнай адукацыі, паглыбленаму вывучэнню» мастацкіх твораў класічнай спадчыны. Менавіта класіка валодае магічнай сілай уздзеяння на пачуцці чытачоў, на фарміраванне іх светапогляду, патрыятычных пачуццяў, бо «ўбірае ў сябе лепшае, што ёсць у нацыянальнай культуры, яна з'яўляецца канцэнтрацыяй духоўнай энергіі народа, увасабленнем яго гістарычнай памяці, інтэлектуальнага, маральнага вопыту. У сваёй сукупнасці класічная спадчына — а гісторыя таму сведка — гэта надзейны абярэг нацыі, захавальніца нацыянальнага духу».

Міхась Мушынскі ўвесь час знаходзіцца ў творчым пошуку найбольш дзейснага кантакту акадэмічнай і педагагічнай навукі. Адным з прыкладаў наватарскіх вынікаў такога пошуку можна назваць кнігу «Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці М. Зарэцкага» (2005). Яна складаецца з двух раздзелаў. У першым — раскрываюцца найбольш істотныя рысы творчага вобліку Міхася Зарэцкага, індывідуаль-

ная манера яго пісьма, як прадстаўніка рамантычнага накірунку ў беларускай літаратуры 20—30-х гадоў, па-новаму прачытваюцца многія апавяданні, дакументальныя нарысы, аповесць «Голы звер», драматычныя творы «Белыя ружы» і «Віхор на балоце», раманы «Сцежкі-дарожкі» і «Вязьмо», крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Вялікая ўвага звернута на майстэрства Зарэцкага, схільнага да аналізу ўнутранага свету героя. Творчыя пошукі Зарэцкага, празаіка і драматурга, разглядаюцца ў манаграфіі на фоне складанай ідэалагічнай сітуацыі 20—30-х гадоў ХХ стагоддзя. У другім раздзеле кнігі пададзена метадычная распрацоўка ўрокаў і іншых форм заняткаў па вывучэнні рамана «Вязьмо», якi ўключаны ў школьную праграму (аўтар распрацоўкі — кандыдат педагагічных навук Т. Ф. Мушынская). Безумоўна, атрымаўся ўдалы эксперымент. Кніга запатрабаваная шырокім колам чытачоў, сярод якіх удзячныя выкладчыкі беларускай літаратуры.

Міхась Мушынскі актыўна займаецца навукова-арганізацыйнай дзейнасцю. Пад яго непасрэднай апекай паспяхова праходзяць штогодні «Гарэцкія чытанні», «Каласавіны», «Узвышаўскія чытанні». Ён ганаровы член Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. М. Мушынскі жаданы госць шматлікіх літаратурных імпрэз (канферэнцый, семінараў, прэзентацый, творчых сустрэч), што праходзяць у навукова-культурных установах рэспублікі. Выступленні М. Мушынскага заўсёды цікавыя і змястоўныя, яны пабудаваныя з улікам інтарэсаў той ці іншай аўдыторыі, яе дасведчанасці, скіраваны на ўзбагачэнне ведаў слухачоў, пашырэнне навуковых дасягненняў, увядзенне іх у актыўны літаратуразнаўчы ўжытак.

Прафесар Мушынскі не хавае сваёй радасці, калі ў навуку прыходзяць маладыя таленавітыя даследчыкі, паколькі ў іх ён бачыць будучае гуманітарнай навукі. Ён праяўляе нязменны клопат пра падрыхтоўку навуковых кадраў. Пад яго кіраўніцтвам абаронена шэсць кандыдацкіх дысертацый і адна доктарская. Наогул жа цяжка назваць лічбу, колькі дысертацыйных работ прайшло праз рукі члена-карэспандэнта, колькі разоў ён выступаў у якасці афіцыйнага апанента, колькі экспертных заключэнняў, водгукаў напісана ім. На працягу 20 гадоў М. Мушынскі быў вучоным сакратаром савета па абароне доктарскіх дысертацый у Інстытуце літаратуры, пэўны час з'яўляўся старшынёй экспертнага савета ВАК Беларусі і намеснікам старшыні рэспубліканскага Фонду фундаментальных даследаванняў. М. Мушынскі па-ранейшаму знаходзіцца ў цудоўнай навуковай форме, праводзіць сістэматычную работу ў галіне атэстацыі навуковых кадраў.

«Таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім», — гэта шырокавядомае выслоўе цалкам адпавядае асобе М. Мушынскага. Ён духоўна багаты чалавек, сапраўдны беларускі інтэлігент, сціплы і высакародны, здольны выслухаць, парадавацца чужым поспехам, падтрымаць у нялёгкую хвіліну. М. Мушынскі — цікавы субяседнік, заўзяты калекцыянер, стваральнік і апавядальнік анекдотаў, аўтар шматлікіх дасціпных вершаваных рыфмовак, трапных інскрыптаў.

М. Мушынскі надзелены тонкім пачуццём гумару, мае добры голас, любіць спяваць. Самыя любімыя ў яго рэпертуары — народныя песні «Ой, сівы конь бяжыць…», «Ой, аралі хлопцы ніву...». У ліку спевакоў, чыё выкананне асабліва захапляе, Б. Акуджава, У. Высоцкі, А. Малінін.

У вялікім «хоры» беларускіх літаратуразнаўцаў М. Мушынскі і сёння выконвае вядучую партыю і з лёгкасцю бярэ самую высокую навуковую ноту.

Пажадаем юбіляру і надалей заставацца маладым душой, моцным здароўем, поўным творчых планаў, якія б паспяхова праходзілі шлях «ад задумы да здзяйснення»!..

***Да 90-годдзя з дня нараджэння Івана Шамякіна***

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

# СУМ ПА АТЛАНТАХ

*Канец 50-х—60-я гады XX стагоддзя — перыяд кароткачасовай «хрушчоўскай адлігі» — стаў важным этапам у беларускім літаратурным працэсе. Ідэалагічная цэнзура на пэўны час паслабла, але ўсё ж даволі пільна «апекавала» літаратуру. За абвешчанай ідэяй інтэрнацыяналізму на самай справе праводзілася шырокая русіфікацыя. Аднак паслабленне партыйна-ідэалагічнага кантролю за духоўным, мастацка-эстэтычным, у тым ліку, літаратурным жыццём грамадства вяло да ўзрастання пачуцця самапавагі ў народнай свядомасці. Гэта разнявольвала і літаратурна-мастацкую, пісьменніцкую самасвядомасць, няўхільна вяло да пазітыўных змен у агульнакультурным, нацыянальна-духоўным жыцці Беларусі. Гэты час у беларускай літаратуры характэрны зваротам да аднаўлення нацыянальных вытокаў і ідэй, забароненых у папярэднія дзесяцігоддзі (сумнавядомыя беспадстаўныя абвінавачванні ў нацдэмаўшчыне). Паступова запаўняліся прагалы, «белыя плямы» ў гісторыі нацыянальнага мастацкага слова. Марудна, але няўхільна ў літаратурна-эстэтычны працэс вярталіся рэпрэсіраваныя, замоўчаныя ідэі беларускага адраджэння, носьбітамі якіх былі Ф. Скарына, К. Каліноўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, М. Багдановіч...*

*60-я, а за імі 70-я гады сталі часам узнікнення новых тэндэнцый у літаратурным працэсе, павышэння агульнага ідэйна-мастацкага, інтэлектуальна-філасофскага ўзроўню літаратуры. Дырэктыўныя органы патрабавалі ад пісьменнікаў «жыццесцвярджальнага пафасу», твораў на вытворчую, інтэрнацыянальную, ленінскую тэмы... Аднак побач з вымушанымі, кан'юнктурнымі творамі, нярэдка нават у творчасці аднаго пісьменніка, нараджаліся іншыя, што не ўкладваліся ў каноны і патрабаванні сацрэалізму.*

*Гістарызм вобразнага мыслення, выразныя самабытныя нацыянальныя характары, смелы зварот да ўмоўнасці, сімволікі, метафары, асацыяцыі, прынцыпова новыя перакананні аб прызначэнні літаратуры, адмаўленне інерцыі мастацка-паэтычнай думкі, ілюстрацыйна-кан'юнктурнай словатворчасці, вера ў справядлівасць, у сваё права і магчымасць яе сцвердзіць, усведамленне індывідуальнай каштоўнасці кожнага чалавека і невычэрпнага багацця народнай душы і памяці — гэтыя ідэі пераканаўча сцвердзіла ў беларускай літаратуры пакаленне шасцідзясятнікаў. Яны рашуча адпрэчылі фальш, дэмагогію, ілжывы манументалізм, псіхалогію прыстасаванства. У літаратурны перыяд, які атрымаў назву «шасцідзясятніцтва», прыкметна ўзвысілася важная мастацка-выяўленчая катэгорыя* ***— ідэйна-эстэтычная пазіцыя аўтара****, аб'ектыўна ўзбуйнялася роля яго асабовасці.*

*«Сілавымі» постацямі шасцідзясятніцтва ў беларускай літаратуры былі А. Адамовіч, І. Шамякін, А. Макаёнак, І. Мележ, В. Быкаў, У. Караткевіч, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, Я. Брыль і інш.*

Напрыканцы жыцця Іван Шамякін пісаў у дзённіках, што не мае патрэбы перааацэньваць свае погляды і свае творы, бо яму, па вялікім рахунку, не сорамна ні за што, акрамя некаторых публіцыстычных артыкулаў маладосці, калі быў жывы Сталін і малады пісьменнік верыў яму, «і быў поўны энергіі і радасці, што застаўся жывы, выбіўся ў пісьменнікі… хіба не адразу зразумеў сістэму…» Але беларуская крытыка і літаратуразнаўства павінна ўдумліва асэнсаваць і паўнавартасна ацаніць *мастацкую з'яву Шамякіна* ў беларускім літаратурным працэсе другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя. У дзённіках за 1982 год пісьменнік зазначаў, што мог бы даўно, аформіўшы пенсію, «сачыняць… замалёўкі з натуры на вечныя тэмы. Спакойна і надзейна. А я ўсё творчае жыццё стараўся ўздымаць праблемы».

Сапраўды, у мінулыя дзесяцігоддзі, асабліва ў перыяды дэмакратычных пераўтварэнняў, слова пісьменніка-грамадзяніна мела значны рэзананс і ўплыў. І несумненна, што праблемнасцю, надзённасцю, чым надзвычай вылучаліся творы Івана Шамякіна, мастак прыкметна ўплываў на фарміраванне грамадскіх ідэалаў, на свядомасць сваіх сучаснікаў, аб чым сведчылі многія водгукі, тысячы лістоў ад чытачоў. У Шамякіна-мастака, які і ў творчасці асэнсоўваў, пераважна, праблемы сучаснасці, узнікала непаразуменне, калі творцы абміналі тое, што хвалюе кожнага чалавека: «У літаратуры, як і ў грамадстве, залішне многа спажыўцоў развялося: больш узяць, чым даць». Пісьменнік не прымаў спакойнае сузіральніцтва, адмаўляў яму ў жыцці і ў творчасці.

Значнасць Івана Шамякіна як буйнога беларускага празаіка XX стагоддзя ўжо сёння бачыцца выразна. Яго месца ў беларускім літаратурным працэсе 2-й паловы XX — пачатку XXI стагоддзя побач з Васілём Быкавым вызначальна важнае. Сутнасць і глыбіню гэтага значэння беларускаму літаратуразнаўству яшчэ трэба вызначыць і ацаніць. Няма сумнення, што творчае жыццё гэтага нястомнага і таленавітага пісьменніка было, нягледзячы на вялікія поспех і папулярнасць яго прозы на Беларусі і ў многіх іншых краінах не толькі былога СССР, даволі драматычным. Яго аповесці і раманы — гэта, перадусім, глыбокі і заклапочаны роздум над супярэчлівымі сацыяльна-грамадскімі працэсамі і вострымі пытаннямі свайго часу. Ён прыйшоў у літаратуру і адразу стаў прызнаным ужо ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў з раманамі «У добры час» (1953), «Крыніцы» (1957), «Сэрца на далоні» (1963).

У час пашырэння «тэорыі бесканфліктнасці» Іван Шамякін уздымаў і спрабаваў сумленна вырашаць галоўную для пакалення «шасцідзясятнікаў» праблему *праўды жыцця.* Вакол гэтага паняцця з канца 50-х і ў 60-я гады вяліся вострыя, прынцыповыя спрэчкі творцаў. Тыя, хто ўсведамлялі неабходнасць кардынальных грамадска-ідэалагічных перамен, былі перакананы, што ў мастацкім творы неабходна бескампрамісна, крытычна даследаваць жыццё. Іх апаненты «праўду жыцця» атаясамлівалі з формулай «партыйнай праўды». Яшчэ малады ў 60-я гады пісьменнік І. Шамякін, аднак, бачыў і адчуваў, што народная і партыйна-кабінетная «праўды» ўступалі ў супярэчнасць.

Успамінаючы 60-я гады і час працы над раманам «Сэрца на далоні», Іван Шамякін пазней напіша: «…Я ўсё яшчэ знаходзіўся ў палоне партыйных догмаў і занадта верыў у вывады, ацэнкі партыйных органаў — гаркама, абкама, ЦК. Той жа Казлоў быў для мяне непагрэшным аўтарытэтам. Але… ужо да пачатку працы над «Сэрцам на далоні» я пранікаў у чалавечую сутнасць людзей і… спускаў іх з неба на грэшную зямлю…»

І сапраўды, звяртаючыся да сучаснага жыцця, Іван Шамякін не ствараў мажорныя сацрэалістычныя ўтопіі. Ён — аўтар востраканфліктных, шматаспектных раманаў, дзе мастацкімі сродкамі даследуюцца супярэчнасці, якія сігналізавалі аб ненадзейнасці сістэмы, аб неабходнасці калі не кардынальных змен яе, то аб абавязковым абнаўленні. Пісьменнік выразна бачыў, што станоўчае вырашэнне многіх, наспелых праблем грамадскага жыцця стрымліваюць

чыноўнікі-кансерватары — гаспадары «высокіх кабінетаў», ахоўнікі «партыйнай непагрэшнасці». Гэта супярэчыла «гуманным ідэям сацыялізму», бо ў «вяртанне да ленінскіх нормаў партыйнага жыцця» ў эпоху ранняга постсталінізму яшчэ верыў народ і сам аўтар. Але, па-сутнасці, ужо ў той час (канец 50-х — пачатак 60-х гадоў) Іван Шамякін ставіў пад сумненне ідэйна-маральную непагрэшнасць і ўсеўладнасць партыйных кіраўнікоў, якія ахоўвалі найперш уласны аўтарытэт і кар'еру. Сваімі творамі, героямі І. Шамякін даводзіў гэта да грамадскасці вельмі смела і пераканана, а яго раманамі, як вядома, зачытваліся ці не мільёны…

Прысутнічае ўнутранае адчуванне, што беларускае літаратуразнаўства мае абавязкі перад гэтым таленавітым празаікам, бо да гэтага часу мала сказана не толькі пра наватарства, але таксама пра шамякінскую мастакоўскую і сапраўды грамадзянскую сумленнасць і мужнасць. Мы абыходзіліся агульнымі фразамі, характарызуючы гэтымі якасцямі Івана Шамякіна побач з яго сучаснікамі ці не ў апошнюю чаргу. За дзённікавымі радкамі, дзе пісьменнік згадвае сваю творчасць менавіта гэтага перыяду, прачытваюцца і крыўда, і справядлівы папрок айчынным крытыкам: «У творчасці я заўсёды быў смелым чалавекам. Хто напісаў у нас вобразы, падобныя Бародку, Гукану, Ігнатовічу? Усе гэтыя звышсмелыя левакі, што разважаюць пра еўрапейскі ўзровень літаратуры… А можа, яны мелі рацыю? Гэты шлях пратораны, наезджаны. А я ішоў, як разведчык, як мінёр».

У творчасці Івана Шамякіна, па маім перакананні, найбольш паслядоўна і поўна ў параўнанні з яго сучаснікамі-празаікамі выявіўся *феномен шасцідзясятніцтва*. Пісьменнік належаў да пакалення пераможцаў, якое прынесла з вайны пачуццё самапавагі і пахіснутую веру ў правадыра і справядлівасць існуючага ладу. Асэнсаванне самой вайны ад героіка-рамантычных фарбаў у першыя пасляваенныя гады да канца 50-х і ў 60-я значна паглыбілася. У прозе Васіля Быкава з першых антываенных твораў гэтая тэма набыла апакаліптычнае гучанне: пісьменнік сцвярджаў абсурднасць вайны, яе катастрафічнасць як для асобнага чалавека, так і для ўсяго чалавецтва («Адна ноч», «Смерць чалавека», «Жураўліны крык» і інш.).

Партыйнае кіраўніцтва савецкай, таталітарнай па сутнасці, сістэмы выразна адчувала небяспеку вальнадумства, прынесенага з вайны. Невыпадкова адразу пасля вайны быў устаноўлены ідэалагічны нагляд над літаратурай і мастацтвам. У пасляваеннай савецкай літаратуры гадоў позняга сталінізму заахвочваўся пампезны рамантызм і псеўдамаштабнасць, прапагандаваўся «вытворчы» раман, які, звычайна, сцвярджаў, што чалавек без працоўнага калектыву — нішто, услаўляліся сямейныя дынастыі як мадэль не толькі вытворчага калектыву, але і грамадства. Творы, у якіх героі не проста думалі, але і асмельваліся сумнявацца ў справядлівасці, правільнасці існуючых сацыяльна-грамадскіх парадкаў, атрымлівалі ідэалагічныя ярлыкі «ідэйна непаўнацэнных», не адпаведных прынцыпам сацрэалізму. Палітыка-ідэалагічныя кіраўнікі, як вядома, былі непаслядоўнымі ў адносінах да творцаў: то «закручвалі гайкі» (пастановы аб часопісах «Звезда» і «Ленинград», аб рэпертуары драмтэатраў…), а то і наадварот. Напрыклад, у 1952 годзе было дазволена «актывізаваць» літаратурнае жыццё і нават крытыкаваць «тэорыю бесканфліктнасці». Гэта «самы ганебны час у гісторыі савецкай літаратуры, ніколі яшчэ яна так нізка не апускалася», — характарызуюць канец 40-х — пачатак 50-х гадоў расійскія даследчыкі Н. Лейдэрман і М. Ліпавецкі.

Думаецца, што гэтая суровая, але аб'ектыўная ацэнка ў значна меншай ступені датычыцца беларускай літаратуры, бо менавіта ў гэты час у беларускую літаратуру прыйшло пакаленне А. Адамовіча, І. Мележа, І. Шамякіна, В. Быкава, А. Макаёнка. У беларускім літаратурным працэсе гэта быў час одуму, роздуму, пошуку, аб чым сведчыць ранняя творчасць названых пісьменнікаў.

Філасофія і светаадчуванне шасцідзясятніцтва выдатна выявіліся ўжо ў першых раманах Івана Шамякіна, напісаных у час ранняга постсталінізму, гэта значыць, у другой палове 50-х — у 60-я гады («У добры час», «Крыніцы», «Сэрца

на далоні»). Уяўляецца, што героямі раманаў «Снежныя зімы» і «Атланты і карыятыды», якія з'явіліся ў першай палове 70-х, І. Шамякін завяршыў канцэптуальную распрацоўку не проста героя-шасцідзясятніка, інтэлігента, а, што надзвычай важна, *прадставіў канцэпцыю асобы беларускага інтэлігента,* які не толькі пратэстуе супраць партыйна-бюракратычнай сістэмы, але і дэманструе моцную «волю да волі», адстойвае сваё натуральнае права быць сабой, асобай.

Разам са сваім літаратурным пакаленнем празаік Іван Шамякін маніфеставаў актывізацыю духоўных сіл грамадства, абуджэнне дзейснага патэнцыялу ў нацыянальнай псіхіцы беларусаў. Ужо ў рамане «У добры час» з'яўляецца «неспакойны» станоўчы герой — Максім Лескавец, які не зусім адпавядаў сацрэалістычным уяўленням аб станоўчым героі. Адзін з лепшых даследчыкаў творчасці І. Шамякіна В. Каваленка згадваў, што тагачасная крытыка «проста разгубілася перад «няправільнымі» паводзінамі галоўнага героя рамана… Гэты вобраз нечакана паблытаў усе яе ўсталяваныя ўяўленні пра сучасніка… Дагэтуль усе прыстойныя персанажы вялі сябе адпаведным чынам, прынамсі, не парушалі правіл «літаратурнай гульні». Пранiклівы і мудры крытык, якім быў В. Каваленка, слушна даследаваў канфліктнасць характару і паводзін гэтага шамякінскага героя, падрабязна засяроджваўся на псіхалагічнай лініі ўчынкаў Лескаўца.

Прымаючы ў якасці аргументаў слушныя меркаванні гэтага аўтарытэтнага даследчыка, можна сцвярджаць, што з шамякінскім Максімам Лескаўцом у беларускую літаратуру эпохі сацрэалізму ўваходзіў *новы тып героя-бунтара*, прадстаўніка пакалення пераможцаў. Гэты герой не можа змірыцца з існуючай рэчаіснасцю, палемізуе не толькі з беспартыйным старшынёй калгаса Шаройкам, але нават з самім сакратаром партарганізацыі Ладыніным. Героі такога тыпу з'яўляліся таксама ў раманах і аповесцях І. Мележа, Я. Брыля, М. Лобана, А. Чарнышэвіча, В. Быкава…

Іншыя крытыкі 50-х гадоў мінулага стагоддзя знаходзілі многа заган у характары галоўнага героя, разважалі над магчымымі шляхамі «выпраўлення» Лескаўца. Хтосьці тлумачыў «неспакойныя» паводзіны Максіма маладосцю, капрызным характарам, нявыхаванасцю… М. Клімковіч у рэцэнзіі адзначаў, што барацьба з недахопамі ў характары героя надае сюжэту рамана вастрыню і напружанасць. Але герой «не паддаецца» перавыхаванню, нягледзячы на настойлівыя захады адукаванага сакратара партарганізацыі, які добра ўмеў і ўплываць, і пераконваць.

На жаль, тагачасная крытыка не магла заўважыць цэльнасць, закончанасць і тыповасць гэтага героя як носьбіта прыкмет новага часу і новага чалавека: герой прайшоў вайну і службу на Далёкім Усходзе, зведаў шмат бедаў, ён — светапоглядна сталая асоба. Трапна адзначаў сутнасць гэтага героя крытык Я. Герцовіч, калі пісаў, што ў Максіма Лескаўца «на першым плане свая ўласная асоба, сваё «я», што ў гэтага героя «ёсць свая будучыня». Але крытык катэгарычна не прымаў гэтага героя, які, на яго думку, «звіхнуўся», нарабіў шмат памылак».

Крытыка і да сённяшняга часу не разгледзела ў гэтым героі бунтара супраць абставін, якія рэгламентавалі паводзіны людзей, пратэстанта супраць сацыяльных і ідэалагічных установак, што прадпісвалі правілы жыцця, стасункаў з людзьмі, асабліва з кіраўнікамі, і нават адносін з дзяўчатамі. Гэта быў новы тып героя, *асобы з развітым пачуццём уласнай перакананасці і годнасці*, якога асцерагалася ідэалагічнае кіраўніцтва, што выдавала пастановы аб часопісах «Звезда» і «Ленинград». Слушна і высока ацэньваючы гэты раман, В. Каваленка пісаў, што ў ім «паказаны пярэдадзень важных змен, якія ўжо наспявалі ў эканоміцы краіны, у сацыяльнай сферы дзейнасці савецкіх людзей і ў іх псіхалогіі». Працягнуўшы логіку гэтых справядлівых заўваг, можна дадаць, што змены, якія наспявалі ў грамадстве, неабходна звязваць якраз са з'яўленнем у рэальным жыцці такіх герояў-пратэстантаў, як Максім Лескавец.

Гэтым раманам Іван Шамякін засведчыў рост самапавагі ў народнай свядомасці, паяўленне крытычных адносін да тагачаснага партыйна-гаспадарчага кіраўніцтва нават у асяроддзі жыхароў пасляваеннай калгаснай вёскі.

У наступных раманах Іван Шамякін працягвае распрацоўку канцэпцыі новай асобы, паглыбляе і пашырае каардынаты яе быцця. Галоўным станоўчым героем пісьменніка *становіцца інтэлігент* — адукаваны, прафесійна сталы чалавек з рысамі рамантыка-максімаліста, настойлівы і паслядоўны бунтар супраць партыйна-бюракратычнай сістэмы і грубага ўмяшання ў духоўна-маральны свет асобы. Выбар такога героя пісьменнікам заканамерны: толькі інтэлектуал, чалавек шырокадасведчаны, які мае цвёрдыя перакананні і пэўны грамадскі статус, здольны на прынцыповае супрацьстаянне партыйнаму чынавенству. У творах І. Шамякіна гэты герой мае, як правіла, і трагічны ваенны вопыт. Так Антон Яраш, галоўны герой рамана «Сэрца на далоні», — былы падпольшчык, Іван Антанюк, герой «Снежных зімаў», — былы партызан.

Прыход героя-інтэлігента ў шамякінскую прозу, а разам і ў беларускую літаратуру, адбыўся, бадай, з выхадам у 1957 годзе рамана «Крыніцы». Тут, таксама ўпершыню ў беларускай літаратуры, пад крытычнай увагай аўтара аказаўся герой-камуніст Бародка, сакратар райкама. Пра тое, што на змест і пафас рамана паўплывала грамадская атмасфера развенчвання культу асобы Сталіна, «хрушчоўская адліга», пісалі ўжо многа і слушна. Але сам Іван Шамякін згадваў, што яшчэ «за тры гады да ХХ з'езда пачаў пісаць раман аб тым, як культ калечыў душы нізавых кіраўнікоў», і што героя Бародку ён падгледзеў у жыцці. Сам аўтар лічыў Бародку культаўцам, адначасова злым дэманам і ахвярай сістэмы сталінізму. Галоўны герой гэтага рамана — навуковец і педагог Лемяшэвіч, які да таго ж добра ведаў праблемы сельскай гаспадаркі, прыехаў з горада ў вёску Крыніцы працаваць дырэктарам школы. Сваёй дасведчанасцю, прынцыповасцю, актыўнай жыццёвай пазіцыяй ён раздражняе мясцовае і раённае кіраўніцтва — завуча школы Арэшку, старшыню калгаса Махнача і першага сакратара райкама партыі Бародку. І «вінцікі сістэмы» на розных узроўнях пачынаюць помсціць Лемяшэвічу за патрабавальнасць і сумленнасць.

У гэтым і названых вышэй раманах для вырашэння ідэйнага канфлікту Іван Шамякін выкарыстоўвае прыём аўтарытэту вышэйшых партыйных інстанцый (прыём мемітызму: у антычныя часы зварот у пошуку ісціны да Бога, у літаратуры сацрэалізму — да аўтарытэту партыйна-дзяржаўных кіраўнікоў). Бародка і яго пасобнікі пераможаны, бо сакратар абкама падтрымлівае героя-праўдашукальніка, падбадзёрвае яго і далей «рэзаць праўду ў вочы». Нягледзячы на ідэалагічна вытрыманую, сацрэалістычную развязку канфлікту, пісьменніку ўдалося сказаць вельмі многае: бародкаўшчына — моцная сіла, гэта цэлая агрэсіўная сістэма, пераадолець якую няпроста. Разам з тым Іван Шамякін даводзіў, што бародкаўшчына — гэта ганебная «ўнутрыпартыйная» з'ява. Пісьменнік сапраўды хадзіў па вастрыі, асмеліўшыся крытыкаваць раней недатыкальную партыйную сістэму. І. Шамякін пераканаўча паказваў, што сумленным сілам грамадства даводзіцца адваёўваць «праўду жыцця», што тагачасныя ідэалагічныя каноны і парадкі выклікаюць у свядомасці людзей сумненне, расчараванне і незадаволенасць.

У рамане «Сэрца на далоні» (1963) пераканаўча, у вызначальных рысах перададзена грамадска-ідэалагічная атмасфера гадоў дэканструкцыі сталінізму. Сам Іван Шамякін успамінаў, што «пабуджальным матывам» да напісання гэтага рамана была драматычная гісторыя Мінскага падполля. «У 1957 годзе я два дні сядзеў на нарадзе былых падпольшчыкаў, пасля ХХ з'езда яны наважыліся сабрацца, і тыя, хто ацалеў, і тыя, што вярнуліся з берыя-цанаваўскага «курорта» (многія сядзелі). Думкі ў падпольшчыкаў аб сваёй арганізацыі былі самыя супярэчлівыя, спрачаліся яны да асабістых абраз». Як бачым, мастацкае асэнсаванне галоўнай праблемы шасцідзясятнікаў — «праўды жыцця» — стала асновай ідэйнай задумы твора. У рамане «прачытваецца» ўсё яшчэ моцная на той час вера

пісьменніка ў справядлівыя асновы савецкай сістэмы, шчырае спадзяванне на аднаўленне «ленінскіх норм партыйнага жыцця». Менавіта пра час працы над гэтым творам пісьменнік згадваў, што ўсё яшчэ «знаходзіўся ў палоне партыйных догмаў і занадта верыў…» Гэтай шчырай аўтарскай верай абумоўлена маральная перамога герояў Антона Яраша і Кірыла Шыковіча над усеўладным старшынёй гарсавета Гуканам, які, хаваючы нявыгадную для яго праўду, сфальсіфікаваў гісторыю падполля.

Вобразамі Гукана і яго атачэння (Сізоненка, Рагойша, Тукала) Іван Шамякін мадэлюе тагачасную кансерватыўную партыйна-бюракратычную сістэму: яна дагматычна-ілжывая, з моцным інстынктам самазахавання, таму баіцца грамадскіх змен, упарта супрацiўляецца «праўдзе жыцця».

Выкрываючы Гукана і гуканаўшчыну, пісьменнік, магчыма, міжволі, падыходзіць сам і падводзіць чытача да вельмі важнай і мужнай высновы: *грамадствам кіруюць фальшывыя ідэі і дзеячы, фальсіфікатарам-кар'ерыстам нельга давяраць будучыню.* Разам з тым, пісьменнік выказаў у творы папярэджанне: гуканаўшчыну цяжка знішчыць, яна не проста амаральная, а ўчэпіста-помслівая, са сваім «адміністрацыйным рэсурсам». Таму і «пасуе» перад старшынёй гарсавета Гуканам інтэлігентны, сумленны праўдашукальнік Кірыла Шыковіч. Ва ўмовах існуючай сістэмы вялікае зло ў асобе Гукана застаецца, па-сутнасці, беспакараным.

Славік — прадстаўнік новага, бунтарскага і ў многім бескампраміснага пакалення, якое «стыльнымі» паводзінамі пратэстуе супраць умоўнасцей і рэгламентацый тагачаснай грамадскай маралі. Гэта *яшчэ адзін, новы шамякінскі характар-тып*, з іншым светаадчуваннем. У абмежаваннях сістэмы герой адчувае сябе *дысідэнтам.* Гэты герой — правобраз Максіма Карнача, героя-бунтара і атланта, мужнага і паслядоўнага ў сваім унутраным дысідэнцтве-пратэсце і супрацьстаянні партыйна-савецкай сістэме.

У рамане «Сэрца на далоні», як і ў наступных «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», аўтар уздымаў і распрацоўваў адну з важнейшых праблем усёй сучаснай літаратуры — супрацьстаянне асобы і сістэмы. І гэта, па сутнасці, постмадэрнісцкая праблематыка рэалізоўвалася ў сацрэалістычных па змесце, але вострых, грамадска-філасофскіх па сэнсавым напаўненні творах Івана Шамякіна 60—70-х гадоў.

*Сутыкненнем героя з сістэмай, бунтам асобы супраць духоўных абмежаванняў у творах 60—70-х гадоў XX стагоддзя Іван Шамякін, несумненна, закладваў аснову постмадэрнісцкага светаадчування ў беларускай літаратуры.* Вобразы Славіка Шыковіча («Сэрца на далоні»), сына-студэнта Івана Антанюка, якога выключылі з універсітэта за арганізацыю студэнцкага пратэсту супраць «недалёкага» выкладчыка («Снежныя зімы»), Максіма Карнача («Атланты і карыятыды») *маніфеставалі асноўную парадыгму постмадэрнізму: чалавек не вытрымлівае ціску абставін, свету і пратэстуе супраць спажывецкага грамадства, не згаджаючыся далей заставацца замбіраваным масавай ідэалогіяй.* Як бачым, адзнакі пратэстанцкай постмадэрнісцкай свядомасці таксама вызначалі характар-тып шамякінскага героя. Класічнае ж выяўленне постмадэрнісцкая парадыгма атрымае ў аповесцях Шамякіна апошніх дзесяцігоддзяў «Сатанінскі тур», «Вернісаж», «Адна на падмостках», «Падзенне», «Палеская мадонна» і іншых.

Неабходна зазначыць, што героі Івана Шамякіна, змагары «за праўду», маюць шырокі светапогляд, грамадска-патрыятычныя імкненні. Яны здольныя да супрацьстаяння з сістэмай і да высокіх, адказных асабістых учынкаў. Не толькі па-мужчынску годна, але і па-бацькоўску шчыра апякуюцца лёсам Зосі Савіч доктар Антон Яраш і яго сябар журналіст Кірыла Шыковіч («Сэрца на далоні»). Герой рамана «Снежныя зімы» Іван Антанюк называе роднай дачкой Віту, бацькам якой, на самай справе, быў паліцай, выяўляючы такім чынам высокую духоўную і маральную адказнасць за лёс дзяўчыны... Сапраўдную паслядоўнасць

і мужчынскі характар выяўляе герой рамана «Атланты і карыятыды» Максім Карнач, адстойваючы свае прафесійныя і грамадзянскія погляды, абараняючы права на ўнутраную асабістую і мастакоўскую свабоду…

Названыя героі-інтэлігенты Івана Шамякіна, носьбіты ідэй шасцідзясятніцтва, доказна прадстаўляюць *аўтарскую канцэпцыю новага героя і, на мой погляд, трапна ілюструюць дыскурс бацькоўства ў прозе пісьменніка, канцэпцыю мужнага, грамадзянскага мужчынскага нацыянальнага характару, моцнай бацькоўскай інстанцыі*. Бацькоўскі код мужнасці ў названых раманах І. Шамякіна сінтэзуецца з мацярынскім кодам: доказам гэтаму — вобразы маці-працаўніцы Максіма Карнача («Атланты і карыятыды»), Зосі Савіч («Сэрца на далоні»), Вольгі Усцінаўны, жонкі Івана Антанюка, Марыі Казюры, маці сыноў-партызанаў, што загінулі («Снежныя зімы»). Гэта, несумненна, займае важнае месца ў распрацоўцы пісьменнікам мастацка-філасофскай канцэпцыі асобы героя-шасцідзясятніка.

Нельга пагадзіцца з тымі даследчыкамі, якія мяркуюць, што «шасцідзясятніцтва» закончылася з завяршэннем «хрушчоўскай адлігі» ці 1968-м годам, падаўленнем «пражскай вясны» савецкімі танкамі. Рэалізацыя філасофска-эстэтычных ідэй «шасцідзясятніцтва» — унутраны мастацкі працэс, які паслядоўна ўплываў на беларускую літаратуру і наступнага дзесяцігоддзя.

Як мы пераканаліся, важным мастацкім адкрыццём Івана Шамякіна-шасцідзясятніка стала *канцэпцыя ідэйна-філасофскага бунту асобы* супраць партыйна-чыноўніцкай дзяржаўнай сістэмы, якая не толькі стрымлівала, але і груба падаўляла натуральнае імкненне чалавека да самавыяўлення. Гэтая канцэпцыя паслядоўна паглыблялася ў раманах пісьменніка 70-х гадоў. У рамане «Снежныя зімы» (1973) героем-бунтаром і носьбітам «шасцідзясятніцтва» з’яўляецца Іван Антанюк, які асмеліўся не пагадзіцца з аграрнай палітыкай «кукурузніка» Хрушчова і «выступіў у абарону… траў». Аўтар сам удакладняў, што гэты раман «аб лёсе чалавека, кіраўніка, які меў уласную думку і ні ў вайну, у партызанах, ні ў мірны час не глядзеў начальству ў рот». Як бачна, у аснову канцэпцыі героя гэтага твора пакладзена тыповая біяграфія шасцідзясятніка, якога карае сістэма за сумленнасць, прафесійнасць, прынцыповасць. Антанюка, супраць яго волі, адпраўляюць на пенсію. Такая суровая расплата за тое, «што …асоба смела заявіла пра сябе».

У гэтым рамане, як і ў наступным «Атланты і карыятыды», мастак вялікую ўвагу ўдзяляе даследаванню супрацьстаяння асобы і сістэмы. Дзяржаўна-чыноўніцкая сістэма тут увасоблена ў вобразах высокіх кіраўнікоў Сямёна Сямёнавіча, Каралькова, іх сяброў, што пазбавілі Антанюка пасады. Яны згодныя зноў узяць Антанюка на працу, але на ніжэйшую пасаду, пры ўмове, што той «супакоіцца і пакаецца». Але герой не здраджвае сабе і ўласным жыццёвым прынцыпам, якія жонцы здаюцца «конікамі». Мастацкімі сродкамі Іван Шамякін паказаў, як сістэма, не здолеўшы зламаць ці прыручыць, распраўляецца з вальнадумствам: яна выкідвае чалавека, імкнучыся пры гэтым даказаць, што па-за ёй чалавек — нікчэмнасць. Захоўваючы пачуццё ўласнай годнасці, Антанюк адмаўляецца ад прапановы Сямёна Сямёнавіча, чым бярэ маральны рэванш. Але па сутнасці герой церпіць паражэнне, перамагае сістэма-монстр. Пра гэта далікатна, але дакладна пісаў В. Каваленка: «…Тое, што галоўны герой рамана вымушаны ўцякаць далей ад таго месца, дзе камандуе і распараджаецца Сямён Сямёнавіч, мае вельмі выразны сэнс. Усё сумленнае і здольнае, усё разумнае і дзелавое, усё чалавечнае, звязанае з асабовасцю, не ўжываецца з бюракратычна-прыстасавальніцкай мараллю».

Як бачым, Іван Шамякін не толькі занепакоена канстатаваў, але і дакладна дыягнаставаў амаральнасць і беспрынцыпнасць, унутраны ідэйны застой, маральную дэградацыю партыйна-гаспадарчага чыноўніцтва. Сістэма, якая трымаецца кіраўнікамі-прыстасаванцамі, даводзіў пісьменнік, не толькі крывадушная, але і агрэсіўная.

Асабліва паслядоўна прасочваецца супрацьстаянне асобы і сістэмы на вобразе Максіма Карнача, галоўнага героя рамана «Атланты і карыятыды». У гэтым творы, як ні ў адным з папярэдніх, з майстэрствам, вартым захаплення, пісьменнік пераканаўча паказвае непрывабную сутнасць сістэмы знутры. Аўтар, робячы акцэнт на маральнай перамозе асобы, даводзіць: сістэме, якая імкнецца падпарадкаваць і нівеліраваць асобу, могуць супрацьстаяць людзі моцныя, атланты, творцы, здольныя вытрымаць цяжар жыцця.

Беларуская крытыка яшчэ ў канцы 70-х гадоў спасцігла сутнасць аўтарскай задумы, глыбока зразумела і вялікі «пераўтваральны» (В. Каваленка), грамадзянскі сэнс гэтага твора. Але ў той час нават В. Каваленка мусіў пісаць стрымана і абачліва, высока цэнячы, што Іван Шамякін даволі «рэзка характарызуе тое асяроддзе, да якога нядаўна належаў Карнач і з якім цяпер уступае ў канфлікт і барацьбу». Працягваючы развіваць гэтую трапную думку даследчыка і ўносячы ўдакладненні з папраўкай на час, заўважым, што шамякінскі Максім Карнач — паказальны, ідэальны тып героя-шасцідзясятніка. Ён адчувае прынцыповую патрэбу адмежавацца ад злачынных праектаў дзяржаўна-бюракратычнай машыны, *мае ўнутраную патрэбу ў ачышчэнні*. Карнач увасабляе канфлікт духоўна свабоднай асобы з партыйна-адміністрацыйным савецкім асяроддзем. Вось як характарызуе І. Шамякін свайго героя: «Ёсць людзі, якія ўмеюць пражыць ціха, ні з кім не канфліктуючы. Максім усё жыццё канфліктаваў. У інстытуце. На працы. Нават у арміі. З калегамі. Сябрамі. Начальствам. З жонкай. А на пасадзе галоўнага архітэктара — адразу з многімі арганізацыямі і людзьмі: з заказчыкамі і будаўнікамі, Дзяржбудам і Белдзяржпраектам, з кіраўніцтвам і аддзеламі выканкама, з камунальнікамі, гандлярамі, мастакамі, транспартнікамі.

Тыя, хто любіў горад і сваю справу, разумелі яго, падтрымлівалі, заставаліся сябрамі, дурні і прыстасаванцы крыўдзіліся за непрымірымасць і рабіліся ворагамі».

Пісьменнік паказаў, як творчая, годная асоба, Карнач, намагаецца пазбавіцца адміністрацыйна-каманднай апекі, увасобленай у рамане вобразамі Кіслюка, старшыні гарвыканкама Ігнатовіча, сакратара абкама Сасноўскага — носьбітамі тагачаснай партыйнасці і афіцыйнасці. Іван Шамякін паказвае, як герой сам спрабуе вызваліцца ад партыйна-аўтарытарнай залежнасці. Ён свядома ідзе на супрацьстаянне з абставінамі — цэлай сістэмай партыйнага кіраўніцтва горада і вобласці. Герой хоча мець права годнага чалавека і адказнага спецыяліста, жыць у згодзе з уласным сумленнем.

Усё пачынаецца з таго, што таленавіты архітэктар, родзіч старшыні гарвыканкама Ігнатовіча, Максім Карнач «выкінуў фартэль» — узяў самаадвод, адхіліўшы сваю кандыдатуру ў дэпутаты гарсавета. Ніхто не разумее логікі паводзін Карнача, не ведае прычын гэтага «фартэля». А іх у героя дзве. Па-першае, ён не згаджаецца з рашэннем гарвыканкама аб будаўніцтве хімкамбіната ў прыгожым месцы, дзе, на яго думку, павінна быць зона адпачынку гараджан. Сваю нязгоду ён асмеліўся выказаць у лісце ў Савет Міністраў. І другая прычына — канфлікт у сям'і, магчымы развод з жонкай: праз дваццаць гадоў жыцця яны адчулі, што сталі рознымі людзьмі. І каб потым не спатыкацца аб «маральны кодэкс» і партыйную дысцыпліну ў выпадку разводу, Карнач адмаўляецца ад дэпутатства. Як бачым, асноўны канфлікт у гэтым рамане ўзнікае паміж інтэлектуальна-творчай асобай і дзяржаўна-партыйнай сістэмай. Адначасова гэта і ўнутраны канфлікт асабістага жыцця героя з партыйнай дысцыплінай, якая не дазваляла, каб уласныя пачуцці чалавека і яго ўнутраны свет і былі вышэйшыя і важнейшыя за грамадскую думку. У вобразе Карнача выяўляюцца вызначальныя рысы героя-шасцідзясятніка, які адчувае *патрэбу ў ачышчэнні праз моцныя пачуцці* — каханне, любоў да сваёй справы, творчасці, да малой і вялікай радзімы. У светаадчуванні героя адбываецца перамяшчэнне каштоўнасных арыенціраў. Карнач кіруецца пошукам ісціны, сапраўдных каштоўнасцей. І важнае месца ў каштоўнаснай сістэме зай-

мае каханне, творчасць, прафесійнае прызванне, жаданне сумленна служыць народу, прагрэсу. Праз іх раскрываецца сапраўдная сутнасць чалавека, асабліва тады, калі ўзнікае супярэчнасць паміж «духам і целам», пачуццямі і мараллю, глыбока асабістым і вытворча-грамадскім.

Пазбаўлены магчымасці кахаць шчыра, адкрыта, узаемна, такі герой усведамляе непаўнавартаснасць уласнага жыцця. У творчасці шасцідзясятнікаў *разгортваецца феномен рамантызаванага кахання,* праз якое герой намагаецца дасягнуць гарманізаванага жыцця, рэалізаваць і такім чынам уласную сутнасць і ўласнае разуменне сэнсу жыцця. Шамякінскі герой Карнач моцна шкадуе, што ўзаемныя, сямейныя пачуцці разбураны, у думках і на словах ён папракае жонку за спажывецкія адносіны да жыцця. Бездухоўнасць, аўтарытарнасць у сямейных адносінах, якія сыходзяць ад жонкі і яе родзіча, старшыні гарвыканкама Ігнатовіча, яшчэ больш узмацняюць жаданне «волі», духоўнасці, што, урэшце, выяўляецца ў рамантычных адносінах героя да іншай жанчыны. Але яго шчыры рамантызм сутыкаецца з рэалістычнымі сітуацыямі, дзе чалавек зноў і зноў адчувае сваю несвабоду — у сям’і, на вытворчасці, у грамадстве. Паважліва ўзвышаныя адносіны да іншай жанчыны для героя — гэта пошукі душэўнай суладнасці і раўнавагі, адзін са сродкаў і спосабаў набыць жаданую незалежнасць. Часовы духоўны і душэўны крызіс Карнача абумоўлены абмежаваннямі сістэмы, абставінамі, ад якіх герой не можа вызваліцца. У фінале рамана мы пакідаем героя ў стане глыбокага самааналізу і пошуку ісціны.

Партыйна-адміністрацыйныя сілы намагаюцца прымусіць Карнача «лічыцца з нормамі і мараллю нашага грамадства» (думкі Лізы, жонкі Ігнатовіча, якая многа год працавала ў камсамольскіх і прафсаюзных органах). Жонку падтрымлівае Ігнатовіч, які баіцца за ўласную партыйную рэпутацыю. Паводзіны Карнача ён лічыць пагардай да маральных норм і рашуча вызначае лінію сваіх адносін да яго: «З гэтым трэба скончыць! Трэба даць па руках!»

Але сістэма не адпускае Карнача: Сасноўскі прымушае Ігнатовіча папрасіць Максіма вярнуцца на ранейшую пасаду. Тым не менш, Карнач, тыповы герой-шасцідзясятнік. Несумненна, што стыхійна-рамантычным бунтам гэтага героя, творцы-інтэлектуала Іван Шамякін ставіць пад сумненне трываласць і перспектыўнасць сістэмы.

Вобразы Максіма Карнача, Віктара Шугачова («Атланты і карыятыды»), Антона Яраша, Кірыла Шыковіча («Сэрца на далоні»), Івана Антанюка («Снежныя зімы») і некаторых іншых шамякінскіх герояў сведчылі *аб узмацненні структуры беларускага мастацкага характару, так выразна ўвасобленага ў літаратуры.* Тыповымі, вызначальнымі рысамі героя таго часу ў жыцці і ў літаратуры прымаліся і прызнаваліся інтэлігентнасць і стрыманасць, сумленнасць і прынцыповасць, маральны і духоўны максімалізм, пратэст супраць бюракратычных, ідэйных абмежаванняў. Культ роднай маці, пакутніцы і працаўніцы, і маці-Радзімы, усяго свайго, беларускага, роднага таксама вылучаюць герояў Шамякіна, носьбітаў «шасцідзясятніцтва».

Крытыка, аналізуючы раман «Атланты і карыятыды» звычайна абыходзіла вобраз Ігнатовіча, які, па нашым меркаванні, з’яўляецца красамоўным мастацкім сведчаннем цынізму сістэмы, яе маральнай і ідэйнай беспрынцыпнасці. Супрацьстаянне Карнача з партыйна-чыноўніцкай бюракратыяй ідзе па лініі Ігнатовіч — Кіслюк — Макаед — іншыя. Пра Ігнатовіча, дарэчы, у сваім дзённіку Шамякін пісаў: «Чаго варты Ігнатовіч! Во дзе раскрыта псіхалогія партакрата!.. А колькі мяне шпілялі ханжы ад літаратуры і ідэалогіі за тое, што Ніна прыехала на дачу Карнача і спакусіла яго. Ох, які гвалт узнялі! Як можна! Дзе наша савецкая мараль!.. Смешна ўспамінаць…»

Пісьменнік, як бачна, не ідэалізуе свайго героя, якога, па ўласным прызнанні, «спісваў» са свайго сябра Андрэя Макаёнка. Відавочна і імя героя невыпадковае — Максім: максімаліст, прынцыповы, упэўнены, рашучы. Station Становчага героя,

апанента партыйна-савецкай сістэме, з такім прывабным абліччам, з вялікай унутранай культурай і трывалым запасам духоўнасці яшчэ не было ў тагачаснай беларускай прозе.

«Анархіст» Карнач, як і яго папярэднік з рамана «Снежныя зімы» Іван Антанюк, не скарыўся сістэме, нягледзячы на яе помсту: Карнача здымаюць з пасады галоўнага архітэктара горада, найперш, за смелую абарону сваіх грамадзянскіх і прафесійных поглядаў. Яго ніхто не падтрымаў, баючыся за ўласны «партімідж». Былыя калегі і сябры, акрамя Шугачовых, адвярнуліся: хто зайздросцячы і помсліва радуючыся яго апале, хто, не зразумеўшы яго паводзін, палічыў Карнача фанабэрыстым пражэкцёрам. Жонка Даша, помсцячы, напісала скаргу на мужа ў гарадскую партарганізацыю, прадставіўшы яго амаральнай асобай. Зайздроснікі і непрыяцелі ўжо даўно чакалі зручнага моманту, каб прынізіць Карнача. Усё гэта — помста сістэмы герою за яго «асабовасць» (вызначэнне В. Каваленкі).

Іван Шамякін, як, бадай, ніхто з яго сучаснікаў, беларускіх празаікаў, стварыў мадэль тыповага «сацыялістычнага горада» — асяроддзя парткіраўнікоў: прыёмныя, калідоры, кабінеты, часта кватэры і нават дачы. Гэта трапна заўважыў В. Каваленка, падкрэсліваючы шырыню і праўдзівасць паказу аўтарам «жыцця савецкіх і партыйных устаноў… Тут… адбываюцца канфлікты, пачуццё абавязку сутыкаецца з разлікам і баязлівасцю, перастрахоўкай, справа і творчасць прабіваюцца праз раўнадушша, эгаізм і зайздрасць». Як бачым, абодва — пісьменнік І. Шамякін і крытык В. Каваленка — трапна заўважылі і даводзілі, што змаганне за дэмакратычнае, сумленнае, духоўнае і сапраўды перадавое адбываецца з гаспадарамі парткабінетаў. «Востраў свабоды», сховішча ад перастрахоўшчыкаў, былых сяброў і іх памкненняў на духоўна-творчае, асабістае жыццё героя — Карначова дача.

В. Каваленка пісаў, што ў творы тытанаў няма, а ёсць «звычайныя людзі, якія ў калектыўных намаганнях робяць тытанічную справу сцвярджэння свету на пачатках дабра і справядлівасці». Думаецца, што ўсё ж тытан, атлант ёсць, і гэта — Карнач. Гэта сістэма прыкладае «калектыўныя намаганні», каб маральна знішчыць, пакараць атланта. Ён, герой-адзіночка, асмеліўся пратэставаць супраць рашэння гаркама. Выкладаючы свае погляды ў пісьме ў Савет Міністраў, Карнач сам-насам уступае ў паядынак з сістэмай. Ведаючы, што яна будзе помсціць, герой гатовы трымаць прафесійную і грамадзянскую адказнасць. Вобраз Карнача ўвасабляе бунт унутрана свабоднай творчай асобы, якая імкнецца вызваліцца з адміністрацыйна-каманднага ўціску. Сваім пратэстам герой намагаецца адмежавацца ад сістэмы, каб рухацца ў накірунку творчай і асабістай незалежнасці. Пошук духоўна-грамадскай гармоніі — індывідуальны выбар героя. На жаль, такі «вызвольны» рух асобы не так часта знаходзіць шырокую падтрымку ў рэальным грамадскім жыцці. Аднак важна падкрэсліць, што чуйны да ўнутрыграмадскіх светапоглядных зрухаў мастак Іван Шамякін сваім героем, «атлантам» Карначом, паказваў накірунак на абнаўленне, на ўдасканаленне духоўна-маральных арыенціраў грамадства.

Большасць пісьменнікаў-шасцідзясятнікаў і ў 70-я гады заставаліся «светапоглядна нявызначанымі», дэзарыентаванымі «працэсамі дэмакратызацыі грамадства», інтэграванымі ў ідэі «абноўленага сацыялізму». Відавочна, што і Іван Шамякін — не выключэнне. Але вобраз Максіма Карнача, відавочна, засведчыў сум пісьменніка па сапраўдным абнаўленні грамадства. І. Шамякін, па-сутнасці, паказаў, што чаканага абнаўлення не адбылося. Пісьменнік быў перакананы ў недастатковасці і звужанасці дэмакратычных працэсаў, бо яны не абнавілі і нацыянальна-культурнае жыццё, не надалі яму належны імпульс.

Абуджэнне інтэлектуальна-творчай думкі, пратэст супраць нівеліруючай партыйнай ідэалогіі, прарыў асобы да ісціны праз напружванне нацыянальна-гістарычнай памяці і ўвасабляе асоба моцнага духу, шамякінскі герой Карнач. У гэтым вобразе выдатна рэалізуецца *мужчынска-сыноўскі код мастацкага характару*.

Вечны вобраз Маці праходзіць праз радасці і трагедыі кожнага чалавека. Ён мацуе душу, угрунтоўвае наша перакананне ў незнішчальнасці жыцця і духоўнасці. Іван Шамякін паказвае, што гэты вечны вобраз мацуе і Карнача ў яго супрацьстаянні абставінам. Сваім героем пісьменнік сцвярджае важныя гуманістычна-філасофскія ісціны: духоўную моц, трываласць, непадуладнасць часу дае чалавеку ўсведамленне вечных законаў чалавечага жыцця, якія ўзнаўляюцца штодзённа і заўсёды — у сувязі пакаленняў, у памяці культуры і нават у драматычным вопыце паўсядзённасці. Пра гэта сведчаць глыбока сімвалічныя эпізоды працы сына над скульптурным помнікам маці, удзячныя думкі пра яе цяжкае і працавітае жыццё. «Каб стварыць скульптурны помнік маці такі, які яна заслужыла сваім жыццём, у яго не хопіць ні ўмення, ні вопыту…» — піша Іван Шамякін. Ён шчаслівы, што, «магчыма, у тую хвіліну, калі маці зрабіла апошні ўздых», аднавяскоўцы падказалі яму тэму «такога помніка» — спраектаваць новы архітэктурны план роднай вёскі.

Шамякінскія вобразы, *архетыпавыя сімвалы сына-творцы, маці-сялянкі,* якая завяршыла зямны шлях, і абноўленай роднай вёскі надзвычай моцныя ў экспрэсіўнай выразнасці і сэнсавай ёмістасці. Яны ўвасабляюць *экзістэнцыйна-філасофскае трохадзінства мінулага, сучаснага і будучага*, яго прысутнасць у кожным імгненні чалавечага жыцця.

Галоўную задачу шасцідзясятнікаў — сцвярджэнне праўды жыцця — Іван Шамякін вырашаў *на матэрыяле сучаснасці*, у той час, калі Васіль Быкаў распрацоўваў тэму бязлітаснай праўды вайны, а Уладзімір Караткевіч адкрываў праўду аб Бацькаўшчыне ў яе мінулым. Празаік І. Шамякін паказваў і аналізаваў супярэчнасці сучаснага жыцця, якія сігналізавалі *аб ненадзейнасці сістэмы, аб патрэбе яе абнаўлення*, аб неабходнасці кардынальных змен.

Грамадзянскасць Шамякіна выяўлялася ў тым, што на першы план празаік вылучаў *гуманістычна-духоўныя патрэбы асобы і грамадства*. Атмасфера «шасцідзясятніцтва», развенчвання культу «правадыра і бацькі ўсіх народаў» дазволіла пісьменніку ў раманах першых паслякультаўскіх дзесяцігоддзяў распачаць *дэміфалагізацыю партыйнай ідэалогіі і маралі*. Лепшыя героі Івана Шамякіна прагнуць абнаўлення ў сацыяльна-грамадскім, вытворчым і духоўным жыцці.

І. Шамякін разам са сваімі сучаснікамі В. Быкавым, У. Караткевічам, І. Мележам і іншымі шукаў сапраўдныя ідэалы і аўтарытэты ў *нацыянальным свеце*. У прозе І. Шамякіна ім стаў яго сучаснік, герой-шасцідзясятнік, выразнае аблічча якога паўставала з раманаў гэтага часу. Антон Яраш, Кірыла Шыковіч, Іван Антанюк, Віктар Шугачоў, Максім Карнач — паказальныя, тыповыя героі-шасцідзясятнікі. *Канцэпцыя героя-шасцідзясятніка,* прадстаўленая ў прозе гэтага часу І. Шамякіна, У. Караткевіча, В. Быкава, *узбуйняла мастацкую псіхатыпалогію беларускага характару ў нацыянальнай літаратуры, уздымаючы яго на значны культурна-філасофскі, духоўны ўзровень*.

Герой-шасцідзясятнік раманаў Іван Шамякіна прываблівае духоўным максімалізмам, унутранай годнасцю, гожасцю, чаго неставала ў грамадска-вытворчых, штодзённых стасунках. Гэта асабліва востра адчуваў і Уладзімір Караткевіч. Звярнуўшыся ў сваіх творах да беларускай гісторыі, актуалізуючы высакародныя традыцыі і вобразы перадавой беларускай шляхты, У. Караткевіч запаўняў «белыя плямы» ў дамалёўцы мастацкага вобраза-тыпа беларуса.

Раманы Івана Шамякіна, пра якія ішла гаворка, інтэнсіўна *дапаўнялі новую парадыгму нацыянальнага характару*, новы беларускі характар-тып — адукаванага інтэлігента, творчага і самадастатковага, з выразным беларускім грамадзянска-патрыятычным светаадчуваннем. І. Шамякін-шасцідзясятнік стварыў свайго сучасніка, героя-шасцідзясятніка, які з'яўляецца носьбітам эстэтычных ідэалаў, нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцей. Яму ўласцівы свой погляд на

жыццё, сваё меркаванне пра падзеі. У выніку гэтай «самасці», духоўнай асабовасці, як паказаў пісьменнік, паглыбляецца *драматызм адносін героя-інтэлігента з рэгламентаваным грамадствам*. Таму І. Шамякіна побач з В. Быкавым, У. Караткевічам можна лічыць стваральнікам *літаратуры маральна-духоўнага бунту*.

Маральная вышыня шамякінскага героя ўвасабляла і нацыянальную маральнасць, якая ідэнтыфікуе і сёння беларусаў у свеце як нацыю. А сутыкненне героя з сістэмай, бунт асобы супраць вытворча-сацыяльных абмежаванняў *закладвалі аснову постмадэрнісцкага светаадчування* не толькі ў лёсах літаратурных герояў, але і ў жыцці. Гэты літаратурны герой, як і інтэлігент такога тыпу ў рэальным жыцці, станавіліся кумірамі чытаючай, думаючай часткі грамадства, асабліва моладзі. Яны ўвасаблялі адноўленую нацыянальную годнасць, шляхетнасць духу. Героі І. Шамякіна разам з героямі У. Караткевіча і В. Быкава неслі ў літаратуру і жыццё духоўную мужнасць, рыцарскі кодэкс сумленнасці.

Разгледжаныя вышэй раманы Івана Шамякіна ўтрымлівалі крамольную на той час думку аб пераглядзе мэтазгоднасці сістэмы і яе ідэалогіі, аб разбуральным уздзеянні на чалавечую душу яе маралі і парадкаў, што падаўлялі пачуццё асабістай годнасці. Пісьменнік, ставячы пад сумненне мудрасць партыйнага кіраўніцтва, паказваў, што ў многіх выпадках носьбітам дэмакратычнай свядомасці і гуманістычных каштоўнасцей становіцца асоба. Якая прагне партыйнай незалежнасці, асоба, якая ўсведамляе *сябе носьбітам не партыйнай, а гістарычнай адказнасці*.

Несумненна, ёсць падставы гаварыць *аб інтэлектуалізме* раманаў Івана Шамякіна, бо ў цэнтры кожнага з разгледжаных твораў — думаючая, інтэлектуальная асоба. Кірыла Шыковіч, Антон Яраш, Віктар Шугачоў, Максім Карнач — гэта спадкаемцы герояў-думаннікаў Міхася Гарэцкага, Кузьмы Чорнага ў новую эпоху. Сваімі героямі-шасцідзясятнікамі І. Шамякін маніфеставаў узнікненне новай літаратурна-эстэтычнай парадыгмы духоўнасці і мужнасці — філасофскаэкзістэнцыйнай, іншай за марксісцка-ленінскую.

Героі Івана Шамякіна паўстаюць перад чытачамі рознымі, а не толькі ў абліччы непрымірымых бунтароў. Іх мы бачым у стане роспачы, адчаю, разгубленасці, калі яны яшчэ шчыра вераць у партыйна-савецкую справядлівасць. Але яны знаходзяць у сабе сілу і мужнасць перастварыць сябе (Іван Антанюк, Максім Карнач).

Канфлікт шамякінскага героя з сістэмай — гэта, звычайна, амаль нябачны *канфлікт асобы і абставін*, бо на першы план аўтарам вылучаюцца «ўнутраная супярэчлівасць» героя, яго духоўна-маральныя сумненні і пошукі. І ўсё ж відавочна, што праблема абставін у раманах І. Шамякіна набывае асаблівае значэнне. Побач з В. Быкавым, які паказваў абсурднасць вайны і экзістэнцыйны выбар чалавека на вайне, І. Шамякін, па сутнасці, сцвярджаў тую ж парадыгму — *абсурду тыповых абставін тагачаснай паўсядзённасці*.

# ІВАН ШАМЯКІН — БЕЛАРУСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ

*Шырокаму колу чытачоў Іван Шамякін вядомы ў першую чаргу як пісьменнік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Яго творы на працягу шасцідзесяці гадоў выдаваліся шматтысячнымі тыражамі, па многіх яго раманах зняты мастацкія стужкі. Але зусім не вядомы яшчэ адзін жанр творчасці пісьменніка — яго эпісталярная спадчына. Такое становішча спраў звязана з некалькімі прычынамі: як правіла, пры жыцці ўдзельнікаў перапіскі эпісталярый не абнародваецца, не становіцца набыткам шырокага кола чытачоў. Многія даследчыкі разглядаюць эпісталярый як другарадны жанр у творчасці любога пісьменніка. Але між тым лісты, тэлеграмы, паштоўкі з'яўляюцца самастойным і раўнапраўным жанрам у пісьменніцкай творчасці. Эпістапярый дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў пісьменнік. Акрамя таго, перапіска багата звесткамі пра творчыя інтарэсы пісьменніка, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць і г. д.*

*Лісты, паштоўкі, тэлеграмы Івана Шамякіна неаднолькавыя як па насычанасці фактычным матэрыялам, так і па аб'ёме, манеры напісання. Такая розніца вызначаецца тым, каму адрасаваны ліст, родам дзейнасці адрасата, колам тых пытанняў і праблем, якія ставяцца і вырашаюцца ў лісце.*

*Безумоўна, лісты Івана Шамякіна маюць некаторую долю суб'ектыўнасці ў ацэнцы тых або іншых фактаў літаратурнага і грамадскага жыцця. Усё тое, што напісана непасрэдным удзельнікам-сведкам падзей, якія адбываюцца, заўсёды нясе на сабе пячатку суб'ектыўнасці. Але ад гэтага не зніжаецца каштоўнасць дакументаў.*

*Акрамя таго, перапіска Івана Шамякіна дае магчымасць прасачыць за ідэйна-творчай эвалюцыяй пісьменніка. Гэтаму ў многім садзейнічае і своеасаблівы стыль, які ўласцівы лістам. Адзначаныя рысы яскрава сведчаць: эпістапярый Івана Шамякіна — самастойны, раўнапраўны з іншымі жанр творчасці пісьменніка. Нельга супрацьпастаўляць перапіску пісьменніка іншым жанрам яго творчасці або адводзіць ёй толькі службовую ролю — як крыніцы пэўных звестак пра самога пісьменніка, яго асяроддзе, пра падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця.*

*Эпістапярый Івана Шамякіна ахоплівае амаль шэсцьдзясят гадоў — найбольш напружаных і найбольш пладатворных гадоў жыцця і творчай дзейнасці пісьменніка. Увазе чытачоў часопіса «Полымя» прапануюцца лісты Івана Шамякіна да беларускіх пісьменнікаў: Міхася Лынькова, Максіма Танка, Уладзіміра Карпава і Міколы Ткачова. Лісты ахопліваюць перыяд з 1947 па 1975 год і датычаць галоўным чынам творчай і грамадскай дзейнасці пісьменніка. Друкуюцца яны па аўтографах, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (фонды М. Лынькова, М. Танка, У. Карпава, М. Ткачова). Не на ўсіх лістах да М. Лынькова стаяла шамякінская дата, у такіх выпадках яны датуюцца па даце, пастаўленай рукой Міхася Ціханавіча Лынькова простым алоўкам у квадратныя дужкі.*

**1**

**Уладзіміру Карпаву**

Валодзя!

Два дні працаваў над кнігай, улічыўшы ўсе твае заўвагі. Зрабіў некалькі ўставак і самую істотную да старонкі 75. Змяніў назву. Аповесць — «Глыбокая плынь». Думаю, што гэта больш удала. Іменна партызанскі рух — плынь народная, глыбокая. Дождж перашкодзіў зайсці да цябе на кватэру. Пакідаю аповесць Кулакоўскаму, ён заўтра занясе. Вельмі прашу зрабіць экземпляр для мяне.

З шчырым прывітаннем
Іван

27.VII.47 г.

*Ліст адрасаваны Карпаву Уладзіміру Барысавічу (1912—1977), беларускаму пісьменніку, які ў 1947—1960 гадах загадваў аддзелам прозы і крытыкі ў часопісе «Полымя».*

*Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч (1913—1986) — беларускі пісьменнік, з 1945 па 1953 год працаваў загадчыкам аддзела ў газеце «Сталинская молодежь», у часопісе «Беларусь», адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва».*

*Раман І. Шамякіна «Глыбокая плынь» друкаваўся спачатку ў наступных нумарах часопіса «Полымя»: № 10 за 1947 год; № 7 за 1948 год.*

**2**

**Міхасю Лынькову**

Міхаіл Ціханавіч!

Убачыўшы Вас, я не адважыўся спытаць аб кнізе, думаючы, што Вы яе яшчэ не прачыталі. Прызнацца шчыра, я не чакаў, што Вы зробіце гэта так хутка. Але Кулакоўскі сказаў мне, што кнігу Вы прачыталі і жадалі пагутарыць са мной. Вельмі шкадую, але ў мяне ўжо быў куплены білет, і я не меў магчымасці зайсці да Вас. А зараз разумею, што зрабіў памылку. Трэба было застацца і зайсці абавязкова. Праўда? Гэта, безумоўна, дапамагло б хутчэй пусціць кнігу ў вытворчасць. А цяпер я змагу прыехаць у Мінск толькі ў сярэдзіне жніўня — падрыхтаваць глебу для пераезду сям'і.

Калі Вашы заўвагі такія, якія можна будзе выправіць пасля, напрыклад, у гранках, прашу Вас: не затрымлівайце кнігі. Вельмі хочацца, каб яна выйшла да 30 годдзя БССР.

Гавораць, што Вы супраць партызанскага дэтэктыва і хочаце надаваць мне за яго, як калісьці за Візэнера. Што ж… Крытыку я ўмею разумець і рабіць адпаведныя вывады для сябе. Напрыклад, з Вашымі заўвагамі наконт вобразаў немцаў я быў згодзен на добрых працэнтаў 80 і ў далейшай працы стараўся выправіць. Не ведаю толькі, як гэта ўдалося мне. Але ў даным выпадку, не ведаючы яшчэ, які напрамак будзе мець Ваша выступленне супраць дэтэктыва, я ўжо наперад не хачу згаджацца з ім. Занадта ўжо вялікі я аматар гэтых надзвычайных прыгод, так і цягне мяне да іх. І я проста не магу ўявіць вялікага твора на партызанскую тэму без гэтага. (Мабыць, мне варта было б быць следчым па асобых справах, ці контрразведчыкам.) А таму прашу Вас, Міхаіл Ціханавіч, як рэдактара, пакінуць усё тое, што можна занесці пад рубрыку «дэтэктыў», без істотных змен. Няхай ужо лепш крытыкі палаюць мяне.

Мне параілі ў асобным выданні назваць «Глыбокую плынь» раманам. Я згадзіўся. Але цяпер думаю: а ці варта? Можа, лепш скрамней — так, як было ахрышчана ад нараджэння. Ваша парада наконт гэтага будзе для мяне канчатковай.

І нарэшце (даруйце!), між галоўным, яшчэ маленькая пабочная просьба.

Паступіў я ў партшколу, а пераехаць у Мінск з сям'ёй не магу — няма куды. Цэлы тыдзень шукаў я кутка, дзе можна было б прытуліцца хоць у першы час,

і нічога не знайшоў. З двума дзецьмі (адно грудное) — гэта вельмі цяжка. А калі што і можна знайсці, то давядзецца плаціць палову стыпендыі. І аднаго жонка не адпускае.

Скажыце там славечка ў маю карысць і ў Саюзе і, пры выпадку, дырэктару партшколы Кожару. Як-ніяк, а я ж напісаў аповесць аб баявых справах партызан таго злучэння, якім камандаваў ён. Так што мы з ім добрыя знаёмыя, хоць ніколі і не бачылі адзін аднаго.

Вось і ўсе мае просьбы да Вас, Міхаіл Ціханавіч.

З шчырым прывітаннем
Іван Шамякін

*На пісьме простым алоўкам, відаць, рукой М. Лынькова стаіць дата: 1948. VII.12.*

*Народны пісьменнік Беларусі Міхась Ціханавіч Лынькоў (1899—1975) быў рэдактарам першага асобнага выдання рамана Івана Шамякіна «Глыбокая плынь», які выйшаў у 1949 годзе.*

*Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч — гл. камент. да ліста № 1.*

*Візэнер — герой аповесці І. Шамякіна «Помста» (1945).*

*У 1948 годзе Іван Шамякін паступіў у Вышэйшую партыйную школу пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі і доўга не мог знайсці жыллё, бо не хацелі браць на кватэру сям'ю з дзіцем, а другое дзіця павінна было вось-вось нарадзіцца (старэйшай дачцэ Ліне было сем гадоў, а Таццяна нарадзілася ў кастрычніку 1948 года).*

*Кожар Ілья Паўлавіч (1902—1967) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Гомельскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1947—1963 гадах дырэктар Мінскай ВПШ.*

## 3
## Міколу Ткачову

Мікола!

Сяджу, браце, у вёсцы ў глушы і пішу, пішу бясконца. Прызнацца, ужо і надакучыла, хочацца ў Мінск, але паставіў сабе мэту — скончыць «Блізкі час» (раман «У добры час». — **А. Ш.**), канец ужо відзён.

Аднак паслухаўшы сёння аб з'ездзе, захацеў абавязкова трапіць на абласную канферэнцыю. Цікава паслухаць. Таму прашу цябе паведаміць тэлеграмай ці як-небудзь аб дні, калі адбудзецца канферэнцыя. Пазвоняць з райкама — скажы, што абавязкова пастараюсь прыехаць, запоўні за мяне анкету, а я прыеду падпішу. Калі сам ты думаеш адплыць у Гагры, перадай маю просьбу Гурскаму, Пераплётчыкаву, Вітку — хто застанецца. Намесніка афармі цераз бюро, каб ён адчуваў адказнасць, бо зараз могуць быць вялікія падзеі.

Як ідзе восьмы нумар? Я прагледзеў карэктуру. Карэктарскіх памылак многа і асабліва шмат наблытана са знакамі, але я надзеюся, што карэктар і дзяжурны ўсё гэта выправілі. Аднак, калі не позна яшчэ, паглядзі:

а) ст. 20. 1-я калонка, 4 радок зверху, пасля слова «каровы» варта ўставіць «у яе калгасе».

Тут жа. 9-10 радкі знізу. Замест: «— Ад каго? — Ад жонкі Сяргея Паўлавіча» варта даць «— Хто? — Жонка Сяргея Паўлавіча».

ст. 22 1-я кал. 20 радок знізу замест «каб выгналі» абавязкова трэба — «кабыл выгналі».

ст. 34-36 пераблытаны радкі, але гэта, безумоўна, карэктары знойдуць.

Вось, уласна кажучы, усё. Надзеюся, са «льздой» ты мяне не пакрыўдзіў.

Прывітанне хлопцам.
Да сустрэчы
Іван Шамякін

21/VIII 52 г.

Мой адрес: Гомельская область, Тереховский район, село Терюха Шамякину.

*Ліст адрасаваны Міколу (Мікалаю Гаўрылавічу) Ткачову (1918—1979), беларускаму пісьменніку, які ў 1949—1957 гадах працаваў адказным сакратаром часопіса «Полымя».*

*У лісце размова ідзе пра абласную партыйную канферэнцыю, а таксама пра восьмы нумар часопіса «Полымя».*

*Гурскі Ілья Данілавіч (1899—1972) — беларускі пісьменнік, у 1944—1960 гадах рэдагаваў часопіс «Беларусь».*

*Пераплётчыкаў — прадстаўнік УААП у СП БССР.*

*Вітка Васіль (сапр. Крысько Цімох Васільвіч; 1911—1996) — беларускі паэт, з 1948 — намеснік, з 1951 — галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».*

*Зараз вёска Церуха ў Гомельскім раёне Гомельскай вобласці.*

**4**

**Міколу Ткачову**

Мікола, здароў, браце!

Прывет табе з-за акіяна. І ўсім прывет перадавай адразу ж нашым хлопцам — Івану, Аляксею, Тарасу, Алесю, нашым добрым жанчынам. Я часта ўспамінаю ўсіх вас і… сумую. Тут добрыя таварышы, але — дыпламаты. А я, ты ведаеш, люблю адносіны паміж людзьмі без усялякай дыпламатыі: што захацеў — сказаў, пажартаваў, як хочаш, як хапіла дасціпнасці, калі захацеў — узяў чарку. Хораша дома.

Як вы там? Ты, відаць, застаўся адзін. Мне помніцца, што Броўка на кастрычнік збіраўся на курорт. Калі прыехаў ужо (пісьмо можа доўга ісці) — яму самы шчыры прывет. Ён уяўляе, як я тут жыву, чым займаюся.

Работа ў мяне пакуль што не вельмі напружаная, больш сяджу і слухаю. Але часу на што-небудзь іншае не застаецца. Гэта толькі такі дысцыплінаваны чалавек, як Пятро Усцінавіч, мог пісаць тут. А я ўзяў кавалак перакладу рамана, які не паспеў аўтарызаваць перад ад’ездам, і яшчэ не дастаў папкі з чамадана, хоць канчаецца ўжо месяц майго прабывання тут, у Нью-Ёрку. Ды і не ставіў я мэту — займацца тут творчасцю. Гляджу, назіраю. Многа цікавага. Шкада, што я без мовы. Каб я ведаў англійскую, то ўведаў бы ў тры разы больш. Зараз прыехалі з дачы, дзе мы жывём (пераезды гэтыя займаюць добрыя тры гадзіны), і мяне ўпаўнаважылі прадстаўляць дэлегацыю на пленарным пасяджэнні Асамблеі. Гэта робіцца часта, калі няма выступлення «вялікіх» ці сенсацыйнага выступлення. Сяджу адзін. У зале пуста. Слова атрымаў прадстаўнік Кіпра і, выйшаўшы на трыбуну, папрасіў старшыню, устанавіць, ці ёсць кворум. Кворуму няма — з 111 членаў ААН сядзіць у зале 44.

Чакаем, калі ён збярэцца, кворум. Нідзе няма павагі да «малых». Хоць слоў тут аб роўнасці льецца паток. Увогуле фармалізму ў гэтай сусветнай гаварыльні — дай Бог.

Мікола!

Мы ў сябе тут, беларуская дэлегацыя, рыхтуемся да адной падзеі, і я хачу, каб у ёй прыняў удзел наш СП. Першага лістапада Кузьме Кісялёву спаўняецца 60 год. Даволі круглая дата. Я думаю, што яму будзе прыемна атрымаць віншаванне ад пісьменнікаў. Зрабі, калі ласка, гэта ад імя прэзідыума праўлення. І напомні хлопцам, якія ездзілі з ім, — Лынькову, Глебку, Максіму, Пімену. Нагадай Пятру Усцінавічу, нават калі ён будзе на курорце. Відаць, яны пашлюць асабістыя тэлеграмы. Будзем дыпламатамі. Спадзяюся. Я тут старшыня юбілейнай камісіі. Між іншым, напомні пра юбілей Смірнову і Чарняўскай.

Другая просьба. Магчыма, што ты ўжо выканаў яе, бо я, успомніўшы ў Маскве, наказваў Машы, каб яна папрасіла цябе. Але баюся, што Маша магла забыць. У шуфлядзе стала ў маёй папцы ляжыць пісьмо на маё імя настаўніцы з Брагін-

скага р-на, я атрымаў яго перад самым ад'ездам і нічога не здолеў зрабіць. Напішы ёй, растлумач і, хоць са спазненнем, дай ход пісьму. Калі здзек над жанчынай працягваецца, можа, варта падключыць прэсу.

Не забывайце на маю сям'ю. Калі ў Машы ўзнікнуць якія-небудзь цяжкасці, — дапамажыце. Напішы мне пра нашы справы. Пісьмо сюды з дому, ад сяброў — як добры глыток крынічнай вады. Аж весялей робіцца.

Перадавай прывітанне ўсім пісьменнікам.

Абдымаю цябе
Іван

9/X 63 г.

Нью-Ёрк, ААН.

P. S. Пісьмо добра пасылаць праз Мін.<істэрства> зам.<ежных> спраў.

*Ліст адрасаваны Міколу (Мікалаю Гаўрылавічу) Ткачову, беларускаму пісьменніку. Падчас напісання пісьма працаваў сакратаром праўлення СП БССР. Ліст напісаны І. Шамякіным з Нью-Ёрка падчас працы на Генеральнай Асамблеі ААН.*

*Іван — відаць, Грамовіч Іван Іванавіч (1918—1986), беларускі пісьменнік, у 1958—1969 гадах працаваў літкансультантам СП Беларусі.*

*Аляксей — відаць, Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч, гл. камент. да ліста № 1.*

*Тарас — Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912—1975), беларускі пісьменнік. У 1953—1972 гадах — літкансультант СП БССР.*

*Алесь — відаць, Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918—1983), беларускі пісьменнік, у 1957—1972 гг. — адказны сакратар часопіса «Полымя».*

*Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — народны паэт Беларусі. У 1948—1967 гадах — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Кавалак перакладу рамана — відаць, маецца на ўвазе раман «Сэрца на далоні».*

*Кісялёў Кузьма Венядзіктавіч (1903—1977) — дзяржаўны дзеяч Беларусі, дыпламат. З 1944 наркам (з 1946 міністр) замежных спраў БССР.*

*Лынькоў Міхась Ціханавіч (1899—1975) — народны пісьменнік Беларусі.*

*Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт.*

*Максім — Максім Танк (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995), народны паэт Беларусі, у 1948—1966 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Пімен — Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917—1995), народны паэт Беларусі, у 1958—1966 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».*

## 5
## Міколу Ткачову

Мікола,

не буду стамляць доўгім пісьмом ні цябе, ні сябе. Адпачываю. Даўно ўжо гэтак не бяздзейнічаў. Нават газеты лянуюся чытаць. Што там робіцца ў свеце? Хораша пажыць, нічога не ведаючы, а галоўнае, спраў літаратурных, якія рэдка бываюць прыемнымі.

Але ўсё такі мяне турбуе: як там наш пленум, не пераносіцца? Я нават за тое, каб пасунуць яго куды-небудзь на лістапад. Аднак калі ўсё застаецца без змен, то, мабыць, трэба думаць пра выступленне. Хоць наўрад ці здолею я падрыхтаваць яго тут. Па-першае, не той настрой, па-другое, нічога няма пад рукой, а ў мяне ўжо скляроз, я імёны сваіх уласных герояў пачынаю забываць, а чужых — тым больш. Але ты ўсё ж напішы мне, калі ласка, без адкладу і пашлі авіа.

І яшчэ ў сувязі з гэтым. П. Кабзарэўскі вельмі прасіўся на пленум. Пасля я падумаў, што, можа, нам варта запрасіць усіх найбольш вядомых перакладчыкаў нашых раманаў? Іх зусім нямнога: Я. Мазалькоў, А. Астроўскі, П. Кабзарэўскі, М. Гарбачоў (Осіна можна не запрашаць, яго перакладамі незадаволены). У пісьмах-запрашэннях папрасіць іх выступіць па праблемах рамана і перакладу. І, безумоўна, абавязкова трэба запрасіць двух асноўных выдаўцоў нашых раманаў: М. Лесючэўскага і В. Ільінкова — загадчыка рэдакцыі «Раман-газеты».

Пагавары з Пятром Усцінавічам, я думаю, што ён не будзе супраць. Шчырае яму прывітанне. І ўсім нашым.

Я прылятаю 23, ужо ўзяў білеты.

Да сустрэчы
Іван Шамякін

10/IX 64 г.
Ахалі — Гагра

*Ліст адрасаваны Міколу (Мікалаю Гаўрылавічу) Ткачову, беларускаму пісьменніку, падчас напісання пісьма працаваў сакратаром праўлення СП Беларусі.*

*У лісце размова ідзе пра пленум праўлення СП Беларусі.*

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909—1970) — рускі пісьменнік-перакладчык. Пераклаў на рускую мову асобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Крапівы, М. Лынькова, І. Шамякіна, І. Мележа, М. Танка, П. Панчанкі, П. Пестрака, П. Галавача і інш.*

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч (1909—1969) — рускі крытык, перакладчык і літаратуразнавец.*

*Астроўскі Арсеній Георгіевіч (1897—1989) — рускі перакладчык, літаратуразнавец. Пераклаў на рускую мову творы Я. Коласа, Ц. Гартнага, П. Труса, Я. Брыля, І. Шамякіна, У. Паўлава і інш.*

*Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921—1981) — рускі перакладчык. Пераклаў на рускую мову творы І. Шамякіна, І. Мележа, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, В. Быкава, В. Адамчыка і інш.*

*Осін Дзмітрый Дзмітрыевіч (1906—1982) — рускі пісьменнік, перакладчык.*

*Лесючэўскі Мікалай Васільевіч — дырэктар выдавецтва «Советский писатель» (г. Масква).*

*Пятро Усцінавіч — Пятрусь Броўка, гл. камент. да ліста № 4.*

## 6
## Міколу Ткачову

26/III 65.
Трускавец

Мікола, дружа!

Прыехаў да мяне Валя Зуб і расказаў, што пленум прайшоў на спакойным узроўні. Я парадаваўся і гэтаму. Выходзіць, усе мы радуемся цішыні. Пасля ўсіх жыццёвых і літаратурных бур, баявой і халастой кананады цішыня — гэта не так ужо кепска. Увогуле чалавеку нашага вар’яцкага XX веку бракуе цішыні. Праўда? Але ж мы самі — чэрці, самі не можам без шуму і валтузні. Вось як я. Здаецца, сядзі, хлопча, у добрым санаторыі, пі вадзічку, прамывай кішэчнік і радуйся вясне. Дык не ж, не сядзіцца. Сумна. Абрыдла ўсё — рэжым, клізмы, «настуся». Цягне да «спіртусі» і да пасяджэнняў.

Між іншым, львоўскія хлопцы далі мне тэлеграму, што памёр Пятро Казланюк, і я паехаў на пахаванне, трымаў прамову, усклаў вянок. Папярэдзь Алер: калі часам прышлюць рахунак за вянок (Літфонд усюды аднолькавы), няхай не здзіўляецца і перавядзе грошы, хоць я думаю — не прышлюць, хлопцы разумней Літфонда. Так што я выканаў даволі складаную і не дужа прыемную місію. Памёр стары ад рака мозга, а лячылі яму печань.

2 красавіка я адгэтуль зрываюся, ажно на 4 дні раней. Не шкадую. У Камітэце весялей. Сесія Камітэта пачынаецца 2/IV, я буду адсутнічаць, пакуль мяне не выкінуць са спісу. Надзеюся на П. Ф. Глебку. Але не пазней 5/ я павінен быць у Маскве. Так што я здолею пабыць дома адзін дзень.

У сувязі з гэтым у мяне да цябе просьба. Я ўзяў білет на поезд на 2 красавіка. Ёсць вагон «Трускавец — Мінск». Не хочацца дабірацца да Львова і ляцець уначы (са Львова толькі адзін самалёт у 9 вечара), калі самы малюсенькі туман можа затрымаць вылет.

Але ў поездзе другая бяда: вагон усю ноч стаіць у Баранавічах. Вышлі, калі ласка, Макарэвіча ў Баранавічы к 23.00 2 красавіка. Тады я недзе а палавіне другой, без начлега ў вагоне, здолею быць дома, выехаўшы з Трускаўца ў 10 раніцы. Спадзяюся цалкам!

Да сустрэчы. Цісну тваю руку.
Прывітанне ўсім хлопцам і жанчынам.
Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны Міколу (Мікалаю Гаўрылавічу) Ткачову, беларускаму пісьменніку. Падчас напісання ліста працаваў сакратаром праўлення СП Беларусі.*

*Зуб Валянцін Андрэевіч (1915—1980) — беларускі пісьменнік.*

*Пленум прайшоў на спакойным узроўні — пленум СП Беларусі.*

*«Настуся» — мінеральная вада ў Трускаўцы.*

*Казланюк Пятро (Пётр Сцяпанавіч; 1904—1965) — украінскі пісьменнік.*

*Алер Фаня Яфімаўна (1904—1985) — дырэктар беларускага аддзялення Літфонда СП СССР.*

*У Камітэце весялей — маецца на ўвазе Камітэт па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР, членам якога быў у той час Іван Шамякін.*

*П. Ф. Глебка — Пятро Глебка, гл. камент. да ліста № 4.*

*Макарэвіч Міхаіл Лявонцьевіч — шафёр СП Беларусі.*

## 7
## Максіму Танку

Максіме!

Маем такую тэлеграму: «Просим согласия поездку Максима Танка Кубу октябре сроком три недели составе делегации. Инкомиссия Чернявский». Калі згодзен, тэрмінова паведамі нам, у Саюз, мы дамо тэлеграму ў Маскву. Калі не — таксама паведамі, мы прапануем другога чалавека. Як жывеш? Прывет усім тваім.

Іван Шамякін

16/VIII 66

*Ліст адрасаваны народнаму паэту Беларусі Максіму Танку (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995).*

## 8
## Уладзіміру Карпаву

4/XII 66 г.

Валодзя, дарагі сябра!

Твая нечаканая хвароба (яна заўсёды нечаканая) глыбока засмуціла мяне і Марыю Філатаўну. Мужайся, дружа! У нас многа спраў. Сёння такі радасны дзень: толькі што перадалі аб узнагародзе Мінска ордэнам Леніна. Ты для гэтага зрабіў больш, чым любы з нас. Ты больш актыўна, чым хто іншы, змагаўся за самае высокае званне. Сардэчна віншую цябе з узнагародай. Хацеў прарвацца да цябе, каб павіншаваць асабіста, але Маша кажа, што табе шкодны любыя эмоцыі, любыя размовы пра справы. А мы не вытрымалі б. Не хвалюйся. Усё ідзе добра. І ўсё будзе добра, абы мы былі здаровыя і дужыя. Абнімаю цябе. Кланяецца М<арыя> Ф<ілатаўна>. Прывет ад дзяцей.

Іван

*Ліст адрасаваны Уладзіміру Барысавічу Карпаву, беларускаму пісьменніку.*

*Марыя Філатаўна — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. Шамякіна.*

*У. Б. Карпаў шмат пісаў аб тым, каб надаць Мінску званне горада-героя.*

**9**

**Максіму Танку**

Дарагі Максім!

Калі пачынаеш лячыцца, то пачынаеш адчуваць сябе хворым. На мае распухлыя суставы назначылі гразі, і гэта дало абвастрэнне. Цяжка突 нават пісаць. Але ўрачы кажуць, што гэта натуральна, трэба толькі прыняць увесь курс — 10 сеансаў. Буду пакутаваць да канца, можа, праўда, пасля буду адчуваць сябе лепш, каб працаваць на поўную аддачу ў Саюзе і дома, за сталом. Язык мой — вораг мой: я даў абяцанне напісаць кніжку апавяданняў на аснове ленінскіх дакументаў, адрасаваных у Беларусь. А цяпер, калі паспрабаваў, адчуў, якая гэта цяжкая праца і перш за ўсё гэта не маё амплуа — гістарычная тэма, акрамя таго, сто другіх цяжкасцяў. Не ведаю, што атрымаецца.

Я не ведаю, як прагаласавала камісія па прэміях. Р. Я. Кісялёў прыслаў па мяне машыну, але яна прыйшла а трэцяй гадзіне (шафёр сказаў, што была паломка). Ехаць так позна не мела сэнсу. Але я пішу табе галоўным чынам у сувязі з вынікамі галасавання. Калі Рыгор Барадулін не прайшоў, то я, на такі выпадак, меў размову з С. В. Марцэлевым і Г. М. Жабіцкім, каб яго выставіць на прэмію камсамола. Хлопецварты! Жабіцкі гэтую ідэю падтрымаў. Другога паэта ў іх няма на прыкмеце. Думаю, што гэтай ідэі трэба даць ход. Спадзяюся, што ніхто з калег нашых супраць не будзе.

Калі да 17 мне не стане лепш, на сесію я не паеду. Прашу цябе, як старшыню, лічыць адсутнасць маю ўважлівай — чалавек лечыцца.

Прывітанне хлопцам.
І. Шамякін

9/XII 68 г.

*Ліст адрасаваны народнаму паэту Беларусі Максіму.*

*...я даў абяцанне напісаць кніжку апавяданняў на аснове ленінскіх дакументаў, адрасаваных у Беларусь — на ленінскую тэму І. Шамякіным напісаны апавяданні «Хлеб», «Матрос з «Алега», аповесці «Першы генерал», «Браняпоезд «Таварыш Ленін», кінааповесць «Эшалон прайшоў».*

*Кісялёў Рыгор Якаўлевіч (1913—1970) — дзяржаўны дзеяч Беларусі, з мая 1968 года намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі.*

*Барадулін Рыгор Іванавіч (нар. 1935) — народны паэт Беларусі.*

*Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч (1925—2003) — гісторык, даследуе пытанні гісторыі друку і культуры Беларусі. Член-карэспандэнт АН Беларусі. З 1953 па 1976 гады ў апараце ЦК КПБ.*

*Жабіцкі Генадзь Мікалаевіч (нар. 1933) — дзеяч ЛКСМБ.*

**10**

**Міколу Ткачову**

Мікола!

Я ўспомніў, што забыўся пакінуць заяву на адпачынак. Калі вы яго не афармлялі, то афармі з 15 кастрычніка, маючы на ўвазе, што дзень паездкі з гасцямі варта лічыць за тры звычайнай работы. Ды і святы прыходзяцца на мой адпачынак. Адным словам, маю намер «гуляць» да 15 лістапада. Можа, удасца дабіць аповесць. Спадзяваўся на курорт. І хоць ён сумны і працэдурамі не загружаны, але ўмоў для працы няма, гэта ж Нясвіж і жыву ўдвух са старым грузінам, які амаль увесь час сядзіць у пакоі. А я ўжо не магу пісаць, калі ўласная жонка глядзіць мне ў патыліцу, а тут — чужы чалавек.

Дзевяць дзён прагуляў з Броўкам. Сёння ён паехаў. Цяпер і гуляць няма з кім, у санаторыі 4-га Упр.<аўлення> Мінздрава Грузіі — адны пенсіянеры. Гэтыя санаторыі называюць «санаторый партархіва».

Патроху і мы падаемся туды ж — у архіў. Сумна, але што зробіш.

Ці вярнуўся Максім?

Прывітанне ўсім нашым. Мацуйся. Калі думаеш дабываць свой адпачынак?

Цісну лапу

Іван

20/X — 69 г.

*Ліст адрасаваны Міколу (Мікалаю Гаўрылавічу) Ткачову (1918—1979), беларускаму пісьменніку. Падчас напісання пісьма працаваў сакратаром праўлення СП Беларусі.*

*Ды і святы прыходзяцца на мой адпачынак — маецца на ўвазе свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, якое адзначалася 7—8 лістапада.*

*...гэта ж Нясвіж... — у савецкія гады ў нясвіжскім замку знаходзіўся санаторый.*

*Броўка — Пятрусь Броўка, гл. камент. да пісьма № 4.*

## 11
## Міхасю Лынькову

Дарагі Міхась Ціханавіч!

Паважаная Соф'я Захараўна!

Шчыра дзякуем Вам ад сябе і ад Сашы за віншаванне, якое Вы прыслалі з нагоды нашай сямейнай урачыстасці.

Быў я сёння ў П.<ятра> М.<іронавіча> па вашай справе. Ішоў па Вашай, але размова атрымалася больш шырокая. Вельмі шчырая і разумная размова. П.<ётр> М.<іронавіч> з надзвычайнай цеплынёй і сардэчнасцю гаварыў пра Вас, Міхась Ціханавіч.

Канкрэтна: паклікаў Г. М. Машкова і сказаў: паказаць у новым доме (іхнім) усе чатырохпакаёвыя кватэры; якая Соф'і Захараўне спадабаецца, тую замацаваць за Вамі. Соф'я Захараўна ў сярэдзіне наступнага тыдня, у сераду ці ў чацвер, прыязджайце ў Мінск, звяртайцеся да Георгія Мікалаевіча Машкова (упраўляючага справамі), ён пакажа Вам хату, і Вы можаце выбраць, што Вам падабаецца. Дом гэты ў ціхім месцы, засяляцца будзе да Кастрычніцкага свята.

Я рады, што мая размова дала пэўны плён. Буду яшчэ больш рады, калі Вы ўладкуецеся найлепшым чынам. Мацуйцеся, Міхась Ціханавіч. Здароўя Вам, поспехаў.

Марыя Філатаўна кланяецца і з свайго боку перадае найлепшыя пажаданні.

З сардэчным прывітаннем

Іван Шамякін

25.VIII 72 г.

*Ліст адрасаваны народнаму пісьменніку Беларусі Міхасю Ціханавічу Лынькову.*

*І. Шамякін дзякуе за віншаванне ў сувязі з вяселлем сына Аляксандра, якое адбылося 19 жніўня 1972 года.*

*Быў я сёння ў П.<ятра> М.<іронавіча> па вашай справе — ва ўспамінах пра Міхася Лынькова «Спакойная мудрасць і мужны талент» І. Шамякін адзначыў наступнае: «У 1973 годзе (трэба 1972. — **А. Ш.**) да мяне звярнулася моцна ўсхваляваная і заклапочаная Соф'я Захараўна. Здароўе Міхася Лынькова (хварэў ён ужо даўно) пагоршылася. Але ў гэты час у доме, дзе ён жыў, пачыналі капітальны рамонт. Грукат, бруд. Хвораму чалавеку гэта, што землетрасенне. Зразумелая была трывога жонкі хворага пісьменніка. Што рабіць? Як памагчы. Кватэр у Саюзе пісьменнікаў не было.*

*Да каго звярнуцца? Хто можа памагчы? Пазваніў памочніку П. М. Машэрава, сказаў, што маю пільную патрэбу зайсці да першага сакратара ЦК.*

*Пётр Міронавіч прыняў мяне на другі дзень раніцою...*

*Размова наша зацягвалася. Нарэшце Пётр Міронавіч спытаў:*

*— Якія праблемы ўзніклі ў пісьменнікаў? — і, уважліва выслухаўшы мяне, сказаў: — Правільна ставіце пытанне. Лынькову трэба памагчы неадкладна, —*

*і тут жа даў распараджэнне кіраўніку справамі: — Заўтра прыедзе да вас жонка Міхася Лынькова, пакажыце ёй кватэры ў новым доме. Якая ёй спадабаецца, тую і аформіце.*

*А потым Пётр Міронавіч доўга яшчэ гаварыў аб творчасці Лынькова, аб значэнні яго «Векапомных дзён». Я дзівіўся, як ён помніў змест кнігі, яе герояў, як трапна характарызаваў іх.*

*Праз месяц Лынькоў перасяліўся ў новую кватэру ў ціхім раёне і быў задаволены, бо старая кватэра была цёмная, у шумным месцы — на рагу праспекта Леніна і вуліцы Валадарскага (зараз перасячэнне праспекта Незалежнасці і вуліцы Валадарскага. —* ***А. Ш.****)» (цыт. па кн.: Іван Шамякін. Карэнні і галіны. — Мінск, 1986, с. 137—138).*

*Марыя Філатаўна — Марыя Шамякіна, гл. камент. да ліста № 8.*

## 12
## Максіму Танку

Дарагі Максім!

Зайздрошчу тваёй энергіі. Я ўжо так не магу, мне трэба ў Маскву, і я не магу выбрацца: то грып, то трэшчына ў рабрыне — цягнуў ёлку.

У Маскве, калі ласка, звяжыся з В. М. Озеравым, ён званіў і прасіў, каб прыехаў хто-небудзь з нас, ты ці я, з тым, каб разам наведаць В. Ф. Шауру па пытаннях нашай вялікай нарады, якая набывае ўсё большае і большае значэнне, надаюць ёй такое значэнне. Я ў бліжэйшы час паехаць не здолею — нездаровіцца. Ды і навошта, калі ты цэлыя тры дні будзеш у Маскве?

С. В. Марцэлеў даў згоду назначыць А. Вярцінскага адказным сакратаром. Каб справу не адцягваць, каб даць новаму сакратару магчымасць да нарады асвоіцца, мы напэўна назначым яго рашэннем прэзідыума з наступным зацверджаннем на пленуме, дзе будзем выбіраць намесніка, аб кандыдатуры якога ніяк не дамовімся.

Між іншым, Марцэлеў раіў пагаварыць з Маркавым наконт таго, каб нараду адкрыў ён. Паспрабуй празандзіраваць такую прапанову, можа, спачатку з самім Маркавым. Поспехаў табе ў Белградзе. Перадавай прывет старшыні скупшчыны Шыляку, я яго два дні суправаджаў па Мінску. Пасля наведвання Шауры пазвані, калі будзе час.

Яшчэ раз усяго найлепшага<br>
Іван Шамякін

26.I.75 г.

*Ліст адрасаваны народнаму паэту Беларусі Максіму Танку.*

*Озераў Віталій Міхайлавіч (1917—2007) — савецкі крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч.*

*Шаура В. Ф. — загадчык аддзела культуры ЦК КПСС.*

*Марцэлеў С. В. — Станіслаў Марцэлеў, гл. камент. да ліста № 9.*

*Вярцінскі Анатоль Ільіч (нар. 1931) — беларускі паэт. У 1967—1982 гадах — літкансультант, адказны сакратар праўлення СП БССР.*

*Маркаў Георгій Макеевіч (1911—1991) — рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч.*

***Уступны артыкул, падрыхтоўка тэкстаў і каментарый Алесі Шамякінай.***

Раман МАТУЛЬСКІ

# БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСКАГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

***Бібліятэкі вельмі часта называюць скарбніцамі нацыянальнай культуры. І гэта сапраўды так — бо ўсё, што многія стагоддзі захоўвалася ў народнай памяці, знаходзіла адлюстраванне ў кнігах, а кнігі, у першую чаргу, найбольш каштоўныя і значныя, збіраліся ў кніжныя калекцыі — бібліятэкі. Беларусь — краіна з багатай старажытнай кніжнай культурай. Менавіта выхадзец з беларускіх зямель Францыск Скарына надрукаваў першую для ўсходніх славян кнігу кірылічным шрыфтам «Біблію». Яшчэ ў пачатку другога тысячагоддзя на беларускіх землях былі створаны першыя бібліятэкі, фонды якіх папаўняліся на працягу стагоддзяў і, на жаль, часта знішчаліся. Пра шматлікія з іх знішчылася нават памяць. Таму не толькі многія простыя жыхары сучаснай Беларусі (не кажучы ўжо аб жыхарах замежных краін), але і вядомыя спецыялісты адлік гісторыі бібліятэк і кніжнай справы краіны часта пачынаюць з кастрычніцкіх падзей 1917 года. Каб выправіць гэтую недакладнасць, прапаноўваем увазе чытачоў артыкул, прысвечаны гісторыі буйнейшых бібліятэк сабораў і манастыроў, якія дзейнічалі на тэрыторыі нашай краіны ў X—XIX стагоддзях.***

## *Бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора*

Самай буйной і значнай бібліятэкай Беларусі на працягу XI—XVI стагоддзяў з'яўлялася бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора. Звесткі аб ёй, якія дайшлі да нашага часу, вельмі бедныя. Даследчыкі лічаць, што бібліятэка была створана ў год заснавання сабора — 1066. Першыя згадкі аб бібліятэцы сустракаюцца ў «Запісках аб Маскоўскай вайне» афіцыйнага польскага гісторыка Рэйнгольда Гейдэнштэйна — сакратара караля Стэфана Баторыя, і ў дакументах, звязаных з трагічнымі падзеямі ў гісторыі бібліятэкі — захопам польскімі войскамі Полацка, рабаваннем горада і бібліятэкі.

Апісваючы ўпартую аблогу і ўзяцце Баторыем Полацка ў жніўні 1579 года, Р. Гейдэнштэйн паведамляе, што салдаты польскага войска імкнуліся пранікнуць у Полацкую крэпасць для таго, каб захапіць каштоўнасці, што там захоўваліся. Аднак, калі пасля амаль месячнай абароны горада яго драўляныя сцены і вежы былі спаленыя і войска Баторыя ўступіла ў верхні замак, надзеі на вялікія багацці, золата і срэбра «зусім не былі здаволеныя». «У вачах адукаваных людзей, — піша далей гісторык, — амаль не меншую каштоўнасць, чым уся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка. Акрамя летапісаў, у ёй было шмат твораў грэчаскіх бацькоў царквы і сярод іх творы Дыянісія Арэапагіта аб нябеснай і царкоўнай іерархіі, усё на славянскай мове. Вялікая частка гэтых твораў, па сведчанні летапісаў, была перакладзеная з грэчаскай мовы Мяфодзіем і Канстанцінам».

Пасля захопу горада «ўсё знойдзенае ў замку аддадзена было ў здабычу салдатам». Разам з тым, Р. Гейдэнштэйн нічога не гаворыць аб знішчэнні кніг

сабора. Па меркаванні Я. Н. Шчапава, які правёў найбольш поўнае ў сучасным бібліятэказнаўстве і кнігазнаўстве даследаванне гісторыі бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора, словы Р. Гейдэнштэйна аб знойдзенай там бібліятэцы, што стала здабычай заваёўнікаў, аб яе складзе, аб «аналах, што трапілі ў нашы рукі», хутчэй «прымушалі лічыць, што гэта бібліятэка была вывезена з Полацка…» Як пацвердзілі далейшыя даследаванні, кнігі з бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора былі падзеленыя на часткі. Адна з іх патрапіла ў Кракаў у каралеўскую бібліятэку, дзе і знаходзілася да XVII стагоддзя. Затым след полацкіх кніг згубіўся разам са слядамі каралеўскай бібліятэкі. Другая частка полацкіх кніг апынулася ў Яна Замойскага; ён перадаў яе ў заснаваную ім у 1594 годзе ў горадзе Замосце акадэмію. Бібліятэка ардынацыі Замойскай захоўваецца цяпер у Варшаве ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы. У яе фондзе ўдалося выявіць 11 кніг, з рознай ступенню верагоднасці, што яны належалі Полацкаму сабору. Кнігі з Полацкага сабора ў тым жа Замосці трапілі ў праваслаўную царкву, пры якой была брацкая школа. Адна з гэтых кніг захоўваецца ў цяперашні час у бібліятэцы Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франка.

Грунтуючыся на рукапісах, што захаваліся з калекцыі бібліятэкі і вопісах іншых саборных і манастырскіх бібліятэк, Я. Н. Шчапаў распачаў спробу рэканструкцыі бібліятэкі, якая «з немалой доляй гіпатэтычнасці» можа ўяўляць састаў, памер і значэнне кніжнага збору, які нас цікавіць». Па яго меркаванні, не чакаючы адмысловага даследавання, ужо цяпер можна выдзеліць шэсць асноўных груп кніг, што складалі фонд бібліятэкі:

1. Летапісы. Несумненна, што Пскоўскі летапіс не быў адзінай кнігай такога роду, разам з ім у фондзе бібліятэкі захоўваліся і іншыя летапісы. Гістарычныя крыніцы дазваляюць выказаць здагадку, што ў бібліятэцы сабора былі і зніклыя полацкія летапісы.

2. Біблейскія і новазапаветныя тэксты, іх кампіляцыі і гісторыя дзён стварэння. Несумненна, полацкімі з'яўляюцца «Палея Толковая» і «Шестоднев» Севярыяна Гевальскага, а таксама збор кніг Старога запавету і Псалтыр.

3. У Полацкай бібліятэцы захоўваліся таксама «Зборнік апакаліпсічных і апакрыфічных аповесцей», «Адкрыцці Мяфодзія Паатарскага» і «Аповесць аб пакутах Хрыста».

4. Хрысціянская рыторыка прадстаўлена, несумненна, двума важнейшымі зборнікамі слоў Іаана Залатавуста — «Залатавустам» і «Златаструменем», якія належалі Сафійскай бібліятэцы. Першы рукапіс уключае нараўне з візантыйскімі творамі таксама «Словы» Кірылы Тураўскага. Сюды ж можа быць аднесена і «Евангелле навучальнае» з указаннем на пераклад яго ў 1407 годзе.

5. Аскетычныя творы — Словы Яфрэма Сірына і Пандэкты Антыохі.

6. Агіяграфіі, якія прадстаўленыя Пралогам у старажытнарускай апрацоўцы.

Аналіз вопісаў іншых бібліятэк таго часу дазволіў Я. Н. Шчапаву таксама выказаць здагадку, што ў бібліятэцы Сафійскага сабора былі помнікі і кампіляцыі кананічнага права, візантыйскія філасофскія і містычныя творы, кнігі дамангольскага часу і кнігі XIII—XIV стагоддзяў.

На мяжы XV—XVI стагоддзяў адбываецца эканамічнае і палітычнае ўзмацненне Полацка, павелічэнне аўтарытэту сафійскага кліраса. Полацк становіцца адным з багацейшых гарадоў ВКЛ, які «да часу ўзяцця горада масквіцянамі… па багацці сваіх жыхароў пераўзыходзіў саму Вільню». Усё гэта стварала спрыяльныя ўмовы для развіцця бібліятэкі і папаўнення яе фондаў, якія ў канцы XV — першай чвэрці XVI стагоддзя значна павялічыліся.

Зыходзячы з таго, наколькі магчыма аднавіць састаў кніг бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора, можна зрабіць выснову, што гэта быў вялікі збор, які ўключаў нараўне з літургічнымі кнігамі таксама філасофскія творы, біблейскія і новазапаветныя тэксты і кампіляцыі, у тым ліку і апакрыфічныя, гістарычныя працы, летапісы і іншыя літаратурныя помнікі. У бібліятэцы Полацкага

Сафійскага сабора побач з найкаштоўнейшымі кнігамі еўрапейскага паходжання таксама захоўваліся рукапісныя кнігі, створаныя на беларускіх землях, у тым ліку ў скрыпторыі Еўфрасінні Полацкай. Аналіз сацыякультурнай, палітычнай і эканамічнай сітуацыі, якая склалася на беларускіх землях у X—XVI стагоддзях, дазваляе выказаць думку, што ў бібліятэцы Полацкага Сафійскага сабора захоўваўся найбольш поўны збор рукапісных кніг, створаных на той час на тэрыторыі Беларусі. Гэта дае падставы разглядаць яе як папярэдніцу Нацыянальнай бібліятэкі нашай краіны.

Рукапісныя кнігі Полацкага Сафійскага сабора, якія захаваліся ў Варшаве і Львове, а таксама апублікаваныя ў канцы XVI—XVII стагоддзяў матэрыялы аб бібліятэцы, вынікі даследаванняў сучасных кнігазнаўцаў з'яўляюцца найкаштоўнейшым матэрыялам для правядзення бібліяграфічнай рэканструкцыі кніжных калекцый бібліятэкі. Рэканструкцыя фонду бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора і вывучэнне яе гісторыі — адна з самых актуальных задач сучаснага беларускага бібліятэказнаўства.

### *Бібліятэка Лаўрышаўскага манастыра*

На працягу стагоддзяў складаліся фонды бібліятэкі Лаўрышаўскага манастыра — аднаго з найстаражытнейшых беларускіх манастыроў, гісторыя якога малавядомая і загадкавая, як, зрэшты, і гісторыя большасці помнікаў культуры Беларусі. Аб ім часцей за ўсё ўзгадваюць у сувязі з добра захаваным пергаментным Евангеллем, названым Лаўрышаўскім. Па меркаваннях Ю. А. Лабынцава і Л. Л. Шчавінскай, якія даследавалі гісторыю манастыра і яго бібліятэкі, «мноства сведчанняў дазваляюць сцвярджаць, што праваслаўны Багародзіцкі Лаўрышаўскі манастыр у XIII стагоддзі ўжо існаваў і быў шырокавядомы». У XVII стагоддзі гэты адзін з самых багатых і найстаражытных беларускіх праваслаўных манастыроў пераходзіць да базыліянінаў, якія пазней арганізуюць у яго сценах духоўную акадэмію.

Да нашага часу не захаваліся звесткі пра аб'ём і склад кніжных фондаў бібліятэкі манастыра і царквы ў перыяд іх росквіту. Вядома толькі, што з першых гадоў XIX стагоддзя і да канца 1824 года кніжны збор манастыра рэзка скараціўся. Паводле вопісу, складзенага ў 1824 годзе, у фондзе бібліятэкі мелася 451 кніга ў 595 тамах. У дадзеным спісе ўжо адсутнічае вядомае Лаўрышаўскае Евангелле. Гэта дазваляе выказаць думку, што найбольш каштоўныя кнігі з бібліятэкі Лаўрышаўскага манастыра, як і з бібліятэк іншых уніяцкіх кляштараў, былі выключаныя. Тым не менш вопіс 1824 года дае магчымасць аднавіць структуру фонду бібліятэкі, у якім былі наступныя раздзелы: Святое Пісанне, канкарданцыі, каментары; геаграфія, святая і надзённая гісторыя; гамілетыка; аскетыка; жыцці святых і кнігі, прызначаныя для богаслужэння; творы філасофскія, матэматычныя і па фізіцы; лексікаграфа-філалагічныя; работы па праве, палітыцы, медыцыне, і прыродазнаўстве; катэхетыцы; раздзел, прысвечаны бацькам царквы, кананічным і тэалагічным творам, і раздзел, што аб'ядноўваў розныя кнігі.

Па меркаваннях Ю. А. Лабынцава і Л. Л. Шчавінскай, «у цэлым склад бібліятэкі Лаўрышаўскага манастыра ў канцы першай чвэрці XIX стагоддзя нагадваў кніжныя зборы іншых уніяцкіх кляштараў, саступаючы па колькасці кніг толькі буйнейшым з іх, хоць, магчыма, у самым пачатку стагоддзя і ён меў у сваім галоўным кнігасховішчы значна большую колькасць кніг, у параўнанні з той, якой валодалі найболей вядомыя бібліятэкі».

У сярэдзіне 1830-х гадоў, як і іншыя грэка-каталіцкія храмы, манастыр быў зачынены, а маёмасць канфіскавана. Звестак аб далейшым лёсе бібліятэкі не захавалася.

### *Бібліятэкі Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*

Створаны ў 1498 годзе навагрудскім ваяводам і маршалкам Вялікага Княства Літоўскага А. І. Хадкевічам Супрасльскі манастыр да пачатку XVI стагоддзя стаў не толькі адным з буйнейшых цэнтраў беларускага праваслаўя, але і цэнтрам агульнаславянскага значэння (другім пасля Кіеўскай лаўры). Пасля заключэння Брэсцкай уніі манастыр стаў уніяцкім і падпарадкаваўся ордэну базыліянінаў. Уніяцкія манахі падтрымалі паўстанне 1794 года, удзельнічалі ў паўстанні 1830—1831 гадоў, што наклікала на іх гнеў царскага ўрада. Падчас насталай рэакцыі манастыр прыйшоў у заняпад і да моманту ліквідацыі уніі (1839 год) у ім засталося пяць манахаў-базыліянінаў. У 1842 годзе маёмасць манастыра была канфіскаваная.

Бібліятэка Супрасльскага Благавешчанскага манастыра славілася сваім кніжным багаццем і была адной з самых буйных у Вялікім Княстве Літоўскім. Паводле першага вопісу ў бібліятэцы ўжо ў 1557 годзе налічвалася больш як 200 кніг на грэчаскай і лацінскай мовах, у тым ліку 7 друкаваных. Вопіс 1645 года фіксуе каля 600 кніг, сярод якіх пераважалі друкаваныя выданні на лацінскай (212 тамоў) і польскай (152 тамы) мовах. Кірылічных кніг мелася больш як 200, асноўную іх масу складалі рукапісы. Сярод друкаваных кніг было нямала выданняў Ф. Скарыны, унікальныя экзэмпляры «Евангелля» В. Цяпінскага, выданні І. Фёдарава.

У XVII стагоддзі Супрасль з'яўляўся адным з буйнейшых цэнтраў кірылічнай кніжнасці не толькі беларускіх, але і ўсіх усходнеславянскіх зямель. У бібліятэцы Супрасльскага манастыра, якая працягвала заставацца адной з буйнейшых на Беларусі, захоўваліся адметныя помнікі кніжнай культуры: так званы Супрасльскі летапіс XI стагоддзя, летапісны зборнік першай паловы XVI стагоддзя, зборнік 1519 года з самым поўным спісам другой рэдакцыі Беларуска-Літоўскага летапісу 1446 года, самы старажытны кірылічны рукапіс нотна-лінейнага ліста — Супрасльскі ірмалой 1598—1601 гадоў, а таксама вялікая колькасць рукапісаў і кніг.

У XVIII стагоддзі кляштар значна папоўніў бібліятэку пераважна за кошт лаціна- і польскамоўных кніг, у тым ліку надрукаваных у Супрасльскай друкарні. Вопіс 1764 года фіксуе 1456 кніг, з іх больш як 300 на польскай, некалькі дзясяткаў на французскай і італьянскай, больш як 10 на нямецкай мовах, а таксама больш як 100 рукапісных і друкаваных царкоўнаславянскіх кніг. Акрамя асноўнай у манастыры таксама былі бібліятэкі ў келлях асобных манахаў.

У 1830-я гады пасля паражэння паўстання пачаўся заняпад манастыра і паступовы адток кніжных каштоўнасцей з бібліятэкі. Вядомая далёка за межамі Рэчы Паспалітай бібліятэка прыцягвае ўвагу буйнейшых славяністаў свету, што вядзе да хуткага распылення яе калекцыі. На момант поўнай перадачы кніг манастыра ў Віленскую публічную бібліятэку ў 1876 годзе значная частка Супрасльскага кнігазбору, найбольш старажытныя і каштоўныя кнігі ўжо былі вывезены з бібліятэкі. У Вільню было перададзена толькі 1109 кніг.

Пасля гэтага ў бібліятэцы манастыра засталося толькі некалькі дзясяткаў царкоўна-службовых кніг новага друку. З 1880-х гадоў бібліятэка і архіў пачалі паступова папаўняцца, і на пачатку XX стагоддзя яна налічала ўжо 1000 адзінак захоўвання. Гэта былі і не такія каштоўныя выданні, але і гэты збор неўзабаве быў страчаны. У жніўні 1944 года фашысты падчас адступлення падарвалі Благавешчанскую царкву і спалілі манастырскія будынкі разам з бібліятэкай.

### *Бібліятэка Жыровіцкага Успенскага манастыра*

Яшчэ адным яркім, але малавывучаным момантам у гісторыі развіцця бібліятэк Беларусі з'яўляецца гісторыя бібліятэкі Жыровіцкага Успенскага манастыра — адной з буйнейшых манастырскіх бібліятэк. Ранні перыяд яе станаўлення і

развіцця нам практычна не вядомы. Можна лічыць, што бібліятэка ўзнікла разам з манастыром, які быў заснаваны праваслаўным магнатам Солтанам у XVI стагоддзі. Пасля падпісання Брэсцкай уніі 1596 года Жыровіцкі манастыр становіцца ўніяцкім. Солтаны адмовіліся ад правоў на ўладанне манастыром, цалкам перадаўшы яго ўніяцкаму ордэну базыліянінаў. Падчас паўстання Б. Хмяльніцкага Жыровіцкі манастыр у 1655 годзе быў разбураны, разам з ім, верагодна, пацярпела і бібліятэка.

Актыўнае развіццё бібліятэкі і папаўненне яе фонду пачалося з 1660-х гадоў і працягвалася да канца XVIII стагоддзя. Росту кніжнага фонду спрыяла павелічэнне багацця манастыра, наяўнасць пры бібліятэцы скрыпторыя. Да сярэдзіны XVIII стагоддзя Жыровіцкая бібліятэка становіцца адной з буйнейшых манастырскіх бібліятэк Рэчы Паспалітай. На мяжы XVIII—XIX стагоддзяў у фондзе бібліятэкі налічалася 3867 тамоў друкаваных выданняў і 537 рукапісаў (па дадзеных вопісу 1800 года). Бібліятэка складалася з галоўнага збору, які падзяляўся на 17 тэматычных частак, і сховішчы пры саборы, дзе знаходзіліся асабліва каштоўныя кнігі. Сярод іх — знакамітае Жыровіцкае Евангелле (вядомае таксама як Евангелле Сапегі) — помнік кніжнай культуры Беларусі XV стагоддзя; так званая Жыровіцкая энцыклапедыя — зборнік, які змяшчаў акрамя выпісаў з рускіх летапісаў шматлікія артыкулы навуковага і прыродазнаўчага характару, рэлігійна-палемічныя і літаратурныя творы; унікальны экзэмпляр інкунабулы «Часаслаўца» — першай у свеце кнігі, надрукаванай кірылаўскім шрыфтам у 1491 годзе Ш. Фіолем у друкарні ў Кракаве.

Прыгнёт уніятаў, распачаты пасля падаўлення паўстання 1831 года, стаў пачаткам распылення фондаў бібліятэкі Жыровіцкага манастыра. З яе фондаў, як і з фондаў іншых уніяцкіх бібліятэк, царкоўнай цэнзурай былі выключаныя і спаленыя шматлікія асобнікі кніг. Частка рэдкіх і старадаўніх кніг з бібліятэкі манастыра Мітрапаліт Іосіф перадаў у бібліятэку Расійскай Акадэміі навук у Пецярбургу. Пакінутая частка калекцыі бібліятэкі паступова прыходзіць у заняпад, кнігі з бібліятэкі адбіраюцца рознымі асобамі, у тым ліку з мэтай нажывы.

У 1840-х гадах рэшткі былой бібліятэкі манастыра былі перададзеныя Жыровіцкай семінарыі. У 1845 годзе ў сувязі з пераводам духоўнай семінарыі з Жыровіч у Вільню, частка кніг была вывезена ў Віленскі Свята-Траецкі кляштар, 40 царкоўнаславянскіх рукапісных кніг з іх ліку ў 1878 годзе былі перададзеныя ў Віленскую публічную бібліятэку. Пакінутыя ў Беларусі экзэмпляры з калекцыі манастыра — каля 300 — трапілі ў бібліятэку Жыровіцкага духоўнага вучылішча. Сярод іх асабліва вылучалася калекцыя кніг, выдадзеных у Варшаве ў 1738 годзе ордэнам піяр, а таксама багаты збор рэдкіх энцыклапедычных і лінгвістычных слоўнікаў XVI—XVII стагоддзяў. Пасля падзей 1917 года сляды бібліятэкі Жыровіцкага духоўнага вучылішча, як і мноства іншых бібліятэк рэлігійных канфесій, губляюцца.

Па волі лёсу кнігі з Жыровіцкай бібліятэкі апынуліся ў бібліятэках Расіі, Літвы, Польшчы і Украіны. Па дадзеных М. Нікалаева, на сённяшні дзень вядомы 52 рукапісныя кнігі з 537 пазначаных у вопісу бібліятэкі 1810 года і больш за 100 друкаваных кніг. Яны знаходзяцца ў бібліятэцы АН Літвы, Санкт-Пецярбургскім філіяле Інстытута Расійскай гісторыі РАН, Бібліятэцы РАН у Санкт-Пецярбургу, РГБ у Маскве і інш.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# СКАЗАННЕ ПРА ВЁСКУ ЗУБРЭВІЧЫ І ЯЕ СЛАЎНЫ РАДАВОД

**Янка СІПАКОЎ. Зубрэвіцкая сага.** *Мінск. «Літаратура і Мастацтва». 2010.*

Такія выдатныя, а лепш сказаць — непераўзыдзеныя творы, як «Зубрэвіцкая сага» Янкі Сіпакова, незалежна ад волі і жадання аўтара становяцца адметнай падзеяй у літаратуры, бо і пішуцца яны звычайна не адзін год і не два — пішуцца на працягу ўсяго жыцця. Важкі, ёмісты томік, які прыемна ўзяць у рукі, мае выдавецкі грыф «Лімаўскі фальварак» — гэтым грыфам якраз і пазначаецца даволі ўжо вядомая кніжная серыя РВУ «Літаратура і Мастацтва». Арыгінальнае афармленне цалкам адпавядае зместу кнігі, прычым, увагу запыняе мноства светлага веснавога колеру на вокладцы. Зялёнае лісце нейкіх фантастычных раслін, ды што ўжо цікава: у зеляніну як быццам абмакнуліся вострыя стрэлы ваяроў, княжацкі меч, булава ваяводы. Быццам сама вясна пралілася на даспехі старажытных ратнікаў. Малюнак выкананы бадай ці не ў лепшых традыцыях сюррэалізму, аднак, на здзіўленне, выдавецкі мастак Віктар Калінін вельмі дакладна акрэсліў гуманістычную скіраванасць усёй творчасці слыннага пісьменніка. Яшчэ ў ягоных ранніх зборніках паэзіі і прозы крытыка адзначала тонкі лірызм, рамантычную ўзнёсласць, філасофію стваральнай працы, услаўленне дабрыні і чалавечнасці. Можа, таму зялёны колер — любімы колер паэта і празаіка Янкі Сіпакова. Па прыклады далёка не трэба хадзіць — варта згадаць яго цудоўную кнігу вандроўных нарысаў «Па зялёную маланку», ды і тут, пад вокладкай «Зубрэвіцкай сагі», ёсць апавяданне з вельмі характэрнай назвай «Па дарозе ў прыгожы зялёны сад».

Сярод творцаў свайго пакалення, ідучы з імі нага ў нагу, а то і вырываючыся заўважна ўперад, Янка Сіпакоў праславіўся перш за ўсё тым, што ён ніколі не паўтараецца — ні ў абраных ім тэмах, ні ў падачы матэрыялу, ні нават у назвах сваіх кніг. Характэрныя адзнакі ягонай паэзіі і прозы — разнастайнасць метрыкі і жанравых форм. Пра арыгінальнасць і наватарства аўтара сведчаць хоць бы такія яго кнігі, як «Веча славянскіх балад», «У поўдзень, да вады», «Крыло цішыні», «Тыя, што ідуць» і многія іншыя. Варта ўдумацца ў іх сэнс, і само па сабе адпадзе пытанне, чаму і новая кніга пісьменніка мае такую незвычайную назву — «Зубрэвіцкая сага»? Скажам, «зубрэвіцкая» — гэта зразумела, бо слова пайшло ад Зубрэвіч, роднай вёскі аўтара, але чаму сага? Каму ж не вядома, што, паводле вызначэння літаратуразнаўцаў, сага — гэта легенда, народнае гераічнае сказанне, і яно, як правіла, мае скандынаўскае ці ірландскае паходжанне. Адкуль жа ў такім выпадку сага, так сказаць, зубрэвіцкага паходжання? Адказ надзіва просты. Янка Сіпакоў стварыў сапраўды паэтычнае сказанне пра мужнасць, гераізм і адвагу нашых продкаў, часцей жыхароў невялікай беларускай вёсачкі Зубрэвічы, па сутнасці, атрымаўся даволі арыгінальны твор з незвычайна шырокім ахопам падзей — ажно з часоў міжледавіковага зледзянення і да нашых дзён.

Здаецца, з гэтай загадкавай сагай, што каранямі ўзнялася з глыбіні вякоў,

мы ўсё высветлілі, але ж у твора ёсць яшчэ адно жанравае вызначэнне: раман-містыфікацыя ў апавяданнях. Кожны пісьменнік, канечне ж, мае права называць уласныя творы па сваім разуменні. Раман дык раман. Тым больш — раман у апавяданнях. Тым больш — раман-містыфікацыя. Не, у творы няма містычнага падману, няма дзеяння звышнатуральных сіл, хаця, чытаючы старонку за старонкай, незаўважна трапляеш у абладу нечага загадкавага і таямнічага, што адразу нельга зразумець ці растлумачыць. Вядома, гэта не містыка. Проста дасціпны пісьменнік Янка Сіпакоў зноўку вынайшаў дужа арыгінальны спосаб далучэння сваіх чытачоў да слаўнай беларускай гісторыі, да вытокаў нашага радаводу.

Калі браць пад увагу кампазіцыйную будову рамана, то апавяданне «Хуткія Ногі», якім пачынаецца кніга, можна без сумнення лічыць пралогам ці завязкай усяго вялікага твора. Гісторыя, поўная жахаў і неймавернага выпрабавання чалавечых сіл, адбываецца, як зазначае аўтар, вельмі і вельмі даўно, яшчэ падчас муравінскага міжледавікоўя. Стойбішча першалюдзей, якія на высокіх выспах жылі ў буданах з мамантавых костак, трапіла ў даволі крытычнае становішча — раптам не стала ежы, «усё племя — і старыя, і малыя — елі ўжо толькі траву, карэнні і жалуды, ды яшчэ, можа, мышэй!» Выратаваць ад голаду магло толькі ўдалае паляванне на мамантаў, а іх у наваколлі засталося зусім мала. Лепшыя паляўнічыя стойбішча выбраліся на ловы. Сярод іх быў удачлівы і адчайны лавец Хуткія Ногі. У смяротным паядынку з першабытным волатам ён вострым крамянёвым нажом усё ж распароў маманту жывот, але і сам застаўся ляжаць паміж высокіх валуноў з пакалечанымі нагамі. Паміраць небараку аднаго пакінуў ягоны сапернік Тым, які наважыўся цяпер без перашкод завалодаць прыгажэйшай дзяўчынай стойбішча — Войхай. Але Войха кахала самага храбрага паляўнічага Хуткія Ногі, які на свеце пражыў усяго толькі «дваццаць снягоў». Устрывожаная Войха, зразумеўшы падман Тыма, ноччу абабегла наваколле, але ўсё ж знайшла свайго любага, які, паўзучы да стойбішча, ужо зусім выбіўся з сіл. Войха сказала: «Я зраблю табе ногі, мой мужчына. Я збяру іх табе нанова. І ты будзеш бегаць лепей, чым на тых, што былі ў цябе». І яна пацягнула валакушу з пакалечаным паляўнічым у той бок, адкуль кожны дзень з'яўляецца сонца. Вось якое гарачае каханне было ў першалюдзей у тыя далёкія часы міжледавіковых зледзяненняў! Цяпер не кожная жанчына здольная на падобную самаахвярнасць.

Пра падзеі сівой даўніны Янка Сіпакоў апавядае так праўдзіва і даверліва, што міжволі закрадваецца сумненне: ці не містыка гэта? «Талая вада, што выцякала з-пад ільду і снегу, яшчэ шукала свае рэчышчы, на лугах, дзе пасвіліся маманты, бучная трава цешыла вока яркаю зелянінаю, а на высокіх выспах стаялі буданы з костак, камення, галінак і шкур. Там жылі першалюдзі». Дакладныя, рэалістычныя малюнкі суровай прыроды, псіхалагічна абгрунтаваныя ўчынкі паляўнічых на мамантаў. Уражанне аўтарскай прысутнасці ў тым далёкім часе, на здзіўленне, пацвярджае і сам пісьменнік: «Не ведаю, чаму, аднак усё гэта, пра што я раскажу, я чамусьці так добра помню, быццам бы тое, што адбывалася тады, бачыў на ўласныя вочы». Калі верыць аўтару, яго будан стаяў там жа, на выспе, недзе паміж сённяшнімі Дняпром і Друццю. І далей: «Я памятаю, добра памятаю і тыя ловы, быццам бы і сам браў у іх удзел...» Такое бывае, калі аўтар, не заўважаючы рэальнага свету, апантана ўваходзіць у вобраз сваіх герояў. Канечне, паляванне на мамантаў — гэта справа моцных і храбрых. На Кургане, дзе было стойбішча, у Войхі і Хуткіх Ног народзіцца многа дзяцей, ад іх пойдуць новыя нашчадкі, новыя спадкаемцы. Там, дзе першалюдзі палявалі на мамантаў, па часе ўзнікне Друцкае княства, з'явіцца Орша, з'явіцца двор Зубрэвічы, дзе будуць жыць язычнікі Ракоп і

Яўхім'я, Іван і Васюта, якія народзяць Вулляну і Данілу — будучых бацькоў пісьменніка Янкі Сіпакова. Радаслоўнае дрэва, шчыра кажучы, расквітнела бучна і пышна, нягледзячы на ўсе беды і ліха, што пранесліся над краем.

«Зубрэвіцкая сага», як стала бачна ўжо з першага апавядання «Хуткія Ногі», дае надзвычай багаты матэрыял для даследчыкаў. Далей жа, пачаўшыся дзесьці ў глыбокай старажытнасці, дзеянне ў рамане дынамічна разгортваецца ў часе і прасторы, напаўняецца гулам новых эпох і стагоддзяў. Праўда, тое дзеянне цяпер адбываецца нязменна ў ваколіцах вёскі Зубрэвічы, якая, пэўна ж, невыпадкова ўзнікла на шляхах мамантавых ловаў. Людзі раджалі і пладзіліся, жылі і весяліліся на гасціннай зямлі, якую ж потым самі назавуць Беларуссю. Зубрэвіцкі род пазней тут працягвала Купалка — малодшая жонка мясцовага князя, якая пасля яго смерці павінна была згарэць у пахавальным вогнішчы, але цудам ацалела, бо рэдкую прыгажуню, мусіць, пашкадавалі самі нябёсы. Купалка і яе выратавальнік Вежа нарадзілі ажно васямнаццаць дзяцей. Навокал засноўваліся новыя вёскі і неўзабаве ўся мясцовасць паблізу засялілася гэтым родам. «Кажуць, і мае Зубрэвічы з'явіліся дзякуючы волату Зубру — праўнуку Купалкі і Вежы, — з гонарам зазначае празаік. — І яшчэ кажуць, што ягоная ўнучка быццам бы спадабалася Рагвалоду, і зусім прычаравала яго, друцкага князя». Не, усё ж недарэмна ў ваколіцах звычайнай беларускай вёскі калісьці вадзіліся маманты! Гістарычныя шляхі перакрыжаваліся так, што ў Зубрэвічах меў свой пасад князь Мітка Сякіра — Дзмітрый Зубрэвіцкі, пра гэтае паселішча ведаў кароль Польшчы Ягайла, адсюль адважныя славянскія воіны пайшлі ў паход на крыжакоў і праславілі свае мячы ў бітве пад Грунвальдам. Апавядаючы пра смелыя ўчынкі Данілкі, зубрэвіцкага ваяра, Янка Сіпакоў прыводзіць такія дакладныя звесткі і дэталі, што дзіву даешся: няўжо сам аўтар пабываў на полі бою і ўсё бачыў на свае вочы? Зразумела, у апавяданні «Воўчыя ямы», пра якое ідзе гаворка, пададзены зусім рэалістычныя малюнкі, а каб не ўзнікала ніякіх сумненняў, патлумачу, што Янка Сіпакоў як таленавіты пісьменнік мае намнога большае прасторавае ўяўленне, чым, напрыклад, нейкі радавы прафесар матэматыкі. Менавіта дзякуючы пільнаму, учэпістаму зроку мастака слова ды не менш выдатнаму веданню беларускай гісторыі, Янка Сіпакоў дабіваецца такіх бліскучых вынікаў.

Відавочна, што з самага пачатку «Зубрэвіцкая сага» задумвалася пісьменнікам як своеасаблівы, наватарскі раман, падобнага на які ў нас яшчэ не было, прычым аўтар сумеў захаваць усе асаблівасці і структуру гэтага жанру. Атрымаўся глыбока сацыяльны твор, дзе ўсебакова даследуецца чалавечая асоба ў яе сувязі з беларускай гісторыяй, часам, адносінамі да ўлады, якая на працягу вякоў мянялася на Беларусі, не раўнуючы, як пальчаткі. Чытач даведаецца пра многія невядомыя яму рэчы: пра голад у Вялікім Княстве Літоўскім, пра царскага самазванца Ілжэдзмітрыя другога, пра нашэсце Напалеона, урэшце, пра паўстанне Каліноўскага, бо так ці інакш, усе гэтыя падзеі не абмінулі і Зубрэвічы, адгукнуўшыся ў сэрцах людзей ці то радасцю, ці то новай бядой. Невыпадкова і тое, што гэты неадназначны раман Янкі Сіпакова складаецца з 16-ці асобных поўнаметражных апавяданняў са сваім сюжэтам і кампазіцыяй. Апавяданні, выконваючы функцыю раздзелаў, аўтарам размеркаваны так, што іх нельга ні замяніць, ні пераставіць месцамі, бо адразу парушыцца структурная будова твора. Здавалася б, якое дачыненне мае да Зубрэвіч апавяданне «Паляванне на сланоў»? Аказваецца, самае непасрэднае. Адзін зубрэвіцкі вандроўнік з далёкай спякотнай Афрыкі прывёз у родную вёску хлопчыка-эфіопа, і цяпер, нават праз стагоддзі, у Зубрэвічах трапляюцца людзі з прыкметамі афрыканцаў: смуглыя твары, кучаравыя валасы-дроцікі. Між іншым, бадай ці не ўсе апавяданні, укладзеныя ў «Зубравіцкую сагу», вызначаюцца элементамі прыгодніцтва і дэтэктыва, таму і чытаюцца з цікавасцю і захапленнем.

Калі ж і далей гаварыць пра вартасці сюжэта і кампазіцыю твора, то ў ім, як у кожным класічным рамане, акрамя завязкі і плаўнага разгортвання дзеяння, ёсць і свой кульмінацыйны пункт — гэта дужа горкае і балючае для аўтара апавяданне «Партызаны». Пачалася вайна, і жыхары Зубрэвіч да знямогі працуюць на будаўніцтве даўжэзнага, на ўсю вёску, супрацьтанкавага рова. Але немцам не давялося браць кволае ўмацаванне прыступам: у Зубрэвічы яны ўвайшлі з другога боку, цераз мост. Малы Іванька ўсё бачыць і чуе. Немцы забіраюць з хлявоў апошніх курэй, ды горш за чужынцаў здзекуюцца над людзьмі здраднікі-паліцаі. Іванька аднойчы заснуў і ўбачыў сон: «нейкая вялікая валасатая рука, разбіўшы шыбіну ў акне, нахабна шнарыць па іхняй хаце, нібыта чагосьці шукаючы, ад яе дакранання ўсё ляціць на падлогу — са сталоў, сцен, палічак...» Сон, як на бяду, аказаўся прарочы. За бельгійскую паляўнічую стрэльбу, якою пераапранутыя ворагі завалодалі падманным шляхам, бацьку Данілу забралі ў нямецкую камендатуру, а неўзабаве паліцаі прыйшлі і па маці Вулляну. Болей сваіх бацькоў дзеці не бачылі — дзве старэйшыя сястры Ніна і Паша, ды маленькі Іванька. Але не будзем вярэдзіць старыя раны — яны ніколі не зажывуць. Не будзем пра балючае і крыўднае. Іванька вельмі шкадаваў, калі яшчэ ў час вайны суседзі на свае патрэбы разбіралі недабудаваную бацькаву хату. Іваньку баліць і сёння. «Іванька — гэта я сам», — прызнаецца аўтар цудоўнай «Зубрэвіцкай сагі».

Іменна таму, што ў дзяцінстве ўдосталь наглытаўся сірочых слёз, празаік Янка Сіпакоў з усёабдымнай любоўю і замілаваннем піша пра звычайных людзей, і не толькі пра сваіх землякоў, ураджэнцаў вёскі Зубрэвічы. А якія прыгожыя пад ягоным пяром беларускія жанчыны — няхай гэта ганарлівая княгіня Соф’я, няхай зубрэвіцкая дзяўчынка Купалка. Нават першабытная дзікарка Войха паўстае ў рамане прывабнай маладзіцай, за якой улягаюць шустрыя паляўнічыя на мамантаў. Увогуле каханне так ці інакш прысутнічае ў кожным апавяданні, і менавіта яно, каханне, як бы цэментуе, зніто ўвае кампазіцыю і сюжэт арыгінальнага твора. Ёсць, зрэшты, яшчэ адна стыхія, што высока падымае раман, — гэта моўная стыхія, стыхія слова. Пэўна, не мае дна чароўная скарбонка, з якой Янка Сіпакоў нястомна чэрпае словы-брыльянты, чэрпае поўнай жменяй і шчодра рассыпае на старонках сваіх кніг. Такая, багатая на моўныя самацветы, і «Зубрэвіцкая сага». Чытаць яе, няспешна, спакваля, смакуючы і радуючыся кожнаму зіхоткаму слову, — адно задавальненне. Думаецца, Янка Сіпакоў, як ніхто іншы з беларускіх пісьменнікаў, мае права на ўласны аўтарскі слоўнік, таму што многія рэдкія словы і цэлыя моўныя звароты можна пачуць толькі ў Зубрэвічах і навакольных вёсках, якія яшчэ жывуць, дыхаюць і даюць пісьменніку-земляку багатага творчага натхнення. Тым болей, сам Янка Сіпакоў на заканчэнні свайго гераічнага сказання пра бацькоўскую зямлю і яе радавод упэўнена сцвярджае, што і ў трэцім тысячагоддзі новай эры жыццё ў Зубрэвічах і ва ўсім свеце так ці інакш працягваецца.

Ягор КОНЕЎ

# ДЗЕ ЖЫВУЦЬ ПАЛЕМАНІСТЫ

**Леанід ДАЙНЕКА. Назаві сына Канстанцінам.** *Мінск. «Літаратура і Мастацтва». 2010.*

Новы раман Леаніда Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам» раней друкаваўся на старонках часопіса «Маладосць», а летась быў выдадзены Рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і Мастацтва» ў серыі «Святло мінуўшчыны». У гэтым творы вядомага пісьменніка персанажы актыўна перамяшчаюцца не толькі па розных краінах, але і па розных эпохах. Некаторыя элементы іх падарожжаў у прасторы і часе выклікаюць непадробны інтарэс, некаторыя робяць уражанне ніякаватасці. Але ўсяму свая чарга.

Раман падзяляецца на чатыры раздзелы. Героі жывуць і дзейнічаюць то ў Фларэнцыі ў 1452 годзе, то ў Канстанцінопалі ў 1453-м, то ў Рыме ў 320-м, то на Аршаншчыне і ў Маскве ў 1507—1514 гадах. Галоўныя персанажы — ліцвін Марцін Жабыка-Жэмба і яго каханая Зося Еўрапейка. Яны будуць дапамагаць імператарам Канстанціну Вялікаму і Канстанціну Палеолагу. Нашчадкаў Марціна і Зосі таксама будуць зваць (мабыць, каб чытач не заблытаўся) Марцінам і Зосяй, а дапамагаць яны стануць ужо іншаму слаўнаму Канстанціну — князю Астрожскаму.

Але пачатак рамана прыпадае аж на лістапад 2006 года, калі Папа Рымскі ды Патрыярх Канстанцінопальскі сустрэліся ў Стамбуле ды наведалі Блакітную мячэць. Пэўна, сустрэча першасвятароў сімвалізавала, што справа Вуніі, на якую аўтар на працягу ўсяго твора вуснамі герояў ускладае вялікія надзеі, набудзе новы імпульс. І пакуль першасвятары аглядалі Айя-Сафію, за імі назіраў арол дзівоснага паходжання — родам са штандара Дванаццатага Маланкападобнага Рэйнскага Легіёна.

У далейшых раздзелах першай часткі пакрысе высвятляецца, што Марцін і Зося маюць самае непасрэднае дачыненне да ажыўлення жалезнай птушкі са штандару. Паводле псіхалагічных характарыстык гэта тыповыя пасіянарыі або, як іх яшчэ называў Леў Гумілёў, «людзі даўгой волі». Такія дня пражыць не могуць, каб не трапіць у прыгоды, увесь час нешта выдумляюць (у дадзеным выпадку ўтварылі Ордэн святога Палямона, куды адразу ж залічылі ўсіх землякоў), а калі знойдуць, напрыклад, «хранадзірку» ў акамянелай лаве Везувія, то без ваганняў палезуць туды, каб тэлепартавацца ў Старажытны Рым ды пабачыць, якім чынам Флавій Валерый Аўрэлій Канстанцін адолеў войска свайго саперніка ў барацьбе за ўладу Максенцыя. Зразумела, што прысутнасць нашых землякоў у пабоішчы на Мільвійскім мосце істотна паспрыяла перамозе хрысціянскага войска над рымскімі паганцамі. А Марцін, які зусім нядаўна трызніў пра тое, як сенатар Палямон прыплыў у вусце Нёмана і заснаваў новую Італію — Ліцвінію, у 320-м сам аказваецца сенатарам Палямонам. Такія вось выбрыкі часу! А паколькі Марцін і Зося прызвычаіліся штодня здзяйсняць карысную справу, то, не марнуючы часу, выбавілі з рабскага стану хрысціяніна Германія з сям'ёй, пакінулі з носам садыстку-сенатаршу Сабіну і прачула развіталіся з імператарам Канстанцінам. Пасля чаго вяртаюцца ў Фларэнцыю, адкуль плывуць у абло-

жаны Канстанцінопаль, каб змагацца з туркамі за ідэю Вуніі і гонар апошняга візантыйскага імператара Канстанціна Палеолага. (Тузін іншых базілеўсаў, якія таксама мелі імя Канстанцін, нашымі палеманістамі ігнаруецца.)

Што ж да чароўнага арла, то ў далейшым яго місія будзе заключацца ў тым, каб уратоўваць галоўных герояў ды іх нашчадкаў, калі справа для іх павернецца найгоршым чынам. Дзівосная птушка, бы Супермен з коміксаў, і сцены інквізітарскай вязніцы разбурыць, і людзей з абложанага горада выцягне, і дзіцячую калыску з дзіды сарве. Падставай для яго апякунства служыць тое, што юнакі ды дзяўчаты з Ордэна святога Палямона ўспрымаюць сябе нашчадкамі старажытных рымлянаў і сваю Бацькаўшчыну называюць Ліцвінія — на ўзор «новая Італія».

Наогул Ордэн святога Палямона нагадвае тыповую секту. Што ні загадае жрыца Ордэна Зося Еўрапейка (якая ў адрозненні ад звычайнай жрыцы зусім не дбае пра цнатлівасць), то яны беззаганна выконваюць. Стылістычная пабудова іх дыялогаў і паводзіны нагадваюць размовы і норавы сучасных мінскіх падлеткаў. Працей кажучы, аўтар змясціў у рэаліі XVI стагоддзя нашых маладых сучаснікаў, але эфект праўдападобнасці пры тым губляецца. Сапраўды, хто ўсур'ёз паверыць, быццам у XVI стагоддзі паненка Зося магла паехаць у Еўропу атрымліваць адукацыю? Да XIX стагоддзя дзяўчыну не пусцілі б і на школьны парог, не кажучы ўжо пра ўніверсітэцкую аўдыторыю. Тагачасная дачка багатага саноўніка магла навучыцца пісаць і чытаць бадай што ў запрошанага настаўніка або ў жаночым кляштары.

Гэтаксама цяжкавата верыцца, што Марцін і Зося маглі б здзяйсняць свае любошчы на ствале дрэва, якое навісала над возерам. Аніякая «Камасутра» не дапамагла б каханкам, якія абралі такую нязручную пазіцыю. Адразу ж паляцелі б у ваду, трансфармаваўшы эратычны акт у камічны.

Няхай Марцін і Зося ды іх таварышы і з'яўляюцца апантанымі вуніяцкімі вернікамі. Але па якім праве яны надаюць сан святога сенатару Палямону? Па-першае, калі сам Жабыка-Жэмба аказваецца ў 320 годзе сенатарам Палямонам, то амаль адразу ж забівае імператара Максенцыя, ажыццяўляе смяротны грэх. Па-другое, святасць набываецца не за кошт плавання ў далёкія землі ды заснаванне селішчаў на берагах Нёмана. Хрыстафор Калумб і Васка да-Гама за свае адкрыцці не дачакаліся сану святых. Па-трэцяе, права ўганараваць чалавека такім чынам належыць першасвятарам, а не студыёзусам-недавучкам. Не дзіва, што за такое блюзнерства інквізіцыя праявіла павышаны інтарэс да асобы Жабыкі-Жэмбы і пасадзіла яго ў падземную турму.

Паколькі сам аўтар чалавек эрудзіраваны і любіць паразважаць аб гістарычных паралелях, то да таго ж змушае і сваіх герояў. Аднак у рэаліях XV—XVI стагоддзяў такія спалучэнні выглядаюць недарэчнымі. Напрыклад, у другім раздзеле аўтар выказвае меркаванне, быццам султан Мехмед Другі штурмаваў Канстанцінопаль, калі помсціў за ўварванне Аляксандра Македонскага ў Азію ў 335 годзе да н. э. Але якая тут сувязь? Туркі-асманы не лічылі сябе пераемнікамі Пярсідскай дзяржавы. Свой радавод яны вялі ад міфічнага ваўка, а з персамі варагавалі аж да 1918-га. Гэтаксама ніякавата чытаць, як пераможцы ў бітве пад Воршай у верасні 1514-га п'юць за здароўе Кастуся Каліноўскага і Якуба Коласа (на той падставе, што яны будуць мець імя Канстанцін).

Можна прыняць за дадзенасць, што дайнекаўскія дзяўчаты-палеманісты — нашчадкі міфічных амазонак. Тады не дзіўна, што на полі бітвы Зося і Палута адчуваюць сябе ўтульна, бы дома. Аднак нельга пагадзіцца з кардынальным падзелам свету палеманістамі на цывілізаваную Еўропу і варварскую Азію, куды яны залічваюць і Маскву, і Стамбул. Такі радыкалізм уласцівы цяперашняму моманту, а зусім не тагачасным рэаліям. Аднак еўрапейцы, якія жылі пяць стагоддзяў таму, падзялялі свет не па геаграфічным прынцыпе, але па рэлігійным — на яго хрысціянскую частку і на тую, куды яшчэ не

дайшло святло Хрыстова слова. Да таго ж заганы еўрапейскага ладу жыцця ў эпоху Адраджэння змушалі многіх мысляроў шукаць ідэалы на Усходзе. Менавіта таму сам Мікеланджэла ўсур'ёз думаў пра тое, каб з'ехаць працаваць у Турэччыну, а наш славуты суайчыннік Міхалон Літвін спасылаўся на норавы туркаў і маскавітаў як на ўзорныя для сваіх землякоў. Развагі ж палеманістаў Дайнекі болей нагадваюць выступы на мітынгу або дыскусіі дзе-небудзь у суполцы наццэмаў, для якіх «шлях у Еўропу» з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю. Пэўна, такім чынам пісьменнік спрабуе надаць раману большую ступень актуальнасці.

Леанід Дайнека намагаецца сваім раманам здзейсніць тую справу, за якую ў свой час узяўся і Вацлаў Ластоўскі — паглыбіць нашы гістарычныя карані. Так, калі В. Ластоўскі выказваў гіпотэзу, што вытокі беларускай дзяржаўнасці сягаюць у часы міфічнай Вялікай Крывіі, то Л. Дайнека лічыць, што шукаць іх трэба яшчэ даўней — у IV стагоддзі ў імперскім Рыме. Для Дайнекі такая эвалюцыя выглядае натуральна. Яшчэ трыццаць гадоў таму, калі афіцыйная прапаганда абвяшчала 1 студзеня 1919 года пунктам адліку нашай дзяржаўнасці, ён апісваў у сваіх раманах «След ваўкалака», «Меч князя Вячкі» і «Жалезныя жалуды» Полацкае княства як моцную еўрапейскую дзяржаву. У рамане «Назаві сына Канстанцінам» яго няўседлівыя героі праз «хронадзіркі» вузлуюць памяць пакаленняў.

Шчыра кажучы, я не вельмі здзіўлюся, калі неўзабаве на цэнтралізаваным тэсціраванні па гісторыі Беларусі з'явіцца пытанне і пра «палеманісцкую тэорыю» Дайнекі поруч з «крыўскай тэорыяй» Ластоўскага. Але мне цяжкавата ўявіць, што ідэя Леаніда Дайнекі будзе прыхільна ўспрынята шырокай грамадскай думкай. Інфармацыйнае Грамадства, якое ствараецца ў нашай дзяржаве другую пяцігодку запар, з большага базіруецца на ідэалогіі глабалізму, нацыянальная адметнасць адыгрывае ў ім другасную ролю. Ад таго мне цяжка ўявіць, што нашы маладыя суайчыннікі назавуць сябе палеманістамі ды займеюць ахвоту перайменаваць нашу краіну ў Ліцвінію, пераемніцу Рымскай імперыі. Гэта будзе нагадваць паводзіны дурнаватага ўнука, які заявіць, што, маўляў, паколькі яго дзед быў слаўным чалавекам, то ён — дзед, а не ўнук. Да таго ж, у 320 годзе старажытных рымлянаў у Італіі практычна не засталося. Іх амаль што пагалоўна вынішчыла эпідэмія ў сярэдзіне III стагоддзя. Апусцелыя Апеніны паводле загада імператара Аўрэліяна былі заселеныя ўраджэнцамі сённяшняй Сірыі. Няўжо тады ў наступным рамане Леанід Дайнека выправіць герояў у Старажытную Фінікію?

Мне падаецца, што нават калі ў будучым пісьменнік выведзе наш радавод ад егіпецкіх фараонаў, гэта не паўплывае істотным чынам на свядомасць нашых сучаснікаў. Імперскі гонар можа пацешыць самалюбства, але ўзровень нацыянальнага дабрабыту не павысіць. Мяне вельмі парадавала ў свой час адкрыццё Адама Мальдзіса, які на падставе дакументаў даказаў, што тэрмін «Беларусь» прысутнічаў у афіцыйных паперах ужо ў XII стагоддзі. І няхай наш гістарычны радавод мае дзевяць стагоддзяў, а не васямнаццаць, як раіць Леанід Дайнека — мы ўсё роўна можам паважаць сваю мінуўшчыну ды ўтвараць лепшую сучаснасць.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на I паўгоддзе 2011 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 14 800 руб.
на 3 месяцы — 44 400 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 12 000 руб.
на 3 месяцы — 36 000 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 10.01.11 г. Фармат 70×108$^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,73. Тыраж 3264 экз. Заказ 74.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.